АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
ІНСТЫТУТ ГІСТОРЫІ

# ІНСТЫТУТ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ



МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1993

ББК 63.3(2Б)
И 72
УДК 008:061.62(476—25)(091)

На основе новых архивных источников, публикаций и периодической печати с современных позиций освещается история создания и деятельности первого научного учреждения Белорусской ССР — Института белорусской культуры.

Для научных работников, тех, кто интересуется историей белорусской культуры.



Рэцэнзенты:
дактары гістарычных навук
Л. М. Лыч, У. М. Міхнюк

**Інстытут** беларускай культуры / М. П. Касцюк,
И 72 П. Ц. Петрыкаў, М. У. Токараў і інш.— Мн.: Навука і тэхніка, 1993.— 255 с.: іл.

ISBN 5-343-01034-2.

Институт белорусской культуры.

На падставе новых архіўных крыніц, публікацый і перыядычнага друку з сучасных пазіцый асвятляецца гісторыя стварэння і дзейнасці першай навуковай установы Беларускай ССР — Інстытута беларускай культуры.

Для навуковых супрацоўнікаў, тых, хто цікавіцца гісторыяй беларускай культуры.

**И $\frac{0503020903—053}{М 316(03)—93}$ 17—92**　　**ББК 63.3(2Б)+71.4(2)**

ISBN 5-343-01034-2



# ПРАДМОВА

Стварэнне і дзейнасць Інстытута беларускай культуры (Інбелкульта) — адметная з'ява ў гісторыі Беларусі 20-х гадоў апошняга стагоддзя. Гэтая ўстанова аказала дабратворнае ўздзеянне на развіццё культуры і навукі ў рэспубліцы, стала ўвасабленнем яе духоўнага прагрэсу. Інстытут з'яўляўся выканаўцам, а нярэдка і ініцыятарам многіх пачынанняў у вырашэнні культурна-навуковых праблем.

Узнікшы ў 1922 г., у час, калі Беларусь аднаўляла разбуранае ў гады першай сусветнай і грамадзянскай войнаў, Інбелкульт актыўна дапамагаў справе народнагаспадарчага і нацыянальна-культурнага аднаўлення. Пры гэтым ставілася задача не проста дасягнуць даваеннага ўзроўню, а зрабіць гэта на новай аснове — на базе глыбокіх сацыяльна-эканамічных і грамадска-палітычных пераўтварэнняў.

Усё гэта адбывалася ва ўмовах новай эканамічнай палітыкі. Пры значнай цэнтралізацыі кіравання гаспадарчым і культурным жыццём яна давала пэўны прастор для праяўлення мясцовай ініцыятывы і нацыянальных магчымасцей, што было належным чынам выкарыстана ў БССР і дало станоўчыя вынікі.

Дзейнасць Інбелкульта праходзіла ў час, калі працягваўся працэс беларускага нацыянальнага адраджэння, які ўзнік у пачатку XX ст. Тады на Беларусі развіваліся капіталістычныя вытворчыя сілы і складваліся адпаведныя ім грамадскія адносіны. Але ўжо ў 20-я гады адраджэнне праходзіла ва ўмовах будаўніцтва новага грамадства. Акрамя нялёгкага эканамічнага становішча значнай цяжкасцю было і тое, што ў выніку людскіх страт, у тым ліку сярод навуковай і творчай інтэлігенцыі, у гады першай сусветнай і грамадзянскай войнаў, а таксама эміграцыі за мяжу пасля кастрычніка 1917 г. было згублена шмат таленавітых навуковых кадраў.

У 20-х гадах беларускае нацыянальнае адраджэнне

вылілася ў палітыку беларусізацыі. Яна была з'явай шматбаковай, ахоплівала навуку, асвету, друк, культуру, справаводства, іншыя галіны дзейнасці грамадства і ажыццяўлялася партыйна-дзяржаўным кіраўніцтвам Беларускай ССР пры шырокай падтрымцы працоўных мас і актыўным удзеле навуковай і творчай інтэлігенцыі.

Дзейнасць Інбелкульта ўяўляла сабой важную і неад'емную частку гэтай палітыкі. Інстытут быў метадычным цэнтрам у ажыццяўленні шмат якіх напрамкаў работы, прымаў актыўны ўдзел у выкананні ўрадавых заданняў, дапамагаў распрацоўваць палітыку не толькі ў культурнай і навуковай, але і іншых галінах.

Задачы Інбелкульта значна пашырыліся ў сувязі з вяртаннем Беларускай ССР зямель на ўсходзе, што адбылося ў 1924 і 1926 гг., калі тэрыторыя рэспублікі павялічылася амаль у два з паловай разы, а колькасць насельніцтва ўзрасла больш чым у тры разы і быў зроблены значны крок да ўз'яднання беларускай нацыі. Гэта істотна павялічыла маштабы працы, з'явілася сур'ёзным падмацаваннем у справе падрыхтоўкі навуковых кадраў.

Інстытут беларускай культуры ствараўся на аснове Тэрміналагічнай камісіі пры Народным камісарыяце асветы рэспублікі як установа, якая павінна была садзейнічаць культурнаму развіццю БССР. Але паступова праз даследаванні ў галіне культуры інстытут перайшоў да навуковых распрацовак у іншых напрамках. Яны ахоплівалі як грамадазнаўчыя навукі, так і навукі аб прыродзе.

На працягу параўнальна невялікага перыяду дзейнасці — 1922—1928 гг.— Інбелкульт перажыў некалькі рэарганізацый, якія абумоўліваліся задачамі сацыяльна-эканамічнага, грамадска-палітычнага і нацыянальнага развіцця рэспублікі. Мэтай рэарганізацый быў больш актыўны ўдзел інстытута ў вырашэнні гэтых задач. У той жа час мелася на ўвазе рабіць усё для таго, каб паступова падрыхтаваць інстытут да пераўтварэння ва ўстанову акадэмічнага тыпу.

Гэтаму садзейнічаў і комплексны характар дзейнасці Інбелкульта, які фактычна складваўся з часоў яго заснавання. Ён праяўляўся як у складанай арганізацый-

най структуры, так і ў разнастайных даследаваннях. У складзе Інбелкульта была вялікая колькасць секцый, камісій, аддзелаў, іншых падраздзяленняў, шмат якія з іх з'явіліся базай для стварэння асобных інстытутаў. Адпаведна рознагаліновымі былі і навуковыя даследаванні, з якіх вылучаліся ўсё новыя і новыя напрамкі.

Колькасць навуковых супрацоўнікаў інстытута была, наогул, невялікай. Але ён выступаў як цэнтр каардынацыйнай працы па розных галінах дзейнасці. У навуковых распрацоўках удзельнічалі спецыялісты з іншых устаноў. Такім чынам, вакол інстытута канцэнтраваліся лепшыя культурныя і навуковыя сілы рэспублікі, запрашаліся вядомыя вучоныя з іншых цэнтраў краіны.

Усё гэта дазволіла Інбелкульту ператварыцца ў вядучую навукова-даследчую ўстанову БССР. Да таго ж гэта была нацыянальная ўстанова, якая ўлічвала ў сваёй дзейнасці асаблівасці гістарычнага развіцця беларускага народа, яго традыцыі, культуру, ступень навуковай распрацаванасці мовы. Але разам з нацыянальнай накіраванасцю дзейнасці інстытута ў ім яскрава быў прадстаўлены і інтэрнацыянальны момант: адпаведныя структурныя падраздзяленні вялі вывучэнне розных бакоў жыцця нацыянальных меншасцей на Беларусі.

Ля вытокаў Інстытута беларускай культуры і ў час яго дзейнасці былі выдатныя дзеячы беларускай культуры і навукі: народныя пісьменнікі І. Д. Луцэвіч (Я. Купала), К. М. Міцкевіч (Я. Колас), пісьменнікі М. І. Гарэцкі, З. Ф. Жылуновіч (Ц. Гартны), гісторыкі У. М. Ігнатоўскі, У. І. Пічэта, моваведы П. А. Бузук, Я. Ю. Лёсік, С. М. Некрашэвіч, літаратуразнаўцы І. І. Замоцін, М. М. Піятуховіч, фалькларысты і этнографы І. А. Сербаў, А. А. Шлюбскі, мастацтвазнаўцы Я. Л. Дыла, М. М. Шчакаціхін, юрысты М. Гуткоўскі, Г. Я. Парэчын, геолаг М. Т. Бліядуха, заолаг А. В. Фядзюшын, батанік Ц. М. Годнеў, медыкі А. К. Ленц і І. Т. Цітоў, географы-эканамісты Г. І. Гарэцкі і А. А. Смоліч, глебазнавец Я. М. Афанасьеў і інш.



## СТВАРЭННЕ І ДЗЕЙНАСЦЬ ІНСТЫТУТА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ

Пасля закрыцця ў 1863 г. Горы-Горацкага земляробчага інстытута з-за актыўнага ўдзелу студэнтаў у вызваленчым руху на Беларусі не засталося ніводнай вышэйшай навучальнай установы. Таму станаўленне і развіццё савецкай навукі ў Беларускай ССР з'яўлялася складанай і вострай праблемай. З навуковых устаноў да 1917 г. дзейнічалі толькі некалькі доследных станцый сельскагаспадарчага профілю. За выключэннем этнаграфічных даследаванняў, не вялося сістэматычнай навукова-даследчай працы па вывучэнню культуры і прыродных багаццяў Беларусі.

У першыя гады савецкай улады былі зроблены рашучыя захады па ліквідацыі непісьменнасці, развіццю сістэмы народнай адукацыі, арганізацыі вышэйшых навучальных устаноў. Ужо ў красавіку 1919 г. аднаўляе дзейнасць Горацкі сельскагаспадарчы інстытут, у 1921 г. у Мінску адчынены Беларускі дзяржаўны універсітэт. Тым самым стваралася база для далейшага росту навуковага патэнцыялу рэспублікі.

Для развіцця вытворчых сіл рэспублікі трэба было стварыць мясцовыя навуковыя ўстановы. Буйнейшыя навуковыя ўстановы краіны, якія знаходзіліся галоўным чынам у цэнтральных раёнах Расіі, былі ўжо не ў стане вырашыць задачы, пастаўленыя перад навукай на месцах. Жыццё патрабавала больш значных навуковых даследаванняў, накіраваных на пераадоленне тэхніка-эканамічнай адсталасці нацыянальных рэспублік, вырашэнне праблем эканомікі і культурнага будаўніцтва.

Першыя крокі ў справе стварэння навукова-даследчага цэнтра, які б аб'ядноўваў нешматлікія ў той час навуковыя і культурныя сілы Беларускай ССР, былі

зроблены ў 1921 г. Ідэя стварэння інстытута, які б займаўся вывучэннем культуры, была сфармулявана на сходзе супрацоўнікаў асветы і культуры, скліканым Народным камісарыятам асветы БССР у студзені 1921 г. У лютым гэтага ж года дадзенае пытанне абмяркоўвалася на 2-й сесіі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР. Была створана камісія па выпрацоўцы статута Інстытута беларускай культуры пад старшынствам З. Ф. Жылуновіча. Праект статута, які выпрацавала камісія, надаваў інстытуту характар навукова-даследчай і грамадска-культурнай установы. Адначасова праўленнем Беларускага дзяржаўнага універсітэта пад кіраўніцтвам У. І. Пічэты быў падрыхтаваны праект статута Інбелкульта па тыпу даследчых інстытутаў.

Улічваючы складанасць праблем народнай адукацыі, неабходнасць падрыхтоўкі беларускамоўных падручнікаў для вучняў і студэнтаў, выпрацоўкі ў гэтых мэтах беларускай тэрміналогіі па ўсіх галінах ведаў, Наркамасветы БССР у лютым 1921 г. стварыў у складзе свайго навукова-літаратурнага аддзела Навукова-тэрміналагічную камісію. У яе склад уваходзілі гуманітарная, прыродазнаўчая і матэматычная секцыі, у якіх працавала 15 чалавек. За 1921 г. камісія апрацавала каля 2,5 тыс. навуковых тэрмінаў на беларускай мове. Да пачатку 1922 г. быў апублікаваны шэраг тэрміналагічных зборнікаў і падручнікаў для беларускіх школ.

Стварэнне Навукова-тэрміналагічнай камісіі стала першым крокам у справе арганізацыі навукова-даследчага інстытута па вывучэнню пытанняў беларускай культуры. Аказваючы дапамогу ўраду БССР у вырашэнні пытанняў культурнага будаўніцтва, СНК РСФСР па хадайніцтву ЦВК і СНК БССР 12 мая 1921 г. выдаў дэкрэт, на падставе якога дзеячы культуры і навукі — ураджэнцы Беларусі вызваляліся ад грамадзянскай і вайсковай службы ў РСФСР і маглі пераехаць працаваць у БССР. Гэтую магчымасць выкарысталі многія з іх, што дазволіла Наркамасветы БССР перайсці да практычнай арганізацыі Інстытута беларускай культуры.

У чэрвені 1921 г. для канчатковай выпрацоўкі статута Інбелкульта была створана камісія ў складзе акадэ-



*С. М. Некрашэвіч, старшыня Інбелкульта (1922—1925 гг.)*

міка Я. Ф. Карскага, Я. Л. Дылы і С. М. Некрашэвіча. Да лістапада 1921 г. яна распрацавала статут Інбелкульта, які аб'яднаў у сабе абодва прынцыпы развіцця інстытута — і як навукова-даследчай, і як культурна-грамадскай установы [1].

У асабовы склад Інбелкульта ўваходзілі ганаровыя і правадзейныя члены, навуковыя супрацоўнікі, члены-карэспандэнты. Правадзейныя члены і навуковыя супрацоўнікі займалі штатныя, астатнія — пазаштатныя пасады. Усе яны выбіраліся Навуковым саветам інстытута. У адпаведнасці са статутам Інбелкульт мог мець музей, бібліятэку, архіў, меў права склікаць з'езды, арганізоўваць экспедыцыі.

[1] Тэкст першага статута Інбелкульта адшукаць не ўдалося, але асноўныя яго палажэнні выкладзены ў шэрагу надрукаваных артыкулаў першых яго супрацоўнікаў.

23 лістапада 1921 г. камісія па штатах пры Наркампрацы БССР зацвердзіла штат Інбелкульта ў колькасці 45 чалавек. Па прычыне таго што Наркамасветы БССР прадаставіў Інбелкульту 15 харчовых пайкоў, пастаянны штат інстытута складаўся з 15 чалавек, астатнія маглі працаваць у інстытуце па сумяшчальніцтву.

Першы агульны сход супрацоўнікаў Інстытута беларускай культуры, аб чым быў складзены пратакол № 1, адбыўся 30 студзеня 1922 г. З гэтай даты і пачалася практычная дзейнасць Інбелкульта. На сходзе было прынята рашэнне аб утварэнні этнографа-лінгвістычнай і прыродазнаўчай секцый, а ў пачатку лютага 1922 г. быў намечаны план работы на першае паўгоддзе [2]. Абедзве секцыі працягвалі распрацоўку беларускай тэрміналогіі.

У склад Інстытута беларускай культуры ўвайшлі старшыня С. М. Некрашэвіч, вучоны сакратар У. У. Чаржынскі, правадзейныя члены Я. Ф. Карскі (жыў у Петраградзе), І. Д. Луцэвіч (Я. Купала), К. М. Міцкевіч (Я. Колас), Я. Ю. Лёсік, навуковыя супрацоўнікі М. М. Гуткоўскі, С. М. Бурак, А. П. Круталевіч, М. М. Піятуховіч, С. Я. Плаўнік (Змітрок Бядуля) і інш.

Новы інстытут атрымаў віншаванні ад Расійскай Акадэміі навук, Наркамасветы УССР, Горацкага сельскагаспадарчага інстытута, акадэміка Я. Ф. Карскага, іншых арганізацый і асоб. У тэлеграме, дасланай Расійскай Акадэміяй навук, гаварылася, што яна «горача вітае адкрыццё Інстытута беларускай культуры, перакананая, што паглыбленым вывучэннем кожнай нацыянальнасці можа быць дасягнута сапраўднае разуменне чалавека ўвогуле. Расійская Акадэмія навук упэўнена, што новы інстытут уступіць на новы шлях усебаковага вывучэння культуры, і жадае яму ў гэтай справе вялікіх поспехаў» [3].

Істотны ўклад у станаўленне і развіццё навукі на Беларусі ўнеслі вучоныя Я. М. Афанасьеў, У. Дзякаў, І. І. Замоцін, С. М. Мялкіх, М. М. Нікольскі, У. М. Пер-

---

[2] Цэнтральны дзяржаўны архіў Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва Рэспублікі Беларусь (у далейшым — ЦДАКР РБ), ф. 42, воп. 1, спр. 130, арк. 14; спр. 100, ч. 1, арк. 27.
[3] Адраджэнне. 1922. № 1. С. 37.



*Я. Ф. Карскі, правадзейны член Інбелкульта*

цаў, У. І. Пічэта, М. А. Прыляжаеў, Е. Е. Сіроцін, У. У. Шкацелаў, М. М. Шчакаціхін і іншыя, якія прыехалі ў 20-я гады ў рэспубліку. Многія з іх прымалі ўдзел у дзейнасці Інбелкульта.

У пачатковы перыяд інстытут асноўную ўвагу надаваў пытанням вывучэння літаратуры, гісторыі, этнаграфіі, галоўным чынам распрацоўцы практычных праблем беларускага мовазнаўства. Распачаўшы сваю дзейнасць з даследаванняў у галіне гуманітарных навук, Інбелкульт паступова распрацоўвае і іншыя напрамкі навукі. Ужо з 1924 г. у ім з'яўляюцца навуковыя падраздзяленні прыродазнаўчага профілю: геаграфічная, медыцынская, агранамічная секцыі. Інстытут пачынае набываць характар комплекснай навуковай установы.

У 20-я гады на Беларусі ствараецца шэраг іншых навуковых устаноў — Віцебскі ветэрынарна-бактэрыяла-



*І. Д. Луцэвіч (Я. Купала), правадзейны член Інбелкульта*

гічны інстытут (1921), Інстытут сельскай і лясной гаспадаркі імя У. І. Леніна (1927), некалькі навукова-даследчых інстытутаў медыцынскага профілю, доследных сельскагаспадарчых станцый, дзяржаўных музеяў, навуковых бібліятэк. Шырока разгортваецца краязнаўчая праца, пачынаецца сістэматычная падрыхтоўка навуковых кадраў праз аспірантуру.

Абмежаванасць матэрыяльных рэсурсаў, вострая нястача кваліфікаваных навуковых кадраў патрабавалі пры стварэнні новых навуковых устаноў і развіцці ўжо існаваўшых недапушчэння паралельнасці ў рабоце, канцэнтрацыі навуковых сіл, планавасці, дакладнага вызначэння функцый навуковай установы і ўсталявання дзяржаўнага кантролю за яе дзейнасцю.

Найбольш мэтазгоднай формай арганізацыі навуковай працы ва ўмовах Беларусі стала стварэнне комплекснай навуковай установы, у якой канцэнтравалася

развіццё асноўных галін навукі і якая магла забяспечыць навуковую распрацоўку праблем гаспадарчага і культурнага будаўніцтва Савецкай Беларусі. Такой установай стаў Інстытут беларускай культуры, які паступова пераўтварыўся ў вядучы навуковы цэнтр рэспублікі.

Значэнне Інбелкульта як рэспубліканскага цэнтра навукі юрыдычна замацавала «Палажэнне аб Інстытуце беларускай культуры», зацверджанае ЦВК і СНК БССР у ліпені 1924 г.[4] У адпаведнасці з ім інстытут абвяшчаўся вышэйшай дзяржаўнай навуковай установай на Беларусі. Прызнанне Інбелкульта такой установай вызначала перспектыву яго далейшага развіцця.

Новы статут пашырыў кола абавязкаў Інбелкульта ў справе вывучэння культуры і прыроды Беларусі і ўстанавіў, што інстытут «мае сваім заданнем планавае даследаванне Беларусі з боку яе мовы, літаратуры, этнаграфіі, гісторыі, прыроды, эканомікі, сацыяльна-грамадскага руху і інш.» Інстытут павінен быў аб'яднаць працу, якая праводзілася ў гэтых галінах навуковымі і культурнымі ўстановамі рэспублікі. Статут прадугледжваў павышэнне ролі Навуковай рады інстытута, якая з'яўлялася яго вышэйшым кіруючым органам. Прэзідыум Інбелкульта выбіраўся Навуковай радай тэрмінам на год у складзе пяці чалавек і сачыў за выкананнем пастаноў Навуковай рады, а таксама кіраваў адміністрацыйна-гаспадарчай дзейнасцю.

У кастрычніку 1924 г. на пасяджэнні СНК БССР пры абмеркаванні дзейнасці Інбелкульта ўпершыню было ўзнята пытанне аб наданні Інбелкульту характару навукова-даследчай установы тыпу Акадэміі навук. У прынятай СНК БССР 8 кастрычніка 1924 г. пастанове адзначалася, што ў сувязі з пашырэннем тэрыторыі Беларускай ССР і практычным правядзеннем нацыянальнай палітыкі Інбелкульт павінен мець асабліва важнае дзяржаўнае і палітычнае значэнне. У сувязі з гэтым Народнаму камісарыяту асветы рэспублікі даручалася «рэарганізаваць яго ў пастаянную вышэйшую навукова-даследчую па тыпу акадэміі навук установу, якая па-

[4] ЗЗ БССР. 1924. № 18. Арт. 161.



*К. М. Міцкевіч (Я. Колас), правадзейны член Інбелкульта*

вінна заняцца сістэматычнай і планавай распрацоўкай пытанняў навукі і культуры» [5]. Наркамасветы БССР, у складзе якога тады знаходзіўся інстытут, даручалася папоўніць склад Інбелкульта кваліфікаванымі навуковымі супрацоўнікамі і стварыць адпаведныя ўмовы для іх працы, забяспечыць інстытут належнымі матэрыяльнымі сродкамі для нармальнага функцыяніравання і правядзення навукова-даследчай працы.

Сесія ЦВК БССР (лістапад 1924 г.) ухваліла гэтыя мерапрыемствы ўрада рэспублікі, накіраваныя на ўмацаванне Інбелкульта і наданне яму характару навукова-даследчай установы тыпу акадэміі навук [6].

Вызначыўшы перспектыву развіцця Інбелкульта, Кампартыя і ўрад рэспублікі садзейнічалі разгортванню ў ім навуковых даследаванняў. У рашэннях лістападаў-

[5] Цэнтральны навуковы архіў Акадэміі навук Беларусі (ЦНА АНБ), ф. 67, воп. 1, спр. 8, арк. 10.
[6] Савецкая Беларусь. 1924. 5 лістап.



*З. Ф. Жылуновіч (Ц. Гартны), правадзейны член Інбелкульта*

скага 1924 г. пленума ЦК КП(б)Б былі вызначаны практычныя задачы па эканамічнаму і культурнаму будаўніцтву Савецкай Беларусі. Адной з канкрэтных задач, пастаўленых ЦК, з'явілася, як запісана ў рэзалюцыі пленума, «папулярызацыя і ўмацаванне Інстытута беларускай культуры» [7]. Створаная пры ЦК КП(б)Б камісія па рэарганізацыі Інбелкульта, разгледзеўшы ў снежні 1924 г. прадстаўленыя Наркамасветы БССР структуру і штаты інстытута, зацвердзіла іх з некаторымі папраўкамі [8].

Наркамасветы БССР пастановай ад 16 студзеня 1925 г. зацвердзіў асабовы склад правадзейных членаў Інбелкульта і даручыў агульнаму сходу інстытута аб-

---

[7] Коммунистическая партия Белоруссии в резолюциях и решениях съездов и пленумов ЦК. Мн., 1973. Т. 1. С. 151.
[8] ЦНА АНБ, ф. 67, воп. 1, спр. 8, арк. 64—65.

раць Прэзідыум, членаў-супрацоўнікаў і пачаць рэарганізацыю структурных падраздзяленняў. Штат супрацоўнікаў інстытута быў зацверджаны Наркамасветы БССР у колькасці 72 адзінак [9]. 31 студзеня 1925 г. агульны сход Інбелкульта выбраў новы склад яго кіраўніцтва. Старшынёй інстытута і яго Прэзідыума стаў наркам асветы БССР, вядомы беларускі вучоны і грамадскі дзеяч У. М. Ігнатоўскі, які замяніў на гэтай пасадзе С. М. Некрашэвіча [10].

Значна пашырылася сетка пастаянных камісій і секцый Інбелкульта. Да жніўня 1925 г. у складзе Інбелкульта мелася 12 пастаянных камісій: дыялекталагічная, па складанню слоўніка беларускай мовы, правапісна-тэрміналагічная, літаратурная, па вывучэнню беларускай народнай песні, гісторыка-археалагічная, па вывучэнню рэвалюцыйнага руху на Беларусі, па ахове помнікаў мастацтва і прыроды, па вывучэнню народнай гаспадаркі, па выданню твораў У. І. Леніна, па вывучэнню савецкага будаўніцтва, этнаграфічная, бібліяграфічная. Акрамя гэтага, у інстытуце былі створаны яўрэйскі і польскі аддзелы, бібліятэка. У 1925 г. Дзяржплан БССР перадаў Інбелкульту камісію па вывучэнню прыродных і вытворчых сіл. У студзені 1926 г. у Інбелкульце арганізоўваецца выдавецтва, з лістапада 1926 г. для друкавання ўласных выданняў пры выдавецтве пачала функцыяніраваць спецыяльна абсталяваная друкарня [11].

Улічваючы абмежаваны штат навуковых супрацоўнікаў, а таксама шырокае кола праблем, па якіх неабходна весці працу, Інбелкульт прыцягваў спецыялістаў з наркаматаў, навукова-даследчых і вышэйшых навучальных устаноў у свае секцыі, якія з'яўляліся па характару дзейнасці навуковымі таварыствамі. Дзейнасць секцый ажыццяўлялася ў форме заслухоўвання і абмеркавання навуковых дакладаў і ў асноўным мела навукова-арганізацыйны характар. Такім чынам, інстытут імкнуўся ажыццявіць аб'яднанне і каардынацыю навуковых да-

[9] Абвеснік Народнага камісарыята асветы БССР. 1925. № 4. С. 2, 5, 6.
[10] ЦНА АНБ, ф. 67, воп. 1, спр. 12, арк. 2.
[11] Волк А. А., Ракович А. И. Издательское дело в Белоруссии (исторический очерк). Мн., 1977. С. 86.



*У. М. Ігнатоўскі, старшыня, прэзідэнт Інбелкульта (1925—1928 гг.)*

следаванняў у рэспубліцы. У 1925 г. пры Інбелкульце меліся мовазнаўчая, літаратурная, мастацтвазнаўчая, гісторыка-археалагічная, прыродазнаўчая, сацыяльна-эканамічная, педагагічная, сельскагаспадарчая, медыцынская і этнаграфічная секцыі. Акрамя таго, у склад Інбелкульта на правах секцый уваходзілі Асацыяцыя навуковай арганізацыі працы і ўсебеларускае аб'яднанне паэтаў і пісьменнікаў «Маладняк». Секцыі ўключалі да 200 супрацоўнікаў.

Разам са стварэннем арганізацыйных асноў дзейнасці і развіццём сеткі навуковых устаноў Інбелкульта важнае месца адводзілася фарміраванню яго навуковых кадраў. Гэта задача вырашалася па двух напрамках: па лініі прыцягнення старых спецыялістаў і па лініі падрыхтоўкі новых кадраў з асяроддзя рабочых і сялян.

Склад навуковых кадраў Інбелкульта па свайму ідэйна-палітычнаму і нацыянальнаму паходжанню быў

неаднолькавым. Згодна з данымі на ліпень 1927 г., ў інстытуце налічвалася 176 чалавек, у тым ліку 76 праўдзейных членаў, 65 членаў-супрацоўнікаў і 35 членаў-карэспандэнтаў. Сярод іх беларусаў было 64%, яўрэяў — 18, палякаў — 10, рускіх — 5, прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей — 3%. З ліку членаў-супрацоўнікаў, якія займалі штатныя пасады і выконвалі асноўны аб'ём працы ў Інбелкульце, 26% з'яўляліся членамі КП(б)Б[12]. Са 115 членаў Інбелкульта 57% былі выхадцамі з сялян, 19% — са служачых, 16% — з рабочых[13]. Сярод навуковых супрацоўнікаў Інбелкульта значны працэнт прыходзіўся на маладых па ўзросту. Так, па даных на пачатак 1928 г., навуковых супрацоўнікаў ва ўзросце да 30 гадоў было 16%, ва ўзросце ад 31 да 40 гадоў — 39,6, ва ўзросце звыш 60 гадоў — 2,4%. З 1927 г. у Інбелкульце пачалася падрыхтоўка навуковых кадраў праз аспірантуру. Аднак колькасць аспірантаў была невялікая. У 1927 г. у ёй вучылася восем аспірантаў, у 1928 г.— 12.

У лютым 1926 г. ЦВК БССР прыняў рашэнне выдзеліць Інбелкульт са складу Наркамасветы БССР, пераўтварыўшы яго ў самастойную ўстанову, падпарадкаваную непасрэдна Савету Народных Камісараў БССР[14]. Гэта спрыяла больш цеснаму і планамернаму супрацоўніцтву інстытута з наркаматамі і Дзяржпланам БССР, аблягчала выкарыстанне навуковых распрацовак у вырашэнні шматлікіх актуальных праблем эканомікі і культуры рэспублікі. Гэтай жа пастановай старшыня Прэзідыума Інбелкульта У. М. Ігнатоўскі быў вызвалены па яго просьбе ад пасады народнага камісара асветы БССР.

Паспяховае развіццё Інбелкульта як навукова-даследчай установы паставіла перад урадам пытанне аб рэарганізацыі інстытута ў Акадэмію навук. Прапанова аб такой рэарганізацыі атрымала падтрымку ЦВК СССР. У прынятай Прэзідыумам ЦВК СССР рэзалюцыі ад 18 чэрвеня 1926 г. па дакладу аб дзейнасці ўрада

---

[12] ЦНА АНБ, ф. 67, воп. 3, спр. 24, арк. 14—15.
[13] ЦНА АНБ, ф. 67, воп. 1, спр. 8, арк. 70.
[14] ЗЗ БССР. 1926. № 51. Арт. 189.

БССР, з якім выступіў старшыня ЦВК БССР А. Р. Чарвякоў, адзначалася, што поспехі Савецкай Беларусі ў гаспадарцы і культуры забяспечваюцца правільнай палітыкай беларускага ўрада па пытаннях дзяржаўнага і нацыянальнага будаўніцтва. Пры гэтым падкрэслівалася вялікае значэнне для развіцця беларускай культуры Інбелкульта, які, як гаварылася ў рэзалюцыі, «у сваім далейшым развіцці павінен стаць Беларускай Акадэміяй навук» [15].

Кіруючыся ўказаннем вярхоўнага органа ўлады краіны, СНК БССР 10 ліпеня таго ж года прыняў рашэнне: у сувязі з агульнадзяржаўным уздымам Беларусі, развіццём эканамічнага і культурнага будаўніцтва лічыць неабходным з 1926/27 акадэмічнага года даць Інстытуту беларускай культуры напрамак да паступовага пераўтварэння яго ў Беларускую Акадэмію навук [16].

Ужо ў сярэдзіне 1926 г. Інбелкульт, такім чынам, атрымаў перспектыву — паступовае развіццё да больш высокай ступені навукова-даследчай установы — Акадэміі навук.

У ходзе пераўтварэння Інбелкульта ў Акадэмію навук выявіліся два напрамкі. З аднаго боку, існавала меркаванне не спяшацца, а паступова падводзіць яго да рэарганізацыі ў акадэмію, з другога — мелі месца спробы паспешна, простым дэкрэтаваннем стварыць Акадэмію навук. Але для стварэння Акадэміі навук неабходны былі арганізацыйныя, кадравыя і матэрыяльныя ўмовы.

У снежні 1926 г.— студзені 1927 г. пытанне аб далейшым развіцці Інбелкульта некалькі разоў разглядалася на пасяджэннях бюро ЦК КП(б)Б. У прынятай па гэтаму пытанню рэзалюцыі гаварылася пра неабходнасць узяць курс на рэарганізацыю Інбелкульта ў Акадэмію навук. Пры гэтым было прапанавана ажыццявіць ідэю аб стварэнні Акадэміі навук у БССР шляхам развіцця і паглыблення навуковай працы Інбелкульта. Для гэтага інстытуту рэкамендавалася ўстанавіць больш цесныя

---

[15] Цэнтральны дзяржаўны архіў Кастрычніцкай рэвалюцыі, вышэйшых органаў дзяржаўнай улады і дзяржаўнага кіравання РФ (ЦДАКР РФ), ф. 3316, воп. 13, спр. 4, арк. 115.

[16] ЗЗ БССР. 1926. № 29. Арт. 106.

сувязі з акадэміямі навук СССР і УССР, удакладніць структуру Інбелкульта шляхам арганізацыі буйных навуковых падраздзяленняў, прыцягнуць да працы высокакваліфікаваных супрацоўнікаў, у тым ліку з-за межаў БССР, павялічыць колькасць штатных членаў, рэарганізаваць Навуковы савет Інбелкульта ў Акадэмічны савет, які павінен сканцэнтраваць увагу на арганізацыі навуковай працы [17].

Ужо з пачатку 1927 г. праводзіцца шэраг мерапрыемстваў, накіраваных на паступовае стварэнне на базе Інбелкульта Акадэміі навук. Першым сярод гэтых мерапрыемстваў з'явілася падрыхтоўка новага статута інстытута. Для вырашэння гэтай задачы Прэзідыум Інбелкульта ў канцы студзеня 1927 г. стварыў камісію з вучоных інстытута [18]. У аснову распрацаванага камісіяй статута пакладзены нормы статута Акадэміі навук СССР і практыка дзейнасці Інбелкульта. Змест статута адлюстроўваў асаблівасці будаўніцтва ў БССР. Складзены такім чынам новы статут, які фактычна з'яўляўся акадэмічным, у красавіку 1927 г. быў прадстаўлены на разгляд Навуковай рады Інбелкульта, а 29 чэрвеня 1927 г. зацверджаны СНК БССР [19].

Статут вызначаў Інстытут беларускай культуры як вышэйшую дзяржаўную навуковую ўстанову ў БССР, якая знаходзілася пры СНК БССР. Ён уносіў істотныя змены ў структуру Інбелкульта, парадак абрання новых членаў, што давала магчымасць значна паглыбіць і пашырыць навукова-даследчую працу.

---

[17] Бальшавік Беларусі. 1928. № 12. С. 20—21.
[18] Наш край. 1928. № 12. С. 21.
[19] ЗЗ БССР. 1927. № 31. Арт. 158 (Першы статут Акадэміі навук СССР зацверджаны СНК СССР 18 чэрвеня 1927 г., г. зн. амаль адначасова з акадэмічным статутам Інбелкульта. Вядома, што камісія Інбелкульта, якая распрацавала статут, і СНК БССР, які зацвердзіў яго, ведалі асноўныя палажэнні статута АН СССР яшчэ да яго афіцыйнага зацвярджэння. Першапачатковы варыянт статута АН СССР быў разгледжаны ў камісіях СНК СССР у студзені 1926 г. і разасланы зацікаўленым установам для водгукаў. Пасля атрымання заўваг перапрацаваны тэкст статута быў прадстаўлены на заключэнне ўрадам саюзных рэспублік. Падабенства асноўных палажэнняў статута АН СССР і Інбелкульта падмацоўвасцца параўнаннем тэкстаў абодвух статутаў.)

Пры гэтым ставілася мэта наблізіць дзейнасць інстытута да патрэб сацыялістычнага будаўніцтва, пашыраць навуковыя даследаванні, узбагачаючы іх новымі адкрыццямі, ажыццяўляць планавае даследаванне прыродных і вытворчых сіл Беларусі, вывучаць і садзейнічаць іх выкарыстанню, весці даследаванні ў галіне народнай гаспадаркі, права, грамадскага руху, мовы, літаратуры, гісторыі, этнаграфіі і іншых, аб'ядноўваць у гэтых галінах усю навуковую працу, якая вялася навуковымі ўстановамі БССР і асобнымі вучонымі, укараняць яе вынікі ў народную гаспадарку, прамысловасць і культурнае будаўніцтва БССР.

Інстытут меў у сваім складзе аддзел прыроды і гаспадаркі і аддзел гуманітарных навук. У складзе аддзела арганізоўваліся даследчыя кафедры і інстытуты, камісіі, кабінеты, лабараторыі, музеі, навуковыя таварыствы, іншыя навуковыя ўстановы.

Шмат увагі ў статуце надавалася асабоваму складу інстытута. Статут даваў Інбелкульту права выбіраць сваіх членаў. Інстытут складаўся з правадзейных членаў, навуковых супрацоўнікаў і членаў-карэспандэнтаў. Акрамя таго, ён меў права выбіраць ганаровых членаў.

Агульнае кіраўніцтва дзейнасцю інстытута ажыццяўляла Акадэмічная рада на чале з Прэзідыумам, які з'яўляўся выканаўчым органам і выбіраўся Акадэмічнай радай на тры гады ў складзе прэзідэнта, віцэ-прэзідэнта, неадменнага сакратара, старшынь аддзелаў і прадстаўнікоў нацыянальных сектараў. Прэзідэнт Інбелкульта меў права прымаць удзел у пасяджэннях СНК БССР з правам дарадчага голасу.

Статут пацвярджаў права Інбелкульта мець сваё выдавецтва і друкарню. Асабліва падкрэслівалася неабходнасць устанаўлення і падтрымкі навуковых сувязей з акадэміямі, навуковымі ўстановамі і таварыствамі саюзных рэспублік.

Акадэмічны статут стаў базай для фарміравання новай структуры Інбелкульта, якая цяпер складалася з аддзела гуманітарных навук, аддзела прыроды і народнай гаспадаркі, нацыянальных сектараў. Непасрэдна Прэзідыуму падпарадкоўваліся таксама камісія па вывучэнню Заходняй Беларусі, камісія па вывучэнню вы-

творчых сіл Беларусі, Цэнтральнае бюро краязнаўства, бібліяграфічная камісія, бібліятэка і друкарня.

Аддзел гуманітарных навук у арганізацыйна-навуковых мэтах падзяляўся на клас філалогіі і клас гісторыі. Класы групавалі навуковых супрацоўнікаў адпаведна спецыяльнасці для заслухоўвання навуковых дакладаў, рашэння іншых пытанняў. Больш значныя пытанні навукова-арганізацыйнага характару вырашаліся на пасяджэннях саветаў аддзелаў.

Клас філалогіі меў у складзе кафедру жывой беларускай мовы, якая аб'ядноўвала працу камісій па складанню слоўніка жывой беларускай мовы, дыялекталагічную, літаратурнай мовы і інстытут навуковай мовы, кафедру гісторыі беларускай мовы з камісіяй па складанню гістарычнага слоўніка беларускай мовы, кафедру гісторыі беларускай літаратуры з камісіяй па выданню твораў беларускіх пісьменнікаў.

У клас гісторыі ўваходзілі кафедра гісторыі Беларусі з камісіяй па вывучэнню гарадоў Беларусі і асветы, кафедра гісторыі беларускага права, археаграфічная камісія, кафедра ўсеагульнай гісторыі, археалагічная камісія (у канцы 1928 г. пераўтворана ў кафедру), кафедра этнаграфіі з камісіяй фальклору, інстытут па вывучэнню мастацтваў і кафедра гісторыі Літвы.

Аддзел прыроды і народнай гаспадаркі аб'ядноўваў працу ўстаноў Інбелкульта ў галіне прыродазнаўчых навук, тэхнікі і прыкладной эканомікі і дзяліўся на два класы. У склад класа прыроды ўваходзілі геалагічны інстытут, кафедра глебазнаўства, кафедра батанікі, кафедра геаграфіі, кафедра антрапалогіі, заалагічны музей, цэнтральная хімічная лабараторыя, лабараторыя эксперыментальнай біялогіі, Вяліка-Летчанскі батанічны сад і цэнтральная феналагічная камісія. Клас гаспадарчых навук складаўся з трох камісій (па вывучэнню прамысловасці, дамашніх рамёстваў, кааперацыі) і Навуковага таварыства па вывучэнню Беларусі ў Горы-Горках, якое ўваходзіла ў склад Інбелкульта на правах самастойнай камісіі.

Для вывучэння культуры нацыянальных меншасцей Беларусі ў складзе Інбелкульта меліся яўрэйскі і польскі сектары.



*В. У. Ластоўскі,
неадменны сакратар
Інбелкульта
(1927—1928 гг.)*

У ліпені 1927 г. структура і дзейнасць Інбелкульта былі разгледжаны на пасяджэнні Прэзідыума Дзяржплана БССР, дзе адзначана, што новая структура інстытута адпавядае асноўным патрабаванням развіцця эканомікі і культуры Беларусі. Дзяржплан асобна адзначыў неабходнасць пашырыць і ўзмацніць навукова-даследчую работу камісіі па вывучэнню прадукцыйных сіл БССР, якая ўваходзіла ў склад Інбелкульта [20]. Дзяржплан БССР прапанаваў Інбелкульту разам з Навукова-даследчым інстытутам сельскай і лясной гаспадаркі імя У. І. Леніна і Наркамасветы БССР распрацаваць перспектыўны план навукова-даследчай працы на Беларусі. Да канца 1927 г. Інбелкульт падрыхтаваў пяцігадовы план развіцця навукова-даследчай працы на 1928/29—1932/33 гг. Гэта быў першы вопыт планавання навуковай дзейнасці інстытута на такі тэрмін.

[20] ЦДАКР РБ, ф. 7, воп. 1, спр. 368, арк. 55.

У лістападзе 1927 г. СНК БССР зацвердзіў склад правадзейных членаў Інбелкульта ў колькасці 14 чалавек і склад Прэзідыума інстытута[21]. Правадзейнымі членамі Інбелкульта сталі вядомыя вучоныя і дзеячы культуры: Я. М. Афанасьеў — па кафедры глебазнаўства, М. Ф. Бліядуха — па кафедры геалогіі, З. Ф. Жылуновіч — па кафедры прыгожага пісьменства, І. І. Замоцін — па кафедры беларускай літаратуры, У. М. Ігнатоўскі — па кафедры гісторыі Беларусі, В. У. Ластоўскі — па кафедры этнаграфіі, Я. Ю. Лёсік — па кафедры беларускай навуковай мовы, І. Д. Луцэвіч (Янка Купала) і К. М. Міцкевіч (Якуб Колас) — па кафедры прыгожага пісьменства, С. Ю. Матулайціс — па кафедры гісторыі Літвы ў сувязі з гісторыяй Беларусі, С. М. Некрашэвіч — па кафедры жывой беларускай мовы, У. І. Пічэта — па кафедры гісторыі права і гаспадаркі Беларусі, А. А. Смоліч — па кафедры геаграфіі, А. М. Ясінскі — па кафедры ўсеагульнай гісторыі. У лютым 1928 г. правадзейным членам Інбелкульта быў абраны М. М. Дурнаво па кафедры гісторыі беларускай мовы (усе яны, акрамя А. А. Смоліча, у канцы 1928 г. сталі першымі правадзейнымі членамі Беларускай Акадэміі навук). Тады ж СНК БССР зацвердзіў склад Прэзідыума Інбелкульта. Прэзідэнтам стаў У. М. Ігнатоўскі, віцэ-прэзідэнтам — М. І. Бялуга, неадменным сакратаром — В. У. Ластоўскі. У склад Прэзідыума ўвайшлі таксама старшыня аддзела гуманітарных навук С. М. Некрашэвіч, старшыня аддзела прыроды і народнай гаспадаркі А. А. Смоліч, загадчык польскага сектара С. Л. Гельтман, загадчык яўрэйскага сектара В. М. Аршанскі.

Такім чынам, па формах і метадах арганізацыі навуковай дзейнасці Інстытут беларускай культуры пасля прыняцця акадэмічнага статута набліжаўся да акадэмічнай установы. Гэта адзначыў сакратар ЦК КП(б)Б В. Г. Кнорын, выступаючы на XI з'ездзе Кампартыі Беларусі (лістапад 1927 г.). «Але гэта арганізацыйная перабудова,— сказаў ён,— не з'яўляецца асноўнай, рашаючай. Тут асноўнае — практычная праца, якая зво-

[21] ЗЗ БССР. 1927. № 42. Арт. 226.

дзіцца ў цэлым шэрагу да выданняў і распрацовак, якія па сваёй навуковай каштоўнасці з'яўляюцца першараднымі».

Значны ўплыў на ідэалагічную накіраванасць працы Інбелкульта мела камуністычная фракцыя інстытута. У пачатку 1928 г. у яе ўваходзілі М. І. Бялуга, І. А. Віткоўскі, С. Л. Гельтман, У. М. Ігнатоўскі, А. З. Казак, С. Ю. Матулайціс, І. Ф. Шпілеўскі і інш. У кастрычніку 1928 г. была створана партыйная ячэйка інстытута ў складзе 16 чалавек.

Кіраўніцтва рэспублікі і асабіста У. М. Ігнатоўскі ў 20-я гады змаглі аб'яднаць для плённай навуковай працы ў Інбелкульце розных па палітычных поглядах людзей, у тым ліку і тых, што вярнуліся ў сярэдзіне 20-х гадоў на Беларусь з эміграцыі. Сярод іх былі таксама актыўныя дзеячы Рады Беларускай Народнай Рэспублікі В. У. Ластоўскі, А. І. Цвікевіч, А. А. Смоліч, П. Трэмповіч і інш. У. М. Ігнатоўскаму, калі ён яшчэ быў наркамам асветы рэспублікі, удалося прыцягнуць да працы ў Інбелкульце і вышэйшых навучальных установах Беларусі значную групу высокакваліфікаваных вучоных з РСФСР і Украіны, у тым ліку з так званай старой прафесуры.

Аднак вытрымаць гэтую лінію У. М. Ігнатоўскаму было складана, улічваючы, што і ў той час былі даволі моцнымі тэндэнцыі падазронасці, недаверу, а часам і варожасці да інтэлігенцыі, у тым ліку і ў Кампартыі Беларусі. Пра гэта, напрыклад, сведчыць выказванне Гаркая з Магілёва на X з'ездзе КП(б)Б (студзень 1927 г.), які заявіў: «Яна (інтэлігенцыя) павінна быць не больш, не менш як прыслугай, яна павінна служыць пануючаму класу. Раней служыла яна буржуазіі, цяпер, будзь ласкавай,— служы пралетарыяту».

Важнай функцыяй Інбелкульта быў удзел у правядзенні палітыкі беларусізацыі, актыўнымі арганізатарамі і праваднікамі якой былі У. М. Ігнатоўскі, С. М. Некрашэвіч, Я. Купала, Я. Колас, Я. Ю. Лёсік і інш. Вучоныя інстытута шмат зрабілі для распрацоўкі і выдання беларускай тэрміналогіі па розных галінах ведаў, слоўнікаў, падручнікаў на беларускай мове. Інбелкульт стаў арганізатарам правядзення ў 1926 г. у Мінску ака-



*Будынак, у якім з 1925 па 1928 г. знаходзіўся Інбелкульт*

дэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі, у якой прынялі ўдзел вучоныя з-за мяжы. Канферэнцыя, па словах У. М. Ігнатоўскага, «выявіла той шлях, па якому павінна ісці праца па вывучэнню беларускай мовы як мовы самастойнай, роўнай з іншымі славянскімі мовамі..., спрыяла павышэнню значэння Мінска як адзінага культурнага цэнтра этнаграфічнай Беларусі» [22].

Развіццё народнай гаспадаркі БССР было немагчыма без сістэматычнага вывучэння яе мінеральна-сыравіннай базы, праблем рацыянальнага развіцця эканамічных раёнаў. Таму дзейнасць навуковых устаноў павінна быць цесна звязанай з задачамі эканамічнага развіцця рэспублікі. XI з'езд Кампартыі Беларусі ў пастанове «Аб асновах пяцігадовага плана развіцця народнай гаспадаркі ў БССР і СССР» звярнуў асаблівую ўвагу на неабходнасць вывучэння прыродных багаццяў і

[22] Бальшавік Беларусі. 1928. № 12. С. 18.

энергетычных рэсурсаў БССР і даручыў навуковым і дзяржаўным арганізацыям правесці вывучэнне эканамічных раёнаў БССР для паляпшэння планавага кіраўніцтва развіццём народнай гаспадаркі рэспублікі [23]. У сувязі з гэтым неабходна было значна пашырыць дзейнасць інстытута за кошт развіцця прыродазнаўчых і тэхнічных навук з улікам патрэб развіцця народнай гаспадаркі рэспублікі.

У мэтах паспяховага вырашэння пастаўленых перад вучонымі задач быў значна павялічаны бюджэт Інбелкульта і зацверджаны СНК БССР на 1927/28 акадэмічны год у суме 359 тыс. руб., што перавышала бюджэт мінулага акадэмічнага года на 22,4% [24]. Пастаянна павялічвалася колькасць супрацоўнікаў інстытута. У трох інстытутах (геалагічным, навуковай мовы, мастацтвазнаўства), на 15 кафедрах, у трох самастойных камісіях, батанічным садзе, хімічнай лабараторыі, заалагічным музеі, двух нацыянальных сектарах і ўстановах пры Прэзідыуме Інбелкульта мелася ў 1927/28 акадэмічным годзе 113 штатных адзінак супраць 88 у папярэднім акадэмічным годзе [25].

К канцу 1928 г. Інбелкульт ператварыўся ў дастаткова моцную навукова-даследчую ўстанову. Да працы ў інстытуце былі прыцягнуты лепшыя навуковыя сілы рэспублікі. Наладжваліся сувязі Інбелкульта з навуковымі ўстановамі СССР. Найбольш значнымі былі дасягненні вучоных Інбелкульта ў галіне гуманітарных, біялагічных, геалагічных, сельскагаспадарчых і хімічных навук. Так, вучоныя-мовазнаўцы распрацоўвалі навуковую тэрміналогію для асобных галін ведаў і выдалі 19 тэрміналагічных зборнікаў. Таксама быў выдадзены тэрміналагічны атлас гаворак Беларусі. Літаратуразнаўцы паспяхова працавалі над падрыхтоўкай да друку акадэмічных выданняў збораў твораў беларускіх паэтаў і празаікаў. Этнографы вывучалі беларускую фалькларыстыку, сабралі каля 30 тыс. тэкстаў песень, казак, прыказак, выдалі альбом беларускага арнаменту і апісанне белару-

[23] КПБ в резолюциях... Т. 1. С. 314.
[24] ЦДАКР РБ. ф. 42, воп. 1, спр. 1941, арк. 2.
[25] ЦДАКР РБ. ф. 101, воп. 1, спр. 3551, арк. 88—91; ЦНА АНБ, ф. 67, воп. 3, спр. 25, арк. 67.

скага нацыянальнага адзення. Гісторыкі распачалі выданне архіўных матэрыялаў, вывучэнне рэвалюцыйнага руху на Беларусі, філосафы — даследаванні па дыялектычнаму і гістарычнаму матэрыялізму.

Даволі шырокае развіццё ў Інбелкульце, асабліва ў апошнія гады яго дзейнасці, атрымалі прыродазнаўчыя навукі. Штогод праводзіліся геалагічныя, геабатанічныя, заалагічныя і іншыя экспедыцыі. Толькі ў 1927/28 акадэмічным годзе было арганізавана 12 навуковых экспедыцый [26].

У час геалагічных экспедыцый праводзіліся даследаванні на значнай частцы тэрыторыі рэспублікі геалагічнай будовы зямлі і выяўленне карысных выкапняў. У выніку былі выяўлены радовішчы карысных выкапняў, якія па сваёй якасці і тэхніка-эканамічных умовах эксплуатацыі маглі быць сыравіннай базай для развіцця шэрагу галін прамысловасці — шкляной, цэментнай, керамічнай, па выпрацоўцы мінеральных угнаенняў і інш. Вучонымі Інбелкульта былі складзены глебавыя карты большай часткі акруг рэспублікі, якія шырока выкарыстоўваліся пры аказанні агранамічнай дапамогі, землеўпарадкаванні, меліярацыі і інш. Значная работа праводзілася па выяўленню гідраэнергарэсурсаў рэк, быў складзены іх поўны каталог. Важнае значэнне мелі геамагнітныя і геабатанічныя тэрыторыі БССР, якія з'явіліся неабходнай стадыяй у вывучэнні краю і мелі практычнае значэнне.

Асноўным цэнтрам даследаванняў у галіне фізікі, матэматыкі і хіміі ў 20-я гады з'яўляўся Беларускі дзяржаўны універсітэт. Дзейнасць Інбелкульта ў гэтых галінах навукі зводзілася перш за ўсё да каардынацыі працы вучоных гэтых спецыяльнасцей. Так, у 1925 г. у інстытуце была арганізавана фізіка-матэматычная падсекцыя, у 1926 г. у Інбелкульце ствараецца Цэнтральная хімічная лабараторыя [27]. У верасні 1928 г. савет Інбелкульта прыняў рашэнне аб арганізацыі кафедры хіміч-

---

[26] XII з'езду КП(б)Б. Матэрыялы да справаздачы Цэнтральнага Камітэта КП(б)Б. Мн., 1929. С. 109.

[27] ЦНА АНБ, ф. 67, воп. 1, спр. 8, арк. 71; воп. 3, спр. 23, арк. 151.

най тэхналогіі, у снежні 1928 г. зацвердзіў праект арганізацыі кафедр хіміі і фізікі [28].

З першых крокаў сваёй дзейнасці Інбелкульт шырока абапіраўся на дапамогу і падтрымку грамадскасці. Вялікую ролю ў развіцці сувязей з працоўнымі масамі адыграла Цэнтральнае бюро краязнаўства, створанае ў 1924 г. у складзе Інбелкульта. Да 1929 г. краязнаўчыя арганізацыі БССР налічвалі ў сваім складзе звыш 10 тыс. членаў, аб'яднаных у больш чым 300 арганізацый.

Вучоныя Інбелкульта зрабілі значныя крокі ў галіне навуковых даследаванняў, якія адыгралі важную ролю ў станаўленні беларускай савецкай навукі і стварылі базу для яе далейшага развіцця. Яны даказалі здольнасць беларускіх вучоных праводзіць даследаванні па многіх важнейшых навуковых напрамках.

У маі 1928 г. СНК БССР заслухаў даклад Інбелкульта і ВСНГ БССР аб выніках даследчай працы і адзначыў, што Інбелкульт разгарнуў значную навукова-даследчую працу ў галіне прыродазнаўчых навук: рэгіянальнай і прыкладной геалогіі, глебазнаўства, геабатанікі, геаграфіі, геафізікі, геахіміі. Разам з тым урад рэспублікі звярнуў увагу на тое, што тэмпы развіцця навуковай працы ў рэспубліцы адстаюць ад тэмпаў сацыялістычнага будаўніцтва. Асаблівая ўвага Інбелкульта была звернута на развіццё дысцыплін «індустрыяльнага цыкла». Яму было даручана папоўніць склад навуковых супрацоўнікаў па прыродазнаўчых і тэхнічных навуках. Для паляпшэння планавання навукова-даследчай работы Інбелкульту, Вышэйшаму савету народнай гаспадаркі БССР было прапанавана распрацаваць і перадаць у Дзяржплан планы даследчай працы з тым, каб яны маглі быць увязаны з агульным планам развіцця народнай гаспадаркі рэспублікі [29].

Значныя поспехі ў гаспадарчым і культурным будаўніцтве рэспублікі, узрастанне ролі навукі ў развіцці эканомікі і культуры, паспяховае засваенне беларускімі

---

[28] Звязда. 1928. 2 кастр.; 23 снеж.
[29] Бюлетэнь Інстытута беларускай культуры. 1927—1928. № 2. С. 22—25.

вучонымі шэрагу навуковых напрамкаў не толькі ў галіне грамадскіх, але і прыродазнаўчых навук, а таксама высокі ўзровень кваліфікацыі навуковых супрацоўнікаў Інбелкульта сталі асноўнымі перадумовамі рэарганізацыі інстытута ў Акадэмію навук. Акрамя таго, стварэнне Акадэміі навук на Беларусі адпавядала яе ролі і прэстыжу ў СССР, таму ўзроўню развіцця эканомікі і культуры, якога яна дабілася за параўнальна невялікі тэрмін.

Распачатая з сярэдзіны 1927 г. з прыняццем акадэмічнага статута арганізацыйная падрыхтоўка да стварэння Акадэміі навук уступіла ў кастрычніку 1928 г. у заключную фазу.

Улічваючы, што Інбелкульт па характару і аб'ёму сваёй працы і тых задачах, якія стаялі перад ім у той час, ужо наблізіўся да навуковай установы тыпу Акадэміі навук, СНК БССР 4 кастрычніка 1928 г. прыняў рашэнне аб рэарганізацыі Інбелкульта ў Акадэмію навук. Паколькі стварэнне рэспубліканскай Акадэміі навук было падзеяй вялікай не толькі навуковай, але і палітычнай значнасці, што выходзіла далёка за межы рэспублікі, урад БССР звярнуўся з просьбай да СНК СССР ухваліць пастанову СНК БССР ад 4 кастрычніка 1928 г. аб рэарганізацыі Інбелкульта ў Акадэмію навук. 9 кастрычніка 1928 г. старшыня СНК БССР М. М. Галадзед, выступаючы на пасяджэнні СНК СССР з дакладам аб дзейнасці ўрада рэспублікі, паставіў пытанне аб стварэнні Беларускай Акадэміі навук. На тым жа пасяджэнні саюзны СНК ухваліў пастанову СНК БССР ад 4 кастрычніка 1928 г. аб рэарганізацыі Інбелкульта ў Беларускую Акадэмію навук [30].

12 кастрычніка 1928 г. бюро ЦК КП(б)Б прыняло рашэнне аб своечасовай рэарганізацыі Інбелкульта. На наступны дзень бюро ЦК КП(б)Б ухваліла праект пастановы ЦВК і СНК БССР аб рэарганізацыі Інбелкульта ў Акадэмію навук [31].

14 кастрычніка 1928 г. у цэнтральных газетах рэспублікі была змешчана пастанова ЦВК і СНК БССР

---

[30] Рабочий. 1928. 23 окт.; ЦДАКР РБ, ф. 7, воп. 1, спр. 625, арк. 303.
[31] ЦПА Кампартыі Беларусі, ф. 4, воп. 3, спр. 30, арк. 505, 562.

«Аб рэарганізацыі Інстытута беларускай культуры ў Беларускую Акадэмію навук», датаваная 13 кастрычніка 1928 г. У ёй гаварылася: «У мэтах сацыялістычнага будаўніцтва, а таксама стварэння магчымасці яшчэ больш інтэнсіўнага развіцця навуковай дзейнасці ў галіне беларускай культуры і даследчай працы ў БССР, яшчэ большага згуртавання ўсіх вучоных, якія гатовы аддаць свае веды на карысць рабочых і сялян, стварэння больш спрыяльных умоў для падрыхтоўкі новых кадраў вучоных рэарганізаваць Інстытут беларускай культуры ў Беларускую Акадэмію навук»[32].

Для рэалізацыі гэтай пастановы была створана ўрадавая камісія на чале з сакратаром ЦВК БССР А. І. Хацкевічам. У склад камісіі ўвайшлі таксама прадстаўнікі Інбелкульта. Камісіі даручалася падрыхтаваць і прадставіць на зацвярджэнне СНК БССР асабовы склад правадзейных членаў Беларускай Акадэміі навук, склад яе Прэзідыума, а таксама змены ў статуце. Рэарганізацыю было намечана правесці да 1 студзеня 1929 г., да дзесяцігоддзя з дня заснавання БССР. Пастанову ЦВК і СНК БССР падпісалі старшыня ЦВК БССР А. В. Чарвякоў, старшыня СНК БССР М. М. Галадзед і сакратар ЦВК БССР А. І. Хацкевіч.

У сваім артыкуле, надрукаваным у снежні 1928 г. у часопісе «Бальшавік Беларусі», У. М. Ігнатоўскі так абгрунтаваў рэарганізацыю Інбелкульта ў Акадэмію навук: «У мэтах выкарыстання навуковых дасягненняў для сацыялістычнага будаўніцтва Інстытут беларускай культуры разгарнуў шырокую працу. У Інбелкульце згрупаваліся лепшыя навуковыя сілы і ён пачаў абрастаць кадрамі маладых даследчыкаў. Наладзіліся навуковыя сувязі з навуковымі ўстановамі СССР і замежных дзяржаў. Усё гэта прывяло як партыйную, так і беспартыйную грамадскасць да прызнання своечасовасці рэарганізацыі Інстытута беларускай культуры ў Беларускую Акадэмію навук».

Калектыў Інбелкульта горача вітаў гэты акт савецкай улады. У рэзалюцыі, прынятай на агульным сходзе супрацоўнікаў Інбелкульта, гаварылася: «Перад Акадэ-

---

[32] ЗЗ БССР. 1928. № 32. Арт. 302.




ПАСТАНОВА

Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР

аб рэарганізацыі Інстытуту Беларускай Культуры ў Беларускую Акадэмію Навук

Беларуская Акадэмія Навук

Новы этап у разьвіцьці беларускай культуры

Важная пастанова

НАД СЬВЕЖАЮ УРНАЮ



*Пастанова ЦВК і СНК БССР аб рэарганізацыі Інбелкульта ў Беларускую Акадэмію навук*

міяй навук паўстануць больш складаныя задачы ў справе арганізацыі і правядзення навукова-даследчай працы. Супрацоўнікі Інстытута беларускай культуры запэўніваюць партыю і ўрад, што яны прыкладуць усю энергію і веды, каб пераадолець цяжкасці і апраўдаць імя супрацоўнікаў Акадэміі навук» [33].

Першымі правадзейнымі членамі (акадэмікамі) Беларускай Акадэміі сталі вядомыя беларускія вучоныя і дзеячы культуры, многія з якіх працавалі ў Інбелкульце: Я. М. Афанасьеў, М. Ф. Бліядуха, С. Я. Вальфсон, С. М. Вышалескі, Г. І. Гарэцкі, М. В. Грэдзінгер, А. Д. Дубах, М. М. Дурнаво, З. Ф. Жылуновіч (Цішка Гартны), І. І. Замоцін, У. М. Ігнатоўскі, В. У. Ластоўскі,

[33] ЦНА АНБ, ф. 67, спр. 28, арк. 178.

Я. Ю. Лёсік, І. Д. Луцэвіч (Янка Купала), М. Қ. Малюшыцкі, С. Ю. Матулайціс, Қ. М. Міцкевіч (Якуб Қолас), С. М. Некрашэвіч, І. А. Пятровіч, В. І. Пічэта, Б. А. Тарашкевіч, А. М. Ясінскі.

Акадэмікамі Беларускай Акадэміі навук тады ж стаў шэраг вучоных з РСФСР — С. Ф. Альдэнбург, В. Р. Вільямс, А. П. Қарпінскі, М. Я. Мар, М. М. Пакроўскі, з Украінскай ССР — Д. Қ. Забалотны, М. А. Скрыпнік, П. А. Туткоўскі, М. І. Яворскі.

Прэзідэнтам Беларускай Акадэміі навук быў прызначаны У. М. Ігнатоўскі.

За сем гадоў свайго існавання Інбелкультам была праведзена значная работа па фарміраванню арганізацыйных прынцыпаў дзейнасці, стварэнню матэрыяльнай базы навукі, развіццю сеткі навуковых устаноў і падрыхтоўцы кадраў. Даследаванні вучоных інстытута адпавядалі інтарэсам развіцця народнай гаспадаркі рэспублікі. Асабліва вялікай была роля Інбелкульта ў развіцці культуры беларускага народа. Такім чынам, Інбелкульт унёс істотны ўклад у станаўленне савецкай навукі і культуры ў Беларускай ССР і стаў базай для стварэння Акадэміі навук БССР.



# МОВАЗНАЎСТВА

У пачатковы перыяд дзейнасці Інстытута беларускай культуры пытанні беларускага мовазнаўства займалі адно з вядучых месц. Бурнае развіццё беларускай нацыянальнай культуры пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі адкрыла новыя перспектывы і для беларускай мовы, стварыла спрыяльныя перадумовы для яе выкарыстання ў літаратуры і навуцы. Узмацненню ролі беларускай літаратурнай мовы садзейнічаў актыўны ўдзел народных мас у гаспадарчым і культурным жыцці, стварэнне густой сеткі пачатковых, сярэдніх і вышэйшых школ, культурна-асветных устаноў. Важным фактарам развіцця літаратурнай мовы, нармалізацыі яе граматычнай сістэмы і слоўнікавага складу з'явіўся небывалы ўздым кнігадрукавання і такіх сродкаў масавай інфармацыі, як газеты, часопісы і радыё.

У сувязі з новымі шырокімі грамадска-культурнымі функцыямі беларускай літаратурнай мовы адразу ж паўстала неабходнасць распрацоўкі шэрагу практычных праблем беларускага мовазнаўства. Увага беларускіх моваведаў першапачаткова была звернута галоўным чынам на нармалізацыю лексічнага складу літаратурнай мовы, у першую чаргу на распрацоўку грамадска-палітычнай і навукова-тэхнічнай тэрміналогіі, паколькі тэрміналогія наогул уяўляе сабой асноўны раздзел лексікі, за кошт якога ўзбагачаецца слоўнікавы склад кожнай літаратурнай мовы.

Узнікшая ў той час у сувязі з беларусізацыяй культурна-асветных устаноў настойлівая патрэба ў беларускай тэрміналогіі, беларускіх падручніках, літаратурна-палітычных часопісах паставіла пытанне аб стварэнні пры Наркамаце асветы першапачатковага навуковага

ядра, з якога пазней магла б развіцца больш буйная навуковая ўстанова. Такім зародкам з'явілася навукова-тэрміналагічная камісія пры Наркамаце асветы БССР. Для працы ў камісію былі запрошаны спецыялісты па розных галінах навукі, якія добра ведалі беларускую мову. Асноўным заданнем навукова-тэрміналагічнай камісіі было апрацаваць і выдаць як мага хутчэй навуковую тэрміналогію для выкарыстання яе ў пачатковых і сярэдніх беларускіх школах, а таксама скласці і выдаць шэраг беларускіх падручнікаў, пачынаючы ад беларускага буквара [1].

Камісія паспяхова справілася з пастаўленымі перад ёй задачамі. За год сваёй дзейнасці яна распрацавала тэрміналогію па асобных галінах навукі ў межах праграмы сярэдняй школы — па граматыцы, логіцы, арыфметыцы, алгебры, геаметрыі і батаніцы. Гэтыя тэрміны ў выглядзе спецыяльных падборак друкаваліся ў часопісе «Вестник Народного комиссариата просвещения ССРБ» у 1921—1922 гг. Так, па граматыцы было апублікавана 307 тэрмінаў, па логіцы — 386, па арыфметыцы — 220, па алгебры — 140. Акрамя таго, камісія распрацавала тэрміналогію па батаніцы, заалогіі, геаметрыі, іншых навуках [2]. За час сваёй дзейнасці навукова-тэрміналагічная камісія правяла каля 70 агульных пасяджэнняў, на якіх разгледзела і прыняла каля 3 тыс. тэрмінаў, склала і выдала некаторыя падручнікі для беларускіх школ.

Інстытут беларускай культуры падзяляўся на дзве секцыі: этнолагалінгвістычную і прыродазнаўчую. Этнолагалінгвістычная секцыя складалася з трох камісій: правапісна-тэрміналагічнай, слоўнікавай і літаратурнай. У першых дзвюх камісіях і распрацоўваліся мовазнаўчыя праблемы таго часу. Разам з тым тэрміналагічная работа праводзілася ў прыродазнаўчай секцыі, якая прыняла каля 2500 тэрмінаў па раздзелах сваёй навукі і падрыхтавала некалькі беларускіх падручнікаў для школ.

---

[1] Каранеўскі І. Інстытут беларускае культуры (Інбелкульт) // Наш край. 1927. № 10. С. 16—17.

[2] Байкоў М. Слоўнікавая праца ў беларускай мове // Адраджэнне. 1922. № 1. С. 252.

Этнолагалінгвістычная секцыя як непасрэдная пераемніца навукова-тэрміналагічнай камісіі сваю дзейнасць разгарнула ў галіне беларускай навуковай тэрміналогіі. Гэту работу праводзіла правапісна-тэрміналагічная камісія, старшынёй якой быў Я. Ю. Лёсік, сакратаром — А. К. Гурло, штатнымі членамі — І. Д. Луцэвіч (Янка Купала) і К. М. Міцкевіч (Якуб Колас). За аснову сваёй работы камісія прыняла тыя прынцыпы падрыхтоўкі тэрмінаў, якімі кіравалася ранейшая навукова-тэрміналагічная камісія. У аснове гэтых прынцыпаў была арыентацыя на слоўнік жывой беларускай мовы. Камісія лічыла, што словы народнай мовы з іх канкрэтным семантычным напаўненнем будуць лепш перадаваць навуковыя паняцці і з цягам часу набываць абстрактнае значэнне. У тых жа выпадках, калі ў жывой народнай мове не знаходзілася неабходных тэрмінаў, перад камісіяй паўстала дылема: або ўтвараць новыя тэрміны з уласнага моўнага матэрыялу, або запазычваць іх з іншых моў. Па прыкладу чэшскіх моваведаў камісія аддавала перавагу ўтварэнню неалагізмаў згодна з законамі беларускай мовы. Іншамоўныя словы выкарыстоўваліся абмежавана толькі ў выпадках, калі ў народнай мове не было неабходных беларускіх тэрмінаў або ўтвораныя неалагізмы мелі штучны характар. Іншамоўныя тэрміны браліся з блізкароднасных рускай і польскай моў. Ва ўжытак уводзіліся таксама лацінскія тэрміны, распаўсюджаныя ў мовах усіх культурных народаў [3].

За год сваёй дзейнасці тэрміналагічная камісія апрацавала і зацвердзіла каля 3000 тэрмінаў па матэматыцы, мове, літаратуры і іншых галінах ведаў у аб'ёме сярэдняй школы.

Аднак тагачасная практыка адразу ж паказала, што камісія не павінна абмяжоўваць сваю дзейнасць толькі падрыхтоўкай тэрміналогіі для сярэдняй школы. Ёй прадстаяла распрацаваць беларускую навуковую тэрміналогію больш поўна і шырока, прыняць пад увагу патрэбнасці вышэйшай школы. Да яе кампетэнцыі была аднесена апрацоўка правазнаўчай, тэхнічнай, сельскагаспа-

[3] Хроніка беларускага культурнага жыцця // Адраджэнне. 1922. № 1. С. 281.

дарчай, іншых разрадаў тэрміналогіі, а таксама падрыхтоўка тэрміналогіі для дзяржаўных устаноў. У гэтых мэтах камісія старанна пераглядала тэрміналогію па ўсіх галінах навукі і давала сваё канчатковае заключэнне. На пасяджэнні 15 лютага 1925 г. у адпаведнасці з рэкамендацыяй Прэзідыума Інбелкульта камісія прыняла пастанову, каб усё, што мела друкавацца ў Інбелкульце, абавязкова падлягала прагляду камісіі і толькі з яе адабрэння ў адносінах мовы і стылю магло дапускацца да друку [4]. Такі падыход меў станоўчае значэнне для агульнай нармалізацыі тагачаснай беларускай літаратурнай мовы.

У сувязі з распачатай беларусізацыяй вайсковых тэрытарыяльных адзінак у БССР, згодна з пастановай Рэўваенсавета Заходняй вайсковай акругі ад 24 лістапада 1924 г., у Інбелкульце была створана спецыяльная камісія. Першым яе старшынёй быў У. М. Ігнатоўскі, членамі — К. К. Атраховіч, М. Я. Байкоў, І. Д. Луцэвіч, С. М. Некрашэвіч. За кароткі час камісія распрацавала каля 4000 спецыяльных вайсковых тэрмінаў і мела далейшай задачай пераклад на беларускую мову асноўных статутаў воінскай службы, апісанне розных відаў зброі, падрыхтоўку падручнікаў па прыкладных ваенных дысцыплінах і інш. [5]

Да канца 1926 г., менш чым за пяць гадоў сваёй работы, тэрміналагічнай камісіяй былі распрацаваны і выдадзены 10 тэрміналагічных слоўнікаў, якія змяшчалі звыш 13 тыс. слоў-тэрмінаў па матэматыцы, практыцы і тэорыі літаратурнага майстэрства, геаграфіі, касмаграфіі, логіцы і псіхалогіі, геалогіі, мінералогіі і крышталяграфіі, батаніцы, музыцы, лесаводству, анатоміі і праву.

Акрамя таго, камісія падрыхтавала да друку яшчэ шэсць тэрміналагічных слоўнікаў агульнай колькасцю каля 19 тыс. тэрмінаў. Такім чынам, усяго за адзначаны

---

[4] ЦНА АНБ, ф, 67, воп. 1, спр. 2, арк. 11.

[5] Цвікевіч А. Інстытут беларускае культуры (Інбелкульт). Гісторыя ўзнікнення. Сучасная структура. Навукова-даследчая дзейнасць. Мн., 1926. С. 96—97.



*Я. Ю. Лёсік,*
*правадзейны член*
*Інбелкульта*

перыяд было распрацавана і прынята звыш 30 тыс. тэрмінаў [6].

З мэтай прыцягнення ў тэрміналагічную работу шырокіх колаў спецыялістаў камісіяй былі распрацаваны і выдадзены праграмы-інструкцыі для збору народных тэрмінаў па заалогіі, геаграфіі, прыродзе, музыцы, этнаграфіі, тэхніцы, лясной гаспадарцы і іншыя, якія разлічваліся на выкарыстанне перш за ўсё ў мясцовых краязнаўчых арганізацыях, адкуль у камісію паступіла пэўная колькасць тэрміналагічнага матэрыялу.

У 1927 г. тэрміналагічная камісія была пераўтворана ў Інстытут навуковай мовы на чале са старшынёй Я. Ю.

[6] Некрашэвіч С. Сучасны стан вывучэння беларускай мовы // Працы акадэмічнае канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі. Мн., 1927. С. 55.

Лёсікам. Гэты інстытут працягваў тэрміналагічную работу і пазней, у складзе Беларускай Акадэміі навук. Усяго за перыяд дзейнасці тэрміналагічнай камісіі выдадзены 24 выпускі беларускай навуковай тэрміналогіі па ўсіх асноўных галінах навукі (апошнія выпускі выходзілі пад грыфам Інстытута мовазнаўства Беларускай Акадэміі навук). Гэтыя выпускі выдаваліся тыражом у 750—1000 экземпляраў, кожны з іх складаўся з дзвюх частак. Спачатку змяшчалася перакладная руска-беларуская частка, дзе рускія тэрміны размяшчаліся ў алфавітным парадку з агульнай парадкавай нумарацыяй. У другой частцы прыводзіліся па алфавіту беларускія тэрміны з указаннем парадкавага нумара, пад якім гэты тэрмін змяшчаўся ў першай частцы слоўніка. Такая падача матэрыялу давала магчымасць лёгка знаходзіць адпаведны тэрмін у абедзвюх мовах.

Усе выдадзеныя выпускі беларускай навуковай тэрміналогіі камісіяй разглядаліся як праекты. Яна звяртала ўвагу карыстальнікаў, што кожны з іх можа ўносіць свае папраўкі і дапаўненні, якія будуць улічвацца пры далейшай апрацоўцы тэрміналогіі. Камісія прызнавала, што ўдасканальваць сваю работу яна зможа толькі ў тым выпадку, калі ёй на дапамогу прыйдзе актыўнае садзеянне ўсіх зацікаўленых асоб і ўстаноў[7]. У сваёй рабоце Інстытут навуковай мовы асабліва разлічваў на дапамогу і падтрымку мясцовых краязнаўчых арганізацый, таварыстваў, гурткоў, іншых навукова-даследчых і навучальна-асветных устаноў, якія могуць дапамагчы тэрміналагічнай справе, збіраючы народную тэрміналогію ў розных сферах жыцця[8].

На фоне інтэнсіўнай і плённай дзейнасці тэрміналагічнай камісіі першапачатковая работа слоўнікавай камісіі Інбелкульта выглядае больш сціпла. Гэта камісія спачатку разглядала ранейшыя слоўнікі беларускай мовы І. І. Насовіча, У. М. Дабравольскага, М. І. Гарэцкага і разносіла на карткі лексіку гэтых крыніц. Першапачаткова задача слоўнікавай камісіі зводзілася да пад-

[7] Беларуская навуковая тэрміналогія. Вып. 24. Слоўнік тэрміналогіі агульнае раслінагадоўлі (праект). Мн., 1930. С. 5.

[8] Лёсік Я., Цвяткоў Л. Тэрміналагічная работа ў Інбелкульце і збіранне народных тэрмінаў // Наш край. 1927. № 12. С. 67.

рыхтоўкі і выдання практычных перакладных руска-беларускіх і беларуска-рускіх слоўнікаў. Падрыхтоўка больш-менш поўнага руска-беларускага слоўніка была вызначана як першачарговая задача слоўнікавай камісіі гуманітарнай секцыі Інстытута беларускай культуры ўжо ў 1922 г. Да пачатку дзейнасці слоўнікавай камісіі ў рукапісах былі два слоўнікі: «Беларуска-расійскі слоўнік» на 30 тыс. слоў С. М. Некрашэвіча і М. Я. Байкова і «Расійска-беларускі слоўнік» гэтых жа аўтараў на 60 тыс. слоў. Слоўнікі былі выдадзены ў 1926 і 1928 гг. У 1924 г. выдадзены перакладны «Практычны расійска-беларускі слоўнік» М. Я. Байкова і М. І. Гарэцкага, які выйшаў паўторным выданнем у 1926 г.

У лютым 1925 г. слоўнікавая камісія была пераўтворана ў камісію па ўкладанню слоўніка жывой беларускай мовы. Старшынёй быў прызначаны С. М. Некрашэвіч, сакратаром — М. Я. Байкоў, на няштатных пасадах лічыліся М. В. Азбукін, К. М. Міцкевіч. Камісія паставіла задачу па магчымасці падрыхтаваць поўны акадэмічны слоўнік жывой беларускай мовы памерам прыкладна ў 160 друкаваных аркушаў. Для паспяховага ажыццяўлення работы камісія ўстанавіла сувязь з профільнай камісіяй па ўкладанню поўнага слоўніка жывой украінскай мовы пры Украінскай Акадэміі навук, куды ў сакавіку 1925 г. быў камандзіраваны сакратар камісіі М. Я. Байкоў. Старшыня камісіі С. М. Некрашэвіч, які ў той час знаходзіўся ў навуковай камандзіроўцы ў Ленінградзе, устанавіў сувязь з ленінградскімі лексікографамі [9]. Там ён арганізаваў працу па выпісцы картак з беларускіх рукапісных матэрыялаў, што захоўваліся ў ленінградскіх навуковых установах. Усё гэта мела станоўчае значэнне для слоўнікавай работы на Беларусі.

У аснову сваёй работы камісія прыняла складзеную С. М. Некрашэвічам запіску «Да пытання аб укладанні слоўніка жывой беларускай мовы», па якой аўтар зрабіў даклад у мовазнаўчай секцыі Інбелкульта 8 ліпеня 1925 г. (даклад апублікаваны ў часопісе «Полымя», затым выйшаў асобным адбіткам). Згодна з прапанаванымі ў запісцы прынцыпамі, слоўнік павінен быў адлюст-

[9] Наш край. 1925. № 1. С. 62.

раваць як народную, так і літаратурную беларускую мову. У дакладзе С. М. Некрашэвіч адзначыў, што «ў сучасны момант сярод усёй іншай навуковай працы на Беларусі мы не бачым другой такой важнай, патрэбнай і неадкладнай, як праца па ўкладанні слоўніка нашай мовы» [10].

Камісія мела на ўвазе выкарыстаць лексіку беларускай літаратурнай мовы XIX — пачатку XX ст.— мастацкую літаратуру, навуковыя выданні, падручнікі, перыядычны друк. З мэтай адлюстравання ўсёй лексікі літаратурнай мовы вясной 1925 г. камісія прыступіла да ўкладання слоўнікаў асобных пісьменнікаў, якія пакінулі значны след у беларускай літаратуры,— Я. Купалы, Я. Коласа, А. Гаруна, Ядвігіна Ш., Ф. Багушэвіча, З. Бядулі, Ц. Гартнага, М. Гарэцкага і інш. Перад членамі слоўнікавай камісіі ставілася задача: выбраць сабе пісьменніка і распісаць на карткі лексіку яго твораў. Такіх слоўнікаў асобных пісьменнікаў у выглядзе картак было складзена 11. Запісы рабіліся на карткі па ўзору картак Украінскай Акадэміі навук. Да 1 кастрычніка 1925 г. у камісіі было каля 20 тыс. картак. Над выбаркай матэрыялаў з твораў пісьменнікаў працавалі Т. Апацёнак, С. Баранаў, У. Варатынскі, Я. К. Бялькевіч, Т. Калітоўская, У. Кулеўскі, В. Лойка, Я. Паўловіч, М. Серада-Бязверхава і М. М. Улашчык.

Прыняўшы пад увагу, што літаратурная беларуская мова яшчэ мала апрацаваная, камісія вырашыла аддаць перавагу народнай беларускай мове, выкарыстаўшы для гэтага ўсе ранейшыя друкаваныя і рукапісныя матэрыялы, арганізаваўшы шырокі збор слоў з жывой беларускай мовы. Перш за ўсё намячалася выкарыстаць лексіку друкаваных і рукапісных слоўнікаў народнай беларускай мовы — І. І. Насовіча, У. М. Дабравольскага, М. Федароўскага, П. М. Шпілеўскага, С. І. Мядзвецкага, Я. Ціхінскага і інш. Пры гэтым былі вызначаны два спосабы збору народнага слоўнага матэрыялу: збор слоў для акадэмічнага слоўніка па спецыяльнай праграме і ўкладанне мясцовых краёвых слоўнікаў.

---

[10] Некрашэвіч С. Да пытання аб укладанні слоўніка жывой беларускай мовы // Полымя. 1925. № 5. С. 186.

У адпаведнасці з гэтай праграмай у слоўнікавай камісіі Інбелкульта ў сярэдзіне 1925 г. была складзена «Інструкцыя да збірання слоўніка-тэрміналагічнага матэрыялу ў беларускай мове». Першапачаткова яна надрукавана ў верасні 1925 г. у часопісе «Наш край», затым выдадзена асобнай брашурай на беларускай мове ў колькасці 8 тыс. экз. і на рускай — 1 тыс. экз. Гэта інструкцыя таксама перавыдадзена Беларускім навуковым таварыствам у Рызе і друкавалася ў віленскіх газетах.

Інструкцыя была разаслана акруговым і мясцовым краязнаўчым арганізацыям. Яна суправаджалася спецыяльнай лістоўкай-заклікам «Да беларускага настаўніцтва», выдадзенай 14 лістапада 1925 г. і падпісанай народным камісарам асветы БССР і старшынёй Інбелкульта У. М. Ігнатоўскім, старшынёй камісіі па ўкладанню слоўніка жывой беларускай мовы С. М. Некрашэвічам і сакратаром камісіі М. Я. Байковым. У лістоўцы падкрэслівалася, што сярод іншай навукова-даследчай работы Інстытута беларускай культуры работа па даследаванню беларускай мовы займае асобнае месца, і гучаў заклік да настаўнікаў прыняць актыўны ўдзел у гэтай рабоце.

Інструкцыя знаёміла мясцовых карэспандэнтаў з методыкай збору матэрыялаў, рэкамендавала 35 тэм, па якіх належала весці збор народных слоў. Пры гэтым камісія не абмяжоўвалася толькі тэрыторыяй Савецкай Беларусі, а мела намер сабраць слоўны матэрыял з усёй этнаграфічнай Беларусі, бо толькі пры такіх умовах, як лічыла камісія, слоўнік мог быць агульным для ўсяго беларускага народа. Камісія ўстанавіла дату 1 студзеня 1927 г. як канчатковы тэрмін збору матэрыялу.

Акрамя таго, слоўнікавая камісія прыняла рашэнне ўкласці для БССР 10 краёвых слоўнікаў адпаведна ліку тагачасных акруговых таварыстваў краязнаўства, тры слоўнікі для Заходняй Беларусі і тры слоўнікі для Гомельшчыны, Смаленшчыны і Невельшчыны. З гэтых слоўнікаў меркавалася друкаваць толькі лепш укладзеныя і найбольш тыповыя, а астатнія выкарыстоўваць як матэрыял пры ўкладанні поўнага акадэмічнага слоўніка беларускай мовы. У інструкцыі выказвалася пажаданне,

каб аб'ём краёвага слоўніка не перавышаў 10 тыс. слоў. Было вызначана, што работа ўкладальнікаў гэтых слоўнікаў будзе аплачвацца з бюджэту Інбелкульта.

1926—1927 гг. былі часам найбольш плённага збору матэрыялаў па абодвух вызначаных кірунках. Інтэнсіўная работа па збору слоўнага матэрыялу на месцах пачалася ў канцы 1925 г. Значную дапамогу мовазнаўцам аказала Цэнтральнае бюро краязнаўства і мясцовыя краязнаўчыя арганізацыі. Праз іх Інбелкульт падтрымліваў цесную сувязь з шырокімі слаямі працоўных і атрымаў багаты матэрыял па мове, фальклору і этнаграфіі. Работай па збору слоўнага матэрыялу зацікавіліся не толькі краязнаўчыя арганізацыі, але і шматлікія энтузіясты з розных месц БССР і нават Заходняй Беларусі. Паспяховай рабоце садзейнічала і сістэма грашовай аплаты картачнага матэрыялу.

У Інстытуце беларускай культуры 7—11 лютага 1926 г. праходзіў Першы з'езд краязнаўства, на якім побач з іншымі пытаннямі абмяркоўвалася і мовазнаўчая работа краязнаўчых таварыстваў. З'езд прыняў шэраг пастаноў, накіраваных на практычнае правядзенне мовазнаўчай работы на месцах. Перад краязнаўчымі арганізацыямі ставіліся задачы звярнуць большую ўвагу на вывучэнне беларускай мовы, уцягнуць у гэту справу краязнаўчыя арганізацыі, апрацаваць і выдаць праграмы для збору дыялектнага матэрыялу, павесці шырокую агітацыю па збіранню слоў з беларускай народнай мовы, звярнуць увагу на ўкладанне краёвых слоўнікаў і выданне практычных расійска-беларускіх і беларуска-расійскіх слоўнікаў і навуковай тэрміналогіі [11].

Увесь 1926 г. праходзіў пад знакам папаўнення картачнага матэрыялу як у слоўнікавай камісіі Інбелкульта, так і ў акруговых краязнаўчых арганізацыях. Рэспубліканскі і мясцовы друк шмат увагі ўдзяляў збору слоўнага матэрыялу і змяшчаў на сваіх старонках паведамленні аб ходзе гэтай работы [12].

У выніку паспяховай работы на месцах у 1926 г. у

---

[11] Наш край. 1926. № 2—3. С. 85.

[12] Праца камісіі для ўкладання слоўніка жывое беларускае мовы БАН // Наш край. 1930. № 3. С. 62.

камісію паступіла 70 тыс. картак-слоў. Акрамя таго, каля 50 тыс. картак-слоў сабралі мясцовыя краязнаўчыя арганізацыі для ўкладання краёвых слоўнікаў. Найбольш поўна былі абследаваны Койданаўскі, Старобінскі і Краснапольскі раёны, шэраг раёнаў Віцебшчыны. Паспяховую работу па збору слоўнага матэрыялу правозілі краязнаўчыя гурткі пры Мінскім і Рагачоўскім педтэхнікумах і Магілёўскім землямерным тэхнікуме [13]. Разам з матэрыяламі, выпісанымі з літаратурных крыніц, агульная колькасць картак да канца 1927 г. у камісіі складала звыш 400 тыс. адзінак народнай і літаратурнай мовы [14].

Слоўныя матэрыялы, сабраныя некаторымі акруговымі таварыствамі краязнаўства для ўкладання краёвых слоўнікаў, былі перададзены слоўнікавай камісіі Інбелкульта. Але асноўная частка гэтых матэрыялаў паступіла ў слоўнікавую камісію непасрэдна для акадэмічнага слоўніка з розных краязнаўчых арганізацый і асобных краязнаўцаў. За тры гады ў камісію дастаўлены 119 153 карткі-словы, прычым найбольшую колькасць паставіла Віцебская акруга — 37 285, затым Мінская — 18 121, Мазырская — 10 842, Бабруйская — 10 367. З Гомельскай акругі паступіла 2371, з Полацкай — 1895 картак.

Агульная колькасць асоб, якія прымалі ўдзел у зборы слоўнага матэрыялу, даходзіла да 2500 чалавек. У большасці гэта былі настаўнікі, студэнты, аграномы, часткова вучні сямігадовых школ [15]. Найбольшы аб'ём работы выканалі настаўнікі школ, што было выклікана як патрэбамі школьнай справы, так і ходам беларусізацыі. За два гады паасобнымі настаўнікамі і іх гурткамі сабрана звыш 150 тыс. слоў. Некаторыя збіральнікі запісалі і даставілі ў камісію па некалькі тысяч картак-слоў [16].

---

[13] Байкоў М. Што зроблена ў справе збірання слоўнікавага матэрыялу на месцах за 1926 год? // Наш край. 1927. № 1. С. 38—39.
[14] Праца камісіі для ўкладання слоўніка жывое беларускае мовы. С. 65—66.
[15] Байкоў М. Слоўнікавая праца на месцах у БССР за тры гады (1925—1928) // Наш край. 1928. № 12. С. 51—52.
[16] Жураўскі С. Масавае настаўніцтва ў навукова-краязнаўчай працы // Наш край. 1927. № 10. С. 69.

Аднак неўзабаве выявіліся і некаторыя недахопы гэтай работы. У дастаўленых у камісію картках аказалася шмат лішняга матэрыялу, паўтораў, якія значна ўскладнялі далейшую іх апрацоўку. Таму ўжо ў пачатку 1927 г. слоўнікавая камісія вырашыла перагледзець метады збору дыялектнай лексікі. Камісія знайшла мэтазгодным збіраць на месцах толькі новыя словы, якія не былі зафіксаваны ў «Беларуска-расійскім слоўніку» М. Я. Байкова і С. М. Некрашэвіча, выдадзеным у 1926 г. З гэтай мэтай слоўнік быў разасланы ва ўсе акруговыя таварыствы краязнаўства і асобным кваліфікаваным краязнаўцам. У газеце «Савецкая Беларусь» у сакавіку 1927 г. была апублікавана складзеная М. Я. Байковым інструкцыя «Як запісваць народны слоўны матэрыял», якая арыентавала збіральнікаў запісваць народную лексіку па новаму метаду. Гэты метад патрабаваў больш высокай кваліфікацыі выпісчыкаў і насуперак спадзяванням членаў камісіі меў вынікам фактычнае спыненне збору слоўнага матэрыялу на месцах. Усё ж на працягу 1927 г. папраўшчыкі далі каля 1500 новых слоў, не зафіксаваных у слоўніку М. Я. Байкова і С. М. Некрашэвіча. Акрамя таго, яны ўнеслі каля 20 тыс. выпраўленняў да паасобных слоў па іх вымаўленню, націску, граматычнаму роду [17].

Слоўнікавая камісія на пасяджэнні 18 чэрвеня 1928 г. прыняла рашэнне лічыць, што сабранага матэрыялу дастаткова для таго, каб з пачаткам новага акадэмічнага года прыступіць да ўкладання слоўніка жывой беларускай мовы. Сакратар камісіі М. Я. Байкоў заняўся падрыхтоўкай праекта слоўніка. Далейшая работа над слоўнікам працягвалася ўжо ў Беларускай Акадэміі навук.

Паралельна з падрыхтоўкай у Інстытуце беларускай культуры поўнага слоўніка жывой беларускай мовы з пачатку 1926 г. разгарнулася работа па ўкладанню краёвых слоўнікаў у акруговых краязнаўчых таварыствах. У гэтай галіне найбольш паспяхова пайшла работа на Віцебшчыне, дзе падрыхтоўкай краёвага слоўніка кіра-

---

[17] Байкоў М. Слоўнікавая праца на месцах у БССР за тры гады (1925—1928) // Наш край. 1928. № 12. С. 55—56.

ваў навуковы сакратар Віцебскага акруговага таварыства краязнаўства М. І. Каспяровіч. Яшчэ ў верасні 1924 г., наведваючы па службе вёскі, ён пачаў запісваць некаторыя асаблівасці мовы Віцебшчыны, што з'явілася пачаткам сістэматычнай работы ў гэтым кірунку. Пад час службовых паездак па Віцебшчыне энергічны аматар народнага слова ў гутарках з сялянамі, бываючы на кірмашах, на святах, у іншых месцах, дзе збіралася многа народу, старанна запісваў народныя словы і выразы, асаблівасці вымаўлення і інш. Пазней М. І. Каспяровіч збіраў матэрыял ужо ў адпаведнасці з атрыманай з Інбелкульта інструкцыяй, і да пачатку 1926 г. у яго назапасілася звыш 10 тыс. запісаў. Праз віцебскую газету «Заря запада» ён звярнуўся да мясцовай інтэлігенцыі з заклікам збіраць слоўны матэрыял. На яго заклік адгукнулася звыш 200 настаўнікаў, аграномаў, паштальёнаў, работнікаў хат-чытальняў. Яны даставілі ў слоўнікавую камісію Віцебскага акруговага таварыства краязнаўства 36 071 картку-слова, што разам з сабранымі самім М. І. Каспяровічам склала 46 192 карткі-словы [18]. Гэты матэрыял даў магчымасць М. І. Каспяровічу ў тым жа годзе пачаць работу па ўкладанню слоўніка. Віцебскі краёвы слоўнік у аб'ёме 9 703 словы быў выдадзены ў Віцебску ў 1927 г. Трэба адзначыць, што паспешнасць, з якой рыхтаваўся слоўнік, мела і адмоўны бок як у тлумачэнні значэння многіх слоў, так і ў недакладнасці ілюстрацыйнага матэрыялу, што было адзначана ў рэцэнзіях [19].

Шырока разгарнулася слоўнікавая работа і на Мазыршчыне дзякуючы энергічным мерам акруговага таварыства краязнаўства. Ужо да восені 1927 г. там было сабрана некалькі тысяч картак, якія з'явіліся асновай для ўкладання краёвага слоўніка А. Я. Крукоўскага. У канцы 1927 г. першая частка мазырскага слоўніка паступіла на разгляд слоўнікавай камісіі. У лістападзе 1928 г. мазырскі слоўнік у канчаткова апрацаваным вы-

---

[18] Каспяровіч М. Як утварыўся віцебскі краёвы слоўнік // Наш край. 1927. № 1. С. 87—89.

[19] Запіскі аддзела гуманітарных навук. Кніга 9. Працы класа філалогіі. Мн., 1929. Т. 2. С. 297—308; Карский Е. Ф. Труды по белорусскому и другим славянским языкам. М., 1962. С. 476.

глядзе паступіў у слоўнікавую камісію, дзе яго пачалі друкаваць. Ён з'явіўся другім пасля віцебскага краёвага слоўніка вынікам масавай краязнаўчай работы на Беларусі. Мазырскі слоўнік быў складзены па таму ж метаду, што і віцебскі, але ў ім больш дакладна быў перададзены ілюстрацыйны матэрыял. Аднак гэты слоўнік не быў выдадзены, і яго рукапіс загінуў у час Вялікай Айчыннай вайны.

Паспяхова праходзіла таксама падрыхтоўка калінінскага краёвага слоўніка ў былым Калінінскім акруговым таварыстве краязнаўства у г. Клімавічы, дзе работай кіраваў Я. К. Бялькевіч. У зборы матэрыялаў для слоўніка актыўны ўдзел прынялі студэнты Мсціслаўскага педтэхнікума, дырэктарам якога быў Я. К. Бялькевіч. Ад віцебскага і мазырскага слоўнікаў гэты слоўнік адрозніваўся тым, што ў ім змешчаны не пераклад беларускіх слоў на рускую мову, а іх тлумачэнне на беларускай мове. Гэты слоўнік аб'ёмам каля 20 тыс. слоў быў завершаны Я. К. Бялькевічам толькі ў 1959 г. і ў 1970 г. выдадзены Інстытутам мовазнаўства АН БССР пад назвай «Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны».

Усе гэтыя слоўнікі з'яўляюцца акруговымі, бо адлюстроўваюць лексіку існаваўшых у той час акруг, якія аб'ядноўвалі па 10—12 раёнаў. Слоўнікавай камісіяй даваліся заданні і інструкцыі па ўкладанню слоўнікаў іншых акруг. У пратаколах камісіі змяшчаюцца звесткі аб пачатку ўкладання слоўнікаў Міншчыны, Магілёўшчыны, Аршаншчыны, Смаленшчыны, але гэтая работа не дала пэўных вынікаў.

У гэты час з'яўляецца новы тып слоўніка, які адлюстроўвае лексіку толькі аднаго раёна. Такім быў чэрвеньскі краёвы слоўнік, падрыхтаваны, згодна з інструкцыяй, чэрвеньскім краязнаўцам настаўнікам М. В. Шатэрнікам. Слоўнік быў выдадзены ў 1929 г. і змяшчаў каля 9000 слоў. Гэта праца ў гісторыі беларускай дыялектнай лексікаграфіі цэніцца як першая спроба ўкладання раённага слоўніка і як індывідуальная праца аднаго краязнаўца-даследчыка. Слоўнік у пэўнай меры замяняе нерэалізаваны мінскі краёвы слоўнік, паколькі мова Чэрвеньшчыны з'яўляецца тыповай для Міншчыны. Галоўная ж вартасць слоўніка, як адзначаў рэцэнзент



*М. М. Дурнаво, правадзейны член Інбелкульта*

Я. Ф. Карскі, у прыкладах, якія пацвярджаюць значэнне слоў. Гэтыя прыклады прыводзяцца ў дакладным запісе і па ім можна вывучаць фанетычныя, марфалагічныя і сінтаксічныя з'явы адлюстраванай у слоўніку мясцовасці. Я. Ф. Карскі па матэрыялах слоўніка М. В. Шатэрніка апублікаваў нарыс аб чэрвеньскай гаворцы [20].

Калі ў канцы 1927 г. у сувязі з пераходам на новы метад збору слоўнага матэрыялу работа гэта фактычна прыпынілася, слоўнікавая камісія прыйшла да высновы аб мэтазгоднасці падрыхтоўкі слоўнікаў паасобных раёнаў, паколькі такія слоўнікі могуць рыхтавацца невялікімі калектывамі і нават асобнымі выканаўцамі. Пры гэтым прымалася пад увагу, што кожнае раённае краязнаўчае таварыства, якое цікавіцца мовай свайго раёна,

[20] Карский Е. Ф. Червенский говор (из белорусской диалектологии) // Известия по русскому языку и словесности. Л., 1930. Т. 3. Кн. 1. С. 225—237.

будзе збіраць мясцовыя словы і захоўваць іх як архіўны матэрыял у якасці даведніка для мовазнаўцаў. Па даручэнню камісіі М. І. Каспяровіч склаў праграму «Як сабраць і ўкласці слоўнік мовы свайго раёна», якая была апублікавана ў часопісе «Наш край» (1928. № 1) [21]. Але гэта работа не атрымала далейшага развіцця і не дала ніякіх практычных вынікаў.

У той жа час член Заслаўскага раённага таварыства краязнаўства У. Шалешка рыхтаваў слоўнік мовы в. Нядраскі гэтага раёна. У пачатку 1928 г. у яго было сабрана каля 7 тыс. слоў. Аднак далейшы лёс слоўніка невядомы.

Важнай падзеяй у навуковым жыцці Інстытута беларускай культуры сярэдзіны 20-х гадоў стала канферэнцыя па рэформе беларускага правапісу і азбукі (14—21 лістапада 1926 г., Мінск). Па маштабах і прадстаўніцтву ўдзельнікаў яна выйшла далёка за межы тагачасных навуковых канферэнцый і за ёй заслужана замацавалася назва акадэмічнай. У канферэнцыі прынялі ўдзел 69 чалавек, у тым ліку вядучыя супрацоўнікі Інбелкульта, прафесары і дацэнты Беларускага дзяржаўнага універсітэта, пісьменнікі, выкладчыкі беларускай мовы тагачасных педтэхнікумаў, прадстаўнікі мовазнаўчых устаноў Масквы, Ленінграда і Кіева. Удзельнікамі канферэнцыі былі 10 замежных моваведаў і культурных дзеячаў з Германіі, Польшчы, Чэхаславакіі, Латвіі і Літвы.

Прычынай склікання канферэнцыі з'явілася тое, што да сярэдзіны 20-х гадоў па меры развіцця беларускай літаратурнай мовы асабліва прыкметна выявіліся некаторыя недакладнасці існаваўшага тады правапісу Б. А. Тарашкевіча. Пытаннямі беларускага правапісу да гэтага часу займаўся Я. Ю. Лёсік, які спачатку папулярызаваў правапіс Б. А. Тарашкевіча, выдадзены ім у «Беларускай граматыцы для школ». Я. Ю. Лёсік апублікаваў «Практычную граматыку» (1922), дзе правапіс Б. А. Тарашкевіча пададзены без змен і прыняты для навучання ў школах БССР. Без змен правапіс Б. А. Та-

[21] Праца камісіі для ўкладання слоўніка жывое беларускае мовы. С. 66.

рашкевіча выкладзены Я. Ю. Лёсікам у падручніку «Беларуская мова. Правапіс» (1923). Але пачынаючы з 1925 г. Я. Ю. Лёсік у сваіх падручніках уносіў некаторыя правапісныя змены і ўдакладненні. Па розных пытаннях правапісу ён змяшчаў у часопісах спецыяльныя артыкулы. Аднак многае ў беларускім правапісу заставалася спрэчным, асабліва ў правілах напісання іншамоўных слоў.

Для вырашэння гэтых пытанняў у аддзеле мовы і літаратуры Інбелкульта была створана спецыяльная камісія. Але ў працэсе яе работы выявілася, што пастаўленыя перад ёй задачы не могуць быць вырашаны без удакладнення некаторых агульных пытанняў беларускага правапісу. Адначасова ўзнікла пытанне і пры змяненні беларускай азбукі. Камісія ўнесла прапановы на разгляд Навуковай рады Інбелкульта. Заслухаўшы даклад камісіі, рада пастанавіла стварыць новую камісію па агульных пытаннях беларускага правапісу і азбукі. Работай камісіі зацікавіліся шырокія колы грамадскасці. З месц у камісію пачалі паструпаць матэрыялы і прапановы, па гэтых пытаннях друкаваліся артыкулы ў часопісах і газетах. Аддзел мовы і літаратуры, пры якім працавала камісія, унёс у Навуковую раду Інбелкульта даклад аб сваёй рабоце. Пасля гэтага Навуковая рада прыняла рашэнне аб скліканні шырокай акадэмічнай канферэнцыі па пытаннях беларускага правапісу і азбукі. Правядзенню канферэнцыі папярэднічала выданне ў 1926 г. дзевяці невялікіх спецыяльных брашур пад грыфам «Матэрыялы да акадэмічнае канферэнцыі па рэформе правапісу і азбукі». Дзякуючы гэтаму шырокія колы зацікаўленых асоб атрымалі магчымасць бліжэй азнаёміцца з тагачаснымі правапіснымі праблемамі і шляхамі іх вырашэння. Аўтарамі гэтых брашурак былі моваазнаўцы А. В. Багдановіч, П. А. Бузук, Я. В. Воўк-Левановіч, А. Ю. Лёсік, Я. Ю. Лёсік, С. М. Некрашэвіч. Яны выходзілі тыражом 300—500 экземпляраў.

Работа канферэнцыі праходзіла на пленарных пасяджэннях і ў графічнай, правапіснай і літаратурнай камісіях. На пленарным пасяджэнні старшыня аддзела мовы і літаратуры С. М. Некрашэвіч у дакладзе «Сучасны стан вывучэння беларускай мовы» зрабіў грунтоўны

агляд усіх лінгвістычных прац па беларускай мове за апошнія пяць гадоў. У дакладзе падрабязна асветлена мовазнаўчая работа Інстытута беларускай культуры, вызначаны перспектывы работы на бліжэйшы час. Дакладчык паказаў значныя дасягненні ў гэтай галіне, чым зацікавіў і нават здзівіў замежных удзельнікаў канферэнцыі. Грунтоўным быў і даклад П. А. Бузука «Становішча беларускай мовы сярод іншых славянскіх моў», у якім аўтар паказаў самастойнасць і раўнапраўе беларускай мовы сярод іншых славянскіх моў.

Але цэнтральным пунктам работы канферэнцыі былі пытанні рэформы беларускага правапісу і азбукі. На неабходнасць рэформы беларускай графікі ўказвалася задоўга да канферэнцыі. Асаблівае нездавальненне выклікала ўжыванне дзвюх літар для перадачы на пісьме афрыкат *дз* і *дж.* Па пытанню ўдасканальвання беларускай азбукі на канферэнцыі зроблены два даклады — Я. Ю. Лёсіка і П. А. Растаргуева. Я. Ю. Лёсік прапаноўваў афрыкаты *дз* і *дж* абазначаць літарамі *д* і *ж* з дыякрытычнымі значкамі над імі. Ён жа ўнёс прапанову асобна абазначаць выбухны гук *г*, літару *й* замяніць літарай *j*, ётаваныя літары *е*, *ё*, *ю*, *я* ў пачатку складоў перадаваць спалучэннямі *jэ*, *jо*, *jу* і *jа*, літару *ы* замяніць літарай *и*. П. А. Растаргуеў падтрымаў прапанову Я. Ю. Лёсіка адносна ўвядзення літары *j*, але афрыкаты *дз* і *дж* прапанаваў абазначаць літарамі сербскага алфавіта *ђ* і *ћ*. Гэтыя прапановы выклікалі дыскусію, у выніку чаго для канчатковага вырашэння пытання з членаў камісіі была створана спецыяльная графічная камісія, якой даручалася прыняць канчатковае рашэнне. Камісія паслядоўна абмеркавала кожную прапанову і прамой большасцю галасоў прымала або адхіляла асобныя пункты прапаноў дакладчыкаў Я. Ю. Лёсіка і П. А. Растаргуева.

Значнае месца ў рабоце канферэнцыі занялі пытанні рэформы беларускага правапісу. У дапаўненне да існаваўшага правапісу Б. А. Тарашкевіча летам 1926 г. браты Лёсікі выдалі праект-брашуру «Да рэформы беларускага правапісу», у якой выказалі прапанову аб увядзенні ў беларускі правапіс поўнага акання і якання. Гэты праект яшчэ да канферэнцыі выклікаў рэзкую

крытыку з боку тагачасных беларускіх моваведаў А. В. Багдановіча, П. А. Бузука, Я. В. Воўк-Левановіча і С. М. Некрашэвіча.

Па пытаннях правапісу на канферэнцыі былі выслуханы два даклады — Я. Ю. Лёсіка і С. М. Некрашэвіча. Першы дакладчык прапаноўваў прыняты ў беларускім правапісе фанетычны прынцып распаўсюдзіць і на іншамоўныя словы і падпарадкаваць гэтаму прынцыпу правапіс зычных, за выключэннем канца слова. С. М. Некрашэвіч абгрунтаваў некаторыя абмежаванні па прапановах Я. Ю. Лёсіка. Для канчатковага вырашэння гэтых пытанняў была створана спецыяльная правапісная камісія ў складзе 30 удзельнікаў канферэнцыі.

Асабліва ажыўленую дыскусію выклікала прапанова Я. Ю. Лёсіка не ўжываць мяккі знак у словах тыпу *галлё, жыццё, каменне, звер, снег, цвет.* Больш лёгка прайшла прапанова С. М. Некрашэвіча прыназоўнік *бяз* і адмоўе *ня* пісаць у выглядзе *без* і *не*. Правапісная камісія на сваіх пасяджэннях абмеркавала прапанаваныя дакладчыкамі праекты і вынесла свае рэкамендацыі, некаторыя ж нявырашаныя пытанні перадала ў правапісную камісію Інбелкульта. На канферэнцыі выказваліся меркаванні пра мэтазгоднасць пераходу на лацініцу, але гэтую прапанову не падтрымала большасць яе ўдзельнікаў.

Канферэнцыя не вырашыла ўсіх спрэчных пытанняў беларускага правапісу і азбукі. Яе рашэнні і рэкамендацыі не былі абавязковымі, бо для правядзення іх у жыццё неабходна было заканадаўчае афармленне праз адпаведныя органы савецкай улады. Таксама патрабавалася ўзгодненасць іх з навуковымі коламі Заходняй Беларусі. Тым не менш канферэнцыя мела вялікае значэнне для культурнага развіцця Беларусі. Дзякуючы ёй работа ў галіне беларускага мовазнаўства зрабілася здабыткам усесаюзнай і еўрапейскай навукі. Беларускія мовазнаўцы атрымалі магчымасць запазычыць вопыт іншых навуковых цэнтраў. Канферэнцыя вызначыла той шлях, па якому павінна была весціся работа па навуковаму вывучэнню беларускай мовы як мовы самастойнай, роўнай з іншымі славянскімі мовамі. Вялікае значэнне мела канферэнцыя і для вывучэння беларускай літара-

туры [22]. Заслугай арганізатараў канферэнцыі трэба прызнаць і тое, што яе матэрыялы былі неадкладна выдадзены ў выглядзе падрыхтаваных аўтарамі дакладаў або стэнаграфічных і пратакольных запісаў іх выступленняў [23]. Дзякуючы гэтаму сучасныя даследчыкі маюць каштоўную крыніцу для вывучэння стану беларускай мовазнаўчай думкі ў сярэдзіне 20-х гадоў нашага стагоддзя.

1926 год наогул быў пераломным у гісторыі Інстытута беларускай культуры. Да гэтага часу ў інстытуце культурна-асветная работа пераважала над навукова-даследчай, а з 1926/27 г. інстытут прыкметна пайшоў па шляху навукова-даследчай работы [24]. Гэта агульная пераарыентацыя закранула і мовазнаўчую работу ў Інбелкульце. Для мовазнаўчых устаноў такім пераломным момантам з'явілася адзначаная вышэй канферэнцыя, пасля якой дыяпазон навуковых даследаванняў расшырыўся.

З гэтага часу ў Інстытуце беларускай культуры пачалі распрацоўвацца і некаторыя праблемы гісторыі беларускай мовы, у прыватнасці, паўстала пытанне аб падрыхтоўцы гістарычнага слоўніка беларускай мовы. У першыя гады дзейнасці Інбелкульта ўвага невялікага калектыву беларускіх мовазнаўцаў была звернута на вырашэнне практычных задач беларускага мовазнаўства, таму і пытанне аб падрыхтоўцы гістарычнага слоўніка беларускай мовы на парадак дня не ставілася. Пры гэтым прымалася пад увагу адсутнасць гістарычнага слоўніка рускай мовы, нягледзячы на двухсотгадовае існаванне Расійскай Акадэміі навук [25].

Аднак моўная практыка таго часу паказвала, што лексічны матэрыял пісьмовых помнікаў старажытнага

---

[22] Мовазнавец. Вынікі акадэмічнае канферэнцыі па пытаннях графікі, правапісу і літаратуры // Асвета. 1926. № 8. С. 93—97; Някрашэвіч С. Акадэмічная канферэнцыя па рэформе правапісу і графікі і вынікі яе працы // Наш край. 1927. № 1. С. 3—9.

[23] Працы акадэмічнае канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі. Мн., 1927.

[24] Ігнатоўскі У. Ад Беларускай тэрміналагічнай камісіі да Беларускай Акадэміі навук // Наш край. 1928. № 12. С. 12.

[25] Байкоў М. Слоўнікавая праца на месцах у БССР за тры гады (1925—1928) // Наш край. 1928. № 12. С. 53.

перыяду ў пэўнай ступені можа служыць крыніцай папаўнення слоўніка сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Напрыклад, гісторык У. І. Пічэта знаходзіў магчымым выкарыстоўваць старажытную юрыдычную тэрміналогію для сучасных патрэб. Асабліва заўзята за ідэю звароту да лексікі старабеларускай мовы выступаў пісьменнік У. М. Дубоўка, які лічыў магчымым браць са старажытнай мовы паасобныя словы, а таксама правяраць па іх жывучасць некаторых дыялектызмаў [26].

У сувязі з гэтым укладанне гістарычнага слоўніка беларускай мовы ўжо ў сярэдзіне 20-х гадоў разглядалася як важная праблема беларускага культурнага жыцця. Побач з навуковымі інтарэсамі слоўніку надавалася і вялікае практычнае значэнне — ён павінен быў служыць крыніцай абагачэння лексікі сучаснай літаратурнай мовы. Гэта пытанне некалькі разоў абмяркоўвалася ў слоўнікавай камісіі аддзела мовы і літаратуры, і на адным з пасяджэнняў было прынята рашэнне пачаць работу па падрыхтоўцы слоўніка з 1927 г. Супрацоўніку аддзела Л. М. Цвяткову даручалася распрацаваць прынцыпы падрыхтоўкі гэтага слоўніка. Некалькі пазней, у 1928 г., пры кафедры гісторыі беларускай мовы была створана спецыяльная камісія па ўкладанню гістарычнага слоўніка беларускай мовы на чале з М. М. Дурнаво. Аднак у сучасны момант сабрана мала звестак пра работу гэтай камісіі. У друку паведамлялася, што да 1928 г. у камісію гістарычнага слоўніка паступіла звыш 24 тыс. слоў, выпісаных з Евангелля Каліста і беларуска-літоўскіх летапісаў [27]. Вядома таксама, што навуковы сакратар камісіі Я. В. Воўк-Левановіч вёў перапіску з прафесарам Е. К. Цімчанкам, дырэктарам камісіі па падрыхтоўцы гістарычнага слоўніка ўкраінскай мовы, адносна размежавання беларускіх і ўкраінскіх помнікаў як крыніц для беларускага і ўкраінскага слоўнікаў. У 1928—1929 гг. Я. В. Воўк-Левановіч выязджаў у Ленінград для работы ў бібліятэках з мэтай выяўлення пом-

---

[26] Дубоўка У. Пра нашу літаратурную мову // Узвышша. 1927. № 2. С. 178—179.

[27] Шпілеўскі І. Ф., Бабровіч Л. А. Беларуская Акадэмія навук на парозе другой пяцігодкі (гістарычны нарыс). Мн., 1933. С. 19.

нікаў, якія павінны былі служыць крыніцамі беларускага гістарычнага слоўніка. Вынікі гэтага вывучэння ён апублікаваў у спецыяльным артыкуле[28]. Яму ж належыць і артыкул аб прынцыпах і метадах укладання гістарычнага слоўніка беларускай мовы, апублікаваны ў 1929 г.[29] Укладанне картатэкі слоўніка некаторы час працягвалася ў Акадэміі навук, але прыпынілася ў канцы 1929 г.

Мовазеды П. А. Бузук, Я. В. Воўк-Левановіч, М. М. Дурнаво, Я. Ю. Лёсік, В. Т. Мачульскі, С. М. Некрашэвіч, Л. М. Цвяткоў апублікавалі некалькі артыкулаў аб мове паасобных помнікаў старажытнай беларускай пісьменнасці, па гісторыі некаторых фанетычных з'яў беларускай мовы. З публікацый гэтага цыкла асобую цікавасць мае артыкул Я. В. Воўк-Левановіча аб мове беларускага першадрукара Ф. Скарыны[30]. У гэты ж час пры кафедры гісторыі беларускай мовы была створана камісія па выданню помнікаў старабеларускай пісьменнасці.

Фальклорна-дыялекталагічная работа ў Інстытуце беларускай культуры спачатку вялася асобнымі даследчыкамі без належнага арганізацыйнага афармлення. Першапачаткова галоўная ўвага звярталася на пагранічныя беларускія гаворкі — паўночныя, усходнія і паўднёвыя. У 1924 г. для даследавання ўсходніх беларускіх гаворак Калінінскай акругі быў камандзіраваны А. К. Сержпутоўскі. У 1926 г. у паўднёвыя паветы Пскоўшчыны для даследавання народных гаворак і запісу помнікаў народнай творчасці выязджалі І. А. Сербаў і П. А. Бузук. З гэтай мэтай у тым жа годзе паўночныя паветы былой Чарнігаўскай губерні наведваў А. К. Сержпутоўскі. З даследаванняў гэтага часу асабліва высока ацэньваецца выдадзеная ў 1927 г. у Ленінградзе на рускай мове праца П. А. Растаргуева «Северско-белорусский го-

---

[28] Воўк-Левановіч Я. В. Кароткія ўвагі на некаторыя помнікі беларускае мовы ў Ленінградзе // Запіскі аддзела гуманітарных навук. Кніга 9. Працы класа філалогіі. Мн., 1929. Т. 2. С. 117—158.

[29] Воўк-Левановіч Я. В. Аб прынцыпах і метадах укладання гістарычнага слоўніка беларускай мовы // Запіскі аддзела гуманітарных навук. Кніга 9. Працы класа філалогіі. Мн., 1929. С. 1—19.

[30] Воўк-Левановіч Я. Мова выданняў Францішка Скарыны // Чатырохсотлецце беларускага друку. М., 1926. С. 262—283.

вор. Исследование в области диалектологии и истории белорусских говоров».

У сувязі з разгортваннем фальклорна-дыялекталагічнай работы 1 лістапада 1926 г. пры аддзеле мовы і літаратуры Інбелкульта была створана спецыяльная фальклорна-дыялекталагічная камісія, пазней раздзеленая на дзве самастойныя камісіі — фальклорную і дыялекталагічную. Старшынёй камісіі быў прызначаны П. А. Бузук, сакратаром — А. А. Шлюбскі, членамі — А. В. Багдановіч, Я. В. Воўк-Левановіч, М. І. Каспяровіч, С. М. Некрашэвіч, П. А. Растаргуеў і І. А. Сербаў. У наступным годзе старшыня аддзела мовы і літаратуры С. М. Некрашэвіч і старшыня фальклорна-дыялекталагічнай камісіі П. А. Бузук склалі «Праграму для збірання асаблівасцей беларускіх гаворак і гаворак, пераходных да суседніх моваў». Пры падрыхтоўцы праграмы складальнікі выкарысталі раней апублікаваную праграму Я. Ф. Карскага і праграму М. М. Дурнаво, рукапіс якой знаходзіўся ў Інбелкульце. Праграма складалася з трох раздзелаў і змяшчала 157 пытанняў па фанетыцы, марфалогіі і сінтаксісу. Яна была забяспечана метадычнымі заўвагамі па збору дыялектных матэрыялаў. На пленуме Цэнтральнага бюро краязнаўства 23—25 кастрычніка 1927 г. было прынята рашэнне ўключыць у план работы краязнаўчых арганізацый вывучэнне асаблівасцей беларускіх гаворак па праграме С. М. Некрашэвіча і П. А. Бузука. Праграму атрымалі 1000 настаўнікаў з розных раёнаў Беларусі.

Дасланыя ў Інбелкульт адказы на праграму і ўласныя назіранні членаў фальклорна-дыялекталагічнай камісіі далі магчымасць падрыхтаваць шэраг артыкулаў і даследаванняў па беларускай дыялекталогіі. Гэтыя даследаванні ўяўляюць сабой невялічкія манаграфіі, дзе ў залежнасці ад наяўнага матэрыялу даецца поўнае апісанне гаворак. Тыповай у гэтых адносінах можна лічыць работу С. М. Некрашэвіча «Да характарыстыкі беларускіх гаворак Парыцкага раёна», апублікаваную ў 1929 г. як вынік дзвюх паездак аўтара ў вывучаемы раён у 1927 і 1928 гг. Работа адкрываецца змястоўным геаграфічна-этнаграфічным і эканамічным нарысам, затым паслядоўна характарызуецца фанетыка, марфалогія,



*П. А. Бузук*

сінтаксіс гаворак, змешчаны слоўнік на 670 мясцовых слоў і прыведзены ўзоры тэкстаў—песенных і казачных [31]. Такога ж тыпу, але меншага аб'ёму і работа П. А. Бузука «Да характарыстыкі цэнтральнабеларускіх дыялектаў. Гутаркі Асіповіцкага раёна». Падобныя ж артыкулы па гаворках асобных рэгіёнаў апублікавалі Я. В. Воўк-Левановіч, П. А. Растаргуеў.

Найбольш значным дасягненнем беларускай дыялекталогіі гэтага перыяду трэба прызнаць працу П. А. Бузука «Спроба лінгвістычнае геаграфіі Беларусі. Т. І. Фанетыка і марфалогія» (1928). Яна ўяўляе сабой па сутнасці першы ў славянскім мовазнаўстве лінгвістычны атлас з 20 карт, на якіх паказана тэрыторыя распаўсюджання паасобных фанетычных і марфалагічных рыс у беларускіх гаворках. Усе карты суправаджаюцца разгор-

[31] Запіскі аддзела гуманітарных навук. Кніга 9. Працы класа філалогіі. Т. 2. С. 159—244.

нутым тлумачальным тэкстам. Гэта работа грунтуецца на надрукаваных раней працах па вывучэнню беларускіх гаворак і фальклору, нявыдадзеных фальклорных матэрыялах Е. Р. Раманава і А. А. Шлюбскага, адказах карэспандэнтаў на праграму С. М. Некрашэвіча і П. А. Бузука, уласных назіраннях аўтара, атрыманых ім у час дыялекталагічных паездак па Беларусі ў 1926 і 1927 гг. Аднак другая частка працы П. А. Бузука, прысвечаная сінтаксісу і лексіцы, не ўбачыла свету.

У адпаведнасці з рашэннем канферэнцыі 1926 г. у кастрычніку 1927 г. пры кафедры жывой беларускай мовы Інбелкульта была створана камісія літаратурнай мовы, пры якой у сваю чаргу арганізавалі правапісную камісію. Ёй даручалася падрыхтоўка новага праекта беларускага правапісу. У склад камісіі ўвайшлі буйнейшыя тагачасныя мовазнаўцы А. В. Баргдановіч, П. А. Бузук, Я. К. Бялькевіч, В. У. Ластоўскі, Я. Ю. Лёсік, І. Д. Луцэвіч (Янка Купала), С. М. Некрашэвіч, У. В. Чаржынскі. У плане аддзела гуманітарных навук на 1927/28 акадэмічны год работа па падрыхтоўцы рэформы беларускай графікі і правапісу значылася як самая актуальная, і таму камісія занялася гэтай работай у першую чаргу [32]. Камісія планавала на гэты год праекты правапісу, графікі і арфаграфічнага слоўніка. Яна пачала работу 7 снежня 1927 г. і закончыла 17 красавіка 1929 г. За гэты час праведзена 33 пасяджэнні, закончана падрыхтоўка праекта, які быў апублікаваны ў 1930 г.[33] Далейшая работа па распрацоўцы правапісу праводзілася ў Інстытуце мовазнаўства Беларускай Акадэміі навук.

У Інстытуце беларускай культуры праводзілася работа па вывучэнню іншых моў на тэрыторыі Беларусі. У склад Інбелкульта ўваходзілі два нацыянальныя аддзелы — яўрэйскі і польскі. Створаны ў пачатку 1924 г. яўрэйскі аддзел вёў падрыхтоўчую работу па ўкладанню акадэмічнага яўрэйскага слоўніка, праводзіў вывучэнне яўрэйскіх дыялектаў на тэрыторыі БССР. У склад гэтага аддзела ўваходзілі лінгвістычная і тэрміналагічная камісіі, падкамісія па акадэмічнаму слоўніку і дыялекта-

---

[32] ЦНА АНБ, ф. 67, воп. 4, спр. 23, арк. 89.
[33] Беларускі правапіс (праект). Мн., 1930.

лагічная падкамісія[34]. Яўрэйскі аддзел выдаваў свой часопіс «Цайтшрыфт», дзе друкаваліся матэрыялы па літаратуры, гісторыі і мове яўрэйскага насельніцтва.

Польскі аддзел Інбелкульта быў створаны ў сакавіку 1925 г. Ён складаўся з трох секцый. У секцыі мовы і літаратуры праводзілася работа па даследаванню моўных асаблівасцей польскага насельніцтва Беларусі, рыхтаваліся перакладныя беларуска-польскі і польска-беларускі слоўнікі на 60 тыс. слоў кожны, распачыналася распрацоўка польскай літаратурнай тэрміналогіі[35].

У канцы 1927 г. былі адкрыты літоўская і латышская кафедры, перад якімі стаяла задача вывучэння мовы, гісторыі і этнаграфіі пражываючага ў Беларусі літоўскага і латышскага насельніцтва.

Наогул структура мовазнаўчых устаноў Інбелкульта мянялася ў адпаведнасці з новымі задачамі, што паўставалі перад мовазнаўчай навукай. Згодна з новым статутам, зацверджаным 7 ліпеня 1927 г., аддзел гуманітарных навук быў падзелены на два класы: клас філалогіі і клас гісторыі. У клас філалогіі ўваходзілі кафедра гісторыі беларускай мовы з камісіяй гістарычнага слоўніка беларускай мовы; кафедра жывой беларускай мовы з камісіяй слоўніка жывой беларускай мовы, дыялекталагічнай камісіяй і камісіяй літаратурнай мовы; інстытут навуковай мовы з тэрміналагічнымі секцыямі грамадазнаўства і права, матэматыкі, прыродазнаўства, эканамічных навук, тэхнічных навук, медыцыны[36].

У лістападзе 1929 г. на базе мовазнаўчых падраздзяленняў Беларускай Акадэміі навук быў створаны Інстытут мовазнаўства ў складзе пяці камісій: тэрміналагічнай, дыялекталагічнай, правапіснай, камісіі па ўкладанню слоўніка жывой беларускай мовы і камісіі па ўкладанню гістарычнага слоўніка беларускай мовы. Гэтыя камісіі першапачаткова працягвалі даследчыцкую рабо-

---

[34] Аляксандраў Г. Краязнаўчая праца сярод яўрэйскага насялення БССР // Наш край. 1927. № 10. С. 65—66.

[35] Цвікевіч А. І. Інстытут беларускае культуры (Інбелкульт). Мн., 1926. С. 114; Віткоўскі Я. Краязнаўчая праца сярод польскай нацыянальнасці // Наш край. 1927. № 10. С. 67—68.

[36] ЦНА АНБ, ф. 67, воп. 4, спр. 27, арк. 33.

ту па тых кірунках, якія былі вызначаны яшчэ ў Інстытуце беларускай культуры.

Аднак у Інстытуце мовазнаўства ў самым пачатку яго існавання, як і ў іншых акадэмічных установах, разгарнулася вострая ідэалагічная барацьба, якая перашкаджала вывучэнню праблем беларускага мовазнаўства. У Інстытуце мовазнаўства фактычна аслабла работа па ўкладанню слоўніка жывой беларускай мовы, гістарычнага слоўніка беларускай мовы, прыпынілася распрацоўка навуковай тэрміналогіі і падрыхтоўка даследаванняў па беларускай дыялекталогіі.

Усё ж за сем гадоў дзейнасці Інстытута беларускай культуры па вывучэнню беларускай мовы было зроблена значна больш, чым за наступны працяглы перадваенны перыяд у Інстытуце мовазнаўства Беларускай Акадэміі навук. Ёсць усе падставы лічыць мовазнаўчую дзейнасць Інстытута беларускай культуры яркай і знамянальнай вяхой у гісторыі беларускага мовазнаўства новага часу.



# ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА

Беларускае літаратуразнаўства як спецыфічная галіна навуковай дзейнасці пачынала складвацца ў пачатку XX ст. і было абумоўлена новым уздымам рэвалюцыйнай барацьбы і нацыянальна-вызваленчага руху ў Расіі і на яе ўскраінах. Першыя поспехі беларускай навукова-крытычнай думкі звязаны з дзейнасцю М. Багдановіча, М. Гарэцкага, С. Палуяна, В. Ластоўскага, А. Навіны, А. Бульбы, У. Самойлы. Іх намаганнямі закладзены першыя цагліны ў падмурак беларускага літаратуразнаўства і крытыкі. Асабліва вялікая заслуга ў выпрацоўцы метадалагічных асноў літаратурнай навукі належыць Максіму Багдановічу, які даў выдатныя ўзоры гісторыка-літаратурнага і літаратурна-крытычнага жанру.

Новы этап у развіцці беларускага літаратуразнаўства храналагічна прыпадае на першае паслякастрычніцкае дзесяцігоддзе і звязаны з дзейнасцю вучоных Інбелкульта. У склад гуманітарнай секцыі інстытута апрача слоўнікавай і тэрміналагічнай камісій уваходзіла таксама літаратурна-даследчая камісія. У 1924 г. пасля зацвярджэння «Палажэння аб Інстытуце беларускай культуры» камісія атрымала іншую назву — літаратурна-мастацкая. Адпаведна пашырыліся і абсягі яе дзейнасці. Камісія фактычна стала галоўным навукова-даследчым і каардынацыйным цэнтрам у галіне беларускага літаратуразнаўства на працягу 20-х гадоў.

Аднак структура Інбелкульта і яго аддзелаў не заставалася нязменнай. Ішоў настойлівы пошук найбольш эфектыўных арганізацыйных форм. У пачатку 1926/27 акадэмічнага года пастановай Прэзідыума інстытута быў утвораны аддзел мовы і літаратуры, куды ўвайшлі ранейшыя секцыі (мовазнаўчая, літаратурная, этнагра-

фічная) і ранейшыя камісіі (камісія для складання слоўніка жывой беларускай мовы, камісія для выдання твораў беларускіх пісьменнікаў). Падобная рэарганізацыя была выклікана імкненнем пазбегнуць распыленасці навуковых сіл і дубліравання іх працы. Старшынёй аддзела прызначаўся С. М. Некрашэвіч, сакратаром — паэт Ул. Жылка.

Гуманітарная тэматыка заставалася ў цэнтры ўвагі вучоных Інбелкульта і ў далейшым. Так, на аснове новага статута 1927 г. інстытут складаўся з двух аддзелаў — аддзела гуманітарных навук і аддзела прыродазнаўчых і гаспадарчых навук. У першым аддзеле было два класы — філалогіі і гісторыі. У клас філалогіі ўваходзілі: кафедра гісторыі беларускай літаратуры і дзве камісіі — камісія для выдання твораў беларускіх пісьменнікаў і камісія для складання біяграфічнага слоўніка пісьменнікаў. Кіраўніком аддзела і класа філалогіі быў С. М. Некрашэвіч, загадчыкам кафедры літаратуры — І. І. Замоцін.

Вучоныя, абраныя правадзейнымі членамі Інбелкульта або членамі-карэспандэнтамі, разам з іншымі літаратуразнаўцамі калектыўнымі намаганнямі актывізавалі беларускую навуковую думку ў галіне гісторыі літаратуры, узнялі беларускае літаратуразнаўства на больш высокі ўзровень. Напрамак дзейнасці літаратуразнаўцаў, арганізацыйна звязаных з Інбелкультам, прадвызначаўся канкрэтнымі мэтамі і задачамі, пастаўленымі самім жыццём перад маладой беларускай філалагічнай навукай, рэальнымі патрэбамі практыкі дзяржаўнага і нацыянальна-культурнага будаўніцтва.

Першачарговая, неадкладная задача была ў тым, каб сабраць і аб'яднаць разрозненыя навуковыя, культурнатворчыя сілы літаратуразнаўцаў рэспублікі, вызначыць праграму іх дзейнасці. У першую чаргу неабходна было распачаць планамерную работу па збіранню і сістэматызацыі матэрыялаў, якія датычаць гісторыі беларускай літаратуры, гісторыі грамадска-літаратурнага руху, узнікнення перыядычных выданняў, а таксама матэрыялаў, звязаных з жыццём і творчасцю пісьменнікаў, культурных дзеячаў мінулага.

Адначасова трэба было выпрацаваць зыходныя прын-

цыпы вывучэння літаратуры не толькі як помніка пісьменнасці, але і як спецыфічнай формы выяўлення духоўнага жыцця народа. Практычным вынікам дзейнасці вучоных у гэтым кірунку якраз і павінна было стаць напісанне «Гісторыі беларускай літаратуры», стварэнне адпаведных вучэбных праграм, метадычных распрацовак, дапаможнікаў для сярэдняй і вышэйшай школы. Адсутнасць навуковай і дапаможнай літаратуры, перш за ўсё сістэматызаванага курса па беларускай літаратуры, стабільнага падручніка, ускладняла мэтанакіраваную падрыхтоўку настаўнікаў, выкладчыкаў, стрымлівала разгортванне прапаганды літаратурных ведаў і працы па эстэтычнаму, патрыятычнаму выхаванню. Практыка ж нацыянальна-культурнага будаўніцтва пачатку 20-х гадоў паказала, якое вялікае грамадска-выхаваўчае значэнне мае літаратура, як моцна яна ўздзейнічае на свядомасць і пачуцці чалавека. І вельмі лагічным было тое, што менавіта мастакі слова, беларускія паэты і празаікі аказваліся ў першых шэрагах актыўных будаўнікоў новага ладу і нацыянальнай культуры.

Сярод 77 правадзейных членаў Інбелкульта па стану на 1 лютага 1927 г. было нямала пісьменнікаў: Ц. Гартны (З. Жылуновіч), М. Чарот (М. Кудзелька), Я. Дыла, Я. Купала (І. Луцэвіч), Я. Колас (К. Міцкевіч), М. Грамыка, М. Гарэцкі, З. Бядуля (С. Плаўнік), Я. Нёманскі (І. Пятровіч), А. Вольны (А. Ажгірэй), А. Бабарэка, У. Галубок, А. Паўловіч. Членамі-карэспандэнтамі інстытута з'яўляліся А. Дудар (А. Дайлідовіч), Р. Кобец, А. Мрый (А. Шашалевіч), П. Трус, А. Гарбацэвіч [1].

Беларускія пісьменнікі глыбока ўсведамлялі месца Інбелкульта ў грамадскім жыцці, у фарміраванні нацыянальнай культуры, пра што сведчыць выступленне Я. Купалы на старонках газеты «Савецкая Беларусь» 4 лістапада 1924 г. У нататцы «Думкі і пажаданні ў звязку з прадстаячым дакладам на 3-й сесіі ЦВК Беларусі» Я. Купала пісаў: «Працуючы ў Інстытуце беларускай культуры некалькі год, я пераканаўся, што гэта такая навукова-грамадская ўстанова, без якой нармальнае

---

[1] Інстытут беларускай культуры. Бюлетэнь. № 1. 1926—1927. Мн., 1927. С. 5—7.



*Супрацоўнікі аддзела мовы і літаратуры Інбелкульта. Злева направа: М. Я. Байкоў, Я. П. Плашчынскі, В. Т. Мачульскі, Б. І. Эпімах-Шыпіла, У. В. Чаржынскі, Я. Колас, А. К. Гурло, І. І. Замоцін, С. М. Некрашэвіч. 1926 г.*

развіццё беларускай культуры ва ўсіх яе галінах немагчыма.

Інбелкульт з'яўляецца тым асяродкам, каля якога згуртаваны амаль не ўсе выдатнейшыя беларускія навуковыя і літаратурныя працаўнікі, якія прыносілі і асабліва цяпер прынясуць незаменную карысць для праводу ў шырокія беларускія масы культурна-асветных заданняў Савецкай улады».

Я. Купала даволі дакладна вызначыў мэты і задачы Інбелкульта, прызнаў эфектыўнасць такой арганізацыйнай формы супольнай працы вучоных, культурных дзеячаў, пісьменнікаў, падкрэсліў выключную ролю інстытута як збіральніка і каардынатара творчых сіл рэспублікі.

Свой уклад у нацыянальнае і культурнае будаўніцтва беларускія пісьменнікі ўносілі не толькі літаратурнымі творамі, у якіх сродкамі паэтычнай мовы раскрывалася роля народа як творцы гістарычнай будучыні, апявалася героіка барацьбы і працоўных будняў, але і публіцыстычнымі выступленнямі, літаратурна-крытычнымі працамі. Увогуле формы і сродкі ўдзелу паэтаў, празаікаў у гра-

мадска-культурным жыцці 20-х гадоў былі разнастайныя. Беларускія пісьменнікі — і члены Інбелкульта, і тыя, хто арганізацыйна не быў з ім звязаны, але працаваў у адпаведнасці з інбелкультаўскай праграмай,— часта аказваліся арганізатарамі літаратурных дыскусій і вечароў, публічных спрэчак па актуальных праблемах грамадска-палітычнага характару. Так, найбольш цікавымі мерапрыемствамі пачатку 20-х гадоў былі абмеркаванне паэмы Міхася Чарота «Босыя на вогнішчы», спрэчкі вакол паэмы Міхася Грамыкі «Гвалт над формай», першы вечар твораў песняра працы і змагання Ц. Гартнага, вечар, прысвечаны абмеркаванню вядомай даследчай працы Я. Ф. Карскага «Беларусы», вечар дыскусіі аб тэатры ў Інстытуце народнай асветы, вечар пралетарскай паэзіі [2].

Творчыя вынікі дыскусій і літаратурных вечароў былі розныя. Тым не менш яны адыгралі вялікую грамадска-выхаваўчую ролю, садзейнічалі ўсталяванню дэмакратычных норм жыцця, спрэчныя пытанні высвятляліся з дапамогай шырокага, публічнага абмеркавання.

Галоўным прадметам спрэчак з'яўлялася класічная спадчына, яе роля і месца ў будаўніцтве нацыянальнай культуры. Не ўсе ўдзельнікі дыскусій разумелі сапраўднае значэнне таго вопыту, які пакінулі папярэднікі. У пачатку 20-х гадоў у беларускім грамадска-палітычным, навуковым, творчым асяроддзі нігілістычныя канцэпцыі пралеткультаўскай скіраванасці мелі даволі шырокае распаўсюджанне. Інбелкультаўская праграма якраз і мела на мэце актыўную, дзейсную нейтралізацыю нігілістычных поглядаў, хоць часта здаралася так, што якраз навуковыя працы ці мастацкія творы членаў Інбелкульта станавіліся аб'ектам крытычных нападак з боку беларускіх паслядоўнікаў Пралеткульта. Так, удзельнікі дыскусіі па кнізе правадзейнага члена Інбелкульта Я. Ф. Карскага «Беларусы» фактычна закрэслілі гэтую вельмі каштоўную і патрэбную працу на той падставе, што ў ёй мелі месца скептычныя сцвярджэнні адносна будучыні беларускай літаратурнай мовы. Аўтар «Беларусаў» быў абвінавачаны ў вялікадзяржаўным шавінізме. З. Ф.

[2] Полымя. 1922. № 1; 1923. № 2, 3, 4; Савецкая Беларусь. 1923. 6 ліп.

Жылуновіч, здрабняючы прадмет спрэчкі, настойліва выкрываў «чарнарызніцкую падкладку, на якой выхоўваўся Карскі і дзякуючы якой дасягнуў і акадэміцтва» [3]. Язэп Дыла таксама залічыў Я. Ф. Карскага да чарнасоценцаў, манархістаў, абаронцаў «самадзяржаўя, праваслаўя, народнасці», што, вядома ж, не адпавядала сапраўднасці.

Паказальна, што такі паслядоўны абаронца беларускай нацыянальнай ідэі, як Я. Колас, адразу ж па выхадзе кнігі даў ёй высокую ацэнку. У лісце да Я. Ф. Карскага ад 24 лістапада 1921 г. ён пісаў: «Чрезвычайно признателен и благодарен Вам, глубокоуважаемый Ефим Федорович, за присланный Вами Ваш великой ценности и значения труд. Я читаю его с глубоким интересом и с большою для себя пользою. Одно место в Вашем предисловии меня тронуло до глубины души, и я проникся еще большим чувством признательности к той великой работе, которой Вы посвятили Вашу жизнь. Белорусская культура так тесно связана с Вашим именем, что одно без другого нельзя мыслить» [4]. У другім лісце Я. Колас яшчэ з большым захапленнем пісаў пра гэты «великолепный и в высшей степени интересный труд»: «Читаю его с глубоким интересом, как единственную в этом роде работу, самую полную, самую обстоятельную, беспристрастную и научную. Ожидаю с большим интересом дальнейшую работу, которую Вы любезно обещали мне прислать» [5].

Прыведзеныя тут ацэнкі Я. Коласа цалкам справядлівыя. У іх падкрэслена навуковая вартасць даследчай працы Я. Ф. Карскага, які сапраўды шмат зрабіў для арганізацыі Інбелкульта, наладжвання яго працы.

Ацэньваючы работу тэрміналагічнай камісіі як адзін з яе ўдзельнікаў, Я. Колас гаворыць, што адсутнасць у ёй Я. Ф. Карскага «чувствуется в сильной мере» [6]. У лісце ад 13 лютага 1922 г. Я. Колас ад імя «Литературной комиссии при Институте белорусской культуры по собиранию устного творчества» звяртаўся да прафесара з

[3] Полымя. 1923. № 3—4. С. 125.
[4] Колас Я. Зб. тв.: У 14 т. Мн., 1977. Т. 13. С. 30.
[5] Там жа. С. 31.
[6] Там жа. С. 30.

просьбай выслаць «анкету и инструкцию, составленные Вами, по собиранию устного народного творчества и дать авторитетные Ваши указания для руководителей» [7]. Дарэчы, як і праца Я. Ф. Карскага, прадметам несправядлівых крытычных нападак аказалася і паэма Я. Коласа «Новая зямля». Але неабходна аддаць належнае беларускім крытыкам, вучоным 20-х гадоў, якія здолелі адвесці вульгарызатарскія, нігілістычныя наскокі і паказалі сапраўдную веліч гэтага выдатнага твора. У артыкулах М. Я. Байкова «Новая беларуская паэма» (1923) і І. І. Замоціна «Пуціны беларускай літаратуры» (1924) пераканальна раскрыта глыбокая змястоўнасць паэмы як твора народнага, эпахальнага, сапраўднай энцыклапедыі народнага жыцця, а таксама адметнасць яе жанравай формы.

І ў пазнейшыя гады члены Інбелкульта, кіруючыся тэарэтычнымі і метадалагічнымі прынцыпамі сваёй арганізацыі, устаноўкай на кансалідацыю, згуртаванне ўсіх творчых сіл дзеля адраджэння нацыянальнай культуры, вялі актыўную работу ў розных галінах, у тым ліку і ў літаратурных аб'яднаннях «Маладняк», «Узвышша», «Полымя» і ў аднайменных часопісах. Пасля ўтварэння новых творчых арганізацый адбылося прыкметнае размежаванне літаратурнай крытыкі, якая ўмоўна атрымала назву «маладнякоўская», «узвышэнская», «палымянская».

Вакол кожнага часопіса ўтваралася пэўная група, якая сістэматычна выступала на яго старонках, падтрымліваючы адпаведную праграму літаратурнай арганізацыі. Так, сталымі аўтарамі часопіса «Полымя» былі многія вядомыя інбелкультаўцы і блізкія да іх сваімі поглядамі вучоныя, крытыкі, дзеячы культуры, сярод якіх З. Ф. Жылуновіч, М. Я. Байкоў, А. М. Вазнясенскі, Я. І. Барычэўскі, С. М. Некрашэвіч, І. І. Цвікевіч, А. А. Шлюбскі, М. І. Каспяровіч, М. Аляхновіч, Х. Імшэнік, П. Жарскі, А. А. Сянькевіч, М. В. Мялешка, С. А. Баркоўскі, Д. Васілеўскі і інш. У літаратурна-мастацкай галіне «палымянцы», як і інбелкультаўцы, абаранялі класічную спадчыну, імкнуліся пазбягаць супрацьпастаў-

[7] Колас Я. Зб. тв. Т. 13.

лення старых і маладых, падтрымлівалі творы рэалістычнай арыентацыі, ім блізкай была ідэя неабходнасці глыбокай сувязі з жыццём.

«Узвышэнскі» актыў складалі заснавальнікі арганізацыі, у тым ліку члены Інбелкульта У. Дубоўка, А. Бабарэка, К. Чорны (М. Раманоўскі), З. Бядуля (С. Плаўнік), М. Лужанін (А. Каратай), К. Крапіва (К. Атраховіч), Я. Пушча (І. Плашчынскі), П. Глебка. Праграмныя ўстаноўкі літаратурна-крытычнага аддзела часопіса шмат у чым былі блізкія праграме Інбелкульта. Гэта барацьба за адраджэнне нацыянальнай культуры, клопат пра мастацкі, эстэтычны ўзровень літаратуры, барацьба за культуру творчасці, з графаманствам, невуцтвам, падменай мастацтва голай публіцыстыкай. Шмат увагі ў часопісе надавалася навукова-даследчай працы, вывучэнню праблем гісторыі беларускай літаратуры, пытанням стылю, паэтыкі, жанравай формы.

Сумесная актыўная дзейнасць майстроў мастацкага слова і прафесійных вучоных у вырашэнні праблем, звязаных з гісторыяй беларускай літаратуры, выданнем класічнай спадчыны, давала вялікі плён, што пацвярджаецца шматлікімі фактамі. Гэта перш за ўсё выданне навуковых даследаванняў асобнымі кнігамі, пастаноўка актуальных гісторыка-літаратурных праблем. Так, паводле справаздачы Інбелкульта за 1926/27 акадэмічны год, на пасяджэнні аддзела мовы і літаратуры заслухоўваліся даклады І. І. Замоціна аб працы літаратурнай камісіі, даклад М. Піятуховіча «Творчасць Ядвігіна Ш.» На акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі работнікамі аддзела былі прачытаны змястоўныя даклады: «Агляд беларускай літаратуры» М. І. Гарэцкім, «Асноўныя этапы развіцця новай беларускай літаратуры» М. М. Піятуховічам, «Паэтычнае мастацтва навейшай беларускай літаратуры» А. М. Вазнясенскім, «Даследаванне беларускай літаратуры XIX ст. да 1863 года» Ю. Галомбекам.

На пасяджэннях Прэзідыума Інбелкульта сярод 227 разгледжаных у 1926/27 акадэмічным годзе пытанняў нямала і такіх, якія непасрэдна датычылі гісторыка-літаратурнай сферы: «Аб юбілеі Я. Коласа», «Аб ушанаванні памяці М. Багдановіча», «Аб прыняцці ад

гр. К. Езавітава аўтографу Багушэвіча», «Аб прыняцці ад праф. Скандракова пэргамiннага дакументу», «Аб адзначэнні 10-годдзя з дня смерці М. Багдановіча», «Аб набыцці партрэту М. Багдановіча», «Аб святкаванні 100-годдзя з дня нараджэння Л. М. Талстога».

Актывізацыя дзейнасці вучоных Інбелкульта, у тым ліку кафедры гісторыі беларускай літаратуры і камісіі па выданню твораў і складанню біяграфій пісьменнікаў, прыпадае на 1927—1928 гг. Да непасрэднай працы ў камісіях былі запрошаны прафесар М. М. Піятуховіч, прафесар Я. І. Барычэўскі. Паспяхова працавалі сакратар кафедры В. Т. Мачульскі, аспірант У. В. Чаржынскі, няштатныя работнікі Ю. Бібіла, А. Фідроўская. За год было праведзена 35 пасяджэнняў, з якіх 17 прысвечана разгляду навуковых праблем.

Значна пашырылася праблематыка даследчых прац работнікаў кафедры. Так, на пасяджэнні класа філалогіі ў 1927—1928 гг. былі заслуханы і абмеркаваны даклады «Чарговыя задачы вывучэння беларускай літаратуры» І. І. Замоціна, «Матчын дар» А. Гаруна» Я. І. Барычэўскага, «Да біяграфіі С. Палуяна» В. Т. Мачульскага, «Праект анкет для збірання крытыка-біяграфічнага матэрыялу беларускіх пісьменнікаў» І. І. Замоціна, «Лірыка Якуба Коласа» У. В. Чаржынскага і інш.

Што датычыць тэматыкі і праблематыкі дакладаў, якія абмяркоўваліся непасрэдна на пасяджэннях кафедры, яны таксама вызначаліся шырынёй і разнастайнасцю. Так, І. І. Замоціным быў прачытаны даклад «Тэматыка вершаў М. Багдановіча», Я. І. Барычэўскім — «Аб відах вывучэння літаратуры» і «Бібліяграфія літаратуры аб Багдановічы», В. Т. Мачульскім — «Да пытання аб беларускім элеменце ў «Слове аб палку Ігаравым», Ю. Бібіла — «Біяграфія Цёткі» і «Аб лірыцы Цёткі», А. Фідроўскай — «Лірычныя жанры М. Багдановіча» і «Эйдалогія М. Багдановіча».

Сярод буйных даследчых прац, напісаных членамі Інбелкульта, у першую чаргу трэба назваць даследаванні І. І. Замоціна, прысвечаныя творчасці М. Багдановіча, Я. Коласа, Я. Купалы і Ц. Гартнага, 3-е і 4-е выданні «Гісторыі беларускай літаратуры» (1924, 1926) М. І. Гарэцкага, яго ж літаратурна-крытычны нарыс «Маладняк»

за пяць гадоў» (1928), «Нарысы гісторыі беларускай літаратуры» (1928) М. М. Піятуховіча, манаграфіі «Паэтыка літаратурных жанраў» (1927) і «Тэорыя санета» (1927) Я. І. Барычэўскага, манаграфію «Паэтыка М. Багдановіча» (1926), даследаванне «Асноўныя прынцыпы пабудовы беларускай навукі аб літаратуры» (1927) А. М. Вазнясенскага, крытычныя нарысы З. Ф. Жылуновіча «Узгоркі і нізіны» (1928) і інш.

Што ўяўлялі сабой гэтыя працы з пункту гледжання іх зместу і навуковага ўзроўню? На якіх метадалагічных прынцыпах яны грунтаваліся і які ўклад у распрацоўку метадалогіі літаратуразнаўства, пытанняў тэорыі і гісторыі беларускай літаратуры ўнеслі інбелкультаўцы сваімі даследаваннямі?

Дамінуючым у савецкім літаратуразнаўстве 20-х гадоў быў сацыялагічны метад, які складваўся ў працэсе вострай барацьбы з псеўдарэвалюцыйнымі канцэпцыямі, лефаўскім нігілізмам, напостаўскімі вульгарна-дагматычнымі лозунгамі і тэорыямі фармальнай школы. Беларускія вучоныя і літаратурныя крытыкі І. І. Замоцін, Я. І. Барычэўскі, М. І. Гарэцкі, М. М. Піятуховіч, З. Ф. Жылуновіч, М. Я. Байкоў, У. В. Чаржынскі, прытрымліваючыся прынцыпаў сацыялагічнага метаду, імкнуліся ісці сваім шляхам, уносілі ў агульную мадэль істотныя папраўкі. У выніку намецілася некалькі варыянтаў сацыялагічнага падыходу да літаратуры, не раўназначных у навуковых адносінах. Найбольш перспектыўнай была пазіцыя тых даследчыкаў, хто прызнаваў сацыяльную абумоўленасць з'яў мастацтва, сацыяльную дэтэрмінаванасць літаратуры, але разам з тым імкнуўся ўлічваць іх адносную самастойнасць, спецыфіку як формы духоўнай дзейнасці чалавека, намагаўся браць пад увагу эстэтычную змястоўнасць і пазнавальныя функцыі літаратуры.

Гэты падыход выразна праявіўся ў навуковай практыцы М. І. Гарэцкага як аўтара «Гісторыі беларускай літаратуры» і Я. І. Барычэўскага, пяру якога належаць змястоўныя манаграфіі «Паэтыка літаратурных жанраў» (1927) і «Тэорыя санета» (1927). У «Гісторыі беларускай літаратуры», іншых літаратурна-крытычных працах М. І. Гарэцкаму ўдалося ўтрымацца на адпаведным ме-



*М. І. Гарэцкі, правадзейны член Інбелкульта*

тадалагічным узроўні, пераадолець пагрозу вульгарызацыі, дзякуючы таму што ён, пісьменнік, на асабістым творчым вопыце спасцігаў эстэтычную сутнасць мастацтва. Даследчык ацэньваў літаратуру як ідэалагічную надбудову над эканамічным базісам, але быў далёкі ад абсалютызацыі матэрыяльнай асновы, вытворчых адносін. Погляд на мастацтва як на спецыфічную з'яву, апасродкавана, ускосна звязаную з сацыяльна-эканамічнай асновай грамадства,— моцны бок метадалогіі М. І. Гарэцкага. Як паказвае аналіз зместу «Гісторыі беларускай літаратуры», для аўтара аднолькава непрымальныя і прагматычны погляд на літаратуру як на ілюстрацыю тых ці іншых сацыялагічных і ідэалагічных тэзісаў, і пазіцыя прыхільнікаў фармальнай школы ў вывучэнні мастацтва. М. Гарэцкі лічыў, што літаратура заслугоўвае права на існаванне, калі яна «па духу, па спосабу мыслення, па ідэалогіі» звязана з творчымі сіламі наро-

да, з'яўляецца «народнай і нацыянальнай», калі яна глыбока прасякнута пафасам сацыяльнасці і нясе глыбокі маральны, гуманістычны змест. Ідэал народнага, нацыянальнага пісьменніка найбольш поўна, паводле ўяўлення М. Гарэцкага, увасобілі Ф. Багушэвіч, Я. Колас, а ў старажытнай літаратуры — Ф. Скарына.

Зыходзячы з прынцыпу прызнання за літаратурай як эстэтычнай з'явай пэўнай самастойнасці, М. І. Гарэцкі здолеў у сваіх працах даць змястоўную панараму гістарычнага руху беларускага слоўнага мастацтва, выявіць яго ўнутраныя заканамернасці, даць аб'ектыўную ацэнку асобных перыядаў і важнейшых літаратурных помнікаў.

«Гісторыя беларускай літаратуры» М. І. Гарэцкага дае выразнае ўяўленне пра метадалагічныя, тэарэтычныя ўзроўні літаратуразнаўства «інбелкультаўскага перыяду». Яна і сёння не страціла свайго навуковага значэння. Невыпадкова гэтая кніга да 1930 г., калі Гарэцкі быў па ілжываму даносу арыштаваны, заставалася адзіным падручнікам па беларускай літаратуры для сярэдняй і вышэйшай школы.

Шмат у чым блізкай да метадалогіі М. І. Гарэцкага была пазіцыя члена Інбелкульта І. І. Замоціна. Практычна ўвасабляючы інбелкультаўскую праграму, вучоны шукаў, аднак, свой, адметны шлях. Аўтар буйных гісторыка-літаратурных прац, якія атрымалі шырокае прызнанне навуковай грамадскасці («Романтизм двадцатых годов XIX ст. в русской литературе», 1903 і інш.), І. І. Замоцін пасля прыезду ў Беларусь на працу творча працягваў плённыя традыцыі рускай філалагічнай навукі. Ён паслядоўна заклікаў да актыўнага, мэтанакіраванага выкарыстання вопыту мінулага, усведамляючы ў той жа час неабходнасць якаснага абнаўлення ранейшых падыходаў, у тым ліку метадалогіі культурна-гістарычнай школы, да якой доўгі час належаў як гісторык рускай літаратуры.

Ацэньваючы навуковыя дасягненні прадстаўнікоў сацыялагічнага напрамку ў рускім савецкім літаратуразнаўстве 20-х гадоў (У. Фрычэ, В. Львоў-Рагачэўскі, П. Сакулін і інш.), І. І. Замоцін лічыў, што ўласцівыя гэтаму напрамку «формулы і схемы не выяўляюць, аднак, метад у канкрэтных яго сродках і прыёмах» і што



*І. І. Замоцін, правадзейны член Інбелкульта*

сацыялагічны метад вымагае «большай дэталізацыі ў мэтах болей выразнага дастасавання да літаратурнага матэрыялу» [8]. Сябе асабіста вучоны залічыў да прыхільнікаў марксісцка-сацыялагічнага метаду даследавання літаратуры. Такое ўдакладненне мела глыбокі сэнс. Яно сведчыла пра імкненне даследчыка творча выкарыстаць дасягненні марксісцкай філасофіі, тэорыі пазнання ў філалагічнай навуцы, пераадолець выдаткі, уласцівыя сацыялагічнаму падыходу да з'яў мастацтва.

У сваіх працах «Пуціны беларускай літаратуры» (1924), «Беларуская драматургія» (1927) І. І. Замоцін зрабіў смелую спробу стварыць самастойны кірунак у даследаванні слоўнага мастацтва. Ён вызначыў чатыры «моманты ў каардынацыі літаратурнай творчасці», ча-

[8] Замоцін І. І. Мастацкая літаратура ў школьным выкладанні. Мн., 1927. С. 69.

тыры этапы ў вывучэнні літаратуры наогул і канкрэтнага твора ў прыватнасці: так званы «генетычны сінтэз» — вывучэнне крыніц і жыццёвага матэрыялу, з якога вырастае творчасць, «фармальна-мастацкі сінтэз», г. зн. разгляд мастацкай формы — стылю, жанравай структуры, мовы, «сацыялагічны сінтэз», які прадугледжвае вывучэнне таго, як пісьменнік ад жыццёвых уражанняў ішоў да ўвасаблення рэчаіснасці ў яе тыповых праявах, нарэшце, «ідэалагічны сінтэз», пад якім падразумяваецца ідэалагічнае асвятленне тыповых вобразаў і малюнкаў, абумоўленае светапоглядам аўтара.

Прапанаваная І. І. Замоціным схема вывучэння літаратурнага твора, вядома, не пазбаўлена пэўнай механістычнасці, але яна павінна ацэньвацца як значны крок па шляху пошукаў новай метадалогіі літаратуразнаўства і крытыкі. Вучоны імкнуўся пераадолець аднабаковасць, спрошчанасць многіх літаратуразнаўчых канцэпцый свайго часу, якія ігнаравалі спецыфіку літаратуры, недаацэньвалі ролю творчай асобы мастака, адмаўлялі яму ў праве на творчую і светапоглядную эвалюцыю.

Працы І. І. Замоціна, у якіх абгрунтоўвалася яго тэорыя «чатырох сінтэзаў», аказвалі дабратворны ўплыў на літаратурна-навуковае жыццё Беларусі. Яны мелі і вялікае практычнае значэнне, бо ў 20-я гады шырока распаўсюджваліся вульгарызатарскія погляды, паводле якіх пісьменнік з сялянскага асяроддзя нібыта не меў магчымасці ўзняцца над абмежаванасцю свайго класа, стаць побач з пралетарскім пісьменнікам. Беларускі вучоны пераканальна раскрыў надуманы характар, памылковасць падобных сцвярджэнняў.

Аб прыцягальнасці замоцінскай метадалогіі сведчыць і той факт, што сярод паслядоўнікаў вучонага аказаўся такі арыгінальны самабытны крытык, як А. А. Бабарэка. Праз прызму тэорыі «чатырох сінтэзаў» А. Бабарэка паспрабаваў глянуць на творчасць М. Чарота і змог дакладна вызначыць некаторыя характэрныя асаблівасці бунтарнай, узнёслай лірыкі М. Чарота: яна «сваім «гучным шумам» у нашу народніцкую па духу паэзію ўнесла першую плынь новасялянскай рэвалюцыйнасці» [9]. М. Ча-

[9] Маладняк. 1925. № 9. С. 119.

рот — выразнік інтарэсаў пралетарыяту і працоўнага сялянства. Яго творы пазначаны «колерам задушэўнага кахання», якім «атулены і ўсе вобразы спрадвеку заплаканага краю»[10]. Праўда, з'яўляючыся прапагандыстам «маладнякізму» як рэвалюцыйнай плыні, быццам бы супрацьпастаўленай народніцкаму адраджэнню, А. Бабарэка недааценіў значэнне творчасці Я. Купалы, Я. Коласа, іншых «старых» пісьменнікаў і пэўным чынам перабольшыў месца паэзіі М. Чарота, які нібыта «першы на беларускіх загонах ажыццявіў на практыцы марксісцкі погляд на літаратуру як на зброю класавага змагання». Пазней А. А. Бабарэка ўдакладніў сваё разуменне сутнасці літаратуры.

У параўнанні з М. І. Гарэцкім, І. І. Замоціным іншым шляхам да новай літаратуразнаўчай метадалогіі, прынцыпаў вывучэння літаратуры ішоў інбелкультавец М. М. Піятуховіч. Шлях даследчыка быў пазначаны вялікімі цяжкасцямі і адчувальнымі стратамі. Тым не менш гэта таксама беларускае літаратуразнаўства «інбелкультаўскага» перыяду, якое складвалася ў вострых спрэчках і сутыкненнях.

Як прадстаўнік сацыялагічнага метаду, М. М. Піятуховіч аддаваў перавагу сацыяльна-эканамічным фактарам. Але механізм узаемадзеяння базісу і надбудовы, эканомікі і духоўнага жыцця даследчык разумеў спрошчана. Мастацкую творчасць, узровень ідэйнай сталасці пісьменніка, своеасаблівасць яго творчай манеры ён выводзіў непасрэдна з узроўню эканомікі. Нават мастацкая форма твора кваліфікавалася ім як «вытворнае ад сацыяльна-эканамічных фактараў»[11]. М. М. Піятуховіч падзяляў погляды, згодна якім творчая дзейнасць пісьменніка прадвызначана яго класавай псіхаідэалогіяй, за межы якой ён не можа выйсці. Відавочна, што такі падыход вёў да недаацэнкі аб'ектыўнага характару мастацтва, недаацэнкі яго магчымасцей адлюстроўваць жыццё шматгранна і ўсебакова.

Некрытычнае выкарыстанне схем з даследчых прац

---

[10] Маладняк. 1925. № 9. С. 119.

[11] Піятуховіч М. М. Нарысы гісторыі беларускай літаратуры. Мн., 1928. С. 6.

вульгарна-сацыялагічнай скіраванасці перашкодзіла М. М. Піятуховічу ў «Нарысах гісторыі беларускай літаратуры» (1928) раскрыць змест і пафас творчасці многіх беларускіх пісьменнікаў, у тым ліку В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, М. Багдановіча.

Аўтар тэндэнцыйна ацэньваў многія канкрэтныя літаратурныя з'явы, нярэдка знаходзіў у творах уяўныя супярэчнасці, не заўважаючы сапраўдных. Так, аптымістычнае гучанне паэзіі Цёткі выводзілася не з адметнасці светаадчування паэтэсы, а з біясацыяльных фактараў, тлумачылася паходжаннем паэтэсы з заможнай сям'і.

Аналіз працы М. М. Піятуховіча, адзначаныя ўласцівыя ёй недахопы, пралікі і выдаткі даюць магчымасць стварыць больш аб'ектыўны малюнак развіцця беларускага нацыянальнага літаратуразнаўства 20-х гадоў, паказаць рэальныя цяжкасці фарміравання метадалагічных прынцыпаў аналізу. Гэтыя цяжкасці літаратурная навука павінна была пераадолець самастойна. Толькі ўласны вопыт мог вывесці яе на перспектыўны шлях. І яна шукала гэты шлях.

Пра настойлівасць такіх пошукаў яскрава сведчаць працы А. М. Вазнясенскага «Паэтычнае майстэрства навейшай беларускай літаратуры» (1927), «Паэмы Янкі Купалы. Сюжэтная пабудова і стыль» (1927), «Ля вытокаў мастацкай прозы Якуба Коласа» (1928—1929) і інш. Гэтыя працы, манаграфія «Паэтыка М. Багдановіча» (1926), шэраг артыкулаў цікавыя тым, што ў іх аддадзена перавага аналізу паэтычнай формы, структуры твора, моўна-выяўленчым сродкам. Сваёй дзейнасцю А. М. Вазнясенскі пракладваў рэчышча для самастойнага кірунку ў беларускай літаратурнай навуцы, і ў гэтым яго бясспрэчная заслуга. Такі кірунак для маладога літаратуразнаўства быў патрэбны, бо разгляд элементаў структуры, аналіз мастацкай формы практычна нейтралізавалі вульгарна-сацыялагічную метадалогію як няплённую і бесперспектыўную, вучылі разумець эстэтычную прыроду літаратуры. Каштоўным было і тое, што аб'ектам разгляду аказваліся творы класікаў нацыянальнай літаратуры — М. Багдановіча, Я. Купалы, Я. Коласа, а гэта зноў жа ўносіла істотныя карэктывы ў спрэчку маладнякоўцаў са «старымі» пісьменнікамі. Сродкамі аналізу,

а не дэкларацыйнымі заявамі даводзіў А. М. Вазнясенскі сапраўдную вартасць напісанага М. Багдановічам і Я. Купалам, раскрываў вечнае значэнне іх твораў. Так «інбелкультаўская» высокая навука ўдзельнічала ў бягучым літаратурным жыцці, умацоўвала аўтарытэт прыгожага пісьменства.

Аднак і ўласная пазіцыя А. М. Вазнясенскага аказалася не пазбаўленай слабых бакоў. Слушна крытыкуючы фармалістычныя канцэпцыі мастацтва і шляхоў іх вывучэння, палемізуючы з вульгарнымі сацыёлагамі і крайнасцямі культурна-гістарычнай школы, якая схільна была лічыць мастацкі твор толькі «гістарычным дакументам, каштоўным як сродак абмалёўкі навакольнага асяроддзя», А. М. Вазнясенскі пэўным чынам недаацэньваў змястоўнасць твора, абсалютызаваў такі элемент формы, як кампазіцыя. І ўсё ж даследаванні А. М. Вазнясенскага, нягледзячы на ўласцівыя ім недахопы, трэба ацаніць як значнае дасягненне беларускага літаратуразнаўства 20-х гадоў, бо яны актыўна садзейнічалі ўмацаванню тэарэтычных асноў літаратурнай навукі, нейтралізавалі пагрозу, якая ішла ад аўтараў спрошчана-сацыялагічных трактатаў, дзе літаратура зводзілася да голай ілюстрацыі. А. М. Вазнясенскі ж успрымаў літаратуру ў яе спецыфічнасці, заклікаў вывучаць структуру твора, прынцыпы арганізацыі матэрыялу.

Тэарэтычная праблематыка займала галоўнае месца і ў працах інбелкультаўца Я. І. Барычэўскага. Яго манаграфіі «Паэтыка літаратурных жанраў» (1927), «Тэорыя санета» (1927) — гэта смелая і даволі паспяховая спроба сінтэзаваць вопыт сусветнай навукова-тэарэтычнай думкі, якая абагуліла, увабрала ў сябе «паэтычныя дасягненні ўсяго чалавецтва». Важна тое, што ў прыгаданых кнігах шырока выкарыстоўваўся беларускі гісторыка-літаратурны матэрыял, над падборам якога працаваў крытык У. Дзяржынскі, а таксама прыведзены многія назіранні і вывады беларускіх даследчыкаў.

Значэнне прац Я. І. Барычэўскага бачыцца ў тым, што іх аўтар, як і А. М. Вазнясенскі, паставіў вывучэнне праблем паэтыкі літаратурных жанраў на прынцыповы ўзровень. Ідучы ўслед за Гегелем і В. Г. Бялінскім, ён даў класіфікацыю літаратурных родаў і відаў, арганічна

спалучыў у канкрэтным аналізе тэорыю пэўнага жанру і яго гісторыю. Усе найбольш вядомыя ў той час жанравыя формы эпасу, лірыкі і драмы якраз і разгледжаны ім у двух аспектах. Тым самым вучоны закладваў плённую традыцыю адзінства гістарычнага і тэарэтычнага падыходу да вывучэння літаратуры, што было значным крокам наперад.

Асаблівай грунтоўнасцю і глыбінёй пазначаны вывады вучонага, звязаныя з генезісам і тыпалогіяй рамана, яго эвалюцыяй, структурнымі асаблівасцямі. Шмат якія сцвярджэнні даследчыка — пра ўсебаковасць абмалёўкі героя ў рамане, сацыяльную і псіхалагічную дэтэрмінаванасць характару, раскрыццё агульназначнага праз індывідуальнае, канкрэтнае, ролю тыповых абставін і іншыя — адпавядаюць узроўню ўяўленняў сучаснага літаратуразнаўства.

Як паказвае змест даследчых прац, што выйшлі з друку ў другой палове 20-х гадоў, перад іх аўтарамі надзвычай востра паўстала праблема перыядызацыі гісторыка-літаратурнага працэсу і асэнсавання прынцыпаў пабудовы гісторыі беларускай літаратуры. Сярод вучоных Інбелкульта склаліся чатыры розныя погляды на тое, якой павінна быць гэта праца і якія этапы прайшло беларускае слоўнае мастацтва ў сваім развіцці. Ад навукова абгрунтаванай перыядызацыі залежала і перакапальнасць агульнай канцэпцыі гісторыі беларускага прыгожага пісьменства. Канкрэтным, хоць і не ва ўсім паслядоўным увасабленнем першага тыпу гісторыі беларускай літаратуры былі «Нарысы гісторыі беларускай літаратуры» М. М. Піятуховіча, гісторыка-літаратурныя распрацоўкі М. Я. Байкова, З. Ф. Жылуновіча і іншых, узорам іншага тыпу з'яўляецца «Гісторыя беларускай літаратуры» М. І. Гарэцкага і «Нарысы гісторыі беларускай літаратуры» М. Янчука. Сваімі вытокамі яны ўзыходзяць да літаратуразнаўчых прац М. Багдановіча. Трэцяя мадэль вымалёўвалася ў тэарэтычных разважаннях Я. І. Барычэўскага, чацвёртая — А. М. Вазнясенскага.

У тых даследчыкаў, якія прытрымліваліся сацыялагічнага метаду ў яго найбольш артадаксальнай, спрошчанай форме — «метаду эканамічнага матэрыялізму»

ў літаратуразнаўстве, структура «Гісторыі беларускай літаратуры» лагічна вынікала са схемы вывучэння мастацтва, кажучы словамі М. М. Піятуховіча, «у арганічнай сувязі з вытворчымі адносінамі». Пры гэтым у аснову перыядызацыі былі пакладзены сацыяльна-эканамічныя этапы развіцця («літаратура перыяду прыгоннай гаспадаркі», «літаратура перыяду разбурэння прыгоннай гаспадаркі», «літаратура эпохі развіцця капіталізму» і інш.). Гэта была вульгарна-сацыялагічная мадэль, якая ігнаравала спецыфіку літаратуры як з'явы эстэтычнай, своеасаблівай.

Прыхільнікі другога тыпу не капіравалі этапы эканамічнага развіцця, а імкнуліся ісці ад гісторыі духоўнага жыцця народа і ўзроўню яго эстэтычнай свядомасці. Гэта быў перспектыўны шлях, аднак у 30—50-я гады беларускія літаратуразнаўцы ва ўмовах панавання дагматызму і з прычыны канкрэтных грамадска-палітычных абставін эпохі сталінізму аддавалі перавагу першаму тыпу гісторыі беларускай літаратуры, і толькі ў 60-я гады была ўзята на ўзбраенне мадэль М. Гарэцкага і М. Багдановіча.

Я. І. Барычэўскі прапаноўваў пабудаваць гісторыю літаратуры як гісторыю стыляў. А. М. Вазнясенскі заклікаў спачатку грунтоўна вывучыць творчасць асобных пісьменнікаў і толькі пасля перайсці да спасціжэння агульных заканамернасцей, бо ў існуючых гісторыка-літаратурных даследаваннях заканамернасці гучна дэкларуюцца. Заўвагі А. М. Вазнясенскага шмат у чым слушныя, але разам з тым і празмерна агульныя. Што ж датычыць прапаноў Я. І. Барычэўскага, дык іх цалкам можна прыняць, хоць катэгорыя «стыль», пэўна, не заменіць сабой гісторыка-літаратурны працэс ва ўсёй яго шматграннасці і багацці.

Нягледзячы на тое што згаданыя тыпы гісторыі беларускай літаратуры паводле навуковай вартасці нераўнацэнныя, факт іх існавання трэба ацаніць як з'яву станоўчую, бо толькі праз свабодны абмен думкамі, на практыцы магла выявіцца перавага той ці іншай мадэлі. Інакш кажучы, дэмакратычная атмасфера, якая панавала ў асяроддзі Інбелкульта, садзейнічала паспяховаму развіццю літаратурнай думкі.

Трэба сказаць, што многія даследчыкі, члены Інбелкульта, распрацоўваючы пытанні гісторыі беларускай літаратуры, адначасова займаліся і праблемамі рускай і замежнай літаратуры. Нагляднае ўяўленне пра абсягі дзейнасці ў гэтым кірунку дае вопыт І. І. Замоціна, які чытаў курс лекцый літаратуры XVIII—XIX стст. на этнолага-лінгвістычным аддзяленні педфака БДУ і вёў практычныя заняткі, выступаў з дакладамі і лекцыямі пра творчасць Л. Талстога, М. Някрасава, М. Горкага перад жыхарамі Мінска.

Асаблівай увагі заслугоўваюць выступленні І. І. Замоціна, скіраваныя на пошукі новых форм актывізацыі беларускай навукова-даследчай думкі. Гэта перш за ўсё яго артыкулы «Аб увязцы беларускага літаратуразнаўства з краязнаўчаю працай», «Спроба ўкладання анкет для збірання крытыка-біяграфічных матэрыялаў па гісторыі беларускай літаратуры»[12]. Вучоны ставіў за мэту прыцягнуць да навуковай, збіральніцкай працы добраахвотных памочнікаў, каб тым самым прыспешыць вырашэнне даўно наспелых задач беларускага літаратуразнаўства. Такой жа актыўнасцю вызначалася і праца М. М. Піятуховіча, Я. І. Барычэўскага, А. М. Вазнясенскага, В. Т. Мачульскага, У. В. Чаржынскага.

Члены Інбелкульта часта выступалі ў рускім перыядычным друку і ў рускамоўных навуковых выданнях. Таксама заслугоўвае быць адзначаным удзел беларускіх вучоных у падрыхтоўцы «Большой Советской Энциклопедии», «Литературной энциклопедии», першы том якой выйшаў у 1929 г. Абагульняючы артыкул «Белорусская литература» быў напісаны М. М. Піятуховічам і З. Ф. Жылуновічам. Шэраг матэрыялаў, змешчаных у наступных тамах, належалі Я. І. Барычэўскаму, С. Я. Вальфсону, М. М. Нікольскаму і інш. Той факт, што артыкулы па беларускай літаратуры публікаваліся на старонках шырока вядомага ўсесаюзнага выдання, меў вялікае значэнне для актывізацыі беларускай навуковай думкі і літаратурнай крытыкі, паколькі нацыянальнае мастацкае слова ацэньвалася ў супастаўленні з літаратурамі іншых народаў. Гэта ўзбагачала даследчы арсенал бе-

[12] Наш край. 1928. № 5.

ларускіх вучоных, садзейнічала ўзбуйненню крытэрыяў эстэтычнай ацэнкі.

Яшчэ адным выразна акрэсленым напрамкам у дзейнасці літаратуразнаўцаў Інбелкульта былі падрыхтоўка і выданне класічнай спадчыны і помнікаў старажытнай пісьменнасці. Выданне здзяйсняла спецыяльная камісія, створаная 15 сакавіка 1925 г. Гэтая дата і кладзе пачатак беларускай тэксталогіі. Яе старшынёй быў прафесар І. І. Замоцін, пасаду сакратара займалі В. Т. Мачульскі, потым Я. П. Плашчынскі. Трэба аддаць належнае тагачасным вучоным у справе вызначэння перспектывы развіцця беларускага літаратуразнаўства. Яны добра разумелі, што перш чым ствараць навуковую гісторыю беларускай літаратуры, неабходна забяспечыць даследчыкаў дабраякасным матэрыялам, увесці яго ў шырокі навуковы ўжытак. Нягледзячы на вялікія цяжкасці, звязаныя з беднасцю нацыянальных кадраў, нявывучанасцю архіваў, кнігасховішчаў, перыядычнага друку, вузкасцю паліграфічнай базы, адсутнасцю дапаможнай службы і іншым, праца ішла паспяхова. Намаганнямі І. І. Замоціна, В. Т. Мачульскага, Я. І. Барычэўскага падрыхтаваны першае пасмяротнае выданне спадчыны Максіма Багдановіча ў двух тамах — «Творы» (1927—1928), зборнік вершаў выдатнага майстра паэтычнага слова Алеся Гаруна «Матчын дар» (1929). Камісія вяла працу па збіранню твораў Цёткі (выданне выйшла ў 1934 г.), аўтографаў Ядвігіна Ш., В. Дуніна-Марцінкевіча, З. Бядулі і іншых пісьменнікаў. Член камісіі В. Т. Мачульскі ездзіў ва Украінскую Акадэмію навук з мэтаю вывучэння вопыту выдання класічнай спадчыны і пошукаў матэрыялаў для каменціравання твораў, уключаных у другі том збору твораў М. Багдановіча.

Тэксталагічны ўзровень выданняў быў высокі, асабліва «Твораў» М. Багдановіча. Яны вылучаліся перш за ўсё паўнатой, культурай падрыхтоўкі тэксту, вычарпальнасцю каментарыя. Спадчына аўтара «Вянка» і іншых выдатных паэтычных, празаічных твораў, літаратурнакрытычных прац была сабрана пад адной вокладкай і ўпершыню паўстала перад вачыма шматлікіх прыхільнікаў яго таленту ва ўсёй непаўторнасці і багацці зместу. Такімі выданнямі, як «Творы» М. Багдановіча, вучоныя

паспяхова закладвалі асновы беларускай тэксталогіі як спецыфічнай галіны ў сістэме філалагічнай навукі.

Такім чынам, дзейнасць вучоных Інбелкульта была пэўным этапам у гісторыі беларускага нацыянальнага літаратуразнаўства. Галоўную заслугу даследчыкаў трэба бачыць у тым, што за адносна кароткі прамежак часу яны правялі грунтоўную сістэматызацыю разнастайнага літаратурнага матэрыялу, на аснове яго вывучэння намецілі пэўную канцэпцыю літаратурнага развіцця і замацавалі яе ў канкрэтных гісторыка-літаратурных працах. Пры гэтым былі творча асвоены такія жанравыя формы навуковага даследавання, як нарысы і гісторыя. Вульгарызатары, дагматыкі стрымлівалі плённыя пошукі. Аднак лепшыя даследаванні сведчаць пра тое, што вучоныя Інбелкульта рухаліся ў перспектыўным кірунку — спасціжэння складанай узаемасувязі гісторыі і літаратуры, сацыяльнай і духоўнай сферы. Гэта і быў той этап, які павінна было прайсці беларускае літаратуразнаўства па шляху самасцвярджэння як самастойная навука.



# ГІСТОРЫЯ І АРХЕАЛОГІЯ

Развіццё гістарычных даследаванняў у Інстытуце беларускай культуры адбывалася ў складаных умовах аднаўлення народнай гаспадаркі і пераўтварэнняў, якія працягваліся ў краіне, станаўлення самога Інбелкульта і вострага недахопу навуковых кадраў.

У пачатку 1925 г. пры Інстытуце беларускай культуры была створана гісторыка-археалагічная секцыя, якая аб'ядноўвала і каардынавала дзейнасць гісторыкаў рэспублікі, у кастрычніку таго ж года — гісторыка-археалагічная камісія Інбелкульта. У склад яе ўваходзілі гісторыкі У. І. Пічэта, М. В. Доўнар-Запольскі (старшыня), Д. І. Даўгяла (вучоны сакратар), В. Д. Дружчыц, М. В. Мялешка, археолагі А. М. Ляўданскі, С. А. Дубінскі, К. М. Палікарповіч, этнограф і археолаг І. А. Сербаў. У другой палове 1927 г. гісторыка-археалагічная камісія падзялілася на дзве самастойныя камісіі — гістарычную і археалагічную.

У той жа час была арганізавана камісія па вывучэнню рэвалюцыйнага руху на Беларусі. У склад яе ўваходзілі С. Х. Агурскі, І. М. Барашка, І. А. Віткоўскі, З. Ф. Жылуновіч, У. М. Ігнатоўскі, М. В. Мялешка, Б. М. Аршанскі, А. А. Чарнушэвіч. Старшынёй камісіі быў С. Х. Агурскі, сакратаром — І. М. Барашка, пазней старшынёй — З. Ф. Жылуновіч, сакратаром — М. В. Мялешка.

З утварэннем гісторыка-археалагічнай камісіі ў Інстытуце беларускай культуры пачалася сістэматычная навукова-даследчая праца ў галіне гісторыі і археалогіі. На працягу 1925—1926 гг. гісторыка-археалагічная камісія падрыхтавала да друку і пачала выдаваць гістарычныя дакументы і матэрыялы пад назвай «Беларускі архіў», падрыхтавала да выдання «Навуковы зборнік гісторыка-археалагічнай камісіі». Камісія па вывучэнню рэвалюцыйнага руху на Беларусі пачала работу па складанню «Бібліяграфічнага слоўніка рэвалюцыйных ба-

рацыбітоў Беларусі». З 1928 г. працы па гісторыі выдаваліся ў выглядзе спецыялізаваных выданняў пад агульнай назвай «Запіскі аддзела гуманітарных навук» з гістарычнай і археалагічнай серыямі. Асобныя артыкулы друкаваліся ў зборніках «Працы Навуковага таварыства па вывучэнню Беларусі пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі сельскай гаспадаркі ў Горках» і «Працы Беларускага дзяржаўнага універсітэта», а таксама ў саюзных выданнях. Адначасова выдаваліся абагульняючыя працы па гісторыі Беларусі і Расіі, зборнікі дакументаў і матэрыялаў. Артыкулы па гісторыі Беларусі друкаваліся таксама ў грамадска-палітычных, літаратурных і краязнаўчых часопісах «Полымя», «Маладняк», «Савецкае будаўніцтва», «Асвета», «Наш край» і інш.

Пры падтрымцы Інстытута беларускай культуры ў БССР у першай палове 20-х гадоў былі ўзноўлены археалагічныя даследаванні. У 1923 г. А. М. Ляўданскі па даручэнню Інбелкульта абследаваў гарадзішчы ў Лагойскай, Смалявіцкай і Юр'еўскай валасцях. У тым жа годзе некалькі курганоў раскапаў С. Х. Бабарыкін у раёне Чачэрска. У 1925 г. Я. Г. Вяржбіцкі абследаваў гарадзішчы ў Мсціслаўскім і Клімавіцкім паветах, І. А. Сербаў у раёне прытокаў Дняпра — Ухлясці і Бабровай, прытокаў Сожа — Пясчанай і Перчанай выявіў шэраг гарадзішчаў і селішчаў, раскапаў шмат курганоў. Археалогія, якая ў дарэвалюцыйны час на Беларусі злівалася з краязнаўствам, практычна станавілася самастойнай навукай.

Параўнальна шырокія памеры работа па археалагічнаму вывучэнню тэрыторыі рэспублікі прыняла ў наступныя гады. У 1927 г. з васьмі акругаў яна вялася ў сямі. Яе праводзілі члены гісторыка-археалагічнай, а затым зноў утворанай археалагічнай камісіі Інбелкульта. Да яе прыцягваліся студэнты Беларускага дзяржаўнага універсітэта, настаўнікі і краязнаўцы на месцах. Адначасова пашыралася археалагічнае абследаванне тэрыторыі з мэтаю выяўлення і ўліку помнікаў. Таксама павялічыліся маштабы і пашырылася геаграфія раскопак.

Значная праца праводзілася А. М. Ляўданскім і археалагічнымі экспедыцыямі пад яго кіраўніцтвам. Галоўная ўвага ўдзялялася вывучэнню помнікаў жалезнага



*А. М. Ляўданскі*

веку канца 1-га тысячагоддзя да н. э. і 1-га тысячагоддзя н. э. Упершыню было распачата сістэматычнае вывучэнне пасяленняў-гарадзішчаў і селішчаў. У 1922—1927 гг. ім праводзіліся абследаванні і раскопкі неалітычных стаянак і помнікаў жалезнага веку — гарадзішчаў і курганоў у Смаленскай губерні. У 1926—1928 гг. А. М. Ляўданскі праводзіў раскопкі на тэрыторыі БССР — гарадзішчаў у Заслаўі, Барысаве, Койданаве і курганоў у іх наваколлі. Сумесна з С. А. Дубінскім ім раскапаны гарадзішчы і курганы каля в. Лабеншчына Заслаўскага раёна, у наваколлі Смалявіч, каля в. Чаркасава ў Аршанскай акрузе, каля в. Зарэчча паблізу Мінска. Археалагічныя даследаванні праводзіліся ім і ў Полацкай і Віцебскай акругах.

На аснове археалагічных даследаванняў А. М. Ляўданскі правёў класіфікацыю гарадзішчаў жалезнага веку. Ён упершыню вылучыў культуры са штрыхаванай і гладкасценнай керамікай, прыкладна ўстанавіў арэалы

распаўсюджання гэтых культур, іх культурна-этнічную прыналежнасць, вызначыў храналогію помнікаў. Помнікі з ляпной штрыхаванай керамікай ён вызначыў як балцкія і адносіў іх да першых стагоддзяў нашай эры і больш ранняга часу, гарадзішчы з гладкасценнай керамікай лічыў славянскімі і адносіў да больш позняга перыяду, ганчарную кераміку — да часоў Старажытнай Русі. У выніку вывучэння вялікага археалагічнага матэрыялу А. М. Ляўданскі выявіў асноўныя рысы матэрыяльнай культуры, гаспадаркі і патрыярхальна-родавага ладу ў эпоху жалезнага веку на тэрыторыі БССР і Смаленскай вобласці. Ён упершыню пачаў археалагічнае вывучэнне на Беларусі старажытных гарадоў — Полацка, Віцебска, Оршы, Заслаўя, Барысава. Вынікі даследавання апублікаваны ў «Запісках аддзела гуманітарных навук» (1928—1930 гг.).

Каштоўныя ў навуковых адносінах матэрыялы здабыты С. А. Дубінскім у ходзе раскопак гарадзішча каля в. Банцараўшчына ў Мінскай акрузе, якія праводзіліся ў 1926—1928 гг. Гарадзішча стала эталонным для археалагічных помнікаў жалезнага веку. Матэрыялы раскопак Банцараўскага гарадзішча давалі ўяўленне пра ўзровень і змену матэрыяльных культур, напрамак гаспадарчай дзейнасці насельніцтва жалезнага веку.

Усяго ў 1927—1928 гг. на тэрыторыі БССР выяўлена і абследавана каля 100 гарадзішчаў, больш за 15 селішчаў і каля 270 курганоў. У некалькіх выпадках як у гарадзішчах, так і ў селішчах выяўлены два культурныя пласты з той і другой керамікай. Культура з грубай ляпной керамікай вызначалася як даславянская, з керамікай больш дасканалай ганчарнай вытворчасці — як славянская.

Помнікі эпохі неаліту вывучаў К. М. Палікарповіч. У 1926—1928 гг. ён абследаваў берагі р. Сож ад упадзення яе ў Днепр да м. Гайшчына Прапойскага раёна. Каля вёсак Прысня і Юркавічы Веткаўскага раёна, у іншых месцах ён выявіў неалітычныя стаянкі. На аснове вывучэння выяўленага матэрыялу ўстаноўлены спосаб вытворчасці прылад насельнікамі верхнепалеалітычных і неалітычных стаянак на тэрыторыі Беларусі. К. М. Палікарповіч зрабіў вывад, што спецыяльных майстэрань



*К. М. Палікарповіч*

крамянёвых прылад у гэты перыяд не існавала, што вытворчасць такіх прылад адбывалася на кожнай асобнай стаянцы. На аснове тыпаў керамікі, крамянёвых прылад разам з палеалітам ён вылучыў шэраг культур неаліту. На матэрыялах раскопак у 1928 г. К. М. Палікарповіч апублікаваў працу «Дагістарычныя стаянкі сярэдняга і ніжняга Сожа»[1] і шэраг артыкулаў. Гэтыя працы давалі ўяўленне пра час засялення першабытным чалавекам тэрыторыі Беларусі.

Найбольш значныя работы па вывучэнню матэрыяльнай культуры каменнага веку праводзіліся ў сувязі з раскопкамі палеалітычнай стаянкі каля в. Бердыж Чачэрскага раёна Гомельскай акругі, якія выконваліся ў 1927 г. пад кіраўніцтвам С. М. Замяціна і працягваліся ў 1928 г. К. М. Палікарповічам. Экспедыцыя ўстанавіла,

[1] Працы кафедры археалогіі. Мн., 1928. Т. 1.



*Група археолагаў Інбелкульта. 1928 г.*

што таўшчыня пласта тут была да 60 см, што сведчыла аб працяглым пражыванні чалавека на стаянцы. На большай частцы плошчы культурны пласт насыпаны паламанымі касцямі маманта і іншых жывёл: коней, быкоў, пячорнага мядзведзя, воўка, пясца, вялікага сусліка, што сведчыла пра паляўнічую дзейнасць чалавека. Пры гэтым было знойдзена 25 прылад, іншых рэчаў, характэрных для верхнепалеалітычнага часу [2]. Матэрыялы Бер-

[2] Працы археалагічнай камісіі. Мн., 1928. Т. 2.

дыжскай стаянкі паказалі блізкасць іх з матэрыяламі верхнепалеалітычных стаянак Дона (Касценкі І, Бершава І, Гарына), а таксама з познеарыньякскімі стаянкамі Маравіі і Ніжняй Аўстрыі.

Такім чынам, у 1923—1928 гг. была праведзена значная работа па вывучэнню тэрыторыі БССР, выяўленню і абследаванню матэрыялаў жалезнага веку, неаліту, бронзы, перыяду ранняга феадалізму. Адбывалася перш за ўсё назапашванне матэрыялу. Археалагічныя экспедыцыі не заўсёды праводзіліся на належным узроўні, частка публікацый па матэрыялах раскопак ўяўляла сабой пераказ справаздач экспедыцый аб палявых даследаваннях. Тым не менш некаторыя іх вынікі і абагульненні мелі значную навуковую каштоўнасць і не страцілі свайго значэння і зараз. Яны сведчаць пра паспяховае станаўленне беларускай археалогіі.

Гісторыкамі Інбелкульта праводзілася значная работа па вывучэнню гісторыі Беларусі эпохі феадалізму. Тэматыка навуковых работ ахоплівала галоўным чынам сацыяльна-эканамічныя праблемы. Цэнтральнае месца сярод іх займала гісторыя сялянства. У меншай ступені вывучаліся пытанні развіцця феадальнага горада, культуры, гістарыяграфіі і крыніцазнаўства.

У 1919—1925 гг. чатыры разы выдаваўся «Кароткі нарыс гісторыі Беларусі» У. М. Ігнатоўскага, які з пачатку 1925 г. узначаліў Інбелкульт. Кніга была падрыхтавана на аснове курса лекцый па гісторыі Беларусі для студэнтаў Мінскага настаўніцкага, а потым педагагічнага інстытута. Метадалагічна першае, другое і трэцяе выданне кнігі (выйшлі да 1921 г.) напісаны ў асноўным з пазіцый дарэвалюцыйнай буржуазнай гістарыяграфіі, у ідэйных адносінах — з пазіцый нацыянальна-дэмакратычных поглядаў. Чацвёртае выданне, дапрацаванае і пашыранае, схілялася больш да класавага марксісцкага падыходу і ў ім выразна і ў асноўным правільна характарызаваліся эканоміка, сацыяльныя адносіны, стан культуры, сацыяльна-палітычная барацьба народных мас Беларусі ў розныя перыяды гісторыі. Аўтар бачыў змену грамадска-эканамічных фармацый, класы і класавую барацьбу ў феадальным і капіталістычным грамадстве.

Перыядызацыя гісторыі Беларусі эпохі феадалізму ў кнізе пабудавана на аснове нацыянальна-палітычных фактараў. У гісторыі Беларусі У. М. Ігнатоўскі вылучаў чатыры перыяды: Полацкі, Літоўска-Беларускі, Польскі і Рускі. Як і іншыя гісторыкі, старажытнарускі вечавы лад ён памылкова ўяўляў як народаўладдзе. Знаходзячыся пад уплывам школы М. М. Пакроўскага, У. М. Ігнатоўскі перабольшваў значэнне гандлёвага капіталу, прыпісваў яму ролю галоўнага фактару ў развіцці грамадства. Гандлёвы капітал, на яго думку, ужо ў XII ст. «разбіваў жыхароў Полацкай Русі на два лагеры: багатых і бедных», паміж якімі адбывалася класавая барацьба [3].

Уплыў тэорыі гандлёвага капіталу на погляды У. М. Ігнатоўскага выявіўся і ў тым, што ён бачыў у заможнай частцы насельніцтва раннефеадальнай Беларусі «мясцовых капіталістаў», «мясцовую буржуазію», г. зн. катэгорыі людзей, характэрныя для капіталістычнай фармацыі. Таксама перабольшвалася роля магдэбургскага права на Беларусі XIV—XVI стст., якое лічыў важнейшым фактарам развіцця гарадоў і выдзялення мяшчан у класслоўе. Пераносячы некаторыя з'явы сацыяльна-эканамічных адносін эпохі капіталізму (капітал, буржуазія) у феадальную эпоху, вучоны імкнуўся ўвязаць іх з пытаннямі станаўлення класаў і развіцця класавай барацьбы.

Адносна ўтварэння Вялікага княства Літоўскага і месца ў ім беларускіх зямель У. М. Ігнатоўскі прытрымліваўся канцэпцыі М. К. Любаўскага. Вялікае княства Літоўскае ён характарызаваў як літоўска-беларускую дзяржаву.

У. М. Ігнатоўскі адзначаў узмацненне сацыяльнага і нацыянальна-рэлігійнага ўціску пасля Люблінскай уніі, што выклікала абвастрэнне сацыяльных супярэчнасцей і ўзмацненне класавай барацьбы, з'яўленне беларускага казацтва. Разам з тым ён памылкова сцвярджаў, што пасля падаўлення сялянскіх паўстанняў XVII ст. сялянскія масы прымірыліся са сваім становішчам, што к пачатку XVIII ст. «Беларусь ужо не пратэстуе».

---

[3] Ігнатоўскі У. М. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. Мн., 1925. С. 47.

Разглядаючы становішча народных мас Беларусі пасля далучэння яе да Расіі ў канцы XVIII ст., У. М. Ігнатоўскі прыйшоў да высновы, што яно не палепшылася. Калі ў Рэчы Паспалітай працоўныя масы былі рабочым «быдлам», то ў царскай Расіі сталі рабочай «скацінай».

У 20-я гады шырока друкаваліся працы правадзейнага члена Інбелкульта У. І. Пічэты, з навуковай дзейнасцю якога ў многім звязана станаўленне беларускай савецкай гістарыяграфіі. У. І. Пічэта да часу стварэння Інстытута беларускай культуры быў ужо вядомым вучоным. Працуючы рэктарам Беларускага дзяржаўнага універсітэта, ён актыўна ўдзельнічаў у дзейнасці Інбелкульта. У 1924 г. ён выдаў брашуру «Гісторыя Беларусі», дзе зроблена спроба коратка асвятліць асноўныя этапы і важнейшыя падзеі гісторыі беларускага народа. У адрозненне ад іншых гісторыкаў У. І. Пічэта даў перыядызацыю гісторыі Беларусі з улікам сацыяльна-эканамічных і палітычных з'яў, характэрных для той ці іншай эпохі. Вялікае княства Літоўскае ён разглядаў як літоўска-беларускую дзяржаву і характарызаваў яе як федэрацыю зямель. Распаўсюджанне ўлады вялікіх князёў на беларускія і ўкраінскія землі, на яго думку, адбывалася на аснове добраахвотнага прызнання верхавенства літоўскіх князёў.

В. Д. Дружчыц у артыкуле «Галоўныя моманты гісторыі беларускага народа» [4] Вялікае княства Літоўскае таксама назваў літоўска-беларускай дзяржавай. Пры гэтым ён адзначыў, што Полацкая, Віцебская землі ўвайшлі ў яго склад мірным шляхам, добраахвотна. Адначасова ён выказаў думку, што быццам бы з пачатку ўтварэння Вялікае княства Літоўскае мела беларускі характар, спрабуючы даказаць гэта тым, што беларускі элемент пераважаў у культурных адносінах, «беларуская мова з'яўлялася мовай дыпламатычных зносін, мовай пісьменнасці, заканадаўства і ўсяго культурнага жыцця» [5].

---

[4] Белоруссия. Очерки истории и экономики, культурного и революционного движения. Мн., 1924.

[5] Там жа. С. 7.

У працы М. В. Доўнар-Запольскага «Сацыяльна-эканамічная структура Літоўска-Беларускае дзяржавы ў XVI—XVIII сталеццях»[6] разгледжаны працэсы сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі ў XVI—XVIII стст. Аўтар прасачыў эвалюцыю панскай і сялянскай гаспадарак, якая праходзіла пад уплывам заходнееўрапейскага рынку, вялікага попыту на сельскагаспадарчыя і лясныя тавары. З гэтым звязвалася пашырэнне панскай гаспадаркі, якая арыентавалася галоўным чынам на знешні рынак, а таксама ліквідацыя ранейшых адзінак абкладання павіннасцямі, змяненне сялянскіх павіннасцей, распаўсюджанне баршчыны, перавод даніны на грошы і інш.

М. В. Доўнар-Запольскі даў грунтоўную характарыстыку прававога становішча і павіннасцей розных катэгорый сельскага насельніцтва. Аўтар прыйшоў да вываду, што ў панскіх староствах і эканоміях разрад людзей, якія неслі спецыяльныя службы і выконвалі асобныя павіннасці, у цэлым быў нязначны. Найбольшую колькасць складалі чыншавыя сяляне, якія ўносілі ў панскую скарбонку чынш. Гэта рабіла іх больш самастойнымі ў гаспадарчых адносінах у параўнанні з цяглым насельніцтвам. На думку аўтара, становішча чыншавых сялян у прыватнаўласніцкіх маёнтках было больш цяжкім, чым у панскіх маёнтках.

Разам з публікацыяй аглядных прац у Інбелкульце вялася інтэнсіўная работа па вывучэнню канкрэтных праблем гісторыі Беларусі феадальнай эпохі. Асаблівая ўвага надавалася аграрнай гісторыі Беларусі. Ёй прысвяцілі свае даследаванні У. І. Пічэта, М. В. Доўнар-Запольскі, М. К. Любаўскі, В. Д. Дружчыц, Ф. І. Забела, К. І. Кернажыцкі, М. В. Мялешка, А. В. Бурдзейка і інш.

Вядучая роля ў асвятленні гэтай праблемы належала У. І. Пічэце. У яго працах разглядаліся пытанні сацыяльна-эканамічнага развіцця, запрыгоньванне сялянства, эвалюцыя феадальнага памесця, стан сялянскай гаспадаркі і сельскагаспадарчай вытворчасці, становішча сялян і халопаў. Аналізуючы склад насельніцтва ў панскіх

[6] Гістарычна-археалагічны зборнік. Мн., 1927.

дварах і валасцях заходняй часткі Беларусі, У. І. Пічэта паказаў яго сацыяльную структуру і эвалюцыю асобных катэгорый. Ён адзначаў, што са змяненнем характару панскай гаспадаркі, умацаваннем яе рынгачных сувязей пасля рэформы адбывалася паступовае зліццё нявольнай чэлядзі з прыгонным сялянствам [7]. Закранаючы сялянскае землеўладанне, аўтар падкрэсліў, што «ўвядзенне валочнай памеры не знішчала калектыўнага землекарыстання» [8]. Яно ў пэўнай ступені захавалася і пасля рэформы.

Шляхі запрыгоньвання і бяспраўнае становішча сялян у прыватнаўласніцкіх маёнтках у XV — першай чвэрці XVI ст. даследаваны У. І. Пічэтам у працы «Юрыдычнае становішча вясковага насельніцтва на прыватнаўласніцкіх землях к часу выдання Літоўскага статута 1529 г.» [9]

Найбольш поўна гісторыю сельскай гаспадаркі і землеўладання на Беларусі ў XV—XVI стст. У. І. Пічэта асвятліў у манаграфіі «Гісторыя сельскай гаспадаркі і землеўладання на Беларусі (да канца XVI стагоддзя)», выдадзенай у 1927 г. У ёй разгледжаны стан землеўладання, яго формы, катэгорыі сельскага насельніцтва, запрыгоньванне і сацыяльна-эканамічнае становішча сялян, пытанні зямельнага права і аграрнай палітыкі дзяржавы. Развіццё сельскай гаспадаркі ён звязваў не толькі з уздзеяннем на яго гандлёвага капіталу, але і з развіццём вытворчых сіл, «палітычным панаваннем колаў, якія ў той або іншы момант гістарычнага жыцця беларускага народа трымалі ўладу ў сваіх руках, з павелічэннем шчыльнасці насельніцтва і попытам еўрапейскага рынку на беларускую сыравіну» [10].

У даследаванні становішча сялянства і яго сацыяльнай структуры У. І. Пічэта зыходзіў галоўным чынам з сістэмы прававых норм, якая дзейнічала ў Вялікім кня-

---

7 Пічэта У. І. Беларусь і Літва ў XV—XVI стст. М., 1961. С. 66.
8 Там жа. С. 81.
9 Запіскі аддзела гуманітарных навук. Кн. 3. Працы класа гісторыі. Мн., 1928. Т. 2.
10 Пічэта У. І. Гісторыя сельскай гаспадаркі і землеўладання на Беларусі (да канца XVI стагоддзя). Мн., 1927. С. 5—6.



*У. І. Пічэта,
правадзейны член
Інбелкульта*

стве Літоўскім, не пранікаючы ў сацыяльна-эканамічныя прычыны, з якіх яны выцякалі. Значную ролю ён адводзіў гандлёваму капіталу як фактару, які аказваў вялікі ўплыў на эвалюцыю аграрных адносін. Яму надавалася рашаючае значэнне ў асвятленні гісторыі ўзнікнення класаў і росце супярэчнасцей паміж імі. Уплывам гандлёвага капіталу У. І. Пічэта тлумачыў адрозненні ў структуры гаспадаркі і ўзроўнях эканамічнага развіцця ўсходніх і заходніх абласцей Беларусі ў XV—XVI стст. Прынёманскія вобласці, на яго думку, эканамічна былі больш развітымі, чым усходнія прыдняпроўскія і прыдзвінскія. Адсталасць усходніх абласцей (факт якой у кнізе не даказаны) аўтар тлумачыў слабым пранікненнем у эканоміку гандлёвага капіталу і тым, што асноўным заняткам насельніцтва тут заставаліся здабываючыя промыслы. У цэлым працы У. І. Пічэты, выдадзеныя ў перыяд дзейнасці Інбелкульта, адыгралі выключна важ-

ную ролю ў станаўленні і развіцці гістарычнай навукі ў БССР.

Распрацоўкай праблем аграрных адносін на Беларусі эпохі феадалізму займаліся вучні У. І. Пічэты — Ф. І. Забела і К. І. Кернажыцкі. Ф. І. Забела ў артыкуле «Панская гаспадарка на Беларусі і быт падданага сялянства ў другой палове XVIII ст.» [11] паказаў стан панскай і сялянскай гаспадарак, структуру землекарыстання і прававое становішча сялян. Аўтар прыйшоў да высновы, што ў гэты час панская гаспадарка несла сляды эканамічнага заняпаду, а сялянская гаспадарка была натуральнай, не звязанай з рынкам. К. І. Кернажыцкі ў працы «Гаспадарка староставаў на Беларусі і эканамічны стан іх насельніцтва ў другой палове XVIII сталецця» [12] па-новаму разгледзеў шэраг пытанняў гісторыі аграрных адносін і зрабіў навукова абгрунтаваныя вывады аб павелічэнні і ўмацаванні феадальнага прыгнёту ў другой палове XVIII ст., перавазе ў беларускіх староствах зерневых гаспадарак, больш развітым фальварку і больш цяжкім становішчы сялян на захадзе Беларусі ў параўнанні з яе ўсходняй часткай, паказаў маёмасную няроўнасць сярод сялян і пачатак сацыяльнага расслаення вёскі. К. І. Кернажыцкі адным з першых сярод беларускіх гісторыкаў шырока прымяніў аналіз статыстычных звестак для вывучэння стану сельскай гаспадаркі. Ён упершыню адзначыў, што ў сельскай гаспадарцы Беларусі ў канцы XVIII — першай палове XIX ст. адбыўся працэс разлажэння феадальна-прыгонніцкага ладу і складвання капіталістычных адносін. Не страціў навуковага значэння і артыкул К. І. Кернажыцкага «Брожаскі ключ 1639—1810 гг. Сацыяльна-эканамічны нарыс з гісторыі Бабруйшчыны» [13].

Праблематыцы беларускага феадальнага горада прысвечана некалькі артыкулаў А. В. Бурдзейкі, Д. І. Даўгялы, В. Д. Дружчыца, Ф. І. Забелы і інш. У іх разглядаюцца галоўным чынам пытанні арганізацыі гарадскога

[11] Запіскі аддзела гуманітарных навук. Кн. 3. Працы класа гісторыі. Мн., 1928. Т. 2.
[12] Там жа.
[13] Запіскі аддзела гуманітарных навук. Кн. 8. Працы класа гісторыі. Мн., 1929. Т. 3.

гандлю і рыначных сувязей гарадоў Беларусі ў XVI—XVII стст. (Віцебск, Магілёў). Коратка асвятляюцца гісторыя Навагрудка, Магілёва і Брэста XVI ст., структура іх гарадскога насельніцтва, павіннасці гараджан, гандаль, рамёствы. Гарадское кіраванне асвятлялася ў артыкулах В. Д. Дружчыца «Войты і іх улада ў беларускіх гаспадарскіх местах з магдэбургскім правам» і «Магістрат у беларускіх местах з магдэбургскім правам» [14]. У другім артыкуле аўтар прыйшоў да абгрунтаванага вываду аб тым, што магдэбургскае права, запазычанае ў Заходняй Еўропе, не давала гатовай формы для арганізацыі гарадской улады на Беларусі. Гэта права не проста пераймалася ў нямецкіх ці польскіх гарадах, а пэўным чынам выпрацоўвалася на месцы, пры актыўным удзеле гарадскога насельніцтва, якое імкнулася прыстасаваць запазычаныя формы права і арганізацыі ўлады да сваіх інтарэсаў.

У працах гісторыкаў Інбелкульта, якія выйшлі ў 20-я гады, разглядаліся таксама пытанні гісторыі культуры Беларусі перыяду феадалізму. Жыццю і дзейнасці беларускага першадрукара, вучонага-гуманіста і асветніка Францыска Скарыны прысвяцілі артыкулы М. Шчакаціхін «Гравюры, кніжныя аздобы ў выданнях Францыска Скарыны» і «Дрэварыты і арнамент у выданнях Скарыны», А. Ф. Харэвіч «Скарына і яго эпоха», М. В. Доўнар-Запольскі «Да юбілею беларускага кнігадруку» [15]. Развіццё беларускай культуры і асветы аўтары звязвалі з эканамічным уздымам, які меў месца ў XVI ст., з развіццём гарадской гаспадаркі, гандлю і гандлёвых сувязей.

У 20-я гады выйшлі з друку некалькі прац гістарыяграфічнага характару. Гэта артыкулы У. І. Пічэты «Скарыніяна», «Распрацоўка гісторыі літоўска-беларускага права XV—XVI сталеццяў у гістарыяграфіі», В. Д. Дружчыца «Беларускія месты ў гістарычнай літаратуры»,

---

[14] Запіскі аддзела гуманітарных навук. Кн. 3. Працы класа гісторыі. Мн., 1928. Т. 2; Запіскі аддзела гуманітарных навук. Кн. 8. Працы класа гісторыі. Мн., 1929. Т. 3.

[15] 400-лецце беларускага друку (1525—1925). Мн., 1925; Наш край. 1926. № 1; Полымя. 1928. № 7; Гістарычна-археалагічны зборнік (даклады і рэфераты 1926—1927 гг.). Мн., 1927. № 1.

якія былі па сутнасці першым вопытам гістарыяграфіі і крыніцазнаўства гісторыі Беларусі [16].

Аналізуючы працы аб Ф. Скарыне Т. В. Уладзімірава, Я. Ф. Карскага, М. І. Гарэцкага, М. А. Янчука, А. Харэвіча, Н. Бываеўскага, А. Станкевіча, М. С. Грушэўскага і іншых, У. І. Пічэта, як правіла, указваў на недахопы і нявырашаныя пытанні, якія патрабавалі больш паглыбленага вывучэння жыцця і дзейнасці беларускага першадрукара. Агульным недахопам усіх прац, як лічыў аўтар, было тое, што дзейнасць Скарыны ў іх не разглядалася на фоне сацыяльна-эканамічнага і культурна-рэлігійнага жыцця беларускага народа [17].

В. Д. Дружчыц у артыкуле «Беларускія месты ў гістарычнай літаратуры» крытыкаваў памылковыя погляды М. Ф. Уладзімірскага-Буданава аб ролі магдэбургскага права ў сацыяльна-эканамічным развіцці беларускага феадальнага горада, паказаў неабгрунтаванасць яго вываду аб тым, што быццам бы «нямецкае права як у Польшчы, так і Літве было прычынай узнікнення саслоўяў і аддзялення горада ад воласці». У артыкуле адзначалася таксама памылковае разуменне ролі магдэбургскага права Б. Антановічам, які бачыў у ім толькі адмоўныя бакі, якія прычынялі «шкоду» гарадам [18].

Гістарычныя камісіі Інбелкульта разгортвалі публікацыю гістарычных крыніц. У 1927—1928 гг. гісторыка-археалагічная камісія выдала тры тамы дакументаў пад назвай «Беларускі архіў» — пераважна матэрыялы былой канцылярыі Вялікага княства Літоўскага. Публікацыя гэтых дакументаў была важнай падзеяй у дзейнасці гістарычных камісій Інбелкульта. Яна садзейнічала разгортванню даследчай работы па гісторыі Беларусі феадальнага перыяду.

Гісторыкі Інбелкульта многа ўвагі ўдзялялі вывучэнню гісторыі Беларусі эпохі капіталізму, якая заставалася амаль зусім не вывучанай. Сацыяльна-эканамічнае развіццё Беларусі, стан сельскай гаспадаркі і прамысловас-

---

[16] 400-леццe беларускага друку; Полымя. 1926. № 8; Гістарычна-археалагічны зборнік. Мн., 1927. № 1.

[17] 400-леццe беларускага друку. С. 788.

[18] Гістарычна-археалагічны зборнік. Мн., 1927. № 1. С. 56—258.

ці, зямельныя адносіны, становішча сялян і рабочых у другой палове XIX — пачатку XX ст. разглядаліся ў даследаваннях М. В. Доўнар-Запольскага, Г. І. Гарэцкага, Р. А. Бонч-Асмалоўскага, М. В. Мялешкі і інш.

У манаграфіі «Народная гаспадарка Беларусі. 1861—1914 гг.» М. В. Доўнар-Запольскі адным з першых шырока выкарыстаў статыстычны матэрыял пры асвятленні развіцця сельскай гаспадаркі і прамысловасці. Абгрунтаванымі былі яго вывады аб панаванні ў 60—70-я гады перажыткаў феадалізму ў сельскай гаспадарцы ў выглядзе адробкаў, натуральнай гаспадаркі, цераспалосіцы, аб заняпадзе памешчыцкай гаспадаркі, якая не змагла прыстасавацца да новых умоў, і збядненні сялян. Паказана канцэнтрацыя зямельнай уласнасці ў руках гандляроў, мяшчан-капіталістаў і асабліва сельскай буржуазіі. У рабоце адзначаўся значны прагрэс у развіцці сельскай гаспадаркі ў 1900—1914 гг., укараненне ў эканоміку капіталу, суіснаванне старых, феадальных, змешаных і капіталістычных форм гаспадаркі. Па ацэнцы аўтара, рыначныя адносіны ў вёсцы ў канцы XIX — пачатку XX ст. мелі пераважнае значэнне. У земляробстве наглядаўся рост пасеваў тэхнічных культур і бульбы, вызначыўся жывёлагадоўчы напрамак гаспадаркі. Усё гэта ацэньвалася як зрух у бок інтэнсіфікацыі сельскай гаспадаркі.

У сваіх вывадах аб сацыяльна-эканамічных адносінах у беларускай вёсцы ў другой палове XIX ст. М. В. Доўнар-Запольскі абапіраўся на палажэнні У. І. Леніна аб развіцці капіталізму. Вывады, пісаў ён, у рэшце рэшт зводзяцца да росту гандлёвага земляробства і ўкаранення капіталістычных адносін у беларускай вёсцы, якія расслойвалі вёску на заможную вярхушку і пралетарскія нізы. У гэтым аўтар бачыў адну з прычын пагаршэння становішча сялян [19]. У цэлым жа ён не пазбавіўся ад уплыву народніцкай тэорыі аб працоўнай гаспадарцы. Да такога тыпу М. В. Доўнар-Запольскі адносіў гаспадаркі з плошчай зямлі да 100 дзесяцін. Ён перабольшваў забяспечанасць сялян зямлёй у выніку рэформы

[19] Доўнар-Запольскі М. В. Народная гаспадарка Беларусі. 1861—1914 гг. Мн., 1926. С. 147.

1861 г. і больш позняга продажу і куплі часткі памешчыцкай зямлі, разглядаючы гэта як перамогу працы над капіталам. Гэта скажала рэальную карціну размеркавання зямлі ў вёсцы і стварала памылковае ўяўленне аб вастрыні зямельнага пытання, аграрнай палітыцы царскага ўрада і сацыяльна-эканамічным становішчы сялян.

У прамысловасці Беларусі М. В. Доўнар-Запольскі правільна адзначаў перавагу ў другой палове XIX — пачатку XX ст. дробнай, у асноўным рамеснай, вытворчасці над фабрычнай па валавой прадукцыі і колькасці работнікаў. У рабоце паказаны прамысловы ўздым 90-х гадоў, вялікія зрухі ў развіцці прамысловасці ў 1909—1914 гг., канцэнтрацыя вытворчасці, рост фабрычна-заводскіх рабочых, узмацненне залежнасці дробных вытворцаў ад буйнога капіталу. Разам з тым перабольшваннем была характарыстыка гэтых гадоў як эпохі паскоранай індустрыялізацыі. Адным з вынікаў гэтага працэсу аўтар лічыў абвастрэнне супярэчнасцей паміж сялянствам і памешчыкамі, паміж працай і капіталам. Усё гэта, як заключаў М. В. Доўнар-Запольскі, набліжала сацыяльны выбух.

Пытанні гісторыі народнай гаспадаркі Беларусі з канца XIX ст. да сярэдзіны 20-х гадоў XX ст. знайшлі асвятленне і ў манаграфіі Г. І. Гарэцкага «Народны прыбытак Беларусі» (1926). Даследаванне пабудавана на аналізе вялікага статыстычнага матэрыялу. Аўтар раскрыў асноўныя рысы і асаблівасці эканамічнага развіцця Беларусі, зрабіў вывады і абагульненні, большасць з якіх захавала навуковае значэнне да нашага часу.

Асвятленне развіцця народнай гаспадаркі Беларусі ў манаграфіі пададзена ў параўнанні з развіццём эканомікі еўрапейскай часткі Расіі, што дазволіла раскрыць не толькі агульныя рысы, але і адрозненні. Г. І. Гарэцкі паказаў, што на Беларусі ў пачатку XX ст. праходзіў працэс інтэнсіфікацыі сельскай гаспадаркі, прычым у заходняй частцы хутчэй, чым на ўсходзе. Вынікам гэтага быў рост пасеваў тэхнічных культур і асабліва бульбы пры скарачэнні плошчы пасеваў збожжавых. Беларусь Г. І. Гарэцкі характарызаваў як рэгіён з інтэнсіўнымі формамі мясной жывёлагадоўлі і залежным ад яго паляводствам. Прычым большае значэнне жывёлагадоў-

ля мела ў заходніх губернях — Гродзенскай, Віленскай і Мінскай.

Характарызуючы стан прамысловасці, аўтар падкрэсліваў асабліва хуткае яе развіццё ў 1900—1913 гг. Адсюль ён робіць вывад, што «Беларусь трывала стала на шлях індустрыялізацыі». Асаблівасцю яе прамысловага развіцця было тое, што тут хутчэй развіваліся галіны, якія выкарыстоўвалі мясцовую, пераважна сельскагаспадарчую сыравіну. Адзначалася таксама перавага ў прамысловасці краю рамесна-саматужнай вытворчасці.

Манаграфіі М. В. Доўнар-Запольскага, Г. І. Гарэцкага, паасобныя артыкулы У. І. Пічэты, іншых аўтараў выкарыстоўваліся планавымі органамі рэспублікі пры распрацоўцы пытанняў развіцця народнай гаспадаркі.

Адметнае месца ў вывучэнні грамадска-палітычнага жыцця Беларусі ў 60-х гадах XIX ст., якое вялося ў Інбелкульце, заняло даследаванне гісторыі паўстання 1863 г. Пытанне аб характары, рухаючых сілах і гістарычным значэнні яго стала адным з найбольш вострых у гістарычнай навуцы. Руская манархічная гістарыяграфія бачыла ў паўстанні 1863 г. вынік антырускіх інтрыг польскіх памешчыкаў і каталіцкага духавенства. Польская буржуазна-нацыяналістычная гістарыяграфія ацэньвала яго як агульнанацыянальную барацьбу за незалежнасць Польшчы ў межах 1772 г. Пры гэтым беларускія і ўкраінскія землі разглядаліся як неад'емная частка Польшчы. Прадстаўнікі рэвалюцыйна-дэмакратычных сіл Расіі, а таксама К. Маркс, Ф. Энгельс, У. І. Ленін разглядалі паўстанне 1863 г. як прагрэсіўны нацыянальна-вызваленчы рух.

У другой палове 20-х гадоў гісторыі паўстання 1863 г. прысвяцілі шэраг прац гісторыкі Інбелкульта У. М. Ігнатоўскі, М. В. Мялешка, З. М. Васілеўскі і інш.

Найбольш значнай працай па гэтай праблеме з'явілася манаграфія У. М. Ігнатоўскага «1863 год на Беларусі» (1930). Гэта першае ў савецкай гістарыяграфіі буйное даследаванне гісторыі паўстання 1863 г. Манаграфія напісана з пазіцый марксісцкай метадалогіі і вызначалася ўсебаковасцю асвятлення пастаўленых пытанняў. Асноўныя яе вывады і абагульненні не страцілі навуковага значэння і да цяперашняга часу.

У. М. Ігнатоўскі адзначаў, што паўстанне ставіла мэтаю ў першую чаргу стварэнне незалежнай Польскай дзяржавы. Яно паставіла таксама пытанне аб палітычным і сацыяльным вызваленні Беларусі, Літвы і Украіны. Аўтар падкрэсліваў словы К. Маркса аб тым, што Польшча першая ў Еўропе абвясціла аб неабходнасці аграрнай рэвалюцыі.

У манаграфіі акрэслены сацыяльны склад паўстанцаў. Асноўную іх частку складалі дробная, збяднелая шляхта, разначынная інтэлігенцыя, вучнёўская моладзь, дробная буржуазія горада і вёскі, рамеснікі і рабочыя, частка сялян. Яны ўваходзілі ў лагер чырвоных. Аўтар падкрэсліваў ролю шматлікай беззямельнай і малазямельнай шляхты, якая, з аднаго боку, зліваласся з сялянствам, з другога — зближалася з разначыннай інтэлігенцыяй, гарадской і сельскай дробнай буржуазіяй. Дробная шляхта вылучыла са сваіх радоў тую разначынную інтэлігенцыю, якая стала на чале паўстання. Рабочыя яшчэ не былі асобнай сацыяльнай сілай і ішлі на паўстанне ў складзе рэвалюцыйнай дробнай буржуазіі. Большая частка сялян заставалася абыякавай, частка выступіла супраць паўстання, якое яна лічыла шляхецкай, панскай справай.

У. М. Ігнатоўскі паказаў, што чырвоныя ў сваім левым крыле ставілі мэтаю шляхам аграрнай і палітычнай рэвалюцыі стварыць дэмакратычную рэспубліку, ліквідаваць прыгонніцтва, саслоўныя абмежаванні і прывілеі, надзяліць сялян зямлёй. К. Каліноўскі і яго паплечнікі выступалі з патрабаваннем дзяржаўнай самастойнасці Літвы і Беларусі. Чырвоныя лічылі паўстанне адзіным сродкам, якое можа прывесці да пастаўленых мэт. У. М. Ігнатоўскі адзначаў неаднароднасць чырвоных, іх дробнабуржуазную сутнасць. «Нягледзячы на вельмі «левыя» лозунгі,— адзначаў ён,— на практыцы яны выявілі палавінчатасць і нерашучасць, ішлі на кампрамісы з белымі» [20].

Разглядаючы сацыяльны характар паўстання 1863 г., У. М. Ігнатоўскі абапіраўся на палажэнні і ацэнкі, дадзеныя К. Марксам, Ф. Энгельсам і У. І. Леніным поль-

---

[20] Ігнатоўскі У. М. 1863 год на Беларусі. Мн., 1930. С. 120.

скім паўстанням 40—60-х гадоў XIX ст. як прагрэсіўным, вызваленчым рухам, якія мелі важнае значэнне для дэмакратычнай рэвалюцыі на Захадзе, для барацьбы з царызмам. У. М. Ігнатоўскі зрабіў абгрунтаваныя вывады наконт сацыяльнага характару і рухаючых сіл паўстання 1863 г., яго аб'ектыўнай накіраванасці на ажыццяўленне буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі. «Паўстанне 1863 г. па свайму характару было не рэакцыйна-шляхецкім рухам, а рухам прагрэсіўным, буржуазна-дэмакратычным» [21],— падкрэслівае ён.

Навуковую значнасць мела таксама і ацэнка паўстання 1863 г. для паўднёвай часткі ахопленай ім тэрыторыі як нацыянальна-дэмакратычнага і рэвалюцыйнага, таму што яна грунтавалася на разуменні прагрэсіўнасці нацыянальна-дэмакратычнага руху ў перыяд буржуазных рэвалюцый. Правільную характарыстыку даў У. М. Ігнатоўскі ідэйным поглядам і палітычным пазіцыям К. Каліноўскага як стойкага рэвалюцыянера і паслядоўнага дэмакрата, рашучага прыхільніка аграрнай рэвалюцыі і дэмакратычнай рэспублікі, сацыяльнага і нацыянальнага вызвалення.

Пытанні развіцця сялянскага і рабочага руху ў другой палове XIX — пачатку XX ст. і ў гады першай расійскай рэвалюцыі знайшлі асвятленне ў артыкулах У. І. Пічэты, І. Барашкі, М. В. Мялешкі, І. А. Віткоўскага, Я. Л. Дылы, З. Ф. Жылуновіча.

У 1928 г. выйшлі «Нарысы па гісторыі рэвалюцыйнага руху ў Беларусі (1863—1917 гг.)» С. Х. Агурскага, у якіх паказаны асноўныя моманты рабочага і сялянскага руху, дзейнасць арганізацыі РСДРП, падзеі рэвалюцыі 1905—1907 гг., класавая барацьба ў перыяд паміж дзвюма рэвалюцыямі.

Работа стваралася на абмежаваным фактычным матэрыяле. У ёй разам з правільнымі было шмат памылковых ацэнак і вывадаў. Ацэнкі сацыяльнага характару і рухаючых сіл паўстання 1863 г. па зместу аказаліся блізкімі да ацэнак афіцыйных колаў самадзяржаўя, рускай манархічнай гістарыяграфіі. Так, аўтар памылкова сцвярджаў, што «паўстанне было справай польскіх па-

[21] Ігнатоўскі У. М. 1863 год на Беларусі. С. 7.

ноў...», арганізавана памешчыкамі і духавенствам, што яно «праходзіла пад чыста шавіністычнымі лозунгамі» і «нават левыя элементы паўстанцкага руху былі больш нацыяналістамі, чым рэвалюцыянерамі» [22].

С. Х. Агурскі па сутнасці не бачыў удзелу ў паўстанні ні народных нізоў, ні дэмакратычных пластоў шляхты, ні левага рэвалюцыйна-дэмакратычнага крыла чырвоных на чале з К. Каліноўскім, ні іх радыкальных сацыяльных і нацыянальна-дэмакратычных патрабаванняў. Памылковым з'яўляецца меркаванне аб тым, што «Мужыцкая праўда» хоць і друкавалася на беларускай мове, але была польскім выданнем, адзіная задача якога — уцягненне беларускіх сялян у барацьбу за інтарэсы кіраўнікоў паўстання і за аднаўленне Польшчы ў межах 1772 г. С. Х. Агурскі груба сказіў ролю К. Каліноўскага ў паўстанні 1863 г., яго палітычныя пазіцыі як рэвалюцыйнага дэмакрата, сцвярджаючы, што ён не быў ні рэвалюцыянерам, ні прадстаўніком беларускага народа. Памылковай была і агульная ацэнка сацыяльнага характару паўстання 1863 г. як шляхецкага, дваранскага. С. Х. Агурскі не зразумеў сутнасці паўстання 1863 г. і польскага вызваленчага руху ў канцы XVIII — 60-х гадах XIX ст. увогуле і беспадстаўна крытыкаваў У. М. Ігнатоўскага.

Разглядаючы развіццё рабочага руху, С. Х. Агурскі справядліва адзначыў, што заснавальнікі Бунда мелі мэтай адасабленне яўрэйскіх рабочых ад неяўрэйскіх, указваў на інтэнсіўную працу сярод яўрэяў розных сіяністскіх груп. Разам з тым ён спрабаваў звязаць пачатак сістэматычнай працы марксісцкіх гурткоў на Беларусі ў канцы 80-х гадоў толькі з яўрэйскімі рабочымі, а новага этапу рэвалюцыйнага руху ў краі ў 90-я гады — са стварэннем яўрэйскіх сацыял-дэмакратычных гурткоў у Вільні. Аўтар перабольшваў ролю Бунда ў аб'яднанні сацыял-дэмакратычных груп розных гарадоў Расіі і ў рэвалюцыйным руху ў заходніх губернях. У той жа час ён не ўлічваў значэння дзейнасці Беларускай сацыялістычнай грамады.

Шэраг прац вучоных Інбелкульта прысвечаны гісто-

---

[22] Агурскі С. Х. Нарысы па гісторыі рэвалюцыйнага руху ў Беларусі (1863—1917 гг.). Мн., 1928. С. 15, 21.

рыі беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, ролі ў ім дробнабуржуазных нацыянальных партый, гістарычнаму лёсу інтэлігенцыі, развіццю беларускай культуры і асветы. Гэта артыкулы З. Ф. Жылуновіча, М. Я. Байкова, І. А. Віткоўскага, У. І. Пічэты, З. Васілеўскага, У. М. Ігнатоўскага, М. В. Мялешкі, М. І. Каспяровіча, А. А. Шлюбскага.

У працах гісторыкаў Інстытута беларускай культуры, апублікаваных у 20-я гады, паказаны цяжкія ўмовы, у якіх знаходзілася беларуская культура, стан народнай адукацыі, палітычныя пазіцыі беларускай інтэлігенцыі. Аўтары падкрэслівалі вялікі ўплыў рэвалюцыі 1905—1907 гг. на развіццё нацыянальна-вызваленчага руху і палітычныя пазіцыі беларускай інтэлігенцыі, адзначалі рост прагрэсіўных тэндэнцый у развіцці беларускай культуры, узмацненне радыкальных элементаў сярод інтэлігенцыі. Разам з тым даваліся памылковыя ацэнкі некаторых падзей, партый і арганізацый, у прыватнасці БСГ, народнікаў і эсэраў як сацыялістычных партый без агаворак і ўказанняў на іх дробнабуржуазны характар. У сувязі з гэтым іншы раз перабольшваўся ўплыў гэтых партый на масы, іх рэвалюцыйнасць.

З. Ф. Жылуновіч у артыкуле «Два бакі беларускага руху»[23] зыходзіў з таго, што беларуская нацыя на працягу стагоддзяў была прадстаўлена малазямельным сялянствам і часткова мястэчковай рамеснай беднатой. Малакалькаснасць і слабасць беларускай буржуазіі аўтар прыняў за яе адсутнасць. Заможныя класы, на яго погляд, былі толькі з іншых нацыянальнасцей. У артыкуле «Беларуская інтэлігенцыя ў гістарычным аспекце»[24] аўтар адзначыў, што рэвалюцыя 1905—1907 гг., падняўшы на барацьбу рабоча-сялянскія масы, вылучала з іх кадры інтэлігенцыі для культурнай і палітычнай работы. Ён бачыў і размежаванне беларускай інтэлігенцыі на дзве плыні — радыкальна-дэмакратычную і ліберальна-шляхецкую. Асноўным рухавіком грамадскай думкі, па яго словах, з'яўлялася радыкальна-дэмакратычная, рабоча-сялянская інтэлігенцыя.

---

[23] Полымя. 1923. № 3—4.
[24] Полымя. 1926. № 6.



*Прэзідыум гісторыка-археалагічнай секцыі Інбелкульта. Злева направа: І. А. Сербаў, М. І. Мароз, В. Д. Дружчыц, Д. І. Даўгяла. 1926 г.*

Пытанні нацыянальнай палітыкі царызму на Беларусі, развіццё грамадскай, галоўным чынам дваранскай і буржуазнай думкі, яе сацыяльныя асновы, пытанні беларускага нацыянальнага руху асвятляліся ў манаграфіі А. І. Цвікевіча «Западнорусизм». Нарысы з гісторыі грамадскай думкі на Беларусі ў XIX — пачатку XX ст.» У мінулым адзін з кіраўнікоў партыі беларускіх эсэраў, А. І. Цвікевіч у 1924—1925 гг. узначальваў эмігранцкі «ўрад» БНР у Празе. Зразумеўшы бесперспектыўнасць згодніцкай палітыкі, пад уплывам гаспадарчага, культурнага і нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва ў Савецкай Беларусі прыняў прапанову СНК БССР аб роспуску эмігранцкага ўрада і ў 1926 г. пераехаў у Мінск, пачаў працаваць вучоным сакратаром Інбелкульта, г. зн. пайшоў на супрацоўніцтва з савецкай уладай. Аднак у ідэалагічным плане А. І. Цвікевіч заставаўся ў асноўным на нацыянал-дэмакратычных пазіцыях.

Манаграфія вызначалася багаццем і разнастайнасцю

крыніц, грунтоўнасцю іх аналізу і не страціла навукова-га значэння да нашага часу. У ёй глыбока і ўсебакова раскрыта сутнасць ідэалогіі і палітыкі так званага «заднорусизма», дзейнасць яго прыхільнікаў і прапагандыстаў у другой палове XIX — пачатку XX ст., вызначаны сацыяльныя карані гэтай плыні грамадска-палітычнага руху, яе ўзаемаадносіны з царскай бюракратыяй. А. І. Цвікевіч выказаў шэраг слушных думак аб эканамічным становішчы Беларусі, русіфікатарскай палітыцы царызму, пазіцыях чыноўнікаў і духавенства, пазіцыях і ролі мясцовай шляхты ў беларускім нацыянальным руху, аб тым, што пачынальнікамі і вядучай сілай у ім была беларуская інтэлігенцыя, што беларускае кулацтва і гарадская дробная буржуазія сталі апорай самадзяржаўя і яго ідэалогіі.

Разам з тым у манаграфіі выказваліся памылковыя ці спрэчныя ўяўленні, напрыклад аб тым, што грамадскасць Беларусі ў мінулым нібыта схілялася пераважна да Польшчы. Уніяцтва ён называў старой мясцовай «мужыцкай» верай, не зважаючы на тое, што яно было навязана беларускаму народу, што ва ўмовах Рэчы Паспалітай і да 30-х гадоў XIX ст. служыла сродкам акаталічвання, а з ім і паланізацыі беларускага насельніцтва.

Абагульняючае асвятленне гісторыі Беларусі перыяду разлажэння феадальна-прыгонніцкіх адносін і эпохі капіталізму дадзена ў кнізе У. М. Ігнатоўскага «Гісторыя Беларусі ў XIX — пачатку XX сталецця», апублікаванай у 1926 і 1928 гг. Кніга выдадзена на аснове курса лекцый для студэнтаў БДУ, які чытаў Ігнатоўскі ў 1922—1925 гг.

Разглядаючы гэтую і іншыя працы У. М. Ігнатоўскага, нельга не ўлічваць эвалюцыю яго ідэйных і палітычных пазіцый. У. М. Ігнатоўскі прайшоў складаны шлях ад рэвалюцыйнага дэмакрата, які вагаўся паміж сацыялізмам і нацыянал-дэмакратызмам, да сацыяліста і камуніста, члена РКП(б) з 1920 г. Гэтым поглядам і палітычным пазіцыям у цэлым адпавядалі і метадалагічныя прынцыпы навуковых прац У. М. Ігнатоўскага. Калі «Кароткі нарыс гісторыі Беларусі» першага, другога і трэцяга выданняў быў напісаны ў асноўным з пазіцый ліберальна-буржуазнай гістарыяграфіі, калі гэта ў пэўнай меры выя-

вілася і ў чацвёртым выданні кнігі пры значным зруху ў бок класавага падыходу да гісторыі, то працы У. М. Ігнатоўскага, якія былі падрыхтаваны і выйшлі ў сярэдзіне і ў другой палове 20-х гадоў, напісаны ў цэлым з пазіцый марксісцкай метадалогіі.

У кнізе «Гісторыя Беларусі ў XIX — пачатку XX стагоддзя» У. М. Ігнатоўскі змястоўна паказаў палітыку царызму, грамадска-палітычнае жыццё, рэлігійныя адносіны, праявы нацыянальна-культурнага руху на Беларусі ў першай палове XIX ст. Ён крытыкаваў ідэалізацыю буржуазнымі гісторыкамі сялянскай рэформы 1861 г. У кнізе правільна вызначаліся яе прычыны. Сама рэформа разглядалася як уступка былога пана-прыгонніка новаму пану — прадпрымальніку. Сяляне павінны былі заплаціць за зямлю даражэй, чым яна каштавала, а атрымалі зямлі менш, чым мелі да рэформы. Юрыдычна вызвалены селянін з эканамічнага боку быў моцна прывязаны да памешчыка, у руках якога знаходзілася ўлада над селянінам.

Разглядаючы народніцтва канца 60—70-х гадоў на Беларусі, У. М. Ігнатоўскі лічыў, што сваімі каранямі яно было звязана з рускім народніцтвам і мела рэвалюцыйны характар. Была выказана думка, што ў 80—90-х гадах народніцтва на Беларусі стала таксама беларускім нацыянальным рухам.

Пазней крытыкі У. М. Ігнатоўскага пісалі, што ён не бачыў развіцця капіталізму, фарміравання буржуазіі і пралетарыяту. На самой справе гэтыя пытанні, хоць і фрагментарна, асвятляліся ў яго працах, у тым ліку ў «Гісторыі Беларусі ў XIX — пачатку XX стагоддзя». Аўтар адзначаў расслаенне беларускай вёскі, умацаванне гаспадаркі заможных сялян і рост батрацтва, нацыянальны прыгнёт і палітычнае бяспраўе народа, цяжкае становішча беларускай культуры, народнай адукацыі.

Асвятляючы развіццё рабочага і сялянскага руху ў рэвалюцыі 1905—1907 гг., У. М. Ігнатоўскі адзначаў праяўленні салідарнасці рабочых Беларусі з пралетарыятам Пецярбурга, іншых прамысловых цэнтраў Расіі, уздым барацьбы рабочага класа вясной і восенню 1905 г., уплыў яго на сялянскі рух, упартасць барацьбы сялян. Галоўную ролю ў сялянскім руху, лічыў ён, адыгрывалі батра-

кі, за якімі ішлі беднякі і серадцякі. Заможныя сяляне са шляхтай варожа адносіліся да рэвалюцыі.

Паказваючы дзейнасць дробнабуржуазных дэмакратычных партый, аўтар не даў яе крытычнай ацэнкі ў рэвалюцыйным руху. У. М. Ігнатоўскі першы звярнуў увагу на значэнне замены ў праграме БСГ лозунга «Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!» на лозунг «Працоўная бедната ўсіх краін, яднайся!» як адзнаку агульнасялянскага, дробнабуржуазнага характару БСГ.

У. М. Ігнатоўскі падкрэсліваў дэмакратычны ў аснове характар беларускай культуры ў XIX — пачатку XX ст. Ён лічыў, што беларуская працоўная інтэлігенцыя фарміравалася з малазямельнай шляхты, сялян і рамеснікаў, і адзначаў, што многія з яе прадстаўнікоў з'яўляліся народнікамі.

Газету «Наша доля» ён абгрунтавана характарызаваў як радыкальны нацыянальна-дэмакратычны орган. Адносна «Нашай нівы» У. М. Ігнатоўскі пісаў, што яна больш правая, чым «Наша доля», што «з класавым накірункам яна зусім парвала і зышла на глебу адзінага нацыянальнага фронту... стаўшы проста ліберальнай газетай»[25]. Гэтую ацэнку пасля У. М. Ігнатоўскага так ці інакш паўтаралі многія гісторыкі. Але мала хто бачыў іншы бок газеты. «Трэба ўсё-такі прызнаць,— пісаў ён,— што «Наша ніва»... часта з ліберальнай глебы зыходзіла ў бок народніцкага дэмакратызму..., схілялася да службы адным прыгнечаным мужыкам»[26]. Аўтар падкрэсліваў важную ролю газеты ў развіцці беларускай культуры, прагрэсіўнай літаратуры, таму што ў ёй шырока друкаваліся творы Я. Купалы, Я. Коласа, беларускіх паэтаў рэвалюцыйна-дэмакратычнага напрамку.

Савецкі перыяд гісторыі Беларусі, падзеі Кастрычніцкай рэвалюцыі і першых гадоў савецкай улады асветлены ў кнізе толькі ў агульных рысах. Адзначалася ініцыятыва Мінскага Савета ў ажыццяўленні рэвалюцыі на Беларусі. Пазіцыя Усебеларускага кангрэса характарызавалася як спроба заняць сярэдняе месца паміж рэва-

[25] Ігнатоўскі У. М. Гісторыя Беларусі ў XIX — пачатку XX сталецця. Мн., 1925. С. 215.
[26] Там жа. С. 217.

люцыяй і контррэвалюцыяй, стаць на платформу адзінага нацыянальнага фронту. Як контррэвалюцыйную характарызаваў аўтар дзейнасць рады БНР і зрабіў вывад пра яе адрыў ад працоўных мас.

Не з усімі ацэнкамі, дадзенымі ў кнізе, можна пагадзіцца, але тое, што У. М. Ігнатоўскі ўпершыню зрабіў сістэматычны нарыс гісторыі Беларусі XIX — пачатку XX ст., мела для таго часу важнае навуковае і грамадска-палітычнае значэнне. Кніга стала па сутнасці першым падручнікам па гісторыі Беларусі XIX — пачатку XX ст.

Вывучэнне савецкага перыяду гісторыі Беларусі ў Інстытуце беларускай культуры пачалося з 1922 г. Асноўная ўвага ўдзялялася даследаванню класавай барацьбы ўвогуле, Кастрычніцкай рэвалюцыі, гісторыі беларускага нацыянальнага руху, Беларускай сацыялістычнай грамады, дзейнасці Беларускага нацыянальнага камісарыята і беларускіх секцый РКП(б), утварэння БССР, барацьбы супраць нямецкай і польскай акупацыі. Гэта былі першыя крокі ў вывучэнні гісторыі Беларусі савецкага перыяду. Працы абапіраліся на ўласны вопыт аўтараў не менш, чым на дакументы і матэрыялы. Шмат што было няясным, дапускаліся памылкі. Часта працы вызначаліся фрагментарнасцю і апісальніцтвам.

Першым у Інбелкульце з працамі па гісторыі Кастрычніцкай рэвалюцыі і ўтварэння БССР выступілі З. Ф. Жылуновіч і У. М. Ігнатоўскі. Не ўсе гістарычныя працы З. Ф. Жылуновіча напісаны на аднолькавым узроўні. Лепшымі з іх былі артыкулы па гісторыі рабочага руху, культуры, інтэлігенцыі і беларускага нацыянальна-вызваленчага руху. Наогул працы З. Ф. Жылуновіча адзначаюцца публіцыстычнасцю, палемічнай завостранасцю і палітычнай накіраванасцю. Напісаны яны з рэвалюцыйных пазіцый, у наступальным духу і накіраваны супраць старога ладу, памешчыкаў і буржуазіі. Ён выступаў рашучым паборнікам пашырэння эканамічнага і культурнага супрацоўніцтва, умацавання палітычнага і дзяржаўнага саюза Савецкай Беларусі з Расійскай Федэрацыяй, адзінства беларускага народа з рускім, украінскім і іншымі народамі краіны ў барацьбе за стварэнне новага грамадства.

У артыкулах «Люты—Кастрычнік на Беларусі» (Зб.

«Беларусь»), «З'езд беларускіх нацыянальных арганізацый 25 сакавіка 1917 г.» (Полымя. 1925. № 6) і іншых З. Ф. Жылуновіч адным з першых паказаў палітычную дыферэнцыяцыю ў беларускім нацыянальным руху, якая выявілася перш за ўсё ва ўзнікненні левага рэвалюцыйна-дэмакратычнага крыла ў БСГ. Аднак ён перабольшваў зрухі гэтай партыі ўлева ў сярэдзіне 1917 г., яе радыкалізм. У артыкулах «Уступамі да Акцябра» (Полымя. 1923. № 5), «Ад Кастрычніка 1917 да лютага 1918 г.» (Полымя. 1924. № 1) З. Ф. Жылуновіч паказаў стварэнне ў кастрычніку 1917 г. у Петраградзе Беларускай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі, якая прыняла праграму і статут РСДРП(б), значэнне гэтай падзеі, яе ўплыў на ўсе радыкальныя змены беларускага нацыянальна-вызваленчага руху. Пры гэтым раскрывалася барацьба радыкальна-дэмакратычных сіл супраць нацыяналістычнага цэнтра ў Мінску, які стаў на контррэвалюцыйныя пазіцыі, паказвалася ўтварэнне Беларускага нацыянальнага камісарыята і беларускіх секцый РКП(б) для аб'яднання рэвалюцыйных сіл і стварэння Беларускай Савецкай Рэспублікі.

У. М. Ігнатоўскі перамогу Кастрычніцкай рэвалюцыі на Беларусі звязваў з распаўсюджаннем бальшавіцкіх настрояў сярод салдат Заходняга фронту. У яго публікацыях раскрываліся адносіны да Кастрычніцкай рэвалюцыі беларускіх нацыянальных арганізацый, складанасці і цяжкасці ў вырашэнні беларускага нацыянальнага пытання ў 1917—1920 гг. Важнымі і ў наш час з'яўляюцца ацэнкі У. М. Ігнатоўскім партызанскага руху на тэрыторыі Беларусі, акупіраванай войскамі буржуазна-памешчыцкай Польшчы ў 1919 — першай палове 1920 г., дзейнасць Беларускай камуністычнай арганізацыі (БКА), якую ён стварыў і ўзначальваў. Аўтар адзначаў, што падпольная барацьба ў гарадах насіла выключна палітыка-сацыяльны, а на вёсцы — беларускі нацыянальна-вызваленчы характар.

Вывады аб формах і сувязі вырашэння нацыянальнага пытання з Кастрычніцкай рэвалюцыяй У. М. Ігнатоўскі выклаў у артыкуле «Сучасная вялікая рэвалюцыя і нацыянальнае пытанне», апублікаваным у канцы 1922 г. у часопісе «Полымя». Раскрываючы сутнасць нацыяналь-

най палітыкі буржуазных урадаў і партый, У. М. Ігнатоўскі сцвярджаў: «Не можа быць адзінага фронту буржуазіі з пралетарыятам, калі ідзе барацьба прыгнечаных і эксплуатаваных з імперыялізмам». Гэтыя выказванні сведчаць, што ўжо ў той час У. М. Ігнатоўскі ў асноўным перайшоў і ў галіне навуковай творчасці на пазіцыі марксісцкай метадалогіі і пазнейшыя абвінавачванні яго з боку сталінскага рэжыму ў нацыянал-дэмакратызме не адпавядалі сапраўднасці.

Пераход да новай эканамічнай палітыкі, аднаўленне народнай гаспадаркі, зямельная і нацыянальная палітыка Савецкай дзяржавы, утварэнне СССР, пазіцыі беларускай інтэлігенцыі ў першай палове 20-х гадоў, культурнае будаўніцтва асвятляліся ў артыкулах У. М. Ігнатоўскага, Я. П. Каранеўскага, С. М. Некрашэвіча, М. В. Доўнар-Запольскага, А. В. Баліцкага і інш.

У артыкуле «Беларуская інтэлігенцыя ў гістарычным разрэзе» (Полымя. 1926. № 6) З. Ф. Жылуновіч адным з першых зрабіў спробу паказаць гістарычны лёс беларускай інтэлігенцыі ў перыяд Кастрычніцкай рэвалюцыі, першыя гады савецкай улады і ў аднаўленчы перыяд. Ён у цэлым праўдзіва асвятліў палітычныя пазіцыі беларускай інтэлігенцыі, яе асноўныя плыні, адносіны да сацыялістычнай рэвалюцыі і савецкай улады, паглыбленне палітычнай дыферэнцыяцыі, контррэвалюцыйную ролю беларускіх нацыяналістаў, дзейнасць рэвалюцыйна-дэмакратычных і левасацыялістычных сіл у кастрычніку 1917 г.— лютым 1918 г., іх барацьбу супраць буржуазіі і нацыяналістычных груповак.

Змены ідэйна-палітычных пазіцый інтэлігенцыі ў 20-я гады З. Ф. Жылуновіч разглядаў у цеснай сувязі з сацыяльна-эканамічнымі пераўтварэннямі, разгортваннем культурнага будаўніцтва, умацаваннем савецкай улады. Ён падкрэсліваў, што ў Савецкай Беларусі адбываецца велізарны працэс творчага, культурнага, эканамічнага і дзяржаўнага будаўніцтва, няспыннае развіццё літаратуры, тэатра, выдавецкай справы, распаўсюджванне беларускіх школ [27].

Палітычна востра і ў асноўным правільна характа-

[27] Полымя. 1926. № 6. С. 92.

рызаваў З. Ф. Жылуновіч пазіцыі розных слаёў беларускай інтэлігенцыі ў аднаўленчы перыяд. «Ідэі нацыянал-дэмакратызму,— пісаў ён,— не чужыя некаторай частцы беларускай інтэлігенцыі». Тая частка, якая вярнулася з-за граніцы, «не магла канчаткова аформіць свой светапогляд. Мінулае аставіла ў ёй глыбокі след» [28]. Другая частка інтэлігенцыі, якая эміграцыю перажыла дома, «таксама магла захаваць месца ў сваім нутры для незадаволенасці» [29]. «Але кола апошняй зусім не шырокае,— адзначаў аўтар.— Паступова яно звужаецца і на працягу некаторага часу зусім знікне» [30]. Важнейшую ўмову гэтага працэсу аўтар бачыў у тым, што «мацнее і мацнее беларуская дзяржаўнасць, эканамічны дабрабыт, культурнае будаўніцтва, якія складаюць аснову справы Кастрычніцкай рэвалюцыі», што «рост маладой савецкай інтэлігенцыі ідзе хуткім тэмпам» [31]. Гэтыя вывады мелі пад сабой сур'ёзную аснову.

Пераход навучання ў агульнаадукацыйных школах, вышэйшых і сярэдніх навучальных установах, справаводства ў дзяржаўных і іншых установах, работы культурна-асветных устаноў на беларускую мову, асаблівасці і цяжкасці гэтага працэсу знайшлі адлюстраванне ў артыкуле члена Інбелкульта наркама асветы БССР А. В. Баліцкага «Беларусізацыя культурна-асветных устаноў» (Полымя. 1926. № 4).

Рознабаковы матэрыял пра культурнае будаўніцтва ў БССР, работу агульнаадукацыйнай школы, ліквідацыю непісьменнасці, стварэнне культурна-асветных устаноў, развіццё выдавецкай справы ў БССР быў надрукаваны ў артыкулах Я. Каранеўскага «Культурнае будаўніцтва», С. Некрашэвіча «Становішча культурна-асветных устаноў пры НЭПе» (Зб. «Беларусь») і іншых аўтараў.

Гісторыкі Інбелкульта ўжо ў другой палове 20-х гадоў пачалі вывучаць і асвятляць нацыянальна-дзяржаўнае будаўніцтва ў рэспубліцы, утварэнне Савецкага Саюза і ўваходжанне ў яго склад Савецкай Беларусі. Рас-

---

[28] Полымя. 1926. № 6. С. 96.
[29] Там жа. С. 97.
[30] Там жа.
[31] Там жа.

крываючы значэнне ўтварэння СССР для развіцця міжнацыянальных адносін і нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва ў многанацыянальнай Савецкай дзяржаве, У. М. Ігнатоўскі, які сам падпісаў Саюзны дагавор 1922 г. у складзе дэлегацыі ЦВК БССР, у артыкуле «Камуністычная партыя і беларускае пытанне» адзначаў: «Устанавілася класавая салідарнасць рэвалюцыйных працоўных мас Беларусі паміж сабой і з працоўнымі масамі ўсяго свету» [32]. Далей ён адзначаў: «Утварэнне Саюза больш поўна і дакладна афарміла ўзаемаадносіны саюзных рэспублік. Была створана трывалая аснова для рэальнага ажыццяўлення нацыянальнай палітыкі» [33].

Пэўная работа праведзена гістарычнай камісіяй польскага аддзела Інбелкульта. У задачу камісіі ўваходзілі выяўленне і апрацоўка матэрыялаў у архівах Масквы і Ленінграда па пытаннях польска-беларускіх адносін у XIX—XX стст. Пры гэтым былі выяўлены матэрыялы, якія мелі дачыненне да паўстання 1863 г. на тэрыторыі Мінскай губерні. У 1927 г. яны апублікаваны ў зборніку «1863 год на Міншчыне». У тым жа годзе выйшаў зборнік артыкулаў «Заходняя Беларусь», дзе адлюстроўваліся эканамічнае становішча, сацыяльны і нацыянальны прыгнёт працоўных пад уладай польскіх памешчыкаў і буржуазіі. У 1928 г. з'явілася кніга «Заходняя Беларусь на лаве падсудных» — аб судовым працэсе над 56 кіраўнікамі і актывістамі Беларускай сялянска-рабочай грамады, які адбыўся ў лютым—маі 1928 г. Тамсама былі апублікаваны артыкулы і брашуры У. І. Пічэты, У. М. Ігнатоўскага, Г. І. Гарэцкага, С. І. Будзінскага, І. А. Вітхоўскага і іншых пра эканамічнае становішча і класавую барацьбу ў Польшчы, нацыянальны склад насельніцтва і развіццё нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі ў 1921—1927 гг. Адсутнасць зыходных архіўных матэрыялаў абмежавала гэтыя даследаванні. Аднак яны мелі палітычнае значэнне, дапамагалі працоўным БССР зразумець гістарычныя працэсы ў заходняй частцы Беларусі.

Супрацоўнікі гістарычнай камісіі і камісіі па вывучэн-

---

[32] Беларусь. Мн., 1924. С. 241.
[33] Там жа. С. 237, 241—242.

ню рэвалюцыйнага рабочага руху яўрэйскага аддзела Інбелкульта займаліся зборам, апрацоўкай і падрыхтоўкай да друку матэрыялаў па сацыяльнай гісторыі яўрэяў на Беларусі і ў Літве. У 1924—1926 гг. Л. І. Мышкоўскі, Ш. Рамбах, Г. С. Аляксандраў апублікавалі некалькі артыкулаў і брашур, у якіх асвятлялася становішча яўрэяў на Беларусі ў XIX — пачатку XX ст., стан асветы сярод яўрэйскага насельніцтва, яго ўдзел у рэвалюцыйным руху. У некаторых з гэтых прац мелі месца праявы яўрэйскага нацыяналізму, атрыманага ў спадчыну ад Бунда.

Адной з арганізацыйных форм апрабацыі вынікаў навуковай работы гістарычных камісій Інстытута беларускай культуры было правядзенне рэспубліканскіх, удзел ва ўсесаюзных і міжнародных навуковых канферэнцыях. Важнае значэнне ў гэтых адносінах меў Першы з'езд даследчыкаў беларускай археалогіі і археаграфіі (17—18 студзеня 1926 г., Мінск). З'езд намеціў напрамкі далейшага вывучэння гісторыі і археалогіі Беларусі. У 1928 г. А. М. Ясінскі і У. І. Пічэта ўдзельнічалі ў рабоце міжнароднага кангрэса гісторыкаў у Осла і выступілі з дакладамі. Формай апрабацыі навуковых работ гісторыкаў служылі даклады і паведамленні на інстытуцкіх канферэнцыях, агульных сходах гістарычных камісій і гісторыка-археалагічнай секцыі. Толькі ў 1928/29 акадэмічным годзе прачытаны 52 навуковыя даклады, з якімі выступілі У. І. Пічэта, А. М. Ясінскі, А. М. Ляўданскі і інш.

Такім чынам, за час існавання Інстытута беларускай культуры зроблены значны крок наперад у станаўленні і развіцці беларускай савецкай гістарычнай навукі. Гісторыкі — правадзейныя члены, члены-карэспандэнты і навуковыя супрацоўнікі Інстытута беларускай культуры — апублікавалі больш за 200 навуковых работ па гісторыі, у тым ліку 16 манаграфічных і абагульняючых, каля 20 брашур, шэсць зборнікаў дакументаў і матэрыялаў, звыш 150 навуковых і навукова-папулярных артыкулаў, каля 80 навуковых работ па археалогіі. Найбольш значныя вынікі дасягнуты ў вывучэнні аграрных адносін у эпоху феадалізму і капіталізму, гісторыі паўстання 1863 г., сялянскага, рабочага і нацыянальна-вызваленчага руху на Беларусі ў другой палове XIX — пачат-

ку XX ст., стану беларускай культуры, рэвалюцыі 1905—1907 гг., асобных пытанняў гісторыі Кастрычніцкай рэвалюцыі, утварэння БССР. У другой палове 20-х гадоў гістарычная навука на Беларусі перажыла пэўны ўздым. Дастаткова сказаць, што ў 1922—1930 гг. апублікавана ў два разы больш навуковых і навукова-папулярных работ па гісторыі, чым у 1931—1941 гг. ці ў 1945—1955 гг. У цэлым навуковыя працы, напісаныя гісторыкамі Інстытута беларускай культуры, зрабілі значны ўклад у развіццё беларускай савецкай гістарычнай навукі. У асноўным былі перагледжаны канцэпцыі дасавецкай гістарыяграфіі, сцвярджаліся марксісцкія трактоўкі, вызначаліся важнейшыя напрамкі навуковых даследаванняў. Гэтыя працы мелі важнае навуковае і грамадска-палітычнае значэнне, садзейнічалі станаўленню класавай і нацыянальнай свядомасці беларускага народа. Многія з іх не страцілі свайго значэння і ў цяперашні час.



# ЭТНАГРАФІЯ

Інбелкульт адыграў вялікую ролю і ў развіцці беларускай этнаграфіі. Разам з прадстаўнікамі іншых навук тут былі сканцэнтраваны кваліфікаваныя кадры этнографаў. Дзякуючы гэтаму навуковаму цэнтру ў 20-я гады апублікавана значная колькасць прац па быту і культуры беларускага народа. Інбелкульт практычна кіраваў усёй працай краязнаўчых арганізацый і музеяў Беларусі.

Неабходна адзначыць, што ў пачатку дзейнасці Інбелкульта этнографы не былі сканцэнтраваны ў адным падраздзяленні. Большая іх частка ўваходзіла ў прыродна-геаграфічную секцыю Інбелкульта, што супярэчыла задачам этнаграфіі як грамадскай навукі. Таму ў чэрвені 1924 г. група этнографаў гэтай секцыі на чале з І. А. Сербавым на сходзе ўнесла прапанову аб стварэнні асобнай этнаграфічнай секцыі Інбелкульта [1].

У пастанове нарады групы этнографаў (І. А. Сербаў, М. В. Мялешка, С. М. Мялешка, П. В. Харламповіч, М. Е. Каршукоў, А. М. Белавусаў) прыродна-геаграфічнай секцыі Інбелкульта ад 4 чэрвеня 1924 г. адзначалася: «Прымаючы пад увагу, што этнаграфія па сутнасці сваіх заданняў знаходзіцца ў большай сувязі з сацыяльна-гістарычнымі навукамі, увайсці ў гістарычна-археалагічную секцыю для распрацоўкі пытанняў этнаграфіі Беларусі» [2].

На нарадзе ўпершыню былі зроблены сур'ёзныя крокі па арганізацыі навуковых сіл і разгортванню навуковай работы ў галіне этнаграфіі. У пастанове аб чарговых за-

[1] ЦНА АНБ, ф. 67, спр. 8, арк. 47.
[2] Там жа.

дачах этнаграфічнай працы нарада прыняла меры «да выяўлення і падліку беларускіх працаўнікоў у галіне этнаграфіі Беларусі»[3] і аб разгортванні этнаграфічнай працы на ўсёй Беларусі.

Нарада даручыла І. А. Сербаву «распрацаваць план і метады працы па збіранню этнаграфічнага матэрыялу», М. В. Мялешку — скласці праграму па вывучэнню матэрыяльнага быту Беларусі. Таксама былі прыняты меры для разгортвання папулярызатарскай работы ў галіне этнаграфіі. Для гэтага ў першую чаргу выкарыстоўваўся мясцовы друк.

На пасяджэнні гісторыка-археалагічнай секцыі 16 чэрвеня 1924 г. была прынята пастанова аб далучэнні этнографаў да гэтай секцыі. Сумесная праца этнографаў з членамі гісторыка-археалагічнай секцыі працягвалася нядоўга. Па новаму статуту Інбелкульта была створана самастойная этнаграфічная секцыя, зацверджаная 30 сакавіка 1925 г.[4] Старшынёй секцыі стаў прафесар З. С. Кацэнбоген, сакратаром — І. А. Сербаў. Членамі секцыі былі А. К. Сержпутоўскі, М. В. Мялешка, Д. Г. Доўчанка, Л. В. Прохараў, П. В. Харламповіч, П. П. Дземідовіч, А. Д. Палес, А. А. Грыневіч, К. І. Кернажыцкі, Н. Цахановіч і інш.

На агульным сходзе этнаграфічнай секцыі 3 чэрвеня 1925 г. (прысутнічала 45 чалавек — 15 членаў секцыі і 30 гасцей) былі заслуханы даклады З. С. Кацэнбогена «Значэнне этнаграфіі як самастойнай даследчай навукі», М. В. Мялешкі «Этнаграфія ў культурным і савецкім будаўніцтве БССР», П. Н. Алекснева «Расава-біялагічны індэкс беларуса», абмеркаваны план работы секцыі, складзены І. А. Сербавым.

Даклад З. С. Кацэнбогена не захаваўся, але, мяркуючы па пратаколу, ён выклікаў спрэчкі, змест якіх сведчыць пра тое, як разумелася этнаграфія і яе задачы ў той час.

І. А. Сербаў, выступаючы ў дыскусіі, падкрэсліваў, што не трэба этнаграфію зводзіць толькі да апісальніцтва ці лічыць яе часткай іншых навук. «Этнаграфія,— га-

---

[3] ЦНА АНБ, ф. 67, спр. 8, арк. 47.
[4] Там жа, спр. 6, арк. 106.

варыў ён,— самастойная навука, яна павінна ахапіць усебаковае вывучэнне народа, яго фізічнай прыроды, быту і культуры духоўнай і матэрыяльнай». Этнаграфічныя веды М. В. Мялешка падзяляў на тры раздзелы: народнае мастацтва, духоўная творчасць народа (фальклор.— *В. Б.*) і матэрыяльны быт народа. Аналізуючы гэту трыяду ў плане вызначаных задач, аўтар даклада падкрэсліў, што кожная з адзначаных галін этнаграфіі можа садзейнічаць будаўніцтву новага жыцця. Знаўцы народнага мастацтва могуць дапамагчы развіццю тэатральнага, музычнага, выяўленчага мастацтва, жывапісу. Фалькларысты павінны падняць на пэўны ўзровень выкладанне вуснапаэтычнай творчасці ў навучальных установах і інш. Самай важнай задачай этнаграфіі ў савецкім будаўніцтве з'яўляецца, як падкрэсліваў аўтар, вывучэнне матэрыяльнага быту народа. У дарэвалюцыйны час на гэта звярталася параўнальна мала ўвагі. Прычынай было тое, што ў тых умовах «нельга было адчыняць заслону на сапраўды бедны стан эксплуатуемага народа... Займацца матэрыяльным бытам беларускага народа было б справай, рызыкоўнай для этнографаў» [5].

Урад Беларусі, працягваў М. В. Мялешка, патрабуе грунтоўнага асвятлення этнаграфічнага стану нашай вёскі, каб скарыстаць гэтыя даныя для мерапрыемстваў, якія праводзяцца па эканамічнаму адраджэнню краю. Вывучаючы працэсы і прылады працы, дамашні быт, жыллё, ежу, землеўпарадкаванне і іншае, этнографы могуць даць дзяржаўным і гаспадарчым арганізацыям усе неабходныя звесткі, якія дапамогуць перабудове быту на новы лад.

У пастанове агульнага сходу этнаграфічнай секцыі ад 3 чэрвеня 1925 г. звярталася ўвага на тое, каб секцыя вяла работу ў цеснай сувязі з краязнаўчымі арганізацыямі Беларусі і стварыла шырокую сетку карэспандэнтаў. Разам з тым рэкамендавалася падрыхтаваць зборнік метадычнага характару для пачынаючых працу ў галіне этнаграфіі, а таксама неадкладна скласці праграму, план і маршрут этнаграфічнай экспедыцыі.

Этнаграфічная секцыя разгарнула актыўную работу,

---

[5] ЦНА АНБ, ф. 67, спр. 6, арк. 110—113.

пра што сведчыць справаздача аб яе дзейнасці за 1925 г. Са справаздачы відаць, што акрамя вышэйадзначанага члены секцыі займаліся вывучэннем разнастайных пытанняў беларускай этнаграфіі і фальклору. У прыватнасці, пад кіраўніцтвам членаў секцыі студэнты БДУ падрыхтавалі даклады «Факты перажыткаў першабытнай культуры ў абрадах беларусаў», «Беларускія каляды», «Масленіца», «Купалле», «Ярыла», «Русалле», «Беларускія дзяды і прадзедкі», «Беларускія хаўтуры», «Чарадзейства і замовы», «Галаўныя ўборы беларускай жанчыны» і інш. Асобна ў справаздачы адзначана праца І. А. Сербава, які да канца 1925 г. закончыў свае прызначаныя да друку манаграфічныя працы: «Вічынскія паляне. Этнаграфічны нарыс басейна р. Цны» і «Радзімічы. Этнаграфічны нарыс басейна р. Узы». Ён жа вёў работы па вывучэнню антрапалагічных асаблівасцей беларусаў у раёне Мінска і сярэдняга Сожа, зрабіў этнаграфічныя здымкі тыпаў касцюмаў, жаночых убораў, розных прадметаў быту і народнага мастацтва. І. А. Сербаў запісаў на фанографе бытавыя песні вясны, лета, восені і зімы для параўнання іх у нашчадкаў радзімічаў і дрыгавічоў. Такім жа чынам былі запісаны мелодыі беларускіх народных танцаў на дудцы, свірэлі і пастухоўскай трубе, сабраў калекцыю прадметаў (звыш 200) беларускага нацыянальнага адзення, галаўных убораў, жаночых убораў, тканін і ўзораў на іх [6].

У заключэнні справаздачы сцвярджалася, што за кароткі тэрмін секцыя правяла вялікую работу па сваёй арганізацыі, камплектаванню асабовага складу, накапленні матэрыялаў, з якімі яна зможа выконваць намечаныя планы і задачы ў новым акадэмічным годзе [7].

Для высвятлення таго, як разглядалася этнаграфічная навука на Беларусі ў гэтыя гады, неабходна прааналізаваць план работы секцыі этнаграфіі на 1925/26 акадэмічны год.

Першачарговай задачай секцыі з'яўляўся збор этнаграфічных матэрыялаў. У план уключан збор матэрыялаў па антрапалогіі старажытных беларускіх плямёнаў

---

[6] ЦНА АНБ, ф. 67, спр. 6, арк. 106—116.
[7] Там жа.

(дрыгавічоў, крывічоў, радзімічаў). Далей павінен быў праводзіцца збор звестак па матэрыяльнаму быту гэтых плямёнаў (заняткі, жыллё, хатняя абстаноўка, прылады працы, адзенне, упрыгожанні, ежа, напіткі), па духоўнай культуры — вывучэнне светапогляду народа, яго псіхалогіі, абрадаў, павер'яў, забабонаў, народных звычаяў і свят, збор матэрыялаў па старажытных грамадскіх установах і звычаёваму праву, жывой беларускай мове, сістэматызацыя матэрыялаў па беларускаму фальклору. Асобнымі пунктамі ў плане вылучаліся прыкладное мастацтва і распрацоўка этнаграфіі іншых народаў Беларусі — яўрэяў, палякаў, літоўцаў, латышоў, татар, цыганоў.

Такім чынам, прыведзеныя вышэй выказванні, план работы этнаграфічнай секцыі сведчаць, што ў той час этнаграфія разумелася вельмі шырока. Яна ўключала ў сябе акрамя чыста этнаграфічных пытанняў яшчэ і антрапалогію (па гэтаму раздзелу выказваліся і пярэчанні — антрапалогія павінна быць самастойнай навукай), фалькларыстыку, народнае мастацтва ў шырокім сэнсе (выяўленчае, песеннае, тэатральнае і інш.). Аб'ектам вывучэння этнографаў стала сельскае насельніцтва, вывучэнне быту рабочага класа пачалося з 1926 г.

Неабходна адзначыць, што некаторыя пытанні беларускай этнаграфіі ў той час распрацоўваліся іншымі секцыямі Інбелкульта. У прыватнасці, пры сельскагаспадарчай секцыі была створана падсекцыя па вывучэнню хатніх промыслаў і рамёстваў у складзе 12 чалавек. Старшынёй яе быў А. Трахімовіч, сакратаром Р. П. Рак.

У 1926 г. секцыя этнаграфіі ўвайшла ў склад сацыяльна-гістарычнай секцыі, якая аб'ядноўвала гісторыкаў, археолагаў і этнографаў. У адпаведнасці з новым статутам Інбелкульта 1927 г. этнаграфія была выдзелена ў самастойную кафедру. Пры ёй працавалі дзве камісіі — па вывучэнню быту і матэрыяльнай культуры на чале з І. А. Сербавым і па вывучэнню фальклору на чале з М. М. Піятуховічам.

У 20-я гады Інбелкульт, музеі і грамадскасць Беларусі разгарнулі вялікую збіральніцкую работу. У 1921 г. была арганізавана першая этнаграфічная экспедыцыя на чале з мастаком Д. І. Полазавым, якая абследавала Слуцкі павет. Экспедыцыяй сабрана каля 100 прадметаў

(узоры ткацтва, народныя касцюмы, ручнікі, посцілкі і інш.), зроблены фатаграфіі і замалёўкі прадметаў быту, старажытнага мастацтва і інш. [8]

Вялікая работа па збору этнаграфічных калекцый на Беларусі праведзена ў сувязі з падрыхтоўкай і арганізацыяй Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі ў Маскве (15 кастрычніка 1923 г.). Задачы выстаўкі ў пэўнай меры вызначылі і мэты вывучэння матэрыяльнай культуры народаў СССР у аднаўленчы перыяд. У павільёнах выстаўкі прадстаўнікі Беларусі стварылі аддзелы быту і дамаводства, саматужнай прамысловасці, лясной гаспадаркі, аградапамогі і земляробства, меліярацыі, сельскай гаспадаркі, адукацыі, жывёлагадоўлі, перапрацоўкі і інш. [9] Аддзел быту беларусаў атрымаў першую прэмію [10]. Пазней экспанаты выстаўкі былі перададзены ў Дзяржаўны музей БССР.

У ходзе падрыхтоўкі да першай Усерасійскай выстаўкі ў Беларусі актыўна вялася экспедыцыйная работа, узмацніўся краязнаўчы рух, разгарнулася музейная справа. Падрыхтоўка і вынікі выстаўкі шырока абмяркоўваліся ў беларускай прэсе [11], што адыграла вялікую ролю ў пашырэнні этнаграфічнага вывучэння Беларусі, у прыватнасці ў вывучэнні матэрыяльнай культуры і вытворчай дзейнасці народа.

Толькі ў 1923 г. праведзена пяць экспедыцый у Ігуменскі, Слуцкі, Лагойскі, Бабруйскі паветы, у якіх прынялі ўдзел вучоныя А. А. Шлюбскі, М. В. Мялешка, А. А. Азбукін, З. Ф. Жылуновіч, Л. У. Дашкевіч, фатограф М. В. Азбукін і інш. Экспедыцыі сабралі сотні этнаграфічных экспанатаў, пераважна прадметаў адзення, узоры тканін, прылады ткацтва, прадметы хатняга ўжытку, прылады працы па апрацоўцы лёну, рыбалоўныя

---

[8] Веселовская К. В. Обзор этнографической работы в Белоруссии за период 1917—1925 гг. // Этнография. 1926. № 1—2. С. 223—228.

[9] Белоруссия на Всероссийской сельскохозяйственной и кустарно-промышленной выставке в Москве 15 августа — 15 октября 1923 г. (Тезисы докладов и собеседований). Мн., 1923. С. 3.

[10] Савецкая Беларусь. 1923. 7 кастр.

[11] Савецкая Беларусь. 1923. 20 крас.; Мялешка М. Быт беларуса на с.-г. выстаўцы // Савецкая Беларусь. 1923. 29 чэрв.

снасці, сродкі народнай медыцыны і інш. Адначасова зроблена некалькі соцень фатаграфій.

У 1924 г. А. К. Сержпутоўскі і кампазітар Я. В. Прохараў правялі экспедыцыі ў Горацкі, Чавускі, Мсціслаўскі і Клімавіцкі паветы з мэтай вывучэння вуснапаэтычнай і народнамузычнай творчасці беларусаў. Акрамя вялікіх фальклорных матэрыялаў яны сабралі да 50 бытавых прадметаў [12]. Значная колькасць прадметаў быту (адзення, тканіны, начыння, прадметаў хатняга ўжытку, мэбліроўкі, прылад працы і інш.) для беларускага этнаграфічнага аддзела Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі ў Маскве сабрана павятовымі аддзеламі народнай асветы, а таксама настаўнікамі і вучнямі. Беларускі этнаграфічны аддзел на выстаўцы быў адзін з багацейшых і атрымаў вышэйшую прэмію [13].

Этнаграфічныя калекцыі, сабраныя ў гэтых экспедыцыях, пасля закрыцця выстаўкі папоўнілі этнаграфічныя аддзелы музеяў Мінска, Віцебска і Магілёва.

У 1925 г. этнограф І. А. Сербаў правёў вялікую этнографа-археалагічную экспедыцыю на Магілёўшчыну, у вобласць сярэдняга Дняпра і Сожа. Акрамя прадметаў з курганоў ён сабраў да 200 этнаграфічных экспанатаў (адзенне, галаўныя ўборы, мастацкае рукадзелле), запісаў на фанографе 50 бытавых песень.

У 1926 г. секцыя этнаграфіі арганізавала дзве буйныя экспедыцыі — І. А. Сербава для вывучэння паўночнай мяжы рассялення беларусаў і А. К. Сержпутоўскага для даследавання паўднёва-ўсходняй мяжы. Вынікі экспедыцыі А. К. Сержпутоўскага апублікаваны асобнай брашурай [14]. У справаздачы даецца кароткая характарыстыка быту і асаблівасцей мовы паўднёва-ўсходняй часткі Беларусі. Этнаграфічныя экспедыцыі сістэматычна праводзіліся і ў наступныя гады.

---

[12] Веселовская К. В. Обзор этнографической работы в Белоруссии за период 1917—1925 гг. // Этнография. 1926. № 1—2. С. 223—228.

[13] Цвікевіч А. Інстытут беларускай культуры. Гісторыя ўзнікнення сучаснай структуры навукова-даследчай дзейнасці. Мн., 1926. С. 11.

[14] Сержпутоўскі А. К. Справаздача аб паездцы ў Гомельскую губерню летам 1926 г. Мн., 1926.

Матэрыялы экспедыцый папаўнялі музейныя фонды. Да пачатку 1927 г. у рэспубліцы функцыяніравалі Беларускі дзяржаўны музей у Мінску, Віцебскі дзяржаўны культурна-гістарычны музей, Гомельскі дзяржаўны культурна-гістарычны музей, каля 20 акруговых, раённых і іншых музеяў у Оршы, Магілёве, Полацку, Слуцку, Бабруйску, Клімавічах, Мазыры.

Беларускі дзяржаўны музей у Мінску адкрыўся ў жніўні 1923 г. У ім былі аддзелы гісторыка-археалагічны, этнаграфічны, нумізматыкі, мастацтва і інш. Агульны лік экспанатаў музея да канца 1928 г. перавышаў 30 тыс. адзінак [15]. Даволі багатым быў этнаграфічны аддзел. Часопіс «Наш край» у 1927 г. наступным чынам характарызаваў яго: «Этнаграфічны аддзел у сучасны момант мае вялікую колькасць выключнага па характару, паўнаце і рэдкасці матэрыялу — тканіны і вопраткі, узоры якіх ужо не часта сустракаюцца на вёсцы, і наогул ёсць значная колькасць прадметаў быту, характарызуючых беларуса. Этнаграфічны аддзел з'яўляецца безумоўна буйнейшым у Беларусі і можа канкурыраваць з падобнымі аддзеламі цэнтральных музеяў, нягледзячы на кароткі час свайго існавання» [16].

Віцебскі дзяржаўны культурна-гістарычны музей узнік у 1925 г. (па звестках М. І. Касяровіча — у 1924 г.). Музей створаны на базе ўласных калекцый А. Р. Бродаўскага і В. Федаровіча і былога царкоўна-археалагічнага музея [17]. У ім налічвалася звыш 30 тыс. экспанатаў. Магілёўскі (заснаваны ў 1924 г.) і Гомельскі (заснаваны ў 1927 г.) музеі налічвалі па 10 тыс. экспанатаў кожны [18]. Багатымі былі Аршанскі, Бабруйскі, Клімавіцкі, Мазырскі, Нараўлянскі, Полацкі і Слуцкі краязнаўчыя музеі [19].

У 20-я гады інтэнсіўна папаўняліся этнаграфічныя

---

[15] Касяровіч М. Беларуская культура // Маладняк. 1928. № 12.
[16] Харламповіч П. Пяцігоддзе беларускага дзяржаўнага музея // Наш край. 1927. № 1. С. 12.
[17] Левандовский Р. Витебский культурно-исторический музей // Советская этнография. 1931. № 2. С. 187—188.
[18] Касяровіч М. Беларуская культура // Маладняк. 1928. № 12.
[19] Там жа.

аддзелы Беларусі ў Ленінградзе (збіраннем займаліся А. К. Сержпутоўскі, А. К. Супінскі і інш.) і Маскве (Н. І. Лебедзева і інш.).

Створаныя на Беларусі і за яе межамі музеі з'яўляліся каштоўнай крыніцай для вывучэння матэрыяльнай культуры і вытворчай дзейнасці беларускага народа. Шырокая музейная работа на Беларусі была разгорнута з удзелам краязнаўцаў і супрацоўнікаў Інбелкульта.

Вялікую работу па вывучэнню быту і культуры беларусаў правялі краязнаўчыя арганізацыі, якія пачалі ўзнікаць у рэспубліцы адразу пасля рэвалюцыі. У канцы 1923 г. Інбелкульт стварыў камісію, якая ўзначаліла краязнаўчы рух у рэспубліцы. Гэтая камісія стала зародкам Цэнтральнага бюро краязнаўства пры Інбелкульце.

Па прапанове Першай Усебеларускай краязнаўчай канферэнцыі ў Мінску быў створаны друкаваны перыядычны орган — часопіс «Наш край».

Краязнаўчыя праграмы, апублікаваныя часопісам, давалі рэкамендацыі і па этнаграфічнаму вывучэнню Беларусі. У іх падрабязна пералічваліся важнейшыя пытанні вывучэння быту насельніцтва. На першае месца ставілася вывучэнне адзення (мужчынскага, жаночага, дзіцячага, паўсядзённага і святочнага), потым вывучэнне жылля і паселішчаў, ежы, сям'і і сямейных адносін, выхавання дзяцей, грамадскіх адносін. Пры вывучэнні абрадаў, звычаяў, вераванняў і фальклору рэкамендавалася звяртаць увагу на новы быт вёскі, новыя звычаі і песні. Праграма патрабавала вывучэння звычаёвага права, народнай медыцыны, народнага мастацтва (музыка, танцы, музыкальныя інструменты). Падрабязна распрацаваны і аддзел гаспадаркі, вытворчай дзейнасці насельніцтва. Звярталася ўвага на вывучэнне землекарыстання і сучаснага землеўладкавання, апісанне саўгасаў, промыслаў і рамёстваў, прылад працы і інш. Рэкамендавалася вывучаць фабрыкі, іх прадукцыю, быт рабочых, іх уплыў на быт сялян навакольных пасяленняў.

Паказальнай з'яўлялася і другая праграма, распрацаваная геаграфічнай секцыяй Інбелкульта. Яна патрабавала комплекснага вывучэння населеных пунктаў гарадскога тыпу. Значнае месца ў праграме займалі пытанні этнаграфіі (вывучэнне жылля і гаспадарчых па-

будоў, склад насельніцтва па занятках, мове, нацыянальнасці, рэлігіі, сацыяльным становішчы, быту і г. д.).

У абедзвюх праграмах было патрабаванне сацыялагічнага падыходу да вывучэння быту, неабходнасць збірання статыстычных звестак. У наступных нумарах часопіс даваў шэраг праграм па розных пытаннях краязнаўства, этнаграфіі і фальклору. Разгледжаныя краязнаўчыя праграмы ахоплівалі амаль усе пытанні этнаграфіі насельніцтва Беларусі. Этнаграфічная работа ў краязнаўчых арганізацыях займала адно з вядучых месц. Пра гэта сведчаць вынікі работы Першага Усебеларускага краязнаўчага з'езда (люты 1926 г.). На з'ездзе прачытаны два даклады: «Вывучэнне народнага быту» (М. В. Мялешка) і «Вывучэнне бюджэту часу беларускага сялянства» (Я. Г. Ракаў). У значнай ступені этнаграфіі быў прысвечаны таксама даклад І. А. Пятровіча «Як весці работу па вывучэнню гаспадаркі».

У дакладзе М. В. Мялешкі падрабязна гаварылася пра задачы вывучэння рабочага быту. Трэба адзначыць, што новыя аспекты этнаграфіі (рабочы быт, удзел этнографаў у перабудове быту сялянства) у 20-я гады не атрымалі неабходнай распрацоўкі. Пра гэта пакуль што гаварылася ў прамовах. Я. Г. Ракаў у сваім дакладзе падкрэсліў важнасць вывучэння бюджэту часу сялянства, а І. А. Пятровіч акцэнтаваў увагу на вывучэнні прылад і тэхнікі сялянскай гаспадаркі, мясцовых промыслаў і іх арганізацыі [20].

Асноўная ўвага на Другім Усебеларускім краязнаўчым з'ездзе (люты 1927 г.) была звернута на вывучэнне раёнаў па праграме, якая ахоплівала не толькі прыроднагеаграфічныя ўмовы, эканоміку, гаспадарку і гісторыю, але і быт насельніцтва. Асобна на з'ездзе разглядалася пытанне аб вывучэнні дамашніх рамёстваў і промыслаў. У «Працах» з'езда былі апублікаваны даклады і праграмы па вывучэнню рамёстваў і промыслаў. Другі краязнаўчы з'езд садзейнічаў далейшаму разгортванню краязнаўчай, у тым ліку і этнаграфічнай, работы на Беларусі.

---

[20] Працы Першага Усебеларускага краязнаўчага з'езда 7—11 лютага 1926 г. Мн., 1926.

Этнаграфія ў краязнаўстве займала ўсё большае месца.

У 1927 г. часопіс «Наш край» акцэнтаваў увагу на вывучэнне народнага мастацтва, звычаёвага права, на санітарна-бытавое і комплекснае вывучэнне вёскі. У 1928 г. была апублікавана праграма для вывучэння прадзення і ткацтва. У 1929 г. звярталася ўвага на спецыфічныя даследаванні. У сувязі з гэтым былі змешчаны артыкулы аб практычным значэнні этнаграфічнага вывучэння краю [21], да пытання аб вывучэнні сялянскіх будынкаў і праграма іх апісання [22]. Пытанні этнаграфіі займалі пэўнае месца ў краязнаўчай працы на фабрыках і заводах, у комплексным вывучэнні раёнаў і калгасаў. Па гэтых раздзелах былі змешчаны спецыяльныя праграмы [23]. Пры ўдзеле Інбелкульта разам са збіральніцкай разгарнулася актыўная даследчыцка-апісальніцкая праца. Апублікаваныя ў 20-я гады працы па матэрыяльнай культуры і вытворчай дзейнасці ствараліся як непасрэдна этнографамі (І. А. Сербаў, А. К. Сержпутоўскі, А. К. Супінскі, Н. І. Лебедзева і інш.), так і іншымі спецыялістамі — медыкамі, эканамістамі, гісторыкамі, краязнаўцамі. Яны носяць розны характар як у адносінах метадалогіі і методыкі, так і па тэматыцы. Адны з іх асвятляюць толькі пэўную галіну матэрыяльнай культуры і вытворчага быту, другія ахопліваюць амаль усе пытанні быту народа.

Самай грунтоўнай працай з ліку апублікаваных у гэты час з'яўляецца этнаграфічны нарыс І. А. Сербава «Вічынскія паляне» [24]. Матэрыялы да гэтай працы збіраліся і апрацоўваліся аўтарам у дарэвалюцыйны час. Яна выканана ў плане дарэвалюцыйнай методыкі і метадалогіі прагрэсіўных этнографаў таго часу.

---

[21] Наш край. 1929. № 5. С. 54—56.

[22] Наш край. 1929. № 6—7. С. 25—35.

[23] Самцэвіч В. Аб арганізацыі краязнаўчай працы на фабрыках і заводах // Наш край. 1929. № 10. С. 7—11; План агульнага даследавання і апісання раёна (сельсавета) // Наш край. 1929. № 11. С. 57—61; Да вывучэння калгасаў // Наш край. 1929. № 12. С. 5—17.

[24] Сербаў І. А. Вічынскія паляне. Мн., 1928.

У сваім даследаванні І. А. Сербаў закранае амаль увесь комплекс пытанняў, звязаных з матэрыяльнай культурай і вытворчай дзейнасцю беларускага сялянства невялікага этнаграфічнага раёна, так званай Вічынскай зямлі (назва ўмоўная).

У яе аўтар уключае групу вёсак, што размясціліся вакол в. Вічына на левым беразе сярэдняга цячэння р. Прыпяці,— Яжэўкі, Язвінкі, Дварэц, Цна, Дрэбск. Гэтыя вёскі размешчаны на бязлеснай роўнай паляне, таму жыхары называюць сябе «палявымі людзьмі», або палянамі, у адрозненне ад палешукоў, жыхароў лясной часткі Палесся.

Згодна з характарыстыкай А. Сербава, насельніцтва гэтых вёсак вызначаецца аднастайнасцю культуры і складае асобны этнаграфічны раён Беларусі.

Пасля кароткай агульнай характарыстыкі кожнай вёскі (знешняга выгляду і планіроўкі) І. А. Сербаў пераходзіць да падрабязнага разгляду сядзіб, жылля і гаспадарчых пабудоў. Больш сцісла, але выразна апісвае І. А. Сербаў адзенне, галаўныя ўборы і абутак вічынскіх палян.

Вытворчай дзейнасці сялян І. А. Сербаў прысвячае раздзел «Сельскагаспадарчы быт», у якім разглядае памеры зямельных надзелаў, земляробства, жывёлагадоўлю, садаводства, рыбную лоўлю, пчалярства, а таксама саматужныя промыслы. Тут жа аўтар апісвае сялянскую ежу.

У розных месцах працы І. А. Сербаў дае характарыстыку маральна-этычных якасцей вічынскіх сялян. Не забываючы пра адмоўныя моманты, аўтар у першую чаргу акцэнтуе ўвагу на станоўчых рысах характару селяніна, падкрэсліваючы, што гэта людзі глыбокага роздуму і высокай жыццёвай мудрасці. Паляне адрозніваюцца сваёй працавітасцю і стараннасцю. Працавітасць прывівалася ім з маленства. Хлопчык у 12 гадоў ужо ходзіць за сахой або бараной, а з 16 гадоў бярэцца за касу і не адстае ад дарослых. Дзяўчына з 6 гадоў пачынае прасці, з 13—15 гадоў садзіцца за кросны і ходзіць з сярпом на жніво. Старыя працуюць да таго часу, пакуль трымаюцца на нагах.

Праца І. А. Сербава «Вічынскія паляне» багата ілю-

страваны фотаздымкамі вёсак, жыхароў, жылля і гаспадарчых пабудоў, планамі і чарцяжамі.

У 20-я гады з'явіўся шэраг прац па матэрыяльнай культуры ў сувязі з абследаваннем санітарна-бытавых умоў насельніцтва медыцынскай секцыяй Інстытута беларускай культуры. У распрацаванай секцыяй праграме вялікае месца адводзілася характарыстыцы населеных пунктаў, двароў, жылля, адзення і санітарна-гігіенічных умоў жылля.

Працы гэтага тыпу з'явіліся адказам на задачы, якія былі пастаўлены савецкай уладай перад навукай,— садзейнічаць хутчэйшай перабудове быту народа, падняць дабрабыт і культурны ўзровень, у першую чаргу вёскі.

Сярод гэтых прац найбольшую этнаграфічную каштоўнасць мае нарыс З. К. Магілёўчыка «Санітарна-гігіенічныя ўмовы хаты і двара беларускага сялянства». Урач па спецыяльнасці і актыўны дзеяч краязнаўства, З. К. Магілёўчык прыцягнуў да гэтай працы студэнтаў БДУ, якім было раздадзена 1500 экземпляраў праграм-анкет. Абследавалася амаль уся тэрыторыя Беларусі. Прынамсі, матэрыялы паступілі з усіх акруг рэспублікі, акрамя Полацкай. Абследаванне двароў у вёсцы рабілася праз адзін. Такім чынам, у вёсцы была абследавана палова двароў.

Сабраныя матэрыялы пры іх аналізе даволі яскрава адлюстроўвалі жыллёвыя ўмовы беларускай вёскі сярэдзіны 20-х гадоў, а таксама тыя змены, якія адбыліся ў жыллі за 1923—1926 гг.

З. К. Магілёўчык падрабязна разглядае планіроўку двара, яго санітарна-бытавыя ўмовы, тыпы жылля, унутраную будову, памеры хаты і вакон і інш. Асобна разглядаецца колькасны склад сям'і, плошча і кубатура памяшкання на адну душу. Усё гэта рабілася для выяўлення недахопаў у жыллі з мэтай паляпшэння жыллёвых умоў.

У заключэнне аўтар дае канкрэтныя прапановы па паляпшэнню жыллёвых умоў жыхароў беларускай вёскі.

З. К. Магілёўчыку належыць некалькі іншых прац па матэрыяльнай культуры народа, у тым ліку артыкул пра

санітарны стан гарадоў [25] і вёсак [26], грамадскае харчаванне ў Мінску [27] і інш.

Багаты матэрыял па жыллю, адзенню, іншых аспектах быту беларускага сялянства змешчаны ў іншых працах, выкананых па праграме вывучэння санітарна-бытавых умоў вёскі, складзенай медыцынскай секцыяй Інбелкульта. Гэтыя працы ў адрозненне ад нарыса З. К. Магілёўчыка, прысвечанага ўсёй Беларусі, давалі характарыстыку асобных вёсак ці некалькіх населеных пунктаў рэспублікі. Прыкладам могуць служыць артыкулы М. Пашковіча «Да пытання аб санітарна-бытавым стане вёсак Глядкі, Шабунькі, Куляшы, Бранчыцы і Чапялі Старобінскага раёна Бабруйскай акругі» [28], Яз. Бараноўскага «Санітарна-бытавы стан вёскі Радзілавічы, Букчанскі сельсавет, Тураўскі раён, Мазырская акруга», Ул. Жука і П. Панкова «Санітарна-бытавы нарыс вёскі Дубровы Лельчыцкага сельсавета і раёна Мазырскай акругі» [29].

З іншых прац, прысвечаных санітарна-бытавым умовам вёскі, трэба адзначыць артыкул В. Казанскай «Быт і санітарнае становішча сялянства Беларусі» [30], які з'явіўся ў выніку статыстычнай апрацоўкі анкетных звестак па 135 сельскіх населеных пунктах. В. Казанская прывяла вялікую колькасць працэнтных паказчыкаў, якія характарызуюць эканоміку селяніна, дэмаграфію, жыллё, санітарна-гігіенічныя ўмовы двара і хаты, харчаванне, стан здароўя насельніцтва.

Значныя звесткі па розных аспектах матэрыяльнага быту змяшчаюць апісанні раёнаў, сельсаветаў, асобных

---

[25] Магілёўчык З. К. Да пытання сучаснага стану гарадоў БССР (агульная санітарная характарыстыка) // Наш край. 1927. № 6—7. С. 5—9.

[26] Магілёўчык З. К. Схема санітарна-бытавога даследавання і апісання вёскі. Улажылі д-р З. Магілёўчык і д-р Цвікевіч. Мн., 1927.

[27] Могилевчик З. К. Общественное питание в г. Минске и перспективы его развития. Труды десятого Всесоюзного съезда бактериологов, эпидемиологов и санитарных врачей 5—11 сентября 1926 г. в Одессе. Харьков. 1927. Т. 2. С. 332—337.

[28] Наш край. 1927. № 12. С. 43—54; 1928. № 8—9. С. 47—81; 1929. № 2. С. 43—50.

[29] Там жа.

[30] Казанская В. Быт и санитарное состояние крестьянства Белоруссии // Беларуская мэдычная думка. 1925. Т. 2. № 3. С. 21—31.

населеных пунктаў. Такія працы ў вялікай колькасці публікаваліся часопісам «Наш край», іншымі перыядычнымі выданнямі рэспублікі.

Пэўныя звесткі па матэрыяльнай культуры і вытворчаму быту змяшчаюцца ў паведамленнях з арганізаваных Інбелкультам экспедыцый [31], у геаграфічных і гістарычных нарысах пра населеныя пункты [32].

Побач з агульнаэтнаграфічнымі працамі, у якіх характарызаваліся многія аспекты матэрыяльнай культуры і вытворчага быту, з'явіўся шэраг прац, прысвечаных аднаму аспекту быту.

У выніку апрацоўкі і аналізу сабраных звестак былі выдадзены даследаванні, прысвечаныя пытанням харчавання насельніцтва Беларусі ў 1920—1927 гг. Сярод іх асаблівай увагі заслугоўваюць артыкулы А. В. Каляды «Харчаванне насельніцтва Беларусі», А. Сарокіна «На шляхах да новага быту (К абследаванню грамадскага харчавання)», Ал. Папялышкі «Харчаванне насельніцтва г.Мінска ў 1924 г.», П. Парцыенкі «Харчаванне гарадскога насельніцтва БССР у 1925 годзе», Л. Мазелева «Грамадскае харчаванне і прафсаюзы» [33]. З аналізу гэтых прац вынікае, што пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі становішча працоўных мас з кожным годам паляпшала-

---

[31] Мікіцінскі У. Р., Пяцэвіч Р. і Ажэўскі П. Падарожжа па Случчыне // Наш край. 1928. № 2. С. 24—44; № 1. С. 28—44; Мікіцінскі У. Дванаццаць дзён краязнаўчага вандравання. Матэрыялы з падарожжа па Слуцкім, Грэзскім, Пухавіцкім і Стара-Дарожскім раёнах // Наш край. 1929. № 1. С. 37—49; № 2. С. 35—43; № 3. С. 27—45; Васілеўскі Д. Экскурсійныя аб'екты Аршаншчыны (матэрыялы). Культурна-гістарычны нарыс // Наш край. 1929. № 4. С. 16—21; і інш.

[32] Азбукін М. Мазырская акруга. Геаграфічны нарыс // Наш край. 1928. № 8—9. С. 4—21; Кулакоў Т. Мястэчка Азарычы Мазырскай акругі // Наш край. 1928. № 8—9. С. 81; Шпілеўскі І. Ф., Бабровіч Л. А. Мястэчка Койданава // Наш край. 1929. № 2—4; Яны ж. Гістарычны нарыс Дзяржыншчыны (Койданаўшчыны). Мн., 1932; і інш.

[33] Народное хозяйство Белоруссии. 1923. № 6. С. 86—107; Известия Гомельского комитета РКП. 1924. № 11. С. 49—51; Бюллетень Центрального статистического управления. Вып. 1. Январь, февраль 1925 г. С. 29—40; Бюллетень Центрального статистического управления. Вып. 1 (5). Январь, март 1925 г. С. 61—85; Прафсаюзны рух Беларусі. Мн., 1927. № 1. С. 7—9.

5. Зак. 1183

ся. Так, ужо ў 1924 г., як сведчыць Ал. Папялышка, нормы харчавання насельніцтва Мінска не толькі абагналі нормы цяжкіх у забеспячэнні прадуктамі першых гадоў савецкай улады, але і нормы дарэвалюцыйнага часу [34].

З іншых прац, прысвечаных асобным галінам матэрыяльнай культуры, неабходна адзначыць артыкулы М. В. Азбукіна «Да пытання аб вывучэнні сялянскіх будынкаў» [35] і А. Г. Даніліна «Прыстасаванні для снаповай сушкі хлеба ў усходніх славян і іх суседзяў» [36].

У вывучэнні вытворчай дзейнасці і матэрыяльнай культуры беларусаў значнае месца займаюць працы па хатніх промыслах і саматужнай прамысловасці насельніцтва.

Вывучэнне дробнарамесніцкай прамысловасці, хатніх рамёстваў мела вялікае практычнае значэнне, таму што ва ўмовах 20-х гадоў саматужная прамысловасць і рамёствы адыгрывалі значную ролю ў забеспячэнні насельніцтва таварамі шырокага ўжытку.

У 1924—1925 гг. падсекцыя хатніх рамёстваў сельскагаспадарчай секцыі Інбелкульта распрацавала і разаслала «Анкету для вывучэння промыслаў і хатніх рамёстваў Беларусі».

З апублікаваных прац па хатніх рамёствах і саматужных промыслах трэба адзначыць наступныя: Каракін «Стружачная вытворчасць у мястэчку Глуску Бабруйскай акругі», Р. Рак «Рамеснік Мінска да рэвалюцыі 1917 г. (1866—1916)», «Народнае ткацтва Бабруйскай акругі», С. Баркоўскі і В. Скардзіс «Аб жалезнай прамысловасці на Беларусі (Гістарычная даведка)», С. Руткоўскі «Шляхі развіцця саматужнага ткацтва ў БССР» [37].

Большасць прац 20-х гадоў пра сямейны і грамадскі быт беларускага народа насілі апісальны характар. Спробы навуковага даследавання былі рэдкімі. Адна з такіх

---

[34] Бюллетень Центрального статистического управления. 1924. Вып. 1. С. 35.

[35] Наш край. 1929. № 6—7. С. 25—31.

[36] Этнография. 1927. № 1. С. 161—173.

[37] Наш край. 1926. № 1—2. С. 51—52; Наш край. 1927. № 4. С. 5—15; Савецкая краіна. 1931. № 12. С. 59—74; Запіскі аддзела прыроды і народнай гаспадаркі Беларускай Акадэміі навук. Мн., 1929. Т. 2.

спроб зроблена ў 1925—1926 гг. у галіне вывучэння бюджэту часу працоўных Беларусі. У артыкуле Бабарыкіна «Праца і адпачынак у быту рабочага і селяніна» [38] параўноўваецца бюджэт часу селяніна і рабочага і на падставе статыстычных даных даводзіцца, што працоўны дзень рабочай сям'і большы, чым сялянскай.

У 1926 г. Інбелкульт распрацаваў праграму па вывучэнню бюджэту часу селяніна і разаслаў спецыяльную анкету.

У дапаўненне да гэтай праграмы быў апублікаваны артыкул Я. Ракава «Пастаноўка падлічэння бюджэту часу беларускага селяніна» [39], у якой давалася тлумачэнне, з якой мэтай і як вывучаць гэта пытанне. Праграма была цікавай і патрэбнай. Як зазначыў Я. Ракаў, «вывучаючы ўвесь бюджэт часу беларускага селяніна, інакш — яго вытворчую, хатнюю працу, грамадскую дзейнасць, формы адпачынку і г. д., мы атрымліваем пэўны малюнак сучаснага беларускага сялянскага быту, мы атрымліваем вёску такою, якою яна ёсць» [40]. Аднак вынікі гэтых даследаванняў не былі апублікаваны.

Пэўнае адлюстраванне ў друку атрымаў сямейны быт беларускага сялянства. Звесткі пра шлюбны ўзрост, узаемаадносіны ў сям'і і становішча жанчыны змешчаны ў артыкулах агульнаэтнаграфічнага плана, апісаннях санітарна-бытавога стану вёскі і інш. Асноўная маса спецыяльных прац, прысвечаных сям'і і сямейным звычаям і абрадам, адносіцца да такіх з'яў сямейнага быту, як нараджэнне дзіцяці, уступленне ў шлюб і пахаванне. У гэтых адносінах самай цікавай з'яўляецца праца А. Шлюбскага «Матэрыялы да вывучэння фальклору і мовы Віцебшчыны» (1928).

Фіксацыі вясельнага абраду пэўных населеных пунктаў прысвечаны жывыя і цікавыя артыкулы Ал. Немцава, які дае апісанне вяселля вёсак Смык-Слабада і Заручэўе Асіповіцкага раёна [41], і Т. С. Мікалаева пра вя-

---

[38] Боборыкин. Труд и отдых в быту рабочего и крестьянина // Известия Гомельского губернского комитета Российской коммунистической партии. 1925. № 1. 15 янв.
[39] Наш край. 1926. № 2—3. С. 70—76.
[40] Там жа. С. 71.
[41] Немцаў Ал. Вяселле // Наш край. 1927. № 4. С. 34—42.

сельны абрад у в. Дубяйцы Касцюковіцкага раёна[42]. Спробу навуковага аналізу вясельных песень і звычаяў зрабіў С. А. Баркоўскі ў артыкуле «Вясельны быт беларускага селяніна»[43].

Меншае адлюстраванне ў этнаграфічнай літаратуры 20-х гадоў, падрыхтаванай і выдадзенай з удзелам работнікаў Інбелкульта, атрымала грамадскае жыццё народа. Звесткі пра яго з'яўляліся ў некаторых працах, якія давалі агульную характарыстыку культурна-бытавых умоў вёскі, ці ў публіцыстычных і грамадска-палітычных артыкулах перыядычнай прэсы.

20-я гады былі гадамі актыўных пошукаў новых форм сямейных і грамадскіх урачыстасцей, святкаванняў і адпачынку, складваліся новыя традыцыі і рытуалы праводзення рэвалюцыйных і інтэрнацыянальных святаў. У гэты перыяд з'явілася значная літаратура, прысвечаная апісанню і вывучэнню вераванняў і абрадаў беларусаў. У адрозненне ад дарэвалюцыйнага часу вывучэнне вераванняў і абрадаў набывала новы сэнс. Побач з апісальнымі працамі пачала з'яўляцца значная колькасць артыкулаў даследчага характару, якія ставілі перад сабой задачу атэістычнага выхавання працоўных.

Апісанню абрадаў і вераванняў беларускага сялянства прысвечана праца А. А. Шлюбскага «Матэрыялы да вывучэння фальклору і мовы Віцебшчыны» (ч. 1, 1927; ч. 2, 1928). У гэтым даследаванні А. А. Шлюбскі апублікаваў фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы, што збіраліся ім на працягу 10 гадоў (1913—1923) у Віцебскай і суседніх паветах Смаленскай губерняў.

Пры публікацыі матэрыялаў А. А. Шлюбскі ставіў цікавыя навуковыя мэты, у прыватнасці выяўленне геаграфічнага распаўсюджання песенных сюжэтаў і параўнанне «больш-менш аднастайных песень 40—80-х гадоў мінулага стагоддзя з песнямі XX ст.»[44]

У першай частцы «Матэрыялаў» А. А. Шлюбскі змясціў замовы і песні, якія адносяцца да гадавога цыкла каляндарных абрадаў. Класіфікацыя матэрыялаў праве-

---

42 Мікалаеў Т. С. Вяселле // Наш край. 1928. № 6—7. С. 43—62.

43 Маладняк. 1926. № 6. С. 51—71.

44 Шлюбскі Ал. Матэрыялы да вывучэння фальклору і мовы Віцебшчыны. Мн., 1927. Ч. 1. С. 10, 18.

дзена па Я. Ф. Карскаму. Як і Я. Ф. Карскі, А. А. Шлюбскі на першае месца вылучае замовы, далей змяшчае апісанні абрадаў з прывядзеннем фальклорных твораў у адпаведнасці з народным календаром: калядныя, веснавыя, русальныя, купальскія песні. У заключэнне ён вылучае асобна жніўныя і талочныя песні.

Ва ўступных частках да кожнага віду фальклору А. А. Шлюбскі разам з апісаннем вераванняў і абрадаў робіць заўвагі пра ступені бытавання той ці іншай этнаграфічнай з'явы. Асабліва шмат звестак у раздзеле «Замовы». У прыватнасці, аўтар паказвае тыя змены, якія адбыліся ў апошні час у светапоглядзе беларускіх сялян. На погляд А. А. Шлюбскага, развянчанне знахарства на вёсцы адбылося таму, што сяляне, якія былі на вайне, пазнаёміліся з медыцынай і сталі «крытычна адносіцца да чараўнікоў» [45].

А. А. Шлюбскі трапна ўскрывае сацыяльную сутнасць знахарства і паказвае, што калдуны, чараўнікі і знахары, карыстаючыся адсталасцю і цемрай вёскі, вялі паразітычны спосаб жыцця і жылі багата. У апошні час, калі іх аўтарытэт быў падарваны, яны «выявілі свой сапраўдны твар», стаўшы злодзеямі і канакрадамі [46].

З першай кнігі А. А. Шлюбскага этнограф можа пачарпнуць шмат цікавых звестак пра бытаванні розных абрадаў і вераванняў, звязаных са святамі гадавога цыкла. Каштоўнасць гэтага матэрыялу павялічваецца тым, што амаль у кожным выпадку адзначаецца час і месца, дзе зроблены запісы.

Не меншую каштоўнасць для вывучэння быту беларусаў мае і другая частка. Яна прысвечана сямейнаму быту — апісанню хрэсьбінных, вясельных і памінальных абрадаў, звычаяў і вераванняў, а таксама публікацыі адпаведных фальклорных тэкстаў. Падрабязна апісваюцца вясельныя абрады. Для паказу мясцовых асаблівасцей вясельных абрадаў розных раёнаў Віцебшчыны і суседняй Смаленшчыны аўтар прыводзіць некалькі варыянтаў вясельных абрадаў з канкрэтных населеных

---

[45] Шлюбскі Ал. Матэрыялы да вывучэння фальклору і мовы Віцебшчыны. С. 26.
[46] Там жа. С. 27.

пунктаў. Акрамя гэтага, апісваюцца паасобныя дэталі вяселля з іншых месц, каб падкрэсліць тыя моманты ў вясельнай абраднасці, якія адсутнічалі ці выконваліся інакш у параўнанні з апісанымі ім вышэй абрадамі вяселля канкрэтных населеных пунктаў.

Каштоўнасць працы А. А. Шлюбскага не вычэрпваецца адлюстраваннем у ёй абрадавага быту народа. У даследаванні ёсць звесткі пра матэрыяльную культуру народа — апісанне адзення і ежы, а таксама звычаёвае права беларускага сялянства.

Вуснапаэтычнай творчасці і абрадам беларускага сялянства прысвечана некалькі іншых прац А. А. Шлюбскага, з якіх найбольшую цікавасць мае артыкул «Русальніца» [47].

Паасобныя вераванні, абрады і звычаі народа разглядаюцца ў артыкулах М. Каршукова, Я. Плашчынскага і іншых аўтараў [48].

У 20-я гады беларускія вучоныя пераходзяць ад апісанняў да навуковага аналізу вераванняў і абрадаў. Вывучэнню каляндарных абрадаў і звычаяў прысвечаны артыкул прафесара М. М. Піятуховіча «Звычаі і песні беларускага сялянства ў іх гаспадарчай аснове» [49]. Пытанні генезісу культу і абрадаў фаласа разглядаюцца ў артыкуле У. Ф. Баршчэўскага «З гісторыі фалектанізму» [50], вераванні, звязаныя з каменнямі,— у артыкуле М. В. Мялешкі «Камень у вераваннях і паданнях беларуса», погляды народа на каўтун разглядаюцца ў артыкуле М. Я. Грынблата «Этнаграфічнае вывучэнне каўтуна» [51].

---

[47] Маладняк. 1926. № 9.

[48] Каршукоў М. Пахаванне стралы // Наш край. 1926. № 1. С. 41—42; Плашчынскі Я. Аб жніўных абрадах і песнях // Маладняк. 1925. № 6. С. 76—83; Самцэвіч П. Хрэсьбіны ў в. Унталянка Барысаўскага раёна Мінскай вобласці // Наш край. 1928. № 11. С. 34—42; Бядуля З. На сёмуху // Савецкая Беларусь. 1923. № 195; Васілеўскі А. Беларускія чараўнікі і іх зелле // Наш край. 1927. № 8—9. С. 51—57; і інш.

[49] Полымя. 1928. № 3. С. 173—200.

[50] Запіскі аддзела гуманітарных навук Інстытута беларускай культуры. Кн. 4. Працы кафедры этнаграфіі. Мн., 1928. Т. 1. Сш. 1.

[51] Там жа.

Пэўная праца вялася і па вывучэнню народнай медыцыны, асабліва народных сродкаў, былі распрацаваны інструкцыі па збіранню іх і даследаванню [52]. Працы па народнай медыцыне можна падзяліць на два віды. У адных з іх апісваліся народныя лекавыя сродкі і дзікарастучыя лекавыя расліны, у другіх пра іх гаварылася ў сувязі з выкрыццём знахарства. Прыкладам першага віду з'яўляюцца працы В. Ф. Курцэвіча «Лекавыя сродкі ў народнай медыцыне», У. Уладзімірава «Лекавыя расліны ў народнай медыцыне Барысаўскай акругі». Да прац другога тыпу можна аднесці артыкул А. Васілеўскага «Беларускія чараўнікі і іх зелле» [53].

Спроба больш грунтоўнай распрацоўкі гісторыі беларускай этнаграфіі ў 20-х гадах зроблена А. А. Шлюбскім. У адным з лістоў да Я. Ф. Карскага ён пісаў: «Апошні час я сур'ёзна думаў над ажыццяўленнем Вашага запавету адносна напісання шэрагу нарысаў па матэрыяльнай і духоўнай культуры беларуса. І прыйшоў да заключэння, што маю цяперашнюю працу па гісторыі беларускай этнаграфіі можна спалучыць з далейшай работай, намечанай намі, так каб першыя 3—4 кнігі (гісторыя этнаграфіі) з'яўляліся б уводзінамі да непасрэднага апісання беларускага быту. Абедзве працы аб'яднаць агульнай назвай: «Беларуская этнаграфія». Па прыблізнаму падліку трэба каля 15 кніг, каб праца мела вычарпальны характар» [54]. Даследчыкам не ўдалося выявіць, у якой ступені гэтая задумка была ажыццёўлена. Аднак тое, што апублікавана А. А. Шлюбскім, сведчыць пра вялікую і напружаную яго працу па гэтай праблеме. У 1925—1928 гг. А. Шлюбскі апублікаваў артыкулы пра этнаграфічную дзейнасць Зм. Бядулі, П. В. Шэйна, Ул. М. Дабравольскага, Е. Р. Раманава. У 1927 г. выйшла з друку яго праца «Матэрыял да беларускай бібліяграфіі» (Т. 4. «Этнаграфія»), у 1928 г.— «Бібліяграфія этнаграфічных, археалагічных, гістарычных, літара-

---

[52] Быстроў М. Кароткая інструкцыя, як сялянам-даследчыкам ставіць пачатковыя доследы за лекавымі раслінамі. Мн., 1923; Васількоў У. Г. Як збіраць расліны // Наш край. 1925. № 1.
[53] Наш край. 1930. № 4; 1927. № 8—9, 11.
[54] Архіў АН РФ, ф. 292, воп. 2, спр. 158. арк. 10—11.

турных, педагагічных, публіцыстычных прац Е. Р. Раманава»[55]. Да гэтай праблематыкі трэба аднесці і артыкул А. А. Шлюбскага «Пшчолка і «вражда из-за языка»[56]. Усе гэтыя публікацыі змяшчаюць багаты фактычны матэрыял. У шэрагу выпадкаў у іх сабраны звесткі пра рукапісныя працы, якія ў час Вялікай Айчыннай вайны былі знішчаны (напрыклад, рукапісныя X—XV выпускі «Беларускага зборніка» Е. Р. Раманава і інш.).

Звяртаючыся да агульнай ацэнкі этнаграфічнай працы, якая праводзілася Інбелкультам, трэба адзначыць, што гэта быў час шырокага размаху збіральніцкай і часткова даследчай работы. Аднак развіццё навукі насіла больш збіральніцкі характар. Тэарэтычны і метадалагічны ўзровень гэтай працы яшчэ не заўсёды адпавядаў гістарычнаму працэсу, хоць і рабіліся пэўныя крокі ў гэтым кірунку.

---

55 Шлюбскі Ал. Бядуля як этнограф // Полымя. 1925. № 2. С. 188—195; Ён жа. Матэрыялы да гісторыі крыўскай этнаграфіі; П. В. Шэйн (1826—1900) // Крывіч. 1925. № 10. С. 16—19; Ён жа. Этнаграфічная дзейнасць Дабравольскага // Запіскі аддзела гуманітарных навук Інстытута беларускай культуры. Кн. 4. Працы кафедры этнаграфіі. Мн., 1928. Т. 1. Сш. 1. С. 117—126; Ён жа. Этнаграфічная дзейнасць Е. Р. Раманава // Запіскі аддзела гуманітарных навук Інстытута беларускай культуры. Кн. 2. Працы класа філалогіі. Мн., 1928. Т. 1. С. 338—364, 364—371.

56 Савецкая Беларусь. 1926. № 164.

---



# ФАЛЬКЛАРЫСТЫКА

У станаўленні беларускай савецкай фалькларыстыкі вялікую ролю адыгралі працы дарэвалюцыйных вучоных, публікацыі якіх даюць уяўленне пра багатую духоўную культуру беларусаў. Цікавыя зборнікі народнапаэтычнай творчасці ў XIX ст. выдалі Я. Т. Чачот, А. Ф. Рыпінскі, Я. Тышкевіч, Р. С. Зянькевіч, П. М. Шпілеўскі, М. А. Дзмітрыеў, П. А. Бяссонаў, І. І. Насовіч, М. В. Доўнар-Запольскі, М. Я. Нікіфароўскі і інш. Найбольшую каштоўнасць маюць вуснапаэтычныя творы, апублікаваныя ў зборніках П. В. Шэйна, Е. Р. Раманава, М. Федароўскага, У. М. Дабравольскага, А. К. Сержпутоўскага, у якіх змешчана найбольшая колькасць кваліфікавана запісаных беларускіх фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў.

Беларуская фалькларыстыка зараджалася ў цеснай сувязі з рускай. Выпрацоўвалася агульная метадалогія даследаванняў і адзіная методыка запісу вусных народных твораў. Асабліва інтэнсіўна вялася праца па збіранню і выданню беларускага фальклору ў Інстытуце беларускай культуры. У распараджэнні Інбелкульта былі два тамы народных твораў, сабраных А. К. Сержпутоўскім, два зборнікі фальклорных матэрыялаў, запісаных на Міншчыне І. А. Сербавым. Захоўвалася шмат іншых фальклорна-этнаграфічных запісаў, якія паступілі за перыяд дзейнасці этнаграфічнай камісіі. Расійская Акадэмія навук перадала Інстытуту беларускай культуры пяць зборнікаў запісаў Е. Р. Раманава. Меркавалася неадкладна пачаць выданне гэтых зборнікаў і працягваць яго ў далейшым. Аднак выдаць гэтыя матэрыялы не ўдалося, і яны загінулі ў час Вялікай Айчыннай вайны.

Вялікую ролю ў збіранні фальклорных твораў ады-

грала краязнаўства. У Беларусі яно пачалося са Случчыны. Яшчэ ў 1918 г. там узнікла культурна-асветнае таварыства «Папараць-кветка», у 1922 г.— Слуцкая павятовая камісія беларусазнаўства. У верасні 1923 г. яна была рэарганізавана ў Слуцкае павятовае таварыства краязнаўства. З 1924 г. пры Прэзідыуме Інстытута беларускай культуры працавала Цэнтральнае бюро краязнаўства, адной з важнейшых задач якога было збіранне і даследаванне вуснай народнай творчасці. Краязнаўчыя арганізацыі, створаныя ва ўсіх акругах і раёнах Беларусі, гурткі пры школах, хатах-чытальнях, сельскіх Саветах актыўна збіралі фальклорныя творы. Вялікую карысць прыносілі інструкцыйна-метадычныя матэрыялы, якія друкаваліся ў перыядычным друку, накіроўваліся ў мясцовыя краязнаўчыя арганізацыі. У інструкцыях даваліся парады, што з фальклору і ад каго запісваць, як правільна зафіксаваць народны твор, пашпартызаваць яго. У Цэнтральнае бюро краязнаўства пачалі паступаць шматлікія фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы.

Ход збірання вусных народных твораў шырока асвятляўся ў часопісе «Наш край». На яго старонках друкаваліся інструктыўныя і метадычныя рэкамендацыі, падводзіліся вынікі збірання фальклорных матэрыялаў з кароткай характарыстыкай запісаных матэрыялаў, ацэнкай іх якасці, аналізам жанравага складу дасланых тэкстаў, падлікам іх колькасці.

Падводзячы вынікі збірання вусных народных твораў за мінулы акадэмічны год, А. А. Шлюбскі ў часопісе «Наш край» у студзені 1927 г. адзначаў, што Цэнтральнае бюро краязнаўства Інбелкульта наладзіла збіранне фальклору з дапамогай 165 краязнаўчых арганізацый розных тыпаў. Заклік збіраць вусныя народныя творы знайшоў «жывы водгук сярод мясцовых прадстаўнікоў». Яны даслалі ў Інбелкульт вялікую колькасць твораў. Карэспандэнтамі, якія запісалі і прыслалі фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы, былі вясковыя настаўнікі, слухачы педтэхнікумаў, вучні школ. А. А. Шлюбскі ахарактарызаваў запісы, адзначыў лепшыя з іх, катэгарычна пярэчыў супраць апрацоўкі песень. Увага акцэнтавалася на прыпеўках, запісаных з мелодыямі, якія ўзніклі

непасрэдна пад уплывам сучаснасці і з'яўляюцца каштоўнымі матэрыяламі для вывучэння настрояў і псіхалогіі людзей. Аднак прыведзеныя пры гэтым прыпеўкі мастацкай дасканаласцю не вылучаліся, тым не менш яны выразна адлюстроўвалі стаўленне народа да новага ладу, камсамола, царквы і рэлігіі. У той час бытавалі таксама прыпеўкі, у якіх адбіліся і негатыўныя адносіны да ўлады, але такія творы не запісваліся і не публікаваліся.

Большай мастацкай вартасцю характарызаваліся традыцыйныя народныя песні, якіх многа дасылалі карэспандэнты. Я. Гладкоўскі, напрыклад, з Быхаўскага раёна прыслаў 40 веснавых песень, дзе ярка адлюстраваліся сельскагаспадарчыя клопаты сялян. Значнай папулярнасцю карысталіся традыцыйныя вясельныя песні. У Мазырскай акрузе М. Квіцінскі зрабіў апісанне вясельнага абраду і зафіксаваў у ім 220 песень.

А. А. Шлюбскі коратка ахарактарызаваў творы, сабраныя ў Мінскай і Слуцкай акругах, а таксама ў Смаленскай і Гомельскай губернях, прывёў антыклерыкальны анекдот, якім у той час ваяўнічай барацьбы з царквой і рэлігіяй даваўся дазвол на публікацыю.

За 1925/26 акадэмічны год было запісана 8565 фальклорных твораў, якія ацэньваліся неадназначна: многія з іх, асабліва традыцыйныя, мелі навуковую цікавасць, іншыя ж, у большасці выпадкаў узнікшыя ў савецкі час, не вызначаліся высокай мастацкасцю і дакладнасцю запісаў.

Як відаць з інфармацыйнага артыкула А. А. Шлюбскага, апублікаванага ў часопісе «Наш край» (1928. № 3), інтэнсіўнасць збірання вуснапаэтычных твораў узрастала. За 1926/27 акадэмічны год Інстытут беларускай культуры атрымаў 13 459 запісаў. Асаблівай актыўнасцю вызначаліся карэспандэнты з Аршанскай (даслалі 3247 запісаў), Віцебскай (2907) і Мінскай (2196) акруг. Як і ў папярэдні год, найбольшая колькасць запісаў прыпадала на прыказкі, загадкі, вясельныя і бытавыя песні і прыпеўкі. Але павялічылася колькасць некваліфікаваных запісаў, якія рабілі школьнікі.

У часопісе «Наш край» (1928. № 12) А. А. Шлюбскі змясціў табліцу, у якой прывёў колькасць твораў, да-

сланых у Інбелкульт у кожным з апошніх акадэмічных гадоў, і агульную — за тры гады. У 1927/28 акадэмічным годзе колькасць запісаў крыху зменшылася ў параўнанні з папярэднім годам (12 776), але ўражвае агульная лічба: за тры гады сабрана 34 794 фальклорныя творы. З іх пераважна загадкі (4866), прыказкі (3847), працоўныя песні (1675), вясельныя песні (4816), бытавыя песні (3943). Але найбольш было запісана прыпевак (12 145). Гэта тлумачыцца перш за ўсё здольнасцю прыпеўкі як надзённага жанру аператыўна асвятляць грамадскія падзеі, пачуцці і настрой народа. Аднак прыклады, якія прыводзіў А. А. Шлюбскі, сведчаць пра мастацкую недасканаласць дасланых прыпевак у пераважнай большасці. Табліца дазваляе зрабіць вывад і пра тое, што ў памяці народа яшчэ шмат захавалася замоў (711) і абрадавых песень розных цыклаў земляробчага календара. Параўнаўча мала даслана тэкстаў хаўтурных галашэнняў і духоўных вершаў.

Ацэньваючы дасланыя фальклорныя творы, А. А. Шлюбскі адзначаў, што, нягледзячы на «рад (іншы раз і даволі сур'ёзных) недахопаў, увесь сабраны матэрыял у цэлым мае бясспрэчную навуковую каштоўнасць». Цяжка меркаваць пра мастацкія і ідэйныя вартасці твораў, таму што фальклорны архіў загінуў у час Вялікай Айчыннай вайны. Тыя ж адзінкавыя творы, апісанні абрадаў, якія былі апублікаваны ў часопісе «Наш край», не даюць падставы для грунтоўнай ацэнкі ўсяго матэрыялу. Аднак традыцыйныя народныя творы і апісанні абрадаў мелі значную навуковую каштоўнасць, тэксты песень вызначаліся надзвычайным паэтычным хараством.

А. А. Шлюбскі зрабіў вывад пра захаванасць у памяці народа пэўных відаў вуснай паэзіі і на падставе аналізу фальклорных твораў зазначыў: «Яны паказваюць паступовае знішчэнне беларускай старадаўняй абрадавай народнай творчасці, месца якой займаюць прыпеўкі, потым вясельныя і бытавыя песні». У падмацаванне сваёй думкі ён прывёў выказванні вядомых вучоных пра «знішчэнне старадаўніх песень і звычаяў з прычыны моцных уплываў на народнае жыццё гарадской культуры», напрыклад М. А. Янчука, які пісаў, што «са-

праўдная народная паэзія знікае, гіне год ад году... Яе замяняе паэзія «пошлага манеру», якая пранікае нават у самыя глухія закавулкі праз чыгункі, адстаўных салдат, асоб, што адыходзяць на заработкі, і г. д.». Ён нагадаў словы Е. Р. Раманава пра тое, што старажытная абраднасць, якая насіла арэол святасці, знікае і нічым не замяняецца.

Каб дапамагчы аматарам збірання фальклорных твораў кваліфікавана запісваць іх, часопіс «Наш край» (1928. № 4) апублікаваў спецыяльную «Праграму для запісвання помнікаў вуснай народнай творчасці», у якой змясціў метадычныя парады, як запісваць і пашпартызаваць творы. Аднак праграма не скіроўвала ўвагу на вывучэнне фальклорных працэсаў, якія адбываліся ў савецкі час. Для разгортвання збірання традыцыйнага фальклору і яго захавання праграма мела станоўчае значэнне. Многія краязнаўцы, настаўнікі, студэнты, вучні старэйшых класаў з дапамогай метадычных парад, змешчаных у праграмах, авалодвалі тэхнікай запісу паэтычных твораў, далучаліся да важнай справы зберажэння каштоўных помнікаў духоўнай культуры народа.

У 1927—1928 гг. Інстытут беларускай культуры выдаў зборнік фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў у дзвюх частках, складзены А. А. Шлюбскім. Усе творы запісаны ім у Полацкім, Віцебскім, Лепельскім, Сенненскім, Суражскім, Веліжскім, Парыцкім і іншых паветах. Ён запісваў фальклорныя творы пераважна ад жанчын, таму што лічыў іх галоўнымі захавальнікамі вуснай народнай творчасці. Запісы зроблены кваліфікавана, з захаваннем дыялектных і іншых моўных асаблівасцей.

Фальклорныя тэксты сістэматызаваны ў зборніку ў адпаведнасці з народнымі традыцыямі. Калі песня выконвалася ў розныя перыяды земляробчага календара або ў час сямейных святаў, тады А. А. Шлюбскі змяшчаў яе адпаведна ў розных аддзелах. Факты выканання адной і той жа песні ў розныя перыяды земляробчага календара ён тлумачыў як «пачынаючую развівацца ў народзе раўнадушнасць да сваёй народнай творчасці і старадаўніх звычаяў».



*М. І. Каспяровіч*

Народныя творы класіфікаваны ў зборніку ў адпаведнасці з жанрава-функцыянальным прынцыпам і з улікам старажытнасці іх паходжання: замовы, калядныя, веснавыя, русальныя, купальскія, працоўныя, хрэсьбінныя (далучыў да іх і дзіцячыя), вясельныя песні, хаўтурныя галашэнні. У наступных частках зборніка ён меркаваў змясціць бытавыя песні, прыказкі, загадкі, казкі, творы са слядамі гераічнага эпасу, духоўныя вершы.

Перад творамі кожнага віду або жанру даецца кароткі ўступ, у якім робіцца бібліяграфічны агляд вынікаў іх збірання і вывучэння, апісанне абраду або характарыстыка выканаўцаў твора. Аўтар, напрыклад, знаёміў чытачоў са знахарамі і чараўнікамі розных месцаў Віцебшчыны, паказваў стаўленне да іх народа, прыводзіў шмат розных фактаў з жыцця і паводзін чараўнікоў.

Найбольш змешчана ў зборніку калядных (18), купальскіх (58), пятроўскіх (24), жніўных (69), талочных (20), вясельных песень (466) і вясельных прыпевак (34). Вясельным песням і апісанню шлюбных абрадаў і звычаяў А. А. Шлюбскі адводзіў найбольшае месца, вясельная паэзія лепш захавалася не толькі ў памяці народа, але і ў актыўным бытаванні. Апісваючы вясельныя звычаі і абрады віцябчан, даследчык акцэнтаваў увагу на тых, якія ўжо адмерлі, але нагадваюць пра час панавання сацыяльнай несправядлівасці, бяспраўя сялян, жорсткія здзекі з маладой дзяўчыны. Ён прыводзіў факты распраў з нявестай, якая не захавала цноты, абураўся існаваўшым раней звычаем першай ночы, у адпаведнасці з якім дзяўчына-нявеста павінна была спачатку пераначаваць з панам.

У зборніку змешчаны вельмі багаты фальклорна-этнаграфічны матэрыял, каштоўны і для этнографа, і для фалькларыста, і для лінгвіста, і іншых спецыялістаў.

А. А. Шлюбскаму належыць шмат артыкулаў, у якіх ён даследаваў побыт і вусную народную творчасць беларусаў, асвятляў асобныя пытанні гісторыі. У артыкуле «Паны і сяляне ў першай палове XIX стагоддзя» (1924) ён паказаў цяжкае эканамічнае становішча сялян у дарэвалюцыйныя часы, катаванні і здзекі з іх паноў. Голад і галеча спадарожнічалі селяніну на працягу ўсяго яго жыцця. Сяляне вымушаны былі есці крапіву, асот, мякіну і інш. Паны прысвоілі сабе права першай ночы, гвалцілі дзяўчат і жанчын. У некаторых артыкулах А. А. Шлюбскі выступаў як гісторык этнаграфіі і фалькларыстыкі. У артыкуле, змешчаным у 1925 г. у часопісе «Полымя» (№ 2), ён прааналізаваў працы Змітрака Бядулі, з якіх найбольш важнай лічыў кнігу «Вера, паншчына і воля ў беларускіх народных казках і песнях» (1924). Ім жа зроблена спроба выявіць этнаграфізмы ў творчасці пісьменніка, вызначыць уплыў фальклору, у прыватнасці твораў са зборнікаў А. К. Сержпутоўскага, на паэзію Змітрака Бядулі. Аб'ектыўна ацэньваючы этнаграфічныя працы пісьменніка, даследчык слушна заўважыў, што Змітрок Бядуля не этнограф і таму яго публікацыі «носяць дылетанцкі характар».

А. А. Шлюбскі ўнёс значны ўклад у развіццё белару-

скай фалькларыстыкі. Яго працы, асабліва фальклорны зборнік і бібліяграфічны паказальнік «Матэрыялы да беларускай бібліяграфіі. Этнаграфія» (1927), і сёння выкарыстоўваюцца ў навуковых даследаваннях.

Аднак ужо з канца 20-х гадоў дзейнасць А. А. Шлюбскага і іншых выдатных этнографаў і фалькларыстаў знішчальна крытыкавалася. Л. А. Бабровіч, І. Т. Шпілеўскі, М. Я. Грынблат, А. М. Ляўданскі ў артыкуле «Этнаграфія. Музейная справа» (1931) бязлітасна расправляліся з В. У. Ластоўскім, М. І. Каспяровічам, А. А. Шлюбскім і іншымі вучонымі. Аўтары артыкула нават не адзначылі вялікую збіральніцкую фалькларыстычную работу, а інструкцыя А. А. Шлюбскага, як збіраць фальклор у народзе, была аб'яўлена шкоднай. Трэба адзначыць, што гэтая інструкцыя не была адзінай. У 1925 г. у № 2—3 часопіса «Наш край» змешчана «Праграма збірання вуснае народнае творчасці», складзеная літаратурнай камісіяй Інбелкульта. У ёй перш за ўсё падрабязна рэгламентавалася, што трэба запісваць, называліся не толькі жанры твораў, але і іх разнавіднасці, тэматычныя групы. Асабліва вялікі пералік мелі песні.

Класіфікацыя песень грунтуецца ў праграме на розных прынцыпах: функцыянальна-этнаграфічным, тэматычным, прафесійным і інш. Аднак паслядоўнасць выкарыстання прынцыпаў класіфікацыі не вытрымліваецца.

Падрабязныя патрабаванні выказаны ў праграме і да збірання празаічных народных твораў. Праграма раіць запісваць казкі пра бунты, паўстанні, рэвалюцыі, а таксама фантастычныя, пра жывёл, сацыяльна-бытавыя, рэлігійныя, легенды, апокрыфы і інш. Далей аўтары праграмы скіроўваюць аматараў фальклору запісваць апавяданні і пераказы пра стварэнне свету, багоў, чарцей, святых. Але ж усё гэта ўваходзіць у легенды, пра якія гаворка ішла вышэй.

У праграме называюцца і іншыя жанры, творы якіх неабходна было фіксаваць: замовы, прыказкі і розныя прымаўлянні, загадкі, тэксты драматычных народных прадстаўленняў, «рацэі» (на вяселлі), карагодныя размовы, прывітанні, развітанні, пажаданні, праклёны, літаратурныя творы, якія сталі народнымі, і інш.

Праграма збірання вуснай народнай творчасці, скла-

дзеная літаратурнай камісіяй Інбелкульта, паўторна надрукавана ў тым жа часопісе ў 1926 г. [1]

Інстытут беларускай культуры надаваў вялікае значэнне кваліфікаванаму запісу фальклору. І не толькі славеснага, але і музычнага. Каб актывізаваць запіс мелодый вуснапаэтычных твораў, сакратар песеннай камісіі Інбелкульта А. Грыневіч змясціў у часопісе «Наш край» (1925. № 1) «Праграму-інструкцыю для збіральнікаў беларускай музычна-этнаграфічнай творчасці». Складальнік раіць у якасці плана збірання вуснапаэтычных твораў узяць гадавы круг абрадавых песень і дапоўніць іх бытавымі і інш. У пераліку песень значацца калядныя, масленічныя, веснавыя, русальныя, купальскія, пятроўскія, хрэсьбінныя, вясельныя песні, хаўтурныя галашэнні, бытавыя песні, прыпеўкі і духоўныя вершы.

Апрача запісу пералічаных песень, А. Грыневіч скіроўвае ўвагу аматараў фальклору на запіс мелодый дзіцячых і «былінных» песень, прыпевак да гульняў, танцаў, карагодаў. Аўтар праграмы просіць даваць падрабязнае апісанне танцаў, карагодаў і гульняў. Істотнай была парада запісваць тэксты песень не з пераказу, а са спеваў. У пашпартызацыі тэкстаў неабходна было адзначыць, дзе, ад каго запісана песня, нагадаць, ад каго спявак або спявачка перанялі песню. Усе гэтыя патрабаванні прымальныя і сёння. Нельга толькі пагадзіцца з тым, што спевакоў і спявачак лепш выбіраць з даўнейшых ахвотнікаў спеваў (як багатых на запас песень), з добрым слыхам і чыстым голасам, выключна непісьменных, якія не былі ў гарадах і прамысловых асяродках [2].

У 20-я гады плённа працаваў вядомы фальклярыст, сапраўдны член Інстытута культуры А. К. Сержпутоўскі. Ён працягваў збор і вывучэнне вуснай паэтычнай творчасці. А. К. Сержпутоўскі працаваў захавальнікам этнаграфічнага аддзела Рускага музея ў Ленінградзе, шмат разоў выязджаў у камандзіроўкі для вывучэння быту і духоўнай культуры беларускага, рускага і іншых наро-

[1] Наш край. 1926. № 2—3. С. 43—47.
[2] Наш край. 1925. № 1. С. 46.

даў. У 1924 г. разам з музыказнаўцам Я. В. Прохаравым запісваў народныя песні на Магілёўшчыне і рыхтаваў зборнік беларускіх песень (150 тэкстаў). У 1926 г. А. К. Сержпутоўскі выязджаў у Гомельскую губерню і суседнія з ёю раёны Бранскай і Чарнігаўскай губерняў, сабраў багаты фальклорна-этнаграфічны матэрыял, на аснове якога ахарактарызаваў асаблівасці гаворак насельніцтва тых вёсак, якія ён наведаў. Для пацвярджэння сваіх вывадаў у апублікаванай справаздачы аб паездцы ён прывёў дзевяць абрадавых песень і іншыя творы.

Значную навуковую каштоўнасць мае зборнік А. К. Сержпутоўскага «Казкі і апавяданні беларусаў з Слуцкага павета», выдадзены ў 1926 г. Інстытутам беларускай культуры. У зборнік увайшлі казкі і апавяданні, запісаныя складальнікам у 1890—1923 гг. на Случчыне, пераважна ў вёсках Чудзін і Вялікі Рожын. У прадмове да зборніка А. К. Сержпутоўскі пісаў, што быў у гэтых вёсках у 1915 г., калі ішла вайна, не спадзяваўся, што запіша штосьці новае пасля ранейшага наведвання, калі сабраў багаты матэрыял і апублікаваў яго ў першым зборніку. Ён быў здзіўлены, калі тыя ж самыя людзі расказалі яму шмат варыянтаў раней запісаных твораў і многа новых. Як і ў першым зборніку, складальнік ахарактарызаваў казачнікаў, ад якіх рабіў запісы. Ва ўступе да зборніка А. К. Сержпутоўскі паведаміў пра выпрацаваную ім методыку запісу фальклорных твораў. Ён не адразу пачынаў запіс, а доўга жыў у вёсцы, знаёміўся з людзьмі, распытваў іх пра жыццё, клопаты, беды, побыт, паступова выяўляў казачнікаў. Пасля сустракаўся з казачнікам, расказваў яму цікавае апавяданне і гэтым выклікаў яго на гаворку, на паведамленне легенд, апавяданняў, казак, анекдотаў.

Усяго ў зборніку змешчана 100 казак, апавяданняў, легенд. Яны размешчаны бессістэмна: чарадзейныя казкі перамешваюцца з сацыяльна-бытавымі, апавяданнямі. Складальнік імкнуўся сістэматызаваць творы па пэўных казачніках, ад якіх яны запісваліся. Гэта дае магчымасць даследаваць казачны рэпертуар інфарматараў, асаблівасці іх манеры і стылю расказвання.

Казкі і апавяданні А. К. Сержпутоўскага запісаны ў

пачатку XX ст. і ў выніку шматгадовага бытавання не маглі не зведаць на сабе ўплыву часу, што адбілася і на структуры, і на паэтыцы, і на ідэйным змесце твораў. Некаторым з іх папярэднічаюць значныя па аб'ёму зачыны-ўступы.

Больш за 20 разоў наведваў А. К. Сержпутоўскі Беларусь з мэтай вывучэння быту, матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускага народа. Усё сабранае ім з'явілася крыніцай для стварэння не толькі апублікаваных, але і іншых работ, большая частка якіх не захавалася. Тым не менш працы выдатнага вучонага адыгралі важную ролю ў развіцці беларускай фалькларыстыкі.

Значны ўклад у фалькларыстыку ўнёс выдатны беларускі пісьменнік, аўтар шэрагу тэарэтычных прац і складальнік фальклорнага зборніка Максім Гарэцкі. З маленства ён палюбіў родныя песні, якія чуў ад маці, і з задавальненнем спяваў сам. Песні, вуснапаэтычная творчасць увогуле аказалі вялікі ўплыў на фарміраванне эстэтычных поглядаў пісьменніка, яго стаўленне да працоўнага народа. У 1926 г. ён запісаў ад сваёй маці Ефрасінні Гарэцкай у в. Малая Багацькаўка Мсціслаўскага раёна сотні песень. Мелодыі да іх перавёў на ноты А. А. Ягораў. Некалькі песень запісала Ганна Гарэцкая. Гэтыя запісы далі магчымасць скласці зборнік «Народныя песні з мелодыямі», які быў апублікаваны Інстытутам беларускай культуры ў 1928 г. У зборнік увайшло 318 тэкстаў, класіфікаваных у асноўным па жанрававідавому прынцыпу без уліку часу іх узнікнення і выканання. Спачатку даюцца хрэсьбінныя і вясельныя песні, потым — каляндарна-абрадавыя. Да раздзела «Спяваюць вясной» далучаны купальскія песні, якія адносяцца да летняга цыкла. Увогуле сістэматызацыя па каляндарных цыклах паслядоўна не вытрымана: зімовыя песні змешчаны ў розных месцах зборніка, сямейна-абрадавыя сустракаюцца ў раздзеле каляндарна-абрадавай паэзіі. Больш поўна даюцца вясельныя песні (117). Аднак вясельная паэзія і песні аграрных цыклаў змешчаны без апісання абрадаў.

Каштоўнасць матэрыялаў зборніка нельга пераацаніць. Яны даюць уяўленне аб песенным рэпертуары беларускай вёскі 20-х гадоў. Запісы мелодый дазваляюць

аналізаваць тэксты песень у цеснай сувязі з іх напевамі. Дакладнасць фіксацыі дае магчымасць вызначыць моўныя, паэтычныя і музычныя асаблівасці. Тэксты песень запісаны кваліфікавана, з захаваннем дыялектных, лексічных і іншых моўных асаблівасцей. Сваёй навуковай каштоўнасці не страціў зборнік і ў цяперашні час.

Плённа працаваў у галіне фалькларыстыкі І. А. Сербаў. У Інстытуце беларускай культуры ён быў сакратаром этнаграфічнай секцыі, з 1927 г. узначаліў камісію па вывучэнню быту і матэрыяльнай культуры. Яшчэ ў канцы XIX — пачатку XX ст. ён сабраў шмат фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў, якія часткова апублікаваў у кнізе «Беларусы-сакуны» (1915) і на працягу доўгага часу (нават у 30-я гады) друкаваў іх у часопісах і газетах.

І. А. Сербаў часта выязджаў у экспедыцыі, у час якіх збіраў вуснапаэтычныя творы, археалагічныя помнікі, прадметы побыту. У 1925 г. ён ажыццявіў экспедыцыю на Магілёўшчыну, дзе запісаў шмат народных песень, з іх 50 на фанографе. Багаты матэрыял, які ён сабраў, увайшоў у кнігу «Вічынскія паляне» (1928), аб якой гаварылася вышэй. У канцы 20-х — пачатку 30-х гадоў І. А. Сербаў даследаваў быт і матэрыяльную культуру беларускага народа. Трэба зазначыць, што ён ніколі не траціў цікавасці да вуснапаэтычнай творчасці. Аднак некалькі яго этнаграфічных прац і багатыя калекцыі фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў загінулі ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны.

Такім чынам, дзейнасць Інстытута беларускай культуры адыграла вялікую ролю ў станаўленні і развіцці беларускай савецкай фалькларыстыкі. І хоць фалькларыстыка як навука ў той час не заваявала належнага месца ў сістэме гуманітарных навук, яе пазіцыі значна ўмацаваліся. Паспяхова выкарыстоўвалася прагрэсіўная методыка збірання і вывучэння вусных народных твораў, фарміраваліся новыя метадалагічныя прынцыпы навуковага даследавання фальклору, былі створаны ўмовы для вылучэння фалькларыстыкі з этнаграфіі і літаратуразнаўства і яе самастойнага развіцця.

Аднак сучасная ацэнка дзейнасці Інбелкульта не супадае з ранейшай — 30-х гадоў. І. Шпілеўскі і Л. Баб-

ровіч пісалі, што Інстытут беларускай культуры стваваўся нібы для разгортвання шкодніцкай работы нацдэмаў: «Нацыянал-дэмакраты... ўжо ў 1922 г. паднялі пытанне аб арганізацыі Інстытута, прапанаваўшы сваім членам, ярым вялікадзяржаўнікам, як Пічэта і Дыла, і нават манархістам — акадэміку Карскаму, распрацаваць статут Інстытута беларускай культуры». Па іх словах, А. Цвікевіч, калі пісаў, што «Інстытут беларускай культуры нястомна засяроджваў увагу на... прымяненні сваёй дзейнасці да патрэб беларускага адраджэння», меў не высакародныя намеры, а імкнуўся праз стварэнне пры Інбелкульце Цэнтральнага бюро краязнаўства ўмацаваць сувязі з шырокімі працоўнымі масамі. І. Т. Шпілеўскі і Л. А. Бабровіч сцвярджалі, што «на самай справе ніякай сувязі з сапраўднымі працоўнымі масамі амаль не было. Да самай ліквідацыі нацыянал-дэмакратызму ў сценах акадэміі вакол краязнаўчых арганізацый на месцах у большасці групаваліся мясцовыя нацыянал-дэмакратычныя элементы, яны ж і кіравалі ўсёй краязнаўчай работай у кірунку, які даваўся былымі кіраўнікамі Інбелкульта» [3]. Інстытут беларускай культуры, па іх словах, стаў «цэнтральным пунктам беларускага адраджэння».

Падобныя абвінавачванні гучалі і ў іншых артыкулах, прысвечаных канкрэтным праблемам. Напрыклад, М. Я. Грынблат у артыкуле «Аб вывучэнні фальклору рэвалюцыі сацыялістычнага будаўніцтва» (1932) не стрымаўся ад нападак на вучоных Інстытута беларускай культуры. Ён адзначыў, што «пытанні фальклору, наогул, з'явіліся аднымі з цэнтральных пытанняў, якія «распрацоўваліся» кампаніяй «вучоных этнографаў» — В. У. Ластоўскім, А. А. Шлюбскім, М. І. Каспяровічам, М. В. Мялешкам і інш. І гэта не выпадкова. У фальклоры яны старанна шукалі «навуковага абгрунтавання» сваіх контррэвалюцыйных «навуковых тэорый»... Контррэвалюцыйная, інтэрвенцыяніцкая, фашысцкая сутнасць гэтых «тэорый» ужо выкрыта і вядома савецкай грамад-

---

[3] Шпилевский И. Ф., Бобрович Л. А. Белорусская Академия наук на пороге второй пятилетки. Мн., 1933. С. 3—6.

скасці»[4]. З запалам накінуўся ён на А. А. Шлюбскага, вялікім грахом якога лічыў тое, што ў сваёй інструкцыі па збіранню фальклору той у першую чаргу рэкамендаваў запісваць замовы, казкі і легенды, каляндарна-абрадавыя песні, а пры запісванні песень асаблівую ўвагу раіў звярнуць на жніўныя песні, «на якія перанесены некаторыя рысы дагістарычных звычаяў і вераванняў»[5].

Сучасныя фалькларысты не пагодзяцца з такой «крытыкай», таму што А. А. Шлюбскі кіраваўся гістарычным прынцыпам і на першае месца ставіў найбольш старажытныя жанры. У жніўных жа песнях сапраўды адбіліся рэшткі старадаўніх звычаяў і вераванняў народа і адлюстроўваўся сацыяльны пратэст, які гучаў больш выразна, чым у іншых абрадавых песнях.

Дзейнасць Інстытута беларускай культуры ў галіне фалькларыстыкі заслугоўвае высокай ацэнкі. Працы вучоных таго часу не страцілі свайго значэння і зараз. Фактычны матэрыял, сабраны і апублікаваны ў той час, плённа выкарыстоўваецца і нашымі сучаснікамі.

---

[4] Грынблат М. Аб вывучэнні фальклору рэвалюцыі сацыялістычнага будаўніцтва // Зборнік праграм і інструкцый па краязнаўству. Мн., 1932. С. 80—81.

[5] Там жа. С. 81.



# МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА

У час дзейнасці Інбелкульта ў БССР адначасова з вырашэннем гаспадарча-эканамічных задач пачалося ажыццяўленне вялікай культурнай праграмы. Важнае месца ў гэтым належала мастацтву, якое выпрацоўвала новыя эстэтычныя прынцыпы, сцвярджаючы гуманістычныя ідэалы, што патрабавала глыбокага даследавання і вывучэння мастацкіх працэсаў. Аднак у рэспубліцы не хапала кадраў для навукова-даследчай работы. Разам з тым было шмат выдатных практыкаў, вядомых творчых дзеячаў, якія стаялі ля вытокаў многіх мастацкіх з'яў, былі стваральнікамі духоўных здабыткаў народа. Гэтыя творчыя сілы і ўвайшлі ў склад секцыі мастацтва Інстытута беларускай культуры.

На агульным сходзе Інбелкульта 12 лютага 1925 г. быў зацверджаны яе прэзідыум: старшыня Я. Л. Дыла, намеснік старшыні М. Красінскі, сакратар М. М. Шчакаціхін. 27 лютага адбыўся першы сход новай секцыі, у склад якой увайшлі сем членаў Інбелкульта і 28 чалавек на добраахвотных асновах з іншых мастацкіх устаноў горада. Секцыя складалася з падсекцый, якія мелі самастойныя органы кіравання: тэатральная (старшыня М. Г. Красінскі, намеснік старшыні Е. А. Міровіч, сакратар М. К. Ільінскі); музычная (старшыня В. Сэлях, намеснік Я. В. Прохараў, сакратар Ю. М. Дрэйзін); вобразных мастацтваў (старшыня М. М. Шчакаціхін, намеснік І. І. Цвікевіч, сакратар М. Філіповіч).

З улікам распачатай Белдзяржкіно працы па стварэнню ўласных кінафільмаў было прызнана карысным арганізаваць пры тэатральнай падсекцыі кінакамісію з мэтай распрацоўкі тэм і сюжэтаў для беларускіх кінастужак. Аднак з-за адсутнасці належнай тэхнічнай базы

Белдзяржкіно было пераведзена ў Ленінград, і дзейнасць гэтай камісіі перапынілася.

Інстытут беларускай культуры хаця і лічыўся вышэйшай навукова-даследчай установай, але не склаўся яшчэ як чыста акадэмічная арганізацыя з пэўным тыпам навуковай працы, дакладнымі даследчымі планамі. Галоўная ўвага скіроўвалася на навукова-арганізацыйныя праблемы культуры. Парады і рэкамендацыі членаў падсекцый і камісій па розных відах і жанрах мастацтва сістэматычна абагульняліся і прадстаўляліся ў дырэктыўныя органы ў выглядзе дакладных запісак. Тыповым прыкладам гэтага можа служыць грунтоўны дакумент «Вывады па дакладу мастацкай секцыі Інбелкульта старшыні СНК БССР т. Адамовічу Я. А.» ад 29 красавіка 1925 г., у якім ўсебакова разгледжана дзейнасць мастацкіх устаноў рэспублікі на той перыяд [1]. У прыватнасці, падрабязна прааналізавана праца Беларускага дзяржаўнага тэатра, трупы Галубка, іх рэпертуар і гастрольная дзейнасць.

Сярод шматлікія каштоўных спраў, ажыццёўленых секцыяй мастацтва, былі выяўленне ў архівах Масквы і зняцце копіі з арыгінала беларускай оперы «Сялянка» («Ідылія») В. Дуніна-Марцінкевіча, у ленінградскіх архівах — п'ес беларускіх аўтараў, забароненых царскай цэнзурай, складанне праграмы беларускага рэпертуару для Ленінградскай акадэмічнай капэлы і ўкраінскай капэлы «Думка». Я. Дыла наведаў Маскву і Ленінград для вывучэння матэрыялаў і дакументаў пра паўстанне 1863 г. на Беларусі.

Тэатральная падсекцыя Інбелкульта пачала практычную дзейнасць у сакавіку 1925 г. У яе працы прымалі ўдзел 15 чалавек. Сярод іх Я. Л. Дыла, Ф. П. Ждановіч, Е. А. Міровіч, У. Я. Галубок, М. К. Ільінскі, З. Бядуля, Ч. І. Родзевіч, М. А. Грамыка, В. У. Галіна, Я. С. Рамановіч, В. Сэлях і інш. У кастрычніку 1926 г. склад тэатральнай падсекцыі значна пашырыўся. У яе ўвайшлі В. М. Вазнясенскі, М. А. Міцкевіч, В. А. Шашалевіч, П. В. Мядзёлка, Ц. М. Сяргейчык, Т. А. Бандарчык і інш. Праметы і накірункі гэтай творчай суполкі Я. Л. Дыла пі-

[1] Архіў ІМЭФ АНБ, воп. 6, спр. 6, арк. 34—36.

саў: «Тэатральная падсекцыя на першых сваіх сходах выпрацавала наступны план сваёй чыннасці: мастацкая дапамога Беларускаму дзяржаўнаму тэатру ў яго працы; такая ж дапамога Беларускай драмстудыі, якая ў блізкі час стане маладым беларускім дзяржаўным тэатрам; распрацоўка плана арганізацыі беларускай тэатральнай справы ў БССР; дбанне аб далейшай падрыхтоўцы беларускага артыстычнага маладняку і працаўнікоў іншых галін тэатральнага мастацтва; вывучэнне гісторыі беларускага тэатра і заснаванне беларускага тэатральнага музея; вывучэнне беларускага народнага танца; вывучэнне беларускага драматычнага рэпертуару, яго павялічэнне і адбор п'ес для вясковай сцэны; пераклад класічных драматургічных твораў; арганізацыя драматургічнага семінара для лепшай падрыхтоўкі маладых драматургаў; апрацоўка тэатральнай тэрміналогіі і г. д.»[2]

Тэатральная падсекцыя падзялялася на некалькі спецыяльных камісій для канкрэтнай працы ў пэўным кірунку. Напрыклад, камісію па збіранню п'ес для вёскі ўзначальвалі М. А. Грамыка, Ф. П. Ждановіч, П. Арэшнікаў, падрыхтоўку матэрыялаў для гісторыі беларускага тэатра і збор экспанатаў для тэатральнага музея — Я. Л. Дыла, З. Бядуля, Ф. П. Ждановіч, Ч. І. Родзевіч, складаннем слоўніка тэатральнай тэрміналогіі займаўся М. А. Папоў.

Дзейнасць тэатральнай падсекцыі мела пераважна практычнае значэнне. У 1921 г. у Маскве адкрылася Беларуская драматычная студыя, якой быў нададзены статус вышэйшай навучальнай установы. Мастацкае кіраўніцтва студыяй з 1922 г. ажыццяўляў рэжысёр і акцёр 1-й студыі МХАТа В. С. Смышляеў, дырэктарам ад Беларусі быў А. Ляжневіч. У студыі займаліся 34 навучэнцы. Пры ёй існавала і яўрэйская секцыя, якая налічвала 35 студыйцаў. На пасяджэннях тэатральнай падсекцыі дырэктар А. Ляжневіч рабіў справаздачы аб працы студыі. На падставе яго паведамленняў прымаліся спецыяльныя пастановы, накіраваныя на аказанне практычнай дапамогі як у плане матэрыяльнага забеспячэння, так

---

[2] Архіў ІМЭФ АНБ, воп. 6, спр. 6, арк. 31.

і ў вызначэнні напрамку мастацкіх пошукаў. Так, у рэзалюцыі ад 2 верасня 1925 г. асобным пунктам адзначана: «Звярнуць асаблівую ўвагу на некаторую адарванасць студыі ад нацыянальнай глебы і правесці адпаведную працу дзеля зліквідавання гэтага з'явішча». І далей: «Тэатральная падсекцыя лічыць патрэбным прыйсці на дапамогу Драмстудыі ў магчымым забеспячэнні яе беларускім рэпертуарам» [3].

Аднак пільная ўвага з боку тэатральнай падсекцыі да працы студыі зусім не азначала жорсткі кантроль над самім працэсам навучання. Пра гэта яскрава сведчыць наступны пункт той жа рэзалюцыі: «Лічыць, што зараз няма пэўнай патрэбы вызначыць канкрэтна мастацкі кірунак студыі, але разам з тым звярнуць увагу на азнаямленне студыі з іншымі сучаснымі тэатральнымі кірункамі ў пастаноўках і выкарыстаць іх па магчымасці» [4].

Па рэкамендацыі тэатральнай падсекцыі паміж навучэнцаў студыі была створана рэжысёрская група, куды ўвайшлі студэнты, схільныя да рэжысуры, сярод якіх М. Міцкевіч, К. Саннікаў, Л. Мазалеўская, В. Барысевіч, Ц. Сяргейчык. Добрай практыкай для іх з'явіліся выпускныя дыпломныя спектаклі, над якімі яны працавалі разам з вопытнымі майстрамі рускай сцэны. На пачатку 1925 г. у сувязі з заканчэннем вучобы неабходна было вырашыць далейшы лёс будучых спецыялістаў з вышэйшай тэатральнай адукацыяй. Канчатковае рашэнне гэтага пытання Наркамасветы БССР даручыў тэатральнай падсекцыі Інбелкульта. Была створана спецыяльная камісія ў складзе Я. Л. Дылы, Е. А. Міровіча і Л. Мышкоўскага, якая павінна была ўсебакова азнаёміцца з дзейнасцю беларускай і яўрэйскай студый. Вывады камісіі былі абмеркаваны на пасяджэнні тэатральнай падсекцыі, зацверджаны Наркамасветы БССР. Яны сведчылі, што беларуская і яўрэйская студыі з'яўляюцца прафесійнымі мастацкімі калектывамі. На базе Беларускай драматычнай студыі быў арганізаваны нацыянальны тэатр з базай у Віцебску, які атрымаў назву Другі

---

[3] Архіў ІМЭФ АНБ, воп. 6, спр. 6, арк. 75.
[4] Там жа.

беларускі дзяржаўны тэатр (БДТ-2), з яўрэйскай быў утвораны Дзяржаўны яўрэйскі тэатр БССР з базай у Мінску.

У практычнай дзейнасці галоўную ўвагу тэатральная падсекцыя накіроўвала на забеспячэнне беларускіх тэатраў нацыянальным рэпертуарам. Сцэнічныя калектывы мелі пэўную драматургічную спадчыну — творы В. Дуніна-Марцінкевіча, Я. Купалы, Я. Коласа, У. Галубка, К. Каганца, К. Буйло. На ніве драматургіі рабілі першыя крокі Е. Міровіч, М. Чарот, Ц. Гартны, Я. Рамановіч, Я. Дыла, В. Шашалевіч, М. Зарэцкі, В. Сташэўскі, М. Грамыка, Д. Курдзін, В. Гарбацэвіч. Аднак гэта не задавальняла попыт беларускіх тэатраў на нацыянальныя творы. Тэатральная падсекцыя пастаянна абмяркоўвала гэтае хвалюючае пытанне, рабіла практычныя захады да яго вырашэння: праводзіліся конкурсы на лепшую беларускую п'есу, рабіліся заказы драматургам па канкрэтнай тэматыцы і інш. Звычайна гэтым займалася выдавецкая камісія.

Нарэшце, было вырашана на базе Інбелкульта правесці драматургічны семінар для ўсіх, хто пажадае паспрабаваць свае сілы ў напісанні п'ес. На пасяджэнні ад 19 сакавіка 1925 г. быў заслуханы план семінара, складзены Я. Л. Дылам, і створана спецыяльная камісія на чале з выкладчыкам Беларускага дзяржаўнага універсітэта Я. І. Барычэўскім. Драматургічны семінар пачаўся ў снежні 1925 г. і працягваўся сем тыдняў. Слухачамі з'яўляліся працаўнікі тэатраў, пісьменніцкая арганізацыя «Маладняк», вясковае настаўніцтва і інш. Заняткі праводзілі Я. І. Барычэўскі, І. І. Замоцін, Е. А. Міровіч, Ф. П. Ждановіч, Ч. І. Родзевіч, Л. Дашкевіч. Праграма семінара ўключала курс лекцый па гісторыі і тэорыі драматургіі, гісторыі і тэорыі сцэны, практычныя заняткі па разбору драматургічных твораў. Лектары знаёмілі слухачоў з гісторыяй тэатра ад антычнасці да сучаснасці, з практыкай беларускіх тэатральных калектываў. Драматургічны семінар прайшоў паспяхова і выклікаў шчырую зацікаўленасць грамадскасці. Падрыхтоўка маладых кадраў у галіне драматургіі, заахвочванне да тэатра таленавітай пісьменніцкай моладзі былі плённымі.

Тым не менш праблема нацыянальнага рэпертуару для тэатраў заставалася актуальнай. Спецыяльная камісія тэатральнай падсекцыі пачала вывучэнне беларускай драматургічнай спадчыны, выявіла каля 150 арыгінальных п'ес (у тым ліку аднаактовых). Большасць з іх знойдзена ў хатніх архівах тэатральных дзеячаў, у рэспубліканскіх архівах, асобныя творы — у бібліятэках Масквы і Ленінграда. За рэдкім выключэннем выяўленыя п'есы (асабліва аднаактовыя) у мастацкіх адносінах былі слабыя.

Для прапаганды сусветнай класікі па ініцыятыве тэатральнай падсекцыі былі перакладзены на беларускую мову п'есы «Антыгона» Сафокла, «Вакханкі» Эўрыпіда, «Сон у летнюю ноч», «Віндзорскія насмешніцы» і «Цымбелін» В. Шэкспіра, «Эрас і Псіхея» Ю. Жулаўскага, а таксама інсцэніроўка рамана «Таміла» Ф. Дзюшэна і іншыя творы.

Асабліва пільная ўвага надавалася новым творам беларускіх аўтараў. У прыватнасці, былі абмеркаваны творы «Краб» У. Галубка, «Кар'ера таварыша Брызгаліна» Е. Міровіча, «Вір» Я. Рамановіча, «Скарына — сын з Полацка» і «Над Нёманам» М. Грамыкі. Акрамя п'ес выносіліся на абмеркаванне найбольш значныя тэатральныя пастаноўкі. Напрыклад, у кастрычніку 1926 г. спецыяльнае пасяджэнне тэатральнай падсекцыі было прысвечана прэм'еры БДТ-1 па п'есе Е. Міровіча «Перамога» — першай спробе тэатра сцэнічнымі сродкамі ўвасобіць падзеі рэвалюцыі на Беларусі. Непасрэдна ў дыскусіі прынялі ўдзел М. А. Грамыка, А. І. Александровіч, Л. М. Літвінаў, Я. Л. Дыла, З. Ф. Жылуновіч, З. Бядуля, П. В. Мядзёлка. Дыскусія вылілася ў абмеркаванне важных праблем, якія мелі дачыненне не толькі да пастаноўкі п'есы, але і наогул да тэатральнай практыкі ў рэспубліцы.

Даволі часта на такіх абмеркаваннях узнімаліся пытанні чысціні беларускай мовы на сцэне. На адным з пасяджэнняў Я. Дыла ўнёс прапанову «аб прыняцці рашучых і канкрэтных спосабаў да паляпшэння мовы працаўнікоў сцэны БДТ, якія не толькі ў прыродным жыцці, але ў межах тэатра, нават у часе працы не гутараць па-беларуску, што шкодна адбіваецца на іхняй

мове на сцэне»[5]. Тэатральная падсекцыя аказвала практычную дапамогу розным установам па наладжванню дабрачынных вечароў з удзелам артыстаў, спевакоў, музыкантаў. Попыт на такія вечары быў вялікі, што спрыяла папулярызацыі мастацтва сярод насельніцтва. Гэтай жа мэце павінна было служыць друкаванне паштовак з партрэтамі дзеячаў культуры.

Акрамя плённай практычнай дзейнасці тэатральная падсекцыя праводзіла значную навукова-даследчую работу. З навуковымі дакладамі часта выступалі дзеячы мастацтва, былі праслуханы і абмеркаваны даклады Е. Міровіча «Шляхі Беларускага дзяржаўнага тэатра», М. Папова «Дзіця — глядач», М. Ільінскага «Тэатр і рэвалюцыя — рэвалюцыя ў тэатры», Л. Літвінава «Яўрэйскі тэатральны маладняк» і інш. Галоўная ўвага, як правіла, скіроўвалася на праблему нацыянальнай самабытнасці беларускага тэатра, пошукі свайго ўласнага мастацкага стылю і метаду.

Шмат было зроблена супрацоўнікамі тэатральнай падсекцыі ў галіне даследавання гісторыі і сучаснага стану беларускага тэатра. Меркавалася выдаваць штогоднікі па самых розных праблемах нацыянальнай сцэны і драматургіі. На працягу некалькіх гадоў былі падрыхтаваны навуковыя артыкулы, прысвечаныя прафесійнаму і аматарскаму тэатру на Беларусі, яго народным формам, сярод якіх «Батлейка» і «Драматычны элемент у жыцці і творчасці нашых продкаў» З. Бядулі, «Адраджэнне беларускага тэатра на Міншчыне» Ф. Ждановіча, «Шлях беларускага тэатра» Х. Херсонскага, «Беларускі тэатр» В. Патапава, «Беларускі тэатр у палове XIX веку» М. Гарэцкага, «Дзяржаўная вандроўная група, заложаная Галубком» У. Галубка.

Таксама былі занатаваны звесткі пра становішча тэатра ў Заходняй Беларусі (М. Красінскі), выступленне БДТ на Усерасійскай сельскагаспадарчай саматужна-прамысловай выстаўцы ў Маскве ў 1923 г. (М. Гурскі), паказ БДТ-1 спектакля «Пінская шляхта» В. Дуніна-Марцінкевіча ў сельскай мясцовасці (Я. Рамановіч). Багатая інфармацыя была сабрана пра дзейнасць бела-

[5] Архіў ІМЭФ АНБ, воп. 6, спр. 6, арк. 74.

рускіх драматургічных гурткоў на Случчыне, Чэрвеньшчыне і ў Мінску. Усе гэтыя артыкулы ўяўлялі сабой першыя парасткі беларускага тэатразнаўства і па сутнасці закладвалі грунтоўны падмурак у будынак нацыянальнай навукі аб тэатры. Аднак па розных абставінах яны так і не былі надрукаваны.

Значную навукова-даследчую работу правёў рэжысёр М. Папоў па складанню слоўніка тэатральнай тэрміналогіі. Як сведчаць архіўныя дакументы, слоўнік быў падрыхтаваны да друку. Так, у пратаколе № 16 пасяджэння прэзідыума тэатральнай падсекцыі ад 13 кастрычніка 1926 г. можна знайсці звесткі аб выдзяленні «200 руб. на выданне 2-х аркушаў тэатральнай тэрміналогіі» і «100 руб. на апрацоўку тэатральнай тэрміналогіі» [6]. Аднак гэта каштоўнае пачынанне не здзейснілася.

З першых дзён існавання тэатральнай падсекцыі вялікая ўвага была звернута на збіранне экспанатаў для тэатральнага музея, назапашваліся дакументы, рэчы, вопратка, макеты пастановак, фотаздымкі і інш. Паколькі гэта пошукавая работа супадала з інтарэсамі іншых падсекцый, то ажыццяўлялася супольна. Было надрукавана 200 экземпляраў адозвы да насельніцтва з прапановай збіраць і дасылаць у Інбелкульт матэрыялы па гісторыі беларускага тэатра. Значную каштоўнасць уяўлялі экспанаты, якія падаравалі музею беларускія дзеячы мастацтва. У. Я. Галубок перадаў архіў вандроўнага тэатра за 10 гадоў існавання, дзе было шмат фотаздымкаў, праграм, афіш і рэцэнзій на спектаклі, эскізаў дэкарацый і касцюмаў. Тое ж зрабілі Ф. П. Ждановіч, Ч. І. Родзевіч, Я. Л. Дыла, М. Г. Красінскі, А. Ф. Паўловіч і інш. Тэатральны музей налічваў больш за 1 тыс. дакументаў, матэрыялаў, экспанатаў.

У 1927 г. у сувязі з рэарганізацыяй Інбелкульта на базе секцыі мастацтва ўтварыўся Інстытут беларускага мастацтва з камісіямі па вывучэнню гісторыі беларускага мастацтва, беларускай песні і музыкі, з музеем беларускага мастацтва. Інстытут, які ўзначаліў Я. Л. Дыла, працягваў тую ж працу, што была распачата секцыяй мастацтва Інбелкульта. Па-ранейшаму значная ўвага

[6] Архіў ІМЭФ, воп. 6, спр. 6, арк. 73.



*Я. Л. Дыла,
правадзейны член
Інбелкульта*

была звернута на навуковую працу, арганізацыю пошукаў у архівах, даследаванне спецыяльнай літаратуры, практычную дапамогу прафесійным і аматарскім калектывам.

Дбаючы пра развіццё нацыянальнай драматургіі, Інстытут беларускага мастацтва выступіў ініцыятарам спецыяльнай нарады пісьменнікаў рэспублікі і тэатральных дзеячаў па пытанню стварэння арыгінальнага рэпертуару для беларускіх тэатраў. Нарада адбылася 5 красавіка 1928 г. Ёй кіраваў наркам НКП БССР А. В. Баліцкі. На пасяджэнні прысутнічалі Я. Колас, У. Галубок, К. Крапіва, З. Бядуля, М. Чарот, А. Александровіч, В. Сташэўскі, К. Чорны, А. Дудар, А. Ляжневіч, К. Саннікаў і інш. Адбылася шчырая размова з пісьменніцкім актывам па актуальных тэатральных праблемах. У выступленнях закраналіся пытанні складаных

узаемаадносін тэатраў і драматургаў (асабліва пачынаючых), прафесійнай падрыхтоўкі драматургаў, больш актыўнага заахвочвання іх да тэатра. Пры гэтым была прынята разгорнутая пастанова, праз тыдзень скліканы сход акцёраў і працаўнікоў тэатраў для сустрэчы з пісьменнікамі. З таго часу беларускія драматургі ўваходзяць у мастацкі савет тэатраў (тады называўся «мастацкая рада»), запрашаюцца на чытку новых п'ес, прысутнічаюць на рэпетыцыях і інш.

Інбелкультам увогуле, як і Інстытутам беларускага мастацтва ў прыватнасці, праводзілася значная работа па самых разнастайных пытаннях літаратуры і мастацтва. Яны ўяўлялі сабой цэнтры, вакол якіх групавалася сапраўды народная беларуская інтэлігенцыя, для якой адраджэнне нацыянальнай культуры было справай усяго жыцця. Тут вырашаліся важкія, надзённыя праблемы тэатральнага мастацтва рэспублікі. Адзін пералік спраў тэатральнай падсекцыі Інбелкульта — сведчанне высокай нацыянальнай свядомасці людзей, што аддавалі ўсе свае сілы захаванню гістарычнай памяці народа, духоўнаму станаўленню нацыі. Бескарыслівая дапамога аматарскаму руху, дбанне пра развіццё беларускай драматургіі, стварэнне тэатральнага музея, складанне слоўніка тэатральнай тэрміналогіі, грунтоўная навукова-даследчая работа па гісторыі беларускага тэатра, шырокая выдавецкая дзейнасць... Многае з задуманага здзейснілася, многае засталося не ажыццёўленым.

На пачатак 20-х гадоў на Беларусі не было свайго нацыянальнага прафесійнага, opернага, балетнага, музычна-камедыйнага тэатра, шмат якія жанры і формы музычнай творчасці не былі развіты. Не існавала вышэйшых і сярэдніх музычных навучальных устаноў, акрамя «народных кансерваторый». Менавіта ў 20-я гады, якія вызначаліся ўзнікненнем новых форм і відаў мастацкай, у прыватнасці музычнай, творчасці, нарадзілася неабходнасць і з'явілася магчымасць стварэння адпаведнай навуковай структуры акадэмічнага тыпу, звязанай з даследаваннем тагачаснай музычнай практыкі і яе развіццём.

Інбелкульт у пачатку сваёй дзейнасці не меў спецыяльнага аддзела музычнага мастацтва (існавала

толькі агульная «літаратурна-мастацкая секцыя»), аднак у рамках гэтага падраздзялення дзейнічала спеўная (песенная) камісія, якая ўжо ў 1923—1924 гг. збірала і апрацоўвала фальклорны матэрыял. Так, у пачатку восені 1924 г. на агульным сходзе Інбелкульта яго супрацоўнікі былі азнаёмлены з дакладамі А. К. Сержпутоўскага і Я. В. Прохарава «Аб выніках музычна-этнаграфічнай экспедыцыі».

У спрэчках і запытаннях, выкліканых цікавым дакладам, прынялі ўдзел Я. Л. Дыла, С. М. Некрашэвіч, М. А. Грамыка, С. В. Скандракоў і інш.[7] Даклады былі музычна праілюстраваны на фанографе.

З арганізацыяй музычнай падсекцыі ў яе склад ўвайшлі І. Д. Гурскі, А. Л. Бяссмертны, В. Сэлях, М. І. Аладаў, Я. В. Прохараў, У. В. Тэраўскі, А. Ягораў, Ю. М. Дрэйзін, Л. А. Маркевіч, М. Матусаў. Прозвішча В. Сэляха, які ўзначаліў музычную падсекцыю, зараз не шмат каму вядома, бо звестак у сучасных даведніках і энцыклапедыях пра яго няма. У свой час гэта быў актыўны музычны дзеяч. Ён меў выдатны бас і як спявак удзельнічаў у канцэртах, у прыватнасці выконваў фрагменты з оперы «Русалка» А. Даргамыжскага, быў пастаноўшчыкам гэтай оперы на сцэне БДТ-1 у 1927 г., выступаў у прэсе па пытаннях беларускай оперы ў дыскусійным парадку[8] і інш.

Пра дзейнасць музыказнаўцаў Інбелкульта Я. Л. Дыла пісаў: «У галіне музыкі вядзецца збіранне, вывучэнне і музычная распрацоўка беларускае песні і мелодыі як для харавога і сольнага вакалу, так і інструментальнага выпаўнення. Будзе дадзена належная песня школе, моладзі (піянерам і камсамолу), тэрвойску, тэатру і сцэне наогул. Кладзецца пачатак напісанню арыгінальных беларускіх операў, але будаваных як музычных драмаў»[9]. Прызнавалася важнасць музычна-інструментальнай апрацоўкі і выканання беларускай народнай мелодыі і музыкі, неабходнасць кіраўніцтва гэтай справай з боку адпаведнай камісіі Інбелкульта, выдзя-

[7] Звезда. 1926. 23 июня; ЦНА АНБ, ф. 67, воп. 1, спр. 7, арк. 15.
[8] Трыбуна мастацтва. 1925. № 9. С. 6.
[9] Архіў ІМЭФ АНБ, ф. 1, воп. 1, спр. 6, арк. 30.

6. Зак. 1183

ляліся сродкі на заснаванне Беларускай дзяржаўнай оперы, намячалася ператварэнне Мінскага дзяржаўнага музычнага тэхнікума ў Беларускую кансерваторыю з оперным, харэаграфічным і драматычным класамі і ўзгадненне выкладання і навучання ў Магілёўскай музшколе і Віцебскім музтэхнікуме ў мэтах паступлення моладзі на вучобу ў Мінск, дзе былі сканцэнтраваны асноўныя прафесійныя музычныя сілы.

Таксама камплектаваўся музычны фонд бібліятэкі Інбелкульта. У песенную камісію былі перададзены матэрыялы А. Бурбіса з запісамі некалькіх дзесяткаў песень, зробленымі ім у пачатку XX ст. на Віленшчыне і Гродзеншчыне. Свае запісы песень з нотамі Інбелкульт прадастаўляў Белмузтэхнікуму, падтрымліваліся сувязі з іншымі навуковымі ўстановамі і нотнымі выдавецтвамі, у прыватнасці ўкраінскімі [10].

Адной з задач тэатральнай і музычнай падсекцый з'яўлялася вывучэнне беларускага народнага танца. Рабіліся захады па збору і падрыхтоўцы адпаведных матэрыялаў для выдання. А. А. Грыневічу і І. А. Сербаву было даручана ў часе іх падарожжа па Лепельшчыне, Віцебшчыне і Магілёўшчыне збіраць новыя матэрыялы для кнігі. Пры гэтым А. А. Грыневіч павінен быў запісаць «дудара-віртуоза сярод музыкаў гэтых мясцовасцей» [11].

А. А. Грыневіч, з'яўляючыся навуковым супрацоўнікам Інбелкульта, вёў вялікую і плённую работу па даследаванню народнай музыкі і яе сістэматызацыі. Па яго ініцыятыве быў створаны семінар па вывучэнню танцавальнага фальклору. У выніку работы семінара выдадзены зборнік з нотнымі запісамі танцавальных мелодый, фотаздымкамі, замалёўкамі, харэаграфічнымі сцэнамі ў народным выкананні.

Паказальная для таго часу і сама гісторыя з'яўлення ў інстытуце А. А. Грыневіча, вядомага раней як фалькларыста, кампазітара і музыказнаўца-даследчыка, аўтара зборнікаў «школьных», «дзіцячых» і «народных спеваў», а таксама навучальных дапаможнікаў, якія

[10] ЦНА АНБ, ф. 67, воп. 2, спр. 12/3, арк. 86.
[11] Архіў ІМЭФ АНБ, ф. 1, воп. 6, спр. 6, арк. 86—88.

былі выдадзены ў пачатку 20-х гадоў. Газеты паведамлялі: «Беларускі кампазітар А. Грыневіч уцёк з Заходняй Беларусі ў савецкую». У заяве ў Прэзідыум Інбелкульта А. Грыневіч пісаў, што ён уцёк з Вільні «ад польскага суда за палітычную справу на карысць савецкай рабоце», і прасіў дапамагчы забраць у Мінск свае матэрыялы, вызначыць яму пасаду, звязаную з навукова-педагагічнай працай, і выдаць «магчымую грашовую дапамогу на жыццё і куплю неабходных рэчаў» [12].

Музычная падсекцыя з'яўлялася своеасаблівым навукова-метадычным цэнтрам па распрацоўцы вучэбных праграм і рэкамендацый. На яе пасяджэннях абмяркоўваліся пытанні прыёму новых педагогаў у музычны тэхнікум, адкрыты ў 1924 г., праграмы. Выкладчыкамі тэхнікума былі А. Бяссмертны, М. Аладаў, Я. Прохараў, М. Жухавіцкі, браты Б. і І. Фідлоны, Е. Шлапакова, Л. Баланоўская, Т. Краўзе, В. Цвяткоў, Ю. Дрэйзін і інш. Пры дапамозе Інбелкульта Беларускі дзяржаўны музтэхнікум атрымаў два дамы па Інтэрнацыянальнай вуліцы, якія раней належалі універсітэту. На капітальны рамонт, а таксама належнае прыстасаванне гэтых будынкаў СНК БССР адпусціў 20 тыс. руб.

Актыўна вялася прапаганда беларускай песні. Харавы калектыў пад кіраўніцтвам У. Тэраўскага ў 1923—1928 гг. пабываў у Віцебску, Полацку, Магілёве, Бабруйску, Асіповічах, Барысаве, Пухавічах, іншых гарадах, а таксама вёсках Беларусі.

Акрамя хора У. Тэраўскага музычная падсекцыя Інбелкульта падтрымлівала творчую сувязь з харавымі калектывамі С. Кашына, А. Леўчанкі, М. Равенскага і інш. Гэтыя аматарскія хары выконвалі народную музыку і ўключалі ў свой рэпертуар песні, якія запісалі А. Грыневіч, У. Тэраўскі, М. Чуркін і інш.

Вялікую навукова-даследчую дзейнасць разгарнула падсекцыя па збіранню, запісу і расшыфроўцы беларускага музычнага фальклору — песень, танцаў. На аснове гэтых запісаў і навуковых распрацовак вялася гарманізацыя і апрацоўка песень для сольнага, харавога

---

[12] Звезда. 1925. 5 мая; ЦНА АНБ, ф. 67, воп. 1, спр. 2, арк. 95—96.

і інструментальнага выканання. Перад кампазітарамі ставілася задача стварэння нацыянальнай оперы, балета, сімфоній, араторый, кантат, іншых вялікіх форм прафесійнага музычнага мастацтва.

Падсекцыя арганізоўвала экспедыцыі па запісу музычнага фальклору. Кожны год выязджалі ў раёны Віцебшчыны, Магілёўшчыны, на Палессе кампазітары і фалькларысты М. Аладаў, М. Чуркін, У. Тэраўскі, А. Грыневіч, А. Ягораў і інш. Падсекцыя мела ў сваім фондзе звыш 1 тыс. песень і разгарнула дзейнасць па выданню і прапагандзе музычнага фальклору. Яна мела цесную сувязь з Дзяржаўным інстытутам музычнай навукі у Маскве, які дапамагаў у навуковай распрацоўцы песеннага матэрыялу і выданні зборніка беларускіх песень. Падсекцыя разгледзела і зацвердзіла інструкцыю па рабоце з песенным фальклорам, якую прапанаваў А. Грыневіч.

З першых дзён сваёй дзейнасці музычная падсекцыя займалася падборам песень для харавых калектываў, якія выступалі ў канцэртах беларускай музыкі. Летам 1925 г. падсекцыя прыступіла да арганізацыі акадэмічнага хору, які меркавалася ператварыць у дзяржаўную капэлу. Па просьбе двух вядучых выканаўчых калектываў — Ленінградскай харавой капэлы імя М. І. Глінкі і ўкраінскай капэлы «Думка» — музычная падсекцыя рэкамендавала шмат песень для іх рэпертуару. На адрас «Думкі», у прыватнасці, было выслана 20 песень [13].

На прафесійны ўзровень ставілася пытанне аб народных музычных інструментах. Мастацкай секцыяй ужо ў пачатку 1926 г. склікалася спецыяльная нарада па вывучэнню народных інструментаў (дуды, жалейкі, цымбалаў) і іх музычнаму абагачэнню, а таксама выкарыстанню. На нараду з удзелам лепшых народных музыкаў-віртуозаў быў запрошаны лепшы знаўца славянскіх народных інструментаў прафесар М. Прывалаў з Ленінграда.

У 1926 г. магчымасці Інбелкульта ў галіне выдавецкай работы значна пашырыліся. З'явіліся новыя публі-

---

[13] Звезда. 1925. 23 верас.

кацыі. Сярод іх была і праца М. Прывалава[14]. А. Ягораў выканаў натаванне беларускіх песень для выдадзенага ў 1928 г. новага зборніка М. Гарэцкага і А. Ягорава «Народныя песні з мелодыямі».

Музычная падсекцыя даследавала пытанні тэрміналогіі, рыхтуючы выданне музычных слоўнікаў на беларускай мове. У гэтай галіне шмат працавалі Ю. Дрэйзін, М. Мацісон, А. Грыневіч, вучоныя-філолагі, літаратуразнаўцы. Слоўнік «Музычныя тэрміны», складзены Ю. Дрэйзіным, выдадзены ў 1926 г. Гэта першая і адзіная пакуль такая праца ў галіне музыказнаўства.

У Інбелкульце вывучалася і музычная культура іншых народаў Беларусі. Фальклорная камісія яўрэйскага сектара сабрала 900 народных песень. Рыхтавалася да друку «Манаграфія аб народных спеваках (бадхным)». Этнаграфічная камісія польскага сектара вывучала польскую вясельную песню, у далейшым планавалася выданне польскіх абрадавых і дзіцячых песень, калыханак і інш.

Падсекцыя Інстытута беларускай культуры займалася таксама вывучэннем праблем развіцця буйных прафесійных форм мастацтва. На адным з пасяджэнняў з удзелам педагогаў тэхнікума, артыстаў аркестра драматычнага тэатра і хору У. Тэраўскага было прапанавана ўключыць у рэпертуар драматычнага тэатра паэму «Сымон-музыка» Я. Коласа, каб гледачы маглі ўбачыць беларускую музычную драму — прадвесніцу нацыянальнай оперы. Вялікую ролю ў нараджэнні беларускай оперы адыграла пастаноўка п'есы М. Чарота «На купаллі», якая была адным з найбольш папулярных сцэнічных твораў 20-х гадоў. Музыку да гэтага твора напісалі У. Тэраўскі і Л. Маркевіч (песні, арыі, ансамблі, хары), шырока выкарыстоўваўся і музычны фальклор.

Музычная падсекцыя Інбелкульта паспяхова вырашала пытанні распрацоўкі музычнага фальклору, спрыяла станаўленню музычнай адукацыі і прапаганды народнай песні. Сваёй дзейнасцю яна дапамагала нара-

---

[14] Прывалаў М. Народныя музычныя інструменты Беларусі (Інстытут беларускай культуры). Запіскі аддзела гуманітарных навук. Кн. 4 // Працы кафедры этнаграфіі. Мн., 1928. Т. 1. Вып. 1.

джэнню нацыянальных прафесійных твораў, развіццю разнастайных форм канцэртнага жыцця.

Секцыя мастацтва падтрымлівала сувязь з дзеячамі культуры за мяжою, у прыватнасці з вядомым польскім кампазітарам Л. Рагоўскім, аўтарам «Беларускай сюіты», ішла гаворка і аб набыцці нот гэтага твора.

У 1927 г. Інстытут беларускай культуры атрымаў запрашэнне на ўдзел у міжнароднай музычнай выставе ў Франкфурце-на-Майне. Адказная і ганаровая задача па падрыхтоўцы матэрыялаў для выставы была даручана музычнай падсекцыі. Яе члены аднадушна вырашылі рэкамендаваць на паездку ў Франкфурт-на-Майне спявачку Л. Александроўскую (тады студэнтку музтэхнікума )і цымбаліста С. Навіцкага з БДТ-2.

Музычная падсекцыя пры падрыхтоўцы да выставы сабрала вялікую калекцыю народных інструментаў (цымбалы, ліра, дуда і інш.). Адначасова яна падбірала песні для спявачкі, слухала яе выступленні на рэпетыцыях, дапамагала цымбалісту. Паспяхова правёўшы канцэрты на самой выставе, Л. Александроўская і С. Навіцкі выехалі ў гастрольнае турнэ па Германіі, Швецыі, Нарвегіі, Бельгіі і Галандыі.

Пытанні развіцця нацыянальнай музыкі ў 20-я гады сістэматычна асвятляліся ў рэспубліканскім друку — газетах «Савецкая Беларусь», «Звезда», часопісах «Узвышша», «Маладняк», «Полымя». Найбольш актыўным у гэтых адносінах быў Ю. Дрэйзін. Яго музыказнаўчая дзейнасць вылучалася насычанасцю і разнастайнасцю форм. Гэта былі публічныя лекцыі па класічнай музыцы, рэцэнзіі на спектаклі і канцэрты, даследчыя артыкулы па праблемах нацыянальнай музыкі. Ім жа (у сааўтарстве з В. Пасхалавым) напісаны артыкул «Беларуская музыка» для першага выдання БСЭ. У шматбаковай дзейнасці Ю. Дрэйзіна неабходна адзначыць і яго перакладную працу, у прыватнасці пераклад са старагрэчаскага арыгінала драмы Эўрыпіда «Вакханкі»[15] (пастаўлена Беларускай драматычнай студыяй у Маскве ў 1926 г.).

---

[15] Маладняк. 1926. № 11. С. 122—139; Архіў ІМЭФ АНБ, ф. 1, спр. 6, воп. 6, арк. 86.

Музыказнаўства ці яго элементы ў 20-я гады часта з'яўляліся кампанентамі этнаграфічных, фалькларыстычных, тэатразнаўчых даследаванняў, публіцыстычных, крытычных, інфармацыйных артыкулаў. Спробу тэарэтычных распрацовак рабілі Ю. Дрэйзін, У. Дубоўка і інш. Музыказнаўства як самастойная дысцыпліна на Беларусі тады толькі нараджалася.

Нягледзячы на параўнальна невялікі перыяд дзейнасці, значэнне Інбелкульта ў справе фарміравання беларускага мастацтвазнаўства і нацыянальнай самасвядомасці народа вялікае. Заслугоўвае ўвагі і спроба ўстанаўлення ўзаемасувязей з музычнай культурай іншых народаў як на тэрыторыі Беларусі, так і па-за яе межамі (рускага, польскага, украінскага, яўрэйскага і інш.). Нядоўга праіснаваўшая музычная падсекцыя была першай арганізацыяй у гісторыі беларускай навукі, якая імкнулася мэтанакіравана кансалідаваць музычныя сілы рэспублікі, накіроўваць музычныя працэсы і даследаваць іх.

Ідэі адраджэння беларусазнаўства знайшлі адлюстраванне ў развіцці беларускага выяўленчага мастацтва і мастацтвазнаўства. Менавіта на 1921—1928 гг. прыпадае перыяд хуткага развіцця беларускай мастацтвазнаўчай думкі, якая фарміравалася пад моцным уздзеяннем нацыянальнага руху, што прывяло да стварэння першай гісторыі беларускага мастацтва, аб'ектыўнай карціны развіцця беларускай архітэктуры, жывапісу, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, графікі пачынаючы ад старажытных часоў.

Вялікая справа адраджэння аказала станоўчы ўплыў на развіццё беларускага выяўленчага мастацтва, фарміраванне новых відаў і жанраў, напрамкаў і стыляў. Шмат якія навуковыя працы вучоных у галіне народнага, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, архітэктуры, творчыя работы мастакоў-краязнаўцаў, этнографаў не губляюць навуковай каштоўнасці.

Адразу пасля стварэння акадэмічны цэнтр Наркамасветы БССР арганізаваў некалькі экспедыцый па вывучэнню і даследаванню беларускага народнага мастацтва. У склад адной з іх увайшлі мастакі Д. Полазаў (кіраўнік), П. Гуткоўскі, Я. Кругер, К. Елісееў і інш. Экспе-

дыцыя сабрала і зафатаграфавала значную колькасць помнікаў старажытнай архітэктуры, цудоўных узораў ткацтва. Пра вынікі работы гэтай экспедыцыі Д. Полазаў зрабіў справаздачу на пасяджэнні Мінскага таварыства гісторыі і старажытнасці [16].

Экспедыцыі кансалідавалі мастакоў, вучоных, даследчыкаў. Збор каштоўнасцей мастацтва рушыў музейную справу, прыцягваючы да работы спецыялістаў-мастацтвазнаўцаў. У Беларускім дзяржаўным універсітэце мастацтвазнавец М. М. Шчакаціхін пачаў чытаць лекцыі па беларускаму мастацтву.

Таксама шмат было зроблена па стварэнню неабходных умоў для фарміравання беларускай мастацтвазнаўчай навукі з яе асноўнымі кампанентамі: мастацкай крытыкай, тэорыяй і гісторыяй мастацтва, назапашаным вопытам па напісанню артыкулаў пра рэспубліканскія мастацкія выстаўкі, асобных мастакоў, развіццём беларускага мастацтва. Актыўна працавалі мастацтвазнаўцы, даследчыкі А. А. Шлюбскі, В. У. Ластоўскі, Я. Л. Дыла, М. І. Каспяровіч, П. Даркевіч, М. Красінскі, І. Фурман, З. Гарбавец, А. Шашалевіч, Я. Мінін, І. Гаўрыс, мастакі М. Лебедзева, А. Тычына, М. Філіповіч і інш.

Пошукі нацыянальнага шляху развіцця беларускага выяўленчага мастацтва адлюстроўваліся ў творах мастакоў М. Філіповіча, П. Гуткоўскага, У. Кудрэвіча, А. Ахола-Вало, Я. Кругера, А. Тычыны, В. Волкава і інш. Этнаграфія і краязнаўства спрыялі з'яўленню новых стыляў у выяўленчым мастацтве, пашыралі магчымасці мастакоў, узбагачалі светапогляд, знаёмілі з гісторыяй народа, яго традыцыямі ў мастацтве.

З пачаткам дзейнасці секцыі вобразных мастацтваў у 1925 г. мастацтвазнаўцы былі згрупаваны ў адну з падсекцый Інбелкульта, складзены планы работы, куды ўвайшлі зборы матэрыялаў па гісторыі беларускага выяўленчага мастацтва, якія ўключалі не толькі творы, але і фотаздымкі, замалёўкі і іншае, ажыццёўлена распрацоўка тэрміналогіі выяўленчага мастацтва, зроблена апрацоўка матэрыялаў па вывучэнню збораў Белару-

[16] Вестник народного просвещения. 1921. № 2.



*Супрацоўнікі мастацкай секцыі Інбелкульта. Злева направа: К. Серада, М. Красінскі, Ю. Дрэйзін, П. Мядзелка, Я. Дыла, В. Сэлях, А. Грыневіч, Ф. Ждановіч, М. Шчакаціхін. 1926 г.*

скага дзяржаўнага музея, арганізаваны экспедыцыі на Случчыну і Мазыршчыну, выдадзена праца М. М. Шчакаціхіна «Нарысы па гісторыі беларускага мастацтва» (Т. 1) [17].

У 1926 г. па ініцыятыве М. М. Шчакаціхіна была створана камісія гісторыі мастацтва. Мастацтвазнаўства Беларусі з гэтага часу становіцца поруч з мастацтвазнаўствам свету, бо нарэшце з'яўляецца магчымасць не толькі абагульніць вопыт папярэдняй работы, але і вызначыць далейшыя шляхі развіцця. У задачы камісіі ўвайшло аб'яднанне ўсіх творчых сіл рэспублікі для навуковай сістэматызацыі помнікаў гісторыі і культуры, а галоўнае — напісанне гісторыі выяўленчага мастацтва. Для актыўнай дзейнасці ў камісію былі запрошаны гісторыкі-беларусазнаўцы, этнографы, навуковыя супра-

[17] ЦНА АНБ, ф. 67, воп. 3, спр. 24, арк. 19.

цоўнікі музеяў, мастакі — усе тыя, хто звязаны з гісторыяй і мастацтвам Беларусі. Старшынёй камісіі быў абраны М. М. Шчакаціхін, сакратаром — А. А. Шлюбскі. У склад уваходзілі гісторык П. Красавіцкі (Масква), І. Хозераў (Смаленск), М. Каспяровіч, І. Фурман (Віцебск), мастакі Я. Мінін, М. Станюта, А. Тычына, А. Грубэ, дацэнты БДУ Д. Даўгяла, В. Дружчыц, І. Сербаў, прафесар Д. Жарынаў, супрацоўнікі гістарычных музеяў В. Краснянскі, В. Дабравольскі, А. Паноў, беларусазнаўца Б. Эпімах-Шыпіла [18].

За 1927—1928 гг. прадугледжвалася падрыхтаваць да друку зборнік артыкулаў па беларускаму мастацтву. М. М. Шчакаціхін планаваў выдаць першы том «Гісторыі беларускага мастацтва», артыкулы па беларускай гравюры XVI—XVII стст. (сумесна з Д. Даўгялам), аб слуцкіх паясах і інш. [19] Па гэтых тэмах праводзілі даследаванні П. Красавіцкі, І. Хозераў, В. Краснянскі.

За 1926—1927 гг. камісія правяла адзінаццаць пасяджэнняў, на якіх былі заслуханы даклады па гісторыі беларускага драўлянага дойлідства, пра батлейку, манументальныя роспісы, экслібрыс, набойку [20].

На 1928—1929 гг. планавалася працягваць распрацоўку матэрыялаў па гісторыі архітэктуры полацкага будаўніцтва XI—XII стст., каменнай архітэктуры Беларусі. У галіне мастацтва прадугледжвалася апрацаваць знаходкі экспедыцый 1927 г. па полацкіх насценных роспісах XII ст., працягваць іх далейшае раскрыццё, закончыць апрацоўку матэрыялаў па гісторыі магілёўскай школы жывапісу XVII—XVIII стст., арганізаваць экспедыцыі ў паўночныя раёны. У гісторыі гравюры меркавалася вывучыць яе ў старажытнабеларускіх кнігах XVI—XVIII стст., скласці храналагічны каталог гравюр са збораў публічнай бібліятэкі (Ленінград). У галіне прыкладных мастацтваў намячалася закончыць падбор матэрыялаў па гісторыі слуцкіх паясоў і іх арнаментыкі, апрацаваць калекцыю кафлі з Віцебскага музея.

Акрамя таго, у планы камісіі ўваходзіла работа па складанню навуковай тэрміналогіі гісторыі, тэорыі і

---

[18] Працы камісіі гісторыі мастацтва. Мн., 1928. Т. 1.
[19] Там жа.
[20] ЦНА АНБ, ф. 67, воп. 3, спр. 23, арк. 55.

тэхнікі выяўленчага мастацтва. М. М. Шчакаціхіну неабходна было скласці каталог гравюр беларускіх мастакоў, апрацаваць план Гродна 1568 г., напісаць гісторыю слуцкіх майстэрняў, скласці слоўнік беларускіх мастакоў да сярэдзіны XIX ст. М. М. Шчакаціхін кіраваў амаль усімі справамі. Пад яго непасрэдным кіраўніцтвам студэнт Казлоўскі апрацаваў план Полацка 1579 г. І. Хозераў працаваў над матэрыяламі полацкай экспедыцыі і працягваў даследаванні полацкага будаўніцтва XI—XVII стст.[21]

Аб'ём запланаванай работы быў вялікі. Так, да выдання другога сшытка першага тома «Прац камісіі гісторыі мастацтва» былі падрыхтаваны работы М. Шчакаціхіна «Некаторыя помнікі гродзенскага будаўніцтва XV—XVI стст. на плане 1568 года», В. Ластоўскага «Кніжныя справы XVI—XVII стст.», Казлоўскага «Архітэктура полацкіх замкаў і навакольных умацаванняў на планах 1579 года», І. Хозерава «Смаленскі Крэмль», С. Шыраева «Некаторыя помнікі смаленскага будаўніцтва XII ст.», В. Краснянскага «Паліўны кафель XVII—XVIII стст. у Віцебскім музеі», справаздача полацкай экспедыцыі 1928 г. Меркавалася, што першы том «Гісторыі беларускага мастацтва» складзе 10 аўтарскіх аркушаў з 120—150 малюнкамі і фотаздымкамі.

Камісія не толькі планавала выданні, але і творча над імі працавала. Ні адно з іх не было выдадзена без абмеркавання на пасяджэнні камісіі. У сшытках камісіі значыцца работа як доказ станоўчай навуковай метадалогіі, якая існавала ва ўсім свеце. Камісія не адыходзіла ад галоўных прынцыпаў дыскусій у навуцы. Напрыклад, даклад М. М. Шчакаціхіна «Беларуская архітэктура XI—XII стст.» абмяркоўваўся першым. Навукоўцам была прапанавана новая канцэпцыя эвалюцыі смаленскай і полацка-віцебскай архітэктуры, іх развіццё ў архітэктуры Беларусі і Расіі.

У дыскусіі прынялі ўдзел гісторыкі Д. Даўгяла, Д. Жарынаў, М. Доўнар-Запольскі. Д. Даўгяла выказаў думку, што ў той час, калі на Беларусі пачалося будаўніцтва першых каменных цэркваў, адносіны Бела-

---

[21] ЦНА АНБ, ф. 67, воп. 3, спр. 23, арк. 55.

русі з Кіеўскай дзяржавай не былі настолькі сяброўскімі, каб адбылося запазычанне кіеўскага тыпу архітэктуры. Наадварот, большае значэнне мог мець уплыў заходнееўрапейскай архітэктуры. Прафесар Д. Жарынаў падкрэсліў, што на архітэктуру Смаленска вялікі ўплыў аказвала раманская архітэктура. Прафесар М. Доўнар-Запольскі гаварыў пра магчымасці першапачатковага ўплыву кіеўскай архітэктуры на Смаленск, што ў той час разглядаемая тэрыторыя дзялілася ў палітычных адносінах на дзве самастойныя часткі: смаленскую і полацкую, прычым Полацкае княства вяло барацьбу з Кіевам, у той час як Смаленск падтрымліваў з імі добрыя суседскія адносіны, быў пад яго культурным уплывам.

Трэба адзначыць асаблівую цікавасць даследчыкаў да старажытнай архітэктуры, пра што сведчаць даследаванні П. Краснянскага «Віцебская Ільінская царква як помнік беларускага драўлянага дойлідства», М. Шчакаціхіна «Замак у Рагачове» і «Архіўныя матэрыялы да гісторыі полацкага Сафійскага сабора», М. Мікіцінскага «Аб царкве Раства ў Слуцку», І. Хозерава «Аб царкве Спаса ў Полацку» і інш.

На адным з пасяджэнняў (снежань 1926 г.) камісія заслухала даклад М. Касяровіча «Беларускі экслібрыс», дзе аўтар адзначыў з'яўленне кніжнага знака яшчэ ў XVI ст. Прыкладам сталі выданні канцлера Г. Хадкевіча (Вялікае княства Літоўскае), затым Полацкай езуіцкай акадэміі. Даследчык Т. Ржавуская чытала даклад «Арнаментальныя фаны ў помніках магілёўскага жывапісу XVII—XVIII стагоддзяў». У яго абмеркаванні ўдзельнічала шмат навукоўцаў. Адны з іх сцвярджалі, што запазычванні адбываліся з заходнееўрапейскага мастацтва, другія — што матывы арнаментаў — чыста беларуская з'ява.

Навуковыя распрацоўкі і даклады беларускіх даследчыкаў, якія чыталіся на камісіі, склалі шостую кнігу «Запісаў аддзела гуманітарных навук», якая выйшла пад рэдакцыяй М. Шчакаціхіна. Выданне «Працы камісіі гісторыі мастацтва» (1928) сведчыць пра значнае дасягненне беларускіх вучоных у галіне засваення новай навукі, паскоранае станаўленне якой гаварыла аб жы-

вых традыцыях у мастацтве, навуковай кампетэнцыі даследчыкаў, што спрыяла вынікам работы. Нават і зараз навуковыя даследаванні першых беларускіх мастацтвазнаўцаў з'яўляюцца прыкладам руплівай работы, узорам патрыятычнага абавязку творчай інтэлігенцыі перад народам.

Асабліва шмат працаваў на ніве беларускага мастацтвазнаўства М. М. Шчакаціхін — выхаванец вядомага рускага вучонага з Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта А. Сідарава. На Беларусь М. М. Шчакаціхін прыехаў у 1922 г. вывучаць гісторыю беларускага народа. Працаваў на кафедры гісторыі мастацтва БДУ, дзеля чаго ім быў напісаны курс лекцый па гісторыі беларускага мастацтва. У 1924 г. М. М. Шчакаціхін абараніў кандыдацкую дысертацыю па гісторыі беларускага мастацтва. У 1925 г. малады вучоны пачынае сур'ёзна займацца даследаваннямі па архітэктуры, графіцы, іканаграфіі, жывапісу Беларусі ад старажытных часоў да сярэдзіны 20-х гадоў XX ст. Асабліва каштоўны яго ўклад у даследаванне гравюр Ф. Скарыны, беларускай іконы XVII ст., аб гравёрах магілёўскай школы XVII—XVIII стст.[22]

Непасрэдная дзейнасць у якасці вучонага-краязнаўца накіроўвала цікавасць М. М. Шчакаціхіна да работы па захаванню і зберажэнню каштоўных помнікаў культуры. Дзеля гэтай справы напісаны артыкул-інструкцыя «Спосабы збірання матэрыялаў з беларускага мастацтва» (1926). Працэс станаўлення беларускага выяўленчага мастацтва 20-х гадоў знаходзіў адлюстраванне ў шэрагу яго артыкулаў на старонках рэспубліканскіх газет, каталогаў выстаў, у навуковых распрацоўках творчых напрамкаў і стыляў. У 1927 г. у Маскве ён чытаў даклад аб беларускім мастацтве, прысвечаны 10-годдзю Кастрычніка. У 1929 г. М. М. Шчакаціхін абраны ў склад прэзідыума Таварыства прыхільнікаў беларускага выяўленчага мастацтва, дзе выступаў з дакладамі і паведамленнямі па праблемах развіцця мастацтва.

Можна сцвярджаць, што работа мастацтвазнаўцаў станоўча адбілася на развіцці беларускага выяўленчага мастацтва 20-х гадоў, прыдала яму этнаграфічныя і

---

[22] Лис А. Н. Н. Щекотихин. Мн., 1976; БСЭ. М., 1927. Т. 5.

краязнаўчыя рысы. У шмат якіх працах відаць імкненне вывучаць вытокі мастацтва, каб увасобіць у пластычных вобразах гістарычны, псіхалагічны, жыццёва-бытавы вобраз народа.

Такім чынам, стварэнне на аснове дзейнасці Інбелкульта першых навуковых прац па гісторыі беларускага выяўленчага мастацтва падводзіць вынікі актыўнага і плённага перыяду развіцця беларускага савецкага мастацтва 20-х гадоў. Назапашаны значны вопыт засваення, перапрацоўкі, выкарыстання спадчыны народнага мастацтва садзейнічаў росту самавызначэння дзеячаў мастацтва і з'явіўся натуральным і заканамерным этапам развіцця нацыянальнага мастацтва. Стрыжнем тэорыі і практыкі мастацтва таго перыяду была праца па захаванню прынцыпаў народнасці, засваенню існуючых традыцый. Вырашэнню гэтай задачы ў значнай ступені садзейнічала секцыя выяўленчага мастацтва — калыска першых беларускіх даследчыкаў, вучоных, мастацтвазнаўцаў.

Грамадска-палітычная сітуацыя ў рэспубліцы на пачатку 20-х гадоў спрыяла нацыянальнаму культурнаму адраджэнню. Аднак з сярэдзіны 20-х і асабліва на рубяжы 20—30-х гадоў нацыянальную самасвядомасць усё часцей пачалі атаясамліваць з нацыяналізмам. Беспадстаўныя абвінавачванні ў так званай нацдэмаўшчыне трагічна адбіліся на лёсе многіх выдатных беларускіх дзеячаў. У 30-я гады былі рэпрэсіраваны рэжысёры Ф. Ждановіч, У. Галубок, М. Рафальскі, акцёры А. Згіроўскі, А. Крыніца, А. Чайкоўскі, крытыкі Б. Мікуліч, А. Звонак, драматургі М. Чарот, В. Сташэўскі, М. Зарэцкі, В. Шашалевіч, М. Грамыка, музычны фалькларыст А. Грыневіч, кампазітар У. Тэраўскі, мастакі і мастацтвазнаўцы П. Даркевіч, Я. Мінін, В. Ластоўскі, М. Каспяровіч, Я. Даркевіч, М. Красінскі, Г. Змудзінскі, М. Шчакаціхін, М. Філіповіч, А. Вало, П. Гутkоўскі і інш. Крывавая хваля рэпрэсій вынішчыла многія чалавечыя жыцці, тым самым на дзесяцігоддзі гвалтоўна перапыніла гарманічнае развіццё нацыянальнага мастацтва. І ўсё ж такі праца мастацкай секцыі Інбелкульта мела вялікі плён і пакінула значны след у гісторыі беларускай культуры.



# ЮРЫДЫЧНЫЯ ДАСЛЕДАВАННІ

З дзейнасцю Інстытута беларускай культуры звязана станаўленне ў рэспубліцы юрыдычнай навукі. Першапачатковай арганізацыйна-структурнай формай, якая аб'ядноўвала юрыстаў, была камісія па савецкаму будаўніцтву, якая пазней ператворана ў прававую секцыю і налічвала каля 20 чалавек. Гэта былі штатныя супрацоўнікі Інбелкульта, выкладчыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, супрацоўнікі дзяржаўнага апарату. Прававая секцыя функцыяніравала некалькі гадоў і ў 1928 г. на яе базе ўзнікла кафедра сучаснага права, якую ўзначаліў вядомы ў той час вучоны, доктар юрыдычных навук, прафесар М. В. Грэдзінгер.

Ва ўмовах мірнага будаўніцтва інтэлігенцыя ўсё больш пераконвалася ў трываласці новай улады і яе стваральных магчымасцях. У сферу прававой навукі і яе выкладання ў БССР актыўна прыцягвалася прафесура, практычныя работнікі з універсітэцкай адукацыяй, якія мелі схільнасць да навуковых даследаванняў. За невялікім выключэннем гэтыя людзі атрымалі адукацыю да Кастрычніцкай рэвалюцыі, былі выхаваны ў духу старой школы, у духу адхіленай новым ладам ідэалогіі.

Кастрычніцкая рэвалюцыя, грамадзянская вайна правялі глыбокі палітычны падзел у асяроддзі нацыянальнай інтэлігенцыі. Калі адны яе прадстаўнікі ў ходзе рэвалюцыі звязалі свой лёс з савецкай уладай (А. Р. Чарвякоў, З. Ф. Жылуновіч, І. А. Пятровіч), то другія, захопленыя ідэяй стварэння беларускай незалежнай дзяржаўнасці, не прызналі савецкую ўладу, трэція доўгі час праяўлялі хістанне. У сярэдзіне 20-х гадоў пасля самароспуску ўрада Беларускай Народнай Рэспублікі з эміграцыі на радзіму вярнуўся шэраг вядомых дзеячаў.

Яны атрымалі магчымасць працаваць на карысць новага ладу ў розных сферах культурнага будаўніцтва, у тым ліку і ў навуцы.

У другой палове 20-х гадоў у юрыдычную навуку пачалі ўлівацца выхаванцы Белдзяржуніверсітэта. У 1926 г. факультэт грамадскіх навук, які меў аддзяленне права, выпусціў 117 юрыстаў. Беларусь абіралі месцам сваёй працоўнай дзейнасці выпускнікі маскоўскіх, ленінградскіх, іншых ВНУ. Прайшоўшы савецкую вышэйшую школу, яны ўвасаблялі сабой прадстаўнікоў якасна новай інтэлігенцыі. Іншымі яны былі і па свайму сацыяльнаму паходжанню.

Перад юрыстамі Інбелкульта адкрывалася шырокае поле дзейнасці. Не абстрактныя ідэі кіравалі імі ў выбары напрамкаў навуковых распрацовак. Патрэбы жыцця, практыка сацыяльных пераўтварэнняў вызначылі падыход юрыстаў да разумення адказных задач. Падрыхтоўка законапраектаў, узмацненне эфектыўнасці прававога рэгулявання, удасканаленне структуры дзяржаўнага апарату, нарматворчасць — усё гэта патрабавала пільнай увагі навукі.

Разам з гэтым перад беларускімі вучонымі-юрыстамі стаяла яшчэ асаблівая задача. Публікацыя па заканадаўству на беларускай мове ўскладнялася адсутнасцю адпаведнай юрыдычнай тэрміналогіі. Тое, што іншыя нацыі стваралі стагоддзямі, трэба было з улікам набытага вопыту другімі народамі адолець у вельмі кароткія тэрміны.

Па сутнасці станаўленне прававой навукі ў Інбелкульце пачыналася з распрацоўкі юрыдычнай тэрміналогіі на беларускай мове. Прававая секцыя Інбелкульта стварыла спецыяльную тэрміналагічную камісію. Як адзначалася ў адной са справаздач Інбелкульта, у яе ўвайшлі ўсе члены секцыі, якія ведалі беларускую мову. Асновай для распрацоўкі юрыдычных тэрмінаў стала жывая беларуская мова. Складальнікі слоўніка звярталіся да помнікаў старажытнага права, перш за ўсё да тых, што дзейнічалі на тэрыторыі Беларусі і былі напісаны на старабеларускай мове,— да статутаў Вялікага княства Літоўскага. Уважліва вывучалася прынятая ў рускай мове тэрміналогія, улічваўся вопыт Украіны, дзе

ў 1926 г. рэспубліканскай Акадэміяй навук быў выданы руска-ўкраінскі слоўнік прававой мовы.

Практычная неабходнасць патрабавала паскарэння распрацоўкі юрыдычнай тэрміналогіі. Акты Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта, Савета Народных Камісараў, Савета працы і абароны СССР з сярэдзіны 1923 г. друкаваліся ўжо на мовах саюзных рэспублік. Менавіта саюзныя органы паклалі пачатак публікацыі заканадаўства на беларускай мове і тым самым апярэдзілі саму рэспубліку. Рэдактарам афіцыйнага выдання саюзных законаў на беларускай мове быў беларускі паэт Міхась Чарот (М. С. Кудзелька). Збор законаў Беларускай ССР, першы выпуск якога выйшаў у 1922 г., са жніўня 1925 г. публікаваўся як на рускай, так і на беларускай мовах.

Кіраўніцтва справамі Саўнаркама БССР, зацікаўленае ў дакладнасці і адпрацаванасці тэрмінаў, разаслала праект беларускай прававой тэрміналогіі дзяржаўным установам для апрабацыі. Прайшоўшы многія камісіі і абмеркаванні, у красавіку 1927 г. ён быў выдадзены. Шмат энергіі і працы ўклаў у гэтую справу актыўны дзеяч Інбелкульта, выкладчык Белдзяржуніверсітэта, аўтар шэрагу навуковых публікацый М. Гуткоўскі.

З пераходам да мірнага будаўніцтва ва ўмовах НЭПа на шматлікіх напрамках разгортвалася нарматворчая дзейнасць. Для 20-х гадоў характэрна распрацоўка ў БССР і іншых саюзных рэспубліках розных кодэксаў і кадыфікацыйных актаў. З накапленнем нарматыўнага матэрыялу сталі актуальнымі задачы сістэматызацыі заканадаўства. Праблемы, якія ўзнікалі ў сферы дзяржаўнага кіравання і правапрымянення, ставіліся на рашэнне юрыстаў Інбелкульта. Аднак магчымасці былі абмежаваны. У той час у рэспубліцы налічвалася мала вопытных кадраў, якія маглі б цалкам пераключыцца на даследаванні.

Згодна з інфармацыяй аб рабоце прававой секцыі за 1925—1926 гг., у цэнтры яе ўвагі знаходзіліся пытанні зямельнага права, нормы якога закранапі найбольш важныя бакі сацыяльных адносін, быту вёскі.

У 1925—1926 гг. на Беларусі шырока абмяркоўваўся праект «Кодэкса законаў аб шлюбу, сям'і і апецы». Ся-

мейна-шлюбнае заканадаўства, прынятае ў 1917—1918 гг. у РСФСР, прымянялася ў БССР, патрабавала дапаўнення і ўдакладнення з улікам змяніўшыхся ўмоў. Асабліва актуальнымі былі пытанні маёмасных адносін, сапраўднасці шлюбу. Абмеркаванне праекта «Кодэкса законаў аб шлюбу, сям'і і апецы» на старонках «Бюлетэня Савета Народных Камісараў» пачалося з артыкула сакратара прававой секцыі Інбелкульта Г. Е. Парэчына і наркама юстыцыі М. А. Сегеля.

У мэтах вызначэння шляхоў удасканалення шлюбна-сямейнага заканадаўства прававая секцыя Інбелкульта паставіла задачу высветліць, як у рэспубліцы выкарыстоўваюцца нормы аб шлюбу, сям'і і апецы. «Бюлетэнь Савета Народных Камісараў БССР» апублікаваў адпаведную анкету. У звароце прававой секцыі «Да культурных працаўнікоў вёскі» змяшчалася просьба адказаць на пытанні анкеты ў мэтах высвятлення звычаяў, якія дзейнічалі ў беларускай вёсцы і выкарыстоўваліся пры вырашэнні зямельных, аліментавых і маёмасных спрэчак. Гэта было выклікана тым, што сяляне не заўсёды звярталіся ў суд і часта тыя ці іншыя маёмасныя і сямейныя праблемы вырашалі на падставе звычаяў, і таму заканадавец не мог не прымаць іх у разлік.

Другое важнае мерапрыемства прававая секцыя правяла сумесна з Камісарыятам юстыцыі і Галоўным упраўленнем міліцыі БССР. Пры дапамозе анкетавання ставілася задача высветліць практыку прымянення асобных прававых устанаўленняў аб шлюбе, што таксама павінна было дапамагчы ўдасканаленню заканадаўства. У звароце, які суправаджаў анкету, адрасаваным народным суддзям, міліцыі, судовым выканаўцам, падкрэслівалася: «У справе вывучэння сацыяльных, культурных і іншых пытанняў жыцця БССР ураду дапамагае Інстытут беларускай культуры пры Савеце Народных Камісараў БССР». У характарыстыцы нельга не бачыць афіцыйнага прызнання ўкладу прававой секцыі ў вырашэнне практычных пытанняў дзяржаўнага кіравання і заканатворчасці.

Вопыт 20-х гадоў, калі вучоныя і практыкі сумесна праводзілі сацыялагічныя даследаванні канкрэтных пытанняў дзяржаўнага будаўніцтва ў мэтах пошуку рацыя-

нальных прававых рашэнняў, заслугоўвае пільнай увагі. Такая форма сувязі навукі і практыкі можа прымяняцца і ў наш час, асабліва для вывучэння эфектыўнасці заканадаўства, правапрымянення і інш.

Юрысты Інбелкульта прымалі ўдзел у стварэнні канстытуцыйных законаў. Распрацаваны на Беларусі праект саюзнай Канстытуцыі 1924 г. быў каштоўным і па сваёй структуры і па зместу. Шэраг яго ідэй быў рэалізаваны. Пасля ўтварэння Саюза ССР паўстала пытанне аб прыняцці новай Канстытуцыі БССР, якая б улічвала тыя сацыяльна-эканамічныя змены, якія адбыліся за гады існавання савецкай улады, факт утварэння СССР. Другая Канстытуцыя БССР прынята ў 1927 г.

Характарызуючы ролю Інбелкульта ў развіцці навукі ў рэспубліцы, трэба ўлічваць, што разам з ім з 1921 г. паспяхова развіваўся другі навуковы цэнтр — Беларускі дзяржаўны універсітэт. На юрыдычным аддзяленні факультэта грамадскіх навук, а затым факультэце права і савецкага будаўніцтва былі сканцэнтраваны значныя юрыдычныя сілы. Тут функцыяніраваў шэраг прававых кафедр.

У 1928 г. было вырашана пераўтварыць прававую секцыю Інбелкульта ў больш аўтарытэтную ўстанову, якая б даследавала дзяржаўна-прававыя з'явы ў цеснай сувязі з эканомікай. Так узнікла кафедра сучаснага права, якая ставіла сваёй задачай вывучэнне ўсіх важнейшых галін сучаснага права і дзяржаўнага будаўніцтва БССР.

У пошуках правільнага адказу на пытанні, якія ставіла жыццё, дзяржаўныя органы нярэдка звярталіся непасрэдна за дапамогай да навукі. Прэзідыум ЦВК БССР і ўрад рэспублікі давалі кафедры даручэнні па вывучэнню тых або іншых пытанняў дзяржаўнага жыцця з мэтай атрымання неабходных рэкамендацый. Так, па ўказанню ЦВК БССР кафедра сучаснага права ўзяла на сябе функцыі вядучай навуковай арганізацыі па даследаванню прычын злачыннасці. Па даручэнню СНК рэспублікі кафедра вывучала таксама прававыя праблемы землекарыстання і землеўладання, арганізацыйныя формы гаспадарчай дзейнасці, іншыя пытанні дзяржаўна-прававога будаўніцтва. Усё гэта было прызнаннем узрас-

таючага аўтарытэту і навуковых магчымасцей юрыдычнай навукі.

У агульнай сукупнасці зробленага юрыстамі, творчая дзейнасць якіх была звязана з Інбелкультам, вылучаюцца публікацыі Г. Е. Парэчына. Яго даследаванне «Наша Канстытуцыя» (1928) было прысвечана аналізу зместу Асноўнага Закона БССР 1927 г. Веданне дысцыпліны, даступнасць і папулярнасць выкладання матэрыялаў дазволілі навукова-метадычнаму камітэту рэспублікі рэкамендаваць працу Г. Е. Парэчына ў якасці падручніка для тэхнікумаў і прафшкол.

Нормы Канстытуцыі БССР Г. Парэчын разглядае ў цеснай сувязі з аналізам прававога статуса БССР як члена федэрацыі — Саюза ССР, нацыянальнай палітыкі савецкай улады. Аўтар параўноўвае палажэнні Савецкай Канстытуцыі з канстытуцыямі буржуазных дзяржаў, раскрываючы сацыяльную накіраванасць буржуазнага канстытуцыйнага права.

Аналізу палажэнняў Асноўнага Закона папярэднічае нарыс гісторыі дзяржаўнага будаўніцтва ў БССР за мінулае дзесяцігоддзе. Аўтар даў ацэнку важнейшых бакоў развіцця беларускай дзяржаўнасці — абвяшчэння БССР, дзяржаўнага будаўніцтва ў гады грамадзянскай вайны, саюза БССР і РСФСР, уваходжання БССР у склад Саюза ССР, узбуйнення БССР у 1924—1926 гг., раяніравання рэспублікі, гісторыі канстытуцыйнага заканадаўства. Зразумець заканамернасці нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва на Беларусі чытачу дапамагае дакументальны дадатак, куды ўвайшлі акты аб абвяшчэнні БССР, Дэкларацыя правоў народаў Расіі, Дэкларацыя правоў працоўнага і эксплуатуемага народа, першая Канстытуцыя БССР і дапаўненні да яе (1920 г.), Канстытуцыя СССР 1924 г., схемы пабудовы органаў цэнтральнай і мясцовай улады БССР, адміністрацыйна-тэрытарыяльнага дзялення рэспублікі.

У юрыдычныя даследаванні 20-х гадоў прыкметны ўклад унёс М. М. Гуткоўскі, супрацоўнік Інбелкульта. Яго публікацыі давалі адказ на вострыя пытанні, якія ставіла ў той час практыка дзяржаўнага будаўніцтва і заканадаўчая дзейнасць. Ён вывучае крыніцы заканадаўства БССР і праблемы яго сістэматызацыі, функ-

цыянальныя асаблівасці цэнтральных органаў улады і кіравання рэспублікі, іншыя пытанні. Ім выказаны каштоўныя думкі аб прынцыпах кадыфікацыі адміністрацыйнага права, якое дынамічна развівалася.

Прыкладам цеснай сувязі тэорыі і практыкі з'явілася праца М. М. Гуткоўскага «Сістэматычны паказальнік (спроба сістэматыкі) заканадаўства Беларускай ССР за 1919—1928 гг.», выдадзеная па пастанове СНК БССР ад 28 лістапада 1928 г. У паказальніку названа звыш 4 тыс. законаў і ведамасных актаў. Гэта лічба сведчыць пра тое, які вялікі нарматыўны матэрыял быў назапашаны за дзесяцігоддзе існавання рэспублікі. Гэты матэрыял неабходна было ўпарадкаваць. Праведзеная М. М. Гуткоўскім работа магла дапамагчы пры складанні збору законаў рэспублікі. Заканадаўства дзялілася на 10 класаў, класы — на галіны, галіны — на групы. У межах груп нарматыўны матэрыял размяркоўваўся паводле алфавіту. Класіфікацыя дапаўнялася алфавітна-прадметным паказальнікам, які налічваў 1300 назваў.

Старшыня ЦВК БССР А. Р. Чарвякоў у прадмове да паказальніка адзначаў, што М. М. Гуткоўскі паклаў пачатак сістэматызацыі заканадаўства рэспублікі. Гэты паказальнік можа служыць дапаможнікам не толькі для тых, хто цікавіцца гісторыяй утварэння і развіцця Савецкай Беларусі, але і для кожнага практычнага работніка, які можа знайсці ў выданні патрэбныя і карысныя веды. Такі вывад старшыні ЦВК БССР быў лепшай рэцэнзіяй на гэтую сапраўды патрэбную і карысную працу.

Юрыстаў Беларусі цікавіла пытанне аб прававых формах адносін савецкіх рэспублік, прыродзе іх дзяржаўнага саюза. Адным з першых да гэтых пытанняў звярнуўся М. М. Гуткоўскі. Гэта была спроба даць ацэнку з'яве пакуль што на аснове апублікаваных, вядомых дакументаў. Аднак каштоўным было тое, што важнаму пытанню ўжо тады ўдзялялася належная ўвага. Пад рэдакцыяй і ў перакладзе М. М. Гуткоўскага з рускай мовы выйшаў падручнік па справаводству сельскіх і мястэчковых Саветаў.

Прыкметнай з'явай у сферы юрыдычных даследаван-

няў Інбелкульта з'явіліся «Запіскі аддзела гуманітарных навук. Працы кафедры сучаснага права» (1929, рэдактар М. В. Грэдзінгер) памерам каля 25 аркушаў. Гэта зборнік артыкулаў па розных галінах юрыдычнай навукі, прысвечаных даследаванню шляхоў развіцця і ўдасканалення рэспубліканскага заканадаўства, пошуку адказаў на пытанні, якія ўзнікалі ў заканатворчай дзейнасці.

Публікацыя, якая падводзіла ў пэўным сэнсе вынікі развіцця юрыдычнай думкі ў рэспубліцы, стала паказчыкам тэарэтычнага і прафесійнага ўзроўню навуковых даследаванняў і іх тэматычнай накіраванасці. Яна ўвайшла ў гісторыю развіцця юрыдычнай навукі рэспублікі як яе важная вяха.

Сярод узнятых у «Запісках» пытанняў выключны інтарэс выклікала тэма аб перадумовах утварэння беларускай дзяржаўнасці. Гісторыя Кастрычніка на Беларусі, стварэнне БССР, ажыццяўленне нацыянальнай палітыкі, эвалюцыя розных палітычных партый — пытанні, у якіх асабліва востра выяўлялася адрозненне пазіцый аўтараў, што пісалі пра іх.

У артыкуле «Ідэя беларускай дзяржаўнасці перад утварэннем Савецкай Беларусі» Г. Е. Парэчын, даследуючы гісторыю ўтварэння БССР, робіць вывад пра тое, што цесная сувязь усіх савецкіх рэспублік — асноватворны прынцып, якога нязменна прытрымліваліся і прытрымліваюцца працоўныя Беларусі ў будаўніцтве новага жыцця.

Аднак аўтару не ўдалося пазбегнуць асобных памылак з-за недастатковага ведання фактычнага матэрыялу, не заўсёды крытычных адносін да з'явіўшыхся ў 20-х гадах публікацый.

Важная дзяржаўна-прававая праблема закраналася ў артыкуле М. Канапліна «Савецкая дэмакратыя». Аўтар пісаў пра сутнасць савецкай дэмакратыі, ажыўленне Саветаў, барацьбу з бюракратызмам, шляхі актывізацыі грамадскай самадзейнасці, далучэнне працоўных да кіравання дзяржаўнымі справамі.

У артыкуле М. М. Гуткоўскага «Стварэнне законаў у БССР» абагульнены вопыт развіцця заканадаўства за гады існавання рэспублікі, дадзена характарыстыка

найбольш важных законаў, каштоўны матэрыял аб прымяненні законаў Расійскай Федэрацыі на тэрыторыі БССР да стварэння Саюза ССР.

Даследаванне П. І. Гаўзе «Сучаснае становішча заканадаўства БССР і задачы яго ўпарадкавання» было нацэлена на вырашэнне праблем, звязаных з падрыхтоўкай да выдання «Сістэматычнага зборніка дзеючага заканадаўства БССР».

У артыкуле «Наша права на спадчыну, якім пажадана яго мець» М. В. Грэдзінгер абгрунтаваў фармулёўку 33 артыкулаў спадчыннага права. У дадзеным выпадку мае месца прыклад накіраванасці даследавання на вырашэнне канкрэтнай практычнай задачы.

У 20-я гады выключна надзённым было ўрэгуляванне спрэчак, якія ўзнікалі на падставе землекарыстання і маёмасных падзелаў у сялянскіх гаспадарках. Гэтае пытанне асвятліў Е. Вішнеўскі ў артыкуле «Зямельны суд БССР».

Актуальнай тэме прысвечаны артыкул Б. Ф. Ватацы «Прынцып рэвізійнасці ў касацыйным працэсе па Грамадзянскаму працэсуальнаму кодэксу БССР». Даследаванне звязана з распрацоўкай асноў грамадзянскага заканадаўства і судаводства СССР.

Для юрыдычнай навукі рэспублікі 20-х гадоў стала характэрным і выкарыстанне сацыялагічных метадаў даследавання. Прафесар В. М. Шыраеў прасачыў развіццё інстытутаў крымінальнага заканадаўства БССР за 1919—1928 гг. Параўноўваючы зробленае іншымі саюзнымі рэспублікамі ў гэтым напрамку, аўтар адзначае безумоўныя дасягненні беларускіх юрыстаў ва ўдасканаленні формы крымінальнага закону і заканадаўчай тэхнікі.

Матэрыял С. Слупскага «Асноўныя моманты развіцця і састаў злачыннасці ў БССР» цікавы тым, што ў ім на аснове шырокіх статыстычных звестак паказаны характар злачыннасці ў рэспубліцы, залежнасць яе ад розных сацыяльных і дэмаграфічных фактараў і нават пары года.

Сацыялагічныя метады выкарыстаў М. А. Бонч-Асмалоўскі для вывучэння звычаяў, якія рэгулявалі маёмасныя адносіны ўнутры сялянскага двара. Яго артыкул


*М. В. Грэдзінгер*

«Прававыя звычаі сялян БССР» быў вынікам абагульнення анкетных звестак.

Пры гэтым існавалі тэмы, якія ў аднолькавай ступені цікавілі і юрыстаў, і гісторыкаў. Па пытаннях гісторыі права, якое дзейнічала ў сярэднія вякі, шмат зрабіў першы рэктар БДУ акадэмік У. І. Пічэта. Серыю артыкулаў аб перадумовах утварэння БССР напісаў З. Ф. Жылуновіч. Інбелкультам было распачата выданне дзяржаўных актаў XVI—XVII стст., якія ўваходзілі ў «Літоўскую метрыку». Першы том дакументаў, які выйшаў у 1927 г., змяшчаў матэрыялы па гісторыі Магілёва.

Перыядычныя выданні 20-х гадоў давалі магчымасць і прававедам, і практыкам выступаць у друку. Артыкулы аб праве, аб праблемах дзяржаўнага кіравання, па гісторыі дзяржавы і права час ад часу з'яўляліся ў часопісах «Полымя», «Савецкае будаўніцтва», «Наш край», «Асвета», «Весці НКЮ БССР», «Маладняк». Газеты

друкавалі матэрыялы па ўдасканаленню заканадаўства і савецкага дзяржаўнага апарату, барацьбе з бюракратызмам і інш. «Бюлетэнь Савета Народных Камісараў БССР», які пачаў выходзіць у 1925 г., публікаваў афіцыйны і неафіцыйны матэрыял. Выданне ставіла мэтаю не толькі знаёміць працоўных з актамі, якія прымалі ЦВК БССР, СНК БССР, асобныя ведамствы, але і даваць «належнае тлумачэнне гэтых матэрыялаў і пастаноў».

Як вядома, у канцы 20-х гадоў крытыка ідэйных памылак, тэарэтычных недахопаў набыла форму барацьбы з праявамі так званага нацыянал-дэмакратызму, які афіцыйна характарызаваўся як контррэвалюцыйная палітычная плынь і ставіў сваёй мэтай рэстаўрацыю капіталістычнага парадку. Характарыстыка нацыянал-дэмакратызму як сістэмы варожых савецкаму ладу, сацыялізму поглядаў выкарыстоўвалася і для ацэнкі навуковай прадукцыі па пытаннях дзяржавы і права. У 20-я гады, калі вельмі актыўна праводзілася палітыка культурнага адраджэння, беларусізацыі, увядзення беларускай мовы ў практыку дзяржаўных устаноў, карэнізацыі дзяржаўнага апарата, юрысты не былі ўбаку ад гэтых працэсаў. Іх таксама, як і іншых, абвінавачвалі.

У той жа час узровень навуковай крытыкі быў ніжэй за ўзровень самой навукі. Больш таго, часам разглядам публікацый займаліся людзі, якія мелі зусім далёкае ўяўленне пра аналізуемы прадмет. Рэзкая, з наклейваннем разнастайных палітычных ярлыкоў крытыка насіла выкрывальны характар. За навуковы падыход у ацэнцы грамадскіх з'яў выдаваліся вульгарызатарскія схемы. Аблюбаваным правілам было вынаходства ілжывых абвінавачванняў, якія затым у незвычайна эмацыянальнай форме падвяргаліся «выкрыццю» без сур'ёзнай аргументацыі. Разглядаючы навуку як поле бязлітаснага класавага змагання, крытыкі, напрыклад, знайшлі, што артыкул Г. Е. Парэчына ў «Запісках» наскрозь прасякнуты нацыянал-дэмакратычнымі ўстаноўкамі. Адну з такіх установак бачылі ў характарыстыцы Г. Парэчыным умоў абвяшчэння БССР і ролі ў гэтым гістарычным акце некаторых асоб і арганізацый. У той жа час старанна абыходзілася пытанне аб памылках кіраўніцтва

Заходняй вобласці ў нацыянальным пытанні. Больш таго, ленінская ініцыятыва абвяшчэння Беларускай Савецкай Рэспублікі (менавіта суверэннай рэспублікі) прыпісвалася дзеячам Заходняй вобласці, якія адмаўляліся бачыць у беларусах самастойную нацыю і да канца снежня 1918 г. (г. зн. да пастановы ЦК РКП(б)) былі супраць самавызначэння Беларусі, а пасля абвяшчэння БССР разглядалі гэту меру як тактычны крок, звязаны са знешнепалітычнымі абставінамі, а не з асноватворнымі прынцыпамі вырашэння нацыянальнага пытання ў краіне.

Крытыка ў адрас артыкула Г. Е. Парэчына паслужыла адной з падстаў для абвінавачвання кафедры сучаснага права ў палітычных памылках.

Зараз, калі здабыткам навукі, а разам з гэтым і шырокай грамадскасці сталі шматлікія архіўныя факты аб самавызначэнні Беларусі і ў іх ліку ленінскія дакументы аб утварэнні БССР, дзейнасці Белнацкама і беларускіх камуністычных секцый, зразумела, наколькі несправядлівыя сцвярджэнні ў друку аб тым, што дзейнасць З. Ф. Жылуновіча на пасадзе старшыні Часовага рабоча-сялянскага ўрада Беларусі была быццам бы «мізэрнай і паганай».

Перыяд дзейнасці Інбелкульта — невялікі час, каб разгарнуліся шырокія манаграфічныя даследаванні. Для гэтага патрэбны быў вопыт, глыбокае веданне фактычнага матэрыялу, неабходная колькасць прафесійна падрыхтаваных кадраў. Але тое, што апублікавалі юрысты ў 1922—1928 гг., сведчыла пра актывізацыю іх даследаванняў, умацаванне сувязі юрыдычнай навукі з практыкай, што ў сваю чаргу адлюстроўвала агульны рэвалюцыйны дух грамадскіх пераўтварэнняў 20-х гадоў.

Пры аналізе дасягненняў юрыдычнай навукі Беларусі нельга забываць і тое, што яна развівалася не ізалявана, а ў цеснай сувязі і пад уздзеяннем навуковай юрыдычнай думкі ўсёй краіны і перш за ўсё яе вядомых цэнтраў — Масквы, Ленінграда, Кіева.



# БІЯЛАГІЧНЫЯ І СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫЯ НАВУКІ

Пачатак сістэматычных даследаванняў у галіне біялагічных і сельскагаспадарчых навук на Беларусі ў пачатку 20-х гадоў звязаны з дзейнасцю Інстытута беларускай культуры і перш за ўсё з працай прыродазнаўча-геаграфічнай і агранамічнай секцый, арганізаваных у яго складзе ў 1923—1924 гг.

У сувязі з рэарганізацыяй Інбелкульта прыродазнаўча-геаграфічная секцыя ў 1925 г. была ператворана ў прыродазнаўчую, агранамічная — у сельскагаспадарчую. Гэта дазволіла ім прыкметна пашырыць даследчую працу па вывучэнню прыроды, расліннага і жывёльнага свету, а таксама асноўных галін сельскай і лясной гаспадаркі Беларусі.

У складзе прыродазнаўчай секцыі, якая налічвала звыш 40 членаў, былі створаны падсекцыі неарганічнай і арганічнай прыроды, арганізаваны прыродазнаўчы музей Беларусі з экспазіцыямі па глебазнаўству, батаніцы і заалогіі. У яго фондах і экспазіцыях захоўвалася да 3,5 тыс. экземпляраў птушак, каля 1 тыс. экземпляраў млекакормячых і да 1,5 тыс. відаў беспазваночных жывёл.

Пад навуковым кіраўніцтвам прыродазнаўчай секцыі працаваў Вялікалетчанскі батанічны сад, створаны працай вядомага беларускага геабатаніка У. У. Адамава.

Прэзідыум секцыі на чале з яго старшынёй Я. П. Каранеўскім, а таксама загадчыкі падсекцый М. Ф. Бліядуха, А. В. Фядзюшны, М. В. Азбукін змаглі накіраваць намаганні батанікаў, лесаводаў і заолагаў на вырашэнне надзённай для таго часу задачы — больш поўнае абследаванне раслліннасці, жывёльнага свету розных раёнаў Беларусі і ацэнку іх выкарыстання.

Сельскагаспадарчая секцыя Інбелкульта ў першыя гады сваёй дзейнасці іграла важную ролю ў выяўленні найбольш надзённых тэм даследаванняў, пастаўленых сельскай гаспадаркай, у канцэнтрацыі вакол сябе ініцыятыўнай групы супрацоўнікаў, зацікаўленых у навукова-даследчай працы ў галіне земляробства і жывёлагадоўлі. З часам у секцыі вылучаюцца меліярацыйная, сельскагаспадарчая і саматужнай прамысловасці, лясная падсекцыі, а таксама камісіі сельскагаспадарчага раяніравання, тэрміналагічная і папулярнай сельскагаспадарчай літаратуры.

Сельскагаспадарчая секцыя аб'ядноўвала навуковых супрацоўнікаў Інбелкульта, даследчых устаноў Наркамзема БССР, аграномаў і прадстаўнікоў мясцовых сельскагаспадарчых органаў. Усяго ў 1926 г. у яе рабоце прымалі ўдзел 62 чалавекі, сярод якіх сем правадзейных членаў, 15 членаў-карэспандэнтаў, 11 членаў-супрацоўнікаў інстытута. Работай секцыі кіраваў прэзідыум (старшыня Д. Ф. Прышчэпаў, намеснік старшыні А. А. Смоліч, навуковы сакратар Ч. І. Родзевіч, члены М. І. Макарэўскі, С. В. Скандракоў, С. М. Тупяневіч і інш.).

Сярод камісій сельскагаспадарчай секцыі асабліва плённасцю вылучалася тэрміналагічная, актыўны ўдзел у рабоце якой прымалі І. Д. Луцэвіч (Янка Купала), К. М. Міцкевіч (Якуб Колас), Я. Ю. Лёсік, А. К. Гурло, П. П. Рагавы і іншыя пісьменнікі і вучоныя Беларусі. Імі за кароткі час састаўлены і выдадзены слоўнікі навуковай беларускай тэрміналогіі па батаніцы, сельскай гаспадарцы, агульнаму расліназнаўству і жывёлагадоўлі, лясной гаспадарцы.

У 1925 г. частка членаў сельскагаспадарчай секцыі Інстытута беларускай культуры, якія знаходзіліся ў Горках, аб'ядналася ў Навуковае таварыства па вывучэнню Беларусі. Дзейнасць яго 115 членаў разгортвалася ў шасці секцыях. Агульнае кіраўніцтва работай секцый ажыццяўляў прэзідыум Навуковага таварыства ў складзе старшыні Ф. В. Лунгерсгаўзена, намесніка старшыні А. К. Кедрава-Зіхмана, сакратара С. І. Журыка, казначэя М. І. Бурштэйна, членаў М. М. Ганчарыка, А. І. Кайгародава, С. В. Скандракова, П. Ф. Салаўёва і інш.

Асноўнай формай работы Навуковага таварыства



*С. В. Скандракоў, правадзейны член Інбелкульта*

з'яўлялася абмеркаванне навуковых дакладаў на яго пленумах і секцыях, арганізацыя публічных лекцый, складанне бібліяграфічных дапаможнікаў па розных галінах сельскай гаспадаркі, удзел у глебавых і геалагічных даследаваннях, якія арганізоўваў Інбелкульт, вывучэнне тэхналогіі сялянскай гаспадаркі і землеўпарадкавання на Беларусі. Навуковае таварыства па вывучэнню Беларусі падтрымлівала цесную сувязь з краязнаўчымі арганізацыямі рэспублікі, актыўна супрацоўнічала з часопісам «Наш край». Да 1929 г. навуковым таварыствам выдадзена шэсць тамоў прац, якія ўключалі вялікі і разнастайны матэрыял па сельскай і лясной гаспадарцы рэспублікі, сабраны ў экспедыцыях і атрыманы ў выніку правядзення эксперыментаў.

Важнае месца ў дзейнасці Інстытута беларускай культуры займалі пытанні арганізацыі і правядзення глебавых даследаванняў тэрыторыі рэспублікі. У мэтах аб'яд-

нання навукова-доследных работ па глебазнаўству і забеспячэння адзінага кіраўніцтва імі на ўсёй тэрыторыі Беларусі ў 1924 г. пры Інбелкульце ствараецца глебава-геалагічная камісія (старшыня прафесар М. Ф. Бліядуха, вучоны сакратар П. П. Рагавы). У сакавіку гэтага ж года камісія склікала Першую Усебеларускую глебазнаўчую канферэнцыю, на якой прысутнічалі 29 вучоных-глебазнаўцаў. На канферэнцыі з дакладамі выступілі Я. М. Афанасьеў, Ю. А. Вейс, В. Р. Касаткін, А. К. Кедраў-Зіхман, П. П. Рагавы, Б. К. Тарлецкі і інш. Былі абмеркаваны вынікі вывучэння глеб, праведзенага на тэрыторыі Беларусі да гэтага часу, распрацаваны адзіны план і методыка далейшых даследаванняў. Канферэнцыя заклала трывалыя асновы сістэматычных арганізаваных у дзяржаўным маштабе глебавых даследаванняў на Беларусі.

Для актывізацыі навуковай працы прыродазнаўчай секцыі ў пачатку 1925 г. Дзяржплан БССР перадаў у склад Інстытута беларускай культуры камісію па вывучэнню прыродных вытворчых сіл Беларусі. У яе ўвайшлі прадстаўнікі сельскагаспадарчай і прыродазнаўчай секцый Інбелкульта, Дзяржплана і Наркамзема БССР. Камісія вывучала шырокае кола праблем: геалогію, геабатаніку, глебазнаўства, мінеральныя і арганічныя ўгнаенні, лесаводства, рыбаводства, паляўніцтва, эканоміку народнай гаспадаркі, пытанні аграназміі і заатэхнікі. У 1926 г. камісію па вывучэнню прыродных вытворчых сіл Беларусі ўзначаліў вядомы беларускі геолаг прафесар М. Ф. Бліядуха.

У сакавіку 1925 г. па ініцыятыве Інбелкульта і пры непасрэднай падтрымцы Наркамзема БССР у Мінску праведзены Першы Усебеларускі з'езд па сельскагаспадарчай доследнай справе. Ён падвёў вынікі аднаўлення сельскай гаспадаркі, абмеркаваў перспектывы далейшага развіцця, вызначыў задачы сельскагаспадарчай доследнай справы на Беларусі на бягучы перыяд.

Цэнтральнае месца ў рабоце з'езда займалі пытанні арганізацыі, планавання і каардынацыі навуковых даследаванняў па сельскай гаспадарцы, якія праводзіліся на Беларусі. Аднак першапачатковае значэнне з праблем, вылучаных з'ездам, мела стварэнне навукова-мета-



*П. П. Рагавы*

дычнага цэнтра сельскагаспадарчай навукі на Беларусі. Выкананню гэтай задачы садзейнічала рэарганізацыя Інстытута беларускай культуры, праведзеная згодна з пастановай ЦВК і СНК БССР ад 12 лютага 1926 г. У выніку пераўтварэнняў у Інбелкульце, як і вызначыў Першы Усебеларускі з'езд па сельскагападарчай доследнай справе, створана новае структурнае падраздзяленне — навуковае бюро па сельскагаспадарчай доследнай справе, што знаходзілася ў складзе інстытута на правах самастойнай камісіі.

Большасць членаў навуковага бюро ўваходзілі ў склад сельскагаспадарчай секцыі Інстытута беларускай культуры. Яна аб'ядноўвала працу ўсіх навукова-даследчых устаноў у БССР. Бюро правяло шэраг пленумаў, на якіх абмеркавала асноўныя прынцыпы арганізацыі доследнай справы на Беларусі, пытанні арганізацыі сеткі сельскагаспадарчых станцый, умацавання іх на-

вуковых сувязей з доследнымі арганізацыямі РСФСР і УССР. Аднак цяжкасці, звязаныя з загружанасцю членаў навуковага бюро і сельскагаспадарчай секцыі выкладчыцкай і доследнай працай, вялі да паніжэння ўзроўню навукова-метадалагічнага кіраўніцтва доследнай справай у рэспубліцы.

Інтарэсы далейшага паляпшэння навукова-даследчай працы на Беларусі, павышэння яе ўплыву на сельскагаспадарчую вытворчасць патрабавалі, як адзначалася ў пастанове сельскагаспадарчай секцыі Інбелкульта, стварэння на Беларусі самастойнай, найлепшым чынам забяспечанай матэрыяльнымі рэсурсамі і навуковымі сіламі навукова-даследчай установы па сельскай і лясной гаспадарцы. Ідэя арганізацыі на Беларусі навукова-даследчага інстытута ў галіне сельскай і лясной гаспадаркі, які аб'яднаў бы не толькі ўсю сельскагаспадарчую доследную справу на Беларусі, але і ўмацаваў бы навуковыя сувязі з іншымі доследнымі ўстановамі краіны, атрымала падтрымку ўрада БССР і гаспадарчых органаў рэспублікі.

19 лістапада 1926 г. СНК БССР прыняў пастанову «Аб арганізацыі Беларускага навукова-даследчага інстытута сельскай і лясной гаспадаркі імя У. І. Леніна», у адпаведнасці з якой інстытут уваходзіў у склад Інбелкульта і абвяшчаўся вышэйшай навукова-даследчай установай Беларусі ў галіне сельскай і лясной гаспадаркі. Афіцыйна інстытут быў адкрыты 1 студзеня 1927 г. у Мінску пры Інстытуце беларускай культуры. 17 мая 1927 г. урад рэспублікі прыняў пастанову аб перадачы яго ў непасрэднае падпарадкаванне СНК БССР.

У выніку вялікай арганізатарскай дзейнасці дзяржаўных і гаспадарчых органаў, вучоных рэспублікі пры вядучай ролі навуковых супрацоўнікаў Інбелкульта ў Беларускай ССР быў створаны навукова-даследчы і метадычны цэнтр у галіне сельскай гаспадаркі. З арганізацыяй Беларускага НДІ сельскай і лясной гаспадаркі навуковае бюро па доследнай справе і сельскагаспадарчая секцыя як выканаўшыя свае функцыі былі ліквідаваны.

Сетка навукова-даследчых устаноў у галіне сельскай і лясной гаспадаркі Беларусі ў гэты перыяд стваралася

7 Зак. 1183

і развівалася ў цеснай сувязі з працай Інстытута беларускай культуры. У 1927 г. у яго складзе створаны аддзел прыродазнаўчых і гаспадарчых навук, які складаўся з класа прыроды і класа гаспадаркі. Увага аддзела была скіравана на вывучэнне прыродазнаўчанавуковых асноў сельскай гаспадаркі. У яго склад уваходзілі кафедра глебазнаўства (загадчык — прафесар Я. М. Афанасьеў), кафедра батанікі (загадчык — У. У. Адамаў), заалагічны музей (загадчык — прафесар А. В. Фядзюшын), камісія па вывучэнню кааперацыі (старшыня — М. М. Наяўлянскі), кафедра геаграфіі (загадчык — прафесар А. А. Смоліч), а таксама Цэнтральная феналагічная камісія і Вялікалетчанскі батанічны сад. На правах самастойнай камісіі ў сістэме Інбелкульта функцыяніравала Навуковае таварыства па вывучэнню Беларусі ў Горках (старшыня — прафесар І. А. Кісляко ў).

Неабходна падкрэсліць, што навуковыя даследаванні ў галіне глебазнаўства, біялагічных і сельскагаспадарчых навук атрымалі ў Інбелкульце дастаткова шырокае развіццё, асабліва ў апошнія гады яго дзейнасці. Гэтаму спрыяў рост асігнаванняў, якія выдзяляў урад БССР інстытуту. Так, толькі на 1927/28 акадэмічны год на правядзенне глебава-геалагічных і батанічных даследаванняў было асігнавана 26 865 руб., што склала 8% ад агульнага бюджэту інстытута. За гэты тэрмін арганізавана 12 навуковых экспедыцый.

Выконваючы функцыі вышэйшай дзяржаўнай навуковай установы рэспублікі, Інбелкульт наладзіў навуковыя кантакты з Беларускім навукова-даследчым інстытутам сельскай і лясной гаспадаркі, Беларускай дзяржаўнай акадэміяй сельскай гаспадаркі ў Горках, навукова-даследчымі ўстановамі Наркамзема БССР, каардынаваў і накіроўваў іх працу па даследаванню сельскай і лясной гаспадаркі. Навуковыя сувязі Інбелкульта развіваліся з цэнтральнымі доследнымі ўстановамі краіны па вывучэнню флоры і расліннасці рэспублікі, а таксама каардынацыі батанічных і лесаводчых даследаванняў на Беларусі.

Мясцовым беларускім батанікам У. У. Адамаву, В. Д. Акімавай, І. Г. Васількову, З. Н. Дзянісаву, В. А. Міхайлоўскай і іншым вялікую дапамогу аказалі рускія бата-

нікі Галоўнага батанічнага сада ў Ленінградзе (цяпер Батанічны інстытут імя У. Л. Камарова) М. І. Кузняцоў, В. С. Палянская, М. І. Прахін, В. П. Савіч, Н. М. Савіч і інш. У плане геабатанічнага вывучэння рэспублікі пад кіраўніцтвам М. І. Кузняцова арганізаваны дзве экспедыцыі: першая ў 1924 г. у складзе В. П. Савіча, Л. І. Савіч-Любіцкай, А. І. Бяляевай для батаніка-геаграфічнага і спорава-фларыстычнага вывучэння Мінскай і Слуцкай акруг, другая ў 1926 г. у складзе В. С. Палянскай і Н. М. Савіч для геабатанічнага вывучэння Мінскай, Бабруйскай і Барысаўскай акруг.

У выніку праведзеных маршрутных экспедыцыйных абследаванняў, у якіх акрамя названых батанікаў прымалі ўдзел М. І. Абрамчык, У. У. Адамаў, Н. А. Збіткоўскі, В. А. Міхайлоўская, М. І. Прахін, ужо да 1928 г. складзена больш поўная геабатанічная характарыстыка ўсходніх раёнаў Беларусі, апублікаваны навуковыя артыкулы з агульнай характарыстыкай лясной, лугавой і балотнай расліннасці.

За кароткі перыяд удалося сабраць вялікі матэрыял, які паклаў пачатак беларускаму гербарыю і адлюстроўваў амаль усю флору вышэйшых раслін усходняй паловіны рэспублікі. Пасля адпаведнай апрацоўкі гербарый стаў асноўнай крыніцай для высвятлення складу флоры рэспублікі і вывучэння геаграфічнага распаўсюджання відаў раслін на яе тэрыторыі.

На аснове абагульнення атрыманых матэрыялаў складзены першыя фрагментарныя геабатанічныя карты Мазырскай (В. С. Палянская, 1927), Слуцкай (Н. А. Збіткоўскі, 1927) акруг, адзначаны агульныя заканамернасці геаграфічнага размяшчэння расліннасці і распаўсюджання асобных відаў флоры вышэйшых раслін, праведзена геабатанічнае раяніраванне тэрыторыі рэспублікі.

Па матэрыялах даследаванняў падрыхтавана абагульняючая праца В. С. Палянскай «Склад флоры Беларусі і геаграфічнае пашырэнне паасобных раслінных відаў» (1931). У ёй дадзены навуковыя прынцыпы прыродазнаўча-гістарычнага раяніравання Беларусі, апісана 150 відаў найбольш цікавых і каштоўных раслін і граніц арэалаў 69 відаў дрэўных, куставых і травяністых раслін. Гэта праца з'яўляецца першым навуковым ана-

лізам флоры па геаграфічных элементах і расліннасці па геабатанічных падзонах Беларусі, адлюстраваннем іх фітахаралагічных і геабатанічных асаблівасцей. Яна стварыла навуковыя асновы беларускай фларыстыкі і геабатанікі. Прыведзеныя ў кнізе навуковыя ідэі і палажэнні аб занальнасці расліннага покрыва з'явіліся асновай для далейшага развіцця асноўных тэарэтычных палажэнняў сучасных фларыстычных і геабатанічных даследаванняў у рэспубліцы.

Па матэрыялах экспедыцыйных даследаванняў В. С. Палянскай пад агульнай рэдакцыяй М. І. Кузняцова ў 1932 г. у Ленінградзе была выдадзена першая геабатанічная і фларыстычная карта Беларусі, якая мела істотнае значэнне для развіцця далейшых фларыстыка-геабатанічных прац.

Адначасова з правядзеннем фларыстыка-геабатанічных даследаванняў вывучалася флора ніжэйшых раслін — грыбоў, лішайнікаў і імхоў. У 1924—1925 гг. у выніку даследаванняў В. П. Савіча, Л. І. Савіч-Любіцкай, А. Н. Окснера і Г. М. Высоцкага з'явіліся першыя ліхеналагічныя і брыялагічныя спісы відаў лішайнікаў і імхоў. У гэтыя ж гады актывізаваліся мікалагічныя даследаванні. В. П. Савічам, Г. М. Высоцкім і Л. А. Лебедзевай (1925) апублікаваны спісы грыбоў і міксаміцэтаў Мінскай і Магілёўскай акруг.

З сярэдзіны 20-х гадоў М. М. Гайдуковым і В. З. Акімавай праводзілася вывучэнне мікафлоры і альгафлоры вадаёмаў. У гэты ж час разам з фларыстычнымі асаблівае развіццё атрымалі геабатанічныя даследаванні ўсіх тыпаў раслліннасці, у першую чаргу лясной. У артыкулах В. І. Перахода, Л. І. Яшнова, Гладышэўскага, Д. І. Таўсталеса, напісаных у 1922—1925 гг., падрабязна ахарактарызаваны лясы Жорнаўскага, Лапічскага і Вязскага лясніцтваў Асіповіцкага раёна.

Па матэрыялах даследаванняў на Жорнаўскім доследным участку Мінскай доследнай станцыі Г. М. Высоцкім у 1925 г. апублікаваны працы, якія паклалі пачатак навуковай тыпалагічнай класіфікацыі лясоў Беларусі, а пачатыя ім лесагідралагічныя даследаванні працягваюцца і зараз.

Адначасова лесаводныя даследаванні праводзіліся і



*А. Д. Дубах*

ў Горацкім сельскагаспадарчым інстытуце. У 1923—1925 гг. апублікаваны вынікі даследаванняў змены дрэўных парод і аднаўлення елкі Ф. Н. Турыцыным, дынаміка росту розных органаў хвойных і лісцёвых парод Марохіным, колькасць вільгаці ў ствалах елкі А. Л. Новікавым, рост імховага покрыва на балоце А. Д. Дубахам.

Упершыню на Беларусі на Горацкім, Жорнаўскім і Вяляціцкім лясных доследных участках Цэнтральнай лясной доследнай станцыі пад кіраўніцтвам С. П. Мельніка навуковымі супрацоўнікамі А. І. Чарненкавым, Г. Г. Круглікавым, М. Н. Лубяка, Н. Н. Якаўлевым праведзены даследаванні па ўжыванню экзотаў у лясных культурах і шырокія феналагічныя назіранні за мясцовымі і інтрадукцыйнымі відамі дрэў і кустоў. Параўнальна поўныя звесткі па біялогіі дрэўных парод паўднёвай

часткі Беларусі апублікаваны ў 1925 г. С. Л. Гяоргіеўскім.

Набытыя раней і абагульненыя даныя па вывучэнню лясоў рэспублікі дазволілі С. П. Мельніку абгрунтаваць неабходнасць пашырэння лесатыпалагічных даследаванняў. У сувязі з гэтым у 1929 г. распрацавана канкрэтная праграма даследаванняў тыпу лясных пасадак рэспублікі. У ёй упершыню прапанавана класіфікацыя сям'і глебава-грунтавых умоў, з якой у далейшым пачалося развіццё беларускай лесатыпалагічнай школы.

Геабатанічныя даследаванні лугавой расліннасці ў гэты час праводзіліся з мэтай уліку колькасці і якасці прыроднага лугавога фонду. Яны ажыццяўляліся як у агульным плане геабатанічнага вывучэння рэспублікі, так і спецыяльным вывучэннем лугавых угоддзяў. У 1925—1926 гг. У. У. Адамавым сумесна з І. К. Ярашэвічам і А. Д. Лазуком праведзена даследаванне балотнай і лугавой расліннасці ў басейне Прыпяці. Н. А. Збіткоўскі пры вывучэнні расліннага покрыва Слуцкай акругі апісаў лугі па Случы, пры вывучэнні Асіповіцкага раёна даў характарыстыку лугоў Бярэзіны, М. А. Прахін па праведзеных раней даследаваннях апісаў лугі Прыпяці ў заходняй частцы Мазырскай акругі.

Спецыяльнае геабатанічнае вывучэнне балот і балотнай расліннасці праводзілі таксама В. С. Дактуроўскі, З. Н. Дзянісаў, С. І. Цюрэмнаў. У гэты час А. Т. Кірсанавым і Н. В. Лебядзевічам выкананы даследаванні па акультурванню асушаных балотных плошчаў і ператварэнню іх у каштоўныя сельскагаспадарчыя ўгоддзі.

Упершыню пачалі праводзіцца доследы па фізіёлага-біяхімічнаму вывучэнню раслін. Пад кіраўніцтвам М. М. Гайдукова ў Беларускім дзяржаўным універсітэце праведзены даследаванні храматычнай адаптацыі сінезялёных водарасцей, вынікі якіх дакладваліся на ўсесаюзных батанічных з'ездах. Некалькі пазней фізіялагічныя даследаванні пачаліся ў Горацкім сельскагаспадарчым інстытуце. З 1928 г. М. М. Ганчарыкам праводзіліся доследы па вывучэнню адносін бульбы да вільготнасці глебы. Ц. М. Годнеў вывучаў біясінтэз хларафілу ў раслінах.

Актывізацыі батанічных даследаванняў у гэты час

садзейнічала развіццё выдавецкай дзейнасці па прыродазнаўчай тэматыцы. Інстытутам беларускай культуры (затым Беларускай Акадэміяй навук) пачынаючы з 1927 г. выдадзена сем выпускаў «Матэрыялаў па вывучэнню флоры і фауны Беларусі», Інстытутам сельскай і лясной гаспадаркі на працягу 1923—1925 гг.— дзевяць выпускаў навуковых зборнікаў «Запіскі Беларускага дзяржаўнага інстытута сельскай і лясной гаспадаркі». Артыкулы па батаніцы рэгулярна публікаваліся ў выданнях «Наш край», «Прырода Асіповіцкага раёна», «Міншчына», «Віцебшчына».

У 20-х гадах пакладзены пачатак шырокаму прыродазнаўчаму вывучэнню і прыродаахоўнай дзейнасці ў рэспубліцы. Ініцыятарамі прапаганды аховы прыроды выступалі А. В. Фядзюшын, В. Ф. Купрэвіч, якія ў сваіх артыкулах аналізавалі стан і ставілі задачы ў галіне аховы жывёльнага і расліннага свету, звярталі ўвагу грамадскасці на яе актуальныя пытанні. Гэта было працягам ранейшых спроб: ужо на другі год пасля ўстанаўлення савецкай улады М. М. Кулагін узнімаў пытанне аб прыняцці мер па выратаванню і захаванню Белавежскай пушчы.

За час дзейнасці Інстытута беларускай культуры праведзена вялікая навукова-арганізацыйная, каардынацыйная і навукова-метадычная праца па выкананню шырокай праграмы батанічных навуковых даследаванняў. За кароткі перыяд былі сканцэнтраваны намаганні ўпершыню створаных калектываў батанікаў на інвентарызацыю і сістэматызацыю флоры і расліннасці рэспублікі. Выкананыя даследаванні былі тэарэтычнай перадумовай для стварэння першых навуковых напрамкаў у батанічнай навуцы Беларусі: сістэматычнага, геаграфічнага, храналагічнага аналізу флоры, батаніка-геаграфічнага раяніравання тэрыторыі, геабатанічнага картаграфавання, лесатыпалогіі і класіфікацыі лясной расліннасці. Яны заклалі навуковыя асновы далейшага паступальнага развіцця фларыстычных, геабатанічных, экалагічных і фізіялагічных даследаванняў расліннага свету Беларусі.

Супрацоўнікі Інстытута беларускай культуры ўнеслі значны ўклад у развіццё сельскагаспадарчай навукі

на Беларусі. Асабліва важкія дасягненні ў 20-х гадах вучонымі-аграрнікамі атрыманы ў выніку даследаванняў ў галіне глебазнаўства і аграхіміі.

Першыя экспедыцыйныя даследаванні глеб праведзены ў мэтах агульнага азнаямлення з характарам і асаблівасцямі глеб рэспублікі і насілі пераважна рэкагнасцыровачны характар. Пачатак шырокіх глебавых даследаванняў на Беларусі звязаны з дзейнасцю правадзейнага члена Інбелкульта прафесара Я. М. Афанасьева, які ў 1921 г. узначаліў кафедру глебазнаўства Горацкага сельскагаспадарчага інстытута. Для распрацоўкі надзённых навукова-доследных праблем ён прыцягнуў на кафедру найбольш здольных, захопленых навукай студэнтаў А. Г. Мядзведзева, П. А. Кучынскага, Р. І. Пратасеню, В. І. Пашына, якія на працягу першай паловы 20-х гадоў даследавалі глебы Беларусі, склалі іх карты, сабралі ўзоры парод па генетычных гарызонтах. Гэтыя матэрыялы ляглі ў аснову працы Я. М. Афанасьева «Этюды о покровных породах Белоруссии» (1925).

Па меры пашырэння на Беларусі глебавых даследаванняў збіраўся матэрыял, на аснове апрацоўкі і сінтэзу якога ўзнікалі абагульненыя тэорыі, выкладзеныя ў шэрагу прац агульнатэарэтычнага і метадалагічнага характару. Так, у працах Я. М. Афанасьева «Классификационная проблема в русском почвоведении» (1927), «Основные черты почвенного облика земли» (1930), «К материалам по классификации почв дерново-подзолисто-болотного ряда по урожаю культур» (1933) упершыню дадзена схема класіфікацыі ўсіх глеб і глебаўтваральных парод Беларусі па механічнаму складу.

Аграхімікам Р. І. Пратасеняй выканана праца «О составе поглощенных оснований в почвах Горецкого района» (1925), у якой упершыню прыведзена дэталёвая характарыстыка глебавага паглынальнага комплексу дзярнова-падзолістых глеб Беларусі на прыкладзе Горацкага раёна.

Вынікі работ па вапнаванню, якія шырока праводзіліся на Беларусі, далажыў А. К. Кедраў-Зіхман на II Міжнародным кангрэсе (1930 г., Масква). Яго даклад «Известкование почв Белоруссии как метод поднятия их плодородия» апублікаваны ў працах гэтага кангрэса.

Важны цыкл работ па аграхіміі і выкарыстанню ўгнаенняў у рэспубліцы выкананы пад кіраўніцтвам Р. І. Пратасені ў Цэнтральнай аграхімічнай лабараторыі Інбелкульта і НДІ сельскай і лясной гаспадаркі. Тут упершыню ў гісторыі рэспублікі арганізаваны шырокія даследаванні па вывучэнню хімічнага складу дзярнова-падзолістых глеб, іх кіслотнасці, складзены першыя карты кіслотнасці і вапнавання глеб асобных абласцей Беларусі. Шляхам пастаноўкі палявых доследаў, лабараторных даследаванняў і вегетацыйных доследаў Р. І. Пратасеняй вывучана патрэба глеб ва ўгнаеннях, а таксама ўплыў сырых калійных солей (сільвініту) на хіміка-біялагічныя ўласцівасці глебы.

У пачатку 20-х гадоў пачаты планамерныя даследаванні фауны Беларусі. Піянерам яе вывучэння, заснавальнікам беларускай заалагічнай школы з'яўляецца прафесар А. В. Фядзюшын. Ён загадваў кафедрай заалогіі Беларускага дзяржаўнага універсітэта і адначасова кіраваў сектарам заалогіі і Заалагічным музеем Інстытута беларускай культуры. За перыяд працы на Беларусі ім апублікавана звыш 80 навуковых і навукова-папулярных прац.

А. В. Фядзюшын распрацаваў перспектыўны план вывучэння жывёльнага свету рэспублікі, для чаго правёў шэраг экспедыцый. У 1921 г. ён арганізаваў экспедыцыю па збору арніталагічнага матэрыялу ў Любанскім раёне (в. Забалоцце), у 1923 г.— экспедыцыю ў пойму р. Пцічы (Пухавіцкі раён) для вывучэння веснавых міграцый птушак.

Вясной і летам 1924 г. А. В. Фядзюшын са сваімі вучнямі — студэнтамі Н. В. Дабратворскім, А. М. Камоцкім і В. В. Слесаровічам — абследаваў паўночную частку Беларусі. Збор матэрыялу даў магчымасць атрымаць цікавыя звесткі пра асаблівасці геаграфічнага распаўсюджання асобных відаў птушак у залежнасці ад шыротнай перамены ландшафту. У цэнтры Віцебшчыны заложана стацыянарная база, адкуль удзельнікі экспедыцыі рабілі кароткачасовыя або працяглыя выезды. Ім удалося абследаваць паўночна-заходнюю і паўднёва-ўсходнюю часткі гэтага рэгіёна, сабраць багаты матэрыял пра птушак (1034 экз.), млекакормячых (65), герпетафауну

(100), малюскаў (200) і больш за 3 тыс. насякомых, узяць пробы планктону мясцовых азёр, вызначыць паўночныя і паўднёвыя граніцы распаўсюджання некаторых відаў птушак (туркаўкі, малога саракапута, палявога коніка, снегіра, белабровага дразда, уюрка, кукшы, сачыўкі). Упершыню для Беларусі вызначана гнездаванне малой і шызай чаек, чарназобай гагары, белабровага дразда, уюрка і снегіра, адзначаны на пралёце шызашчокая паганка і пясчанка, у якасці залётнага віду — даўгахвосты паморж. Восенню 1924 г. А. В. Фядзюшын правёў экспедыцыю на р. Днепр з мэтай вывучэння асенніх міграцый птушак. Адначасова ён абследаваў на р. Брагінка (прыток Дняпра) стан уцалелай калоніі рачнога бабра.

У 1925 г. А. В. Фядзюшын арганізаваў экспедыцыю ва ўсходнюю частку рэспублікі (Магілёўшчына і часткова Гомельшчына), на Днепр, у раён р. Брагінка. Экспедыцыю фінансавала камісія Інбелкульта па вывучэнню прыродных і прадукцыйных сіл БССР і кафедра заалогіі Беларускага дзяржаўнага універсітэта. У выніку абследавання ўсходняй часткі рэспублікі атрыманы цікавыя звесткі пра распаўсюджанне рачнога бабра ў басейнах Сожа і Дняпра, вызначаны асаблівасці арнітафауны ўсходніх раёнаў рэспублікі. Сабраны вялікі матэрыял пра птушак (700 экз.), млекакормячых (92), герпетафауну (115), рыб (49), насякомых (каля 400 экз.).

Летам 1926 г. А. В. Фядзюшын зрабіў экспедыцыю на Беларускае Палессе па маршруту Мінск—Калінкавічы—Мазыр—Нароўля — Петрыкаў—Тураў — Млынск—Хліпінск — Чырвонае — Жыткавічы — Гомель—Мінск. У пойме р. Прыпяці ўдзельнікі зарэгістравалі птушак, такіх, як гогаль, чарназобая гагара, чубатка, шылахвостка, малая балотная курачка, кулік-мардынка. У Мазырскім Палессі, дзе адсутнічаюць лясы, выяўлена павелічэнне колькасці паўднёвых і паўднёва-заходніх відаў (аўдотка, малы саракапут, прасянка, кобчык, чубаты жаваранак, палявы канёк і інш.). На поўдзень ад Мазыра ў раёне в. Вялікі Бокаў выяўлена гнездаванне драфы. Вывучана арнітафауна буйнейшага вадаёма Беларускага Палесся — возера Чырвонае, дзе выяўлена гнездаванне рэдкіх для Беларусі відаў птушак — шызай



*А. В. Фядзюшын*

качкі і белагаловага нырца, сабраны цікавы калекцыйны матэрыял пра птушак (300 экз.), млекакормячых, амфібій, рэптылій, рыб, насякомых.

Сабраныя ў час экспедыцый фаўністычныя матэрыялы сталі асноўным навуковым калекцыйным фондам пры стварэнні заалагічных музеяў Інстытута беларускай культуры і Беларускага дзяржаўнага універсітэта. А. В. Фядзюшын адзначыў памяншэнне лясных відаў птушак, прычым не ў відавых адносінах, а ў колькасных, амаль поўнае знікненне за апошнія 10 гадоў лася, мядзведзя, рысі, што залежала ад малой ступені лясістасці. Замест лясных відаў размнажаліся жыхары палёў, куставых раслін, лясных вырубак. Утварэнне новых паселішчаў прывяло да павелічэння і рассялення сінантропных відаў птушак: шпака, голуба, двух відаў ластавак, вераб'ёў, стрыжа, канаплянкі, садовай і звычайнай аўсянкі і інш. У той час арнітафауна сярэдніх і паўднёвых ча-

стак Беларусі характэрная наяўнасцю стэпавых відаў, такіх, як драфа, аўдотка, з млекакормячых — слепыша і хамяка. Агульная колькасць птушак, што гняздуюцца тут, у параўнанні з паўночнай Беларуссю больш на 10 відаў. Агульны спіс арнітафауны дасягаў да 190 відаў.

Пры вывучэнні арнітафауны Беларусі А. В. Фядзюшын ставіў перад сабой не толькі задачу складання фауністычнага спіса, але і вывучэння распаўсюджання і колькасці большасці відаў у залежнасці ад ландшафту, што дазволіла яму вылічаць ландшафтна-фауністычныя комплексы птушак, аднавіць іх гісторыю і распрацаваць арніталагічную геаграфію Беларусі.

У 1926 г. А. В. Фядзюшына камандзіравалі ў Ленінград да акадэміка П. П. Сушкіна ў арніталагічны аддзел Заалагічнага інстытута АН СССР. Ён адпрацаваў прывезены з сабой калекцыйны арніталагічны матэрыял, заняўся ўнутрывідавой сістэматыкай усходнепалеарктычных птушак і апублікаваў шэраг артыкулаў па сістэматыцы арнітафауны.

Адначасова з вывучэннем птушак А. В. Фядзюшын праводзіў даследаванні па фауне, распаўсюджанню і колькасці млекакормячых, звяртаючы асаблівую ўвагу на паляўніча-прамысловыя віды. Яшчэ ў 1924 г. ён распрацаваў анкету, адказы на пытанні якой павінны былі асвятліць распаўсюджанне і колькасць паляўнічай фауны Беларусі ў параўнанні з 1913 г. Пры гэтым планавалася вывучыць дзесяцігадовы перыяд, які найбольш цяжка адбіўся на народнай гаспадарцы краіны ўвогуле і на становішчы паляўніча-прамысловых птушак і звяроў у прыватнасці. 1500 анкет пасланы ў сельскія Саветы, лясніцтвы і пярвічныя паляўнічыя калектывы рэспублікі. На працягу года вярнулася каля 1 тыс. запоўненых анкет. Для ўдакладнення і праверкі анкетных звестак А. В. Фядзюшын у наступныя гады правёў некалькі экспедыцый у Віцебскую, Полацкую, Магілёўскую, Аршанскую, Бабруйскую, Гомельскую, Мазырскую акругі. У 1927 г. пры садзейнічанні Упраўлення лясамі Наркамата земляробства БССР паўторна разаслалі анкеты па ўсіх лясніцтвах рэспублікі. Адначасова па даручэнню заалагічнага музея Інстытута беларускай культуры С. Кірыкаў правёў абследаванне паляўнічай

фауны на тэрыторыі Беларускага Палесся ў Тураўскім, Петрыкаўскім, Тонежскім і Данілавіцкім лясніцтвах Мазырскай акругі.

Аналіз і абагульненне звестак дазволілі вызначыць, што да пачатку першай сусветнай вайны на тэрыторыі Беларусі асноўныя віды паляўнічай фауны — лось, кабан, мядзведзь, бабёр, куніца — знаходзіліся на мяжы знішчэння. У 1927 г. у Бабруйскім раёне быў забіты дзікі лясны кот, якога пазней на Беларусі нідзе больш не сустракалі. Шкура ката захоўвалася ў заалагічным музеі Інстытута беларускай культуры. У невялікай колькасці захавалася вавёрка-палятуха на тэрыторыі чатырох лясніцтваў — Руднянскага, Сцепавіцкага, Астроўскага і Лёзненскага Полацкай акругі.

Аналіз запоўненых і вернутых анкет дазволіў выявіць, наколькі скарацілася распаўсюджанне асноўных відаў фауны на тэрыторыі Беларусі з 1915 па 1925 г.

Пры правядзенні экспедыцыйных даследаванняў А. В. Фядзюшын шмат часу ўдзяляў пошуку ўцалелых паселішчаў рачнога бабра ў басейнах Дняпра, Сожа, Прыпяці, іншых рэк Беларусі, уліку колькасці і збору матэрыялаў па экалогіі гэтага грызуна. У 1924 г., знайшоўшы ў вярхоўях Бярэзіны і па яе прытоках вялікае паселішча баброў, ён звярнуўся ў дырэктыўныя органы рэспублікі з прапановай неадкладнай арганізацыі ў гэтых месцах рэспубліканскага бабровага запаведніка (у верхнім цячэнні Бярэзіны). Перспектыўнае значэнне Бярэзінскага запаведніка як рэзервата каштоўных паляўнічых жывёл у далейшым апраўдалася. Вынікі даследаванняў па рачному бабру пазней А. В. Фядзюшын апублікаваў у манаграфіі «Рачны бабёр, яго гісторыя, жыццё і доследы па размнажэнню» (1935).

Як вучоны А. В. Фядзюшын меў пастаянныя сувязі з рознымі арганізацыямі лясной і паляўнічай гаспадаркі рэспублікі. Ён упарта дамагаўся ажыццяўлення сваіх рэкамендацый на практыцы, у лясных і паляўнічых гаспадарках. А. В. Фядзюшын выдаў манаграфію «Дынаміка і геаграфічнае распаўсюджванне паляўнічай фауны БССР» (1929). Кніга была ілюстравана дыяграмамі і падрабязнымі картамі-схемамі распаўсюджання асноўных паляўніча-прамысловых звяроў і птушак на тэрыто-

рыі рэспублікі за перыяд з 1915 па 1925 г. па кожнаму з асноўных відаў паляўнічай фауны рэспублікі.

Аўтар звяртаў увагу на вычэрпванне запасаў пушных звяроў у лясах рэспублікі і прапанаваў перагледзець планы пушных нарыхтовак у бок іх скарачэння. Ён рэкамендаваў праводзіць перыядычныя забароны на паляванне звяроў і птушак у пэўных акругах, штогод улічваць колькасць асноўных відаў паляўнічай фауны на тэрыторыі рэспублікі ў разрэзе лясніцтваў, раіў заняцца штучным развядзеннем пушных звяроў на звера-фермах з прыцягненнем дзяржаўных, калгасных і кааператыўных гаспадарак, гаварыў аб ролі запаведнікаў для навукі і далейшых пакаленняў людзей.

Вынікі яго даследаванняў выкарыстоўваліся ў практыцы вядзення паляўнічай і лясной гаспадаркі рэспублікі. Яго працы з'яўляліся даведачным дапаможнікам і выкарыстоўваліся пры арганізацыі новых паляўнічых гаспадарак на Беларусі. На іх аснове распрацоўваліся планы пушных нарыхтовак і акліматызацыя розных відаў паляўнічай фауны, рэкамендацыі па стварэнню сеткі заказнікаў і запаведнікаў на тэрыторыі рэспублікі.

А. В. Фядзюшын быў заўзятым прапагандыстам ідэі аховы прыроды. Звяртаючыся да чытачоў, ён выносіў на ўсеагульнае абмеркаванне пытанні пра становішча паляўнічай гаспадаркі ў рэспубліцы, міграцыю птушак і інш. Па яго ініцыятыве на Беларусі складзены спіс 60 запаведнікаў, батанічных садоў, паркаў і заказнікаў. Вынікі даследаванняў па ахове прыроды і жывёльнага свету рэспублікі сталі інвентарызацыяй фауны Беларусі, навуковай базай для далейшых эколага-фауністычных даследаванняў яго вучняў і паслядоўнікаў.

Дасягненні вучоных Інбелкульта сталі важным этапам у станаўленні і развіцці беларускай заалагічнай навукі. У кароткія тэрміны была вывучана фауна Беларусі, яе арэал і народнагаспадарчая важнасць. Вялікая работа выконвалася па стварэнню запаведнікаў і заказнікаў з мэтай захавання рэдкіх жывёл і птушак. Было пастаўлена пытанне аб ахове прыроды. Працы і ідэі вучоных-заолагаў, якія працавалі ў Інбелкульце, сталі асновай для далейшага развіцця заалагічнай навукі, выкарыстання яе вынікаў на практыцы.



# МЕДЫЦЫНА

Медыцынскія таварыствы, узнікшыя на Беларусі ў другой палове XIX ст., працягвалі заставацца каардынацыйнымі цэнтрамі навуковай думкі і некаторы час пасля рэвалюцыі. З 1921 г. імі сталі кафедры медыцынскага факультэта БДУ. Інстытут беларускай культуры ўзяў на сябе метадычнае і арганізацыйнае кіраўніцтва навуковымі даследаваннямі ў рэспубліцы, аб'яднаўшы апрача ўрачоў і медыцынскую грамадскасць БССР.

Адной з першачарговых задач развіцця медыцынскай навукі ў рэспубліцы ў 20-я гады стала распрацоўка беларускай навуковай тэрміналогіі. Распрацоўка беларускай медыцынскай тэрміналогіі праводзілася спачатку ў рамках тэрміналагічнай камісіі. З 1922 г. гэта праца працягвалася этнолага-лінгвістычнай секцыяй Інбелкульта, якая мела ў сваім складзе тэрміналагічную і слоўнікавую камісіі. Яны былі рэарганізаваны ў 1925 г. ў галоўную тэрміналагічную камісію.

Тэрміналагічная камісія да сваёй працы прыцягвала шырокія колы грамадскасці (урачоў, студэнтаў). Асаблівая ўвага пры зборы медыцынскіх тэрмінаў па анатоміі, фізіялогіі, паталогіі і фармакалогіі звярталася на апытанне народных лекараў, знахароў.

Тэрміналагічная камісія ў першыя гады яе існавання займалася перакладам падручніка для сярэдніх школ па анатоміі і фізіялогіі з рускай мовы на беларускую, які зрабіў І. І. Цвікевіч. У 1926 г. ён апублікаваў у Мінску падручнік «Анатомія, фізіялогія і гігіена», які быў перавыдадзены ў 1929 г.

Этнолага-лінгвістычная секцыя ў лютым 1925 г. разгледзела шэраг тэрмінаў (1294 назвы), складзеных І. І. Цвікевічам. У асноўным гэта былі анатамічныя назвы

з уключэннем асобных тэрмінаў па іншых раздзелах медыцыны. У далейшым распрацоўка беларускай медыцынскай тэрміналогіі праводзілася камісіяй у складзе І. І. Цвікевіча (старшыня), П. В. Трэмповіча (член) і П. П. Каравайчыка (сакратар).

Тэрміналагічная камісія пачала распрацоўку медыцынскай тэрміналогіі з анатамічных тэрмінаў як асновы ўсёй медыцынскай тэрміналогіі. Для ўзору было ўзята «Кіраўніцтва па анатоміі чалавека» А. Раўбера (1914), прынятае ў якасці асноўнага дапаможніка ва універсітэтах РСФСР.

Медыцынская тэрміналогія была выдадзена на трох мовах: лацінскай, рускай і беларускай. Рускі тэкст ужывалі для аблягчэння засваення тэрмінаў, таму што медыцынскія работнікі ў асноўным навучаліся ў Расіі і на медыцынскім факультэце БДУ, дзе ў першыя гады выкладанне вялося на рускай мове. Вынікам працы камісіі стала складанне шэрагу слоўнікаў, апублікаваных у 1926—1928 гг.

Распрацоўка беларускай медыцынскай тэрміналогіі садзейнічала павелічэнню публікацый у галіне медыцыны на беларускай мове. Так, калі ў 1924 г. з 8 апублікаваных па медыцыне кніг толькі дзве былі беларускамоўныя, то ў 1928 г. з 28 кніг ужо 13 былі выдадзены на беларускай мове.

Найбольш плённай у адносінах распрацоўкі медыцынскіх пытанняў дзейнасць Інбелкульта стала ў сярэдзіне 20-х гадоў, калі 26 сакавіка 1924 г. была створана медыцынская секцыя (спачатку называлася медыка-ветэрынарная). Арганізацыя яе работы была ўскладзена на І. І. Цвікевіча.

Членам медыцынскай секцыі лічыўся кожны доктар, які падаў заяву і быў зацверджаны агульным сходам. У склад секцыі ўвайшлі вядомыя ўрачы і вучоныя, якія працавалі на тэрыторыі Беларусі,— усяго 65 чалавек. У 1926—1927 гг. у медыцынскай секцыі працавалі такія камісіі, як гельмінталагічная, валляковая, склеромная, санітарнага вывучэння Беларусі (старшыня П. В. Трэмповіч, сакратар З. К. Магілёўчык), антрапалагічная (старшыня А. К. Ленц, сакратар А. А. Смірноў).

У складзе членаў Інбелкульта медыцынскія работні-

кі займалі значнае месца. Так, на 1 лютага 1927 г. з 76 правадзейных членаў было 10 урачоў (М. І. Барсукоў, А. А. Сянкевіч, А. К. Ленц, П. В. Трэмповіч, І. І. Цвікевіч, І. Т. Цітоў, В. А. Лявонаў, І. М. Салаўёў, В. К. Стакоўскі, Я. Ф. Сушынскі), членам-карэспандэнтам быў урач А. Немец, з 65 супрацоўнікаў — пяць урачоў (З. К. Магілёўчык, П. І. Каравайчык, Д. Маршак, Д. Васілеўскі, І. Гольдберг). Медыцынскія работнікі ўваходзілі ў склад Навуковага савета Інбелкульта (М. І. Барсукоў, П. В. Трэмповіч, І. І. Цвікевіч — нам. члена савета).

Вялікі ўплыў на распрацоўку медыцынскіх праблем і арганізацыю іх выканання аказаў М. І. Барсукоў — вядомы савецкі дзеяч аховы здароўя. У час паўстання ў Петраградзе кіраваў медыка-санітарным аддзелам Петраградскага ваенна-рэвалюцыйнага камітэта, у 1924—1929 гг. узначальваў Народны камісарыят аховы здароўя БССР.

Медыцынская секцыя планавала вывучэнне шырокага кола пытанняў, якія датычылі збору і апублікавання матэрыялаў па гісторыі медыцыны са старажытных часоў, аказання дапамогі Народнаму камісарыяту аховы здароўя. Вядучае месца займала праблема здароўя насельніцтва. Быў пакладзены пачатак вывучэнню становішча здароўя насельніцтва рэспублікі і фактараў, якія ўплывалі на яго асобныя паказчыкі.

Членамі медыцынскай секцыі супрацоўнікамі Беларускага інстытута сацыяльнай гігіены С. Р. Дзіхцярам, Б. Я. Смулевічам, Д. Л. Эйнгорнам на падставе медыка-санітарнага абследавання больш за 8,5 тыс. чалавек працоўнай моладзі Беларусі выдадзена манаграфія «Працоўная моладзь Беларусі» (1926). У ёй з сацыяльна-гігіенічных пазіцый атрымалі асвятленне пытанні аб колькасці, узроставым і палавым складзе маладых рабочых, іх быце, умовах працы, культурным узроўні і, што асабліва важна, аб захворванні і фізічным развіцці маладой змены рабочага класа БССР. Аўтары кнігі не абмяжоўваліся канстатацыяй даследуемых пытанняў аб працы і жыцці працоўнай моладзі, а ўнеслі шэраг прапаноў, накіраваных на паляпшэнне ўмоў працы, быту і аховы здароўя гэтай групы грамадства.

Пяру С. Р. Дзіхцяра належаць надрукаваная ў збор-



*М. І. Барсукоў, правадзейны член Інбелкульта*

ніку Інбелкульта праца «Да методыкі даследавання ўплыву працы на арганізм чалавека» і артыкул «Да характарыстыкі прамысловага траўматызму», змешчаны на старонках «Беларускай мэдычнай думкі».

Сярод першых, не страціўшых да цяперашняга часу пазнавальнай каштоўнасці даследаванняў праца члена медыцынскай секцыі Інбелкульта, дацэнта кафедры сацыяльнай гігіены БДУ Б. Я. Смулевіча «Захворванне і смяротнасць насельніцтва гарадоў і мястэчак БССР» (1928). Гэта было першае значнае манаграфічнае санітарна-статыстычнае даследаванне стану здароўя насельніцтва гарадоў Беларусі. У аснову распрацоўкі праблемы здароўя пакладзены матэрыял аб захворванні і смяротнасці жыхароў горада за 1925 г. Аўтар назіраў уплыў сацыяльных фактараў на важнейшыя паказчыкі здароўя. Атрыманыя даныя ацэньваюцца на падставе супастаўлення матэрыялаў дакастрычніцкага перыяду,

паказчыкаў па саюзных рэспубліках, асобных гарадах Заходняй Еўропы.

Гэта праца атрымала высокую ацэнку з боку спецыялістаў-дэмографаў. Так, заснавальнік савецкай санітарна-статыстычнай навукі П. І. Куркін на старонках усесаюзнага часопіса «Статыстычны веснік» даў падрабязны аналіз зместу кніжкі Б. Я. Смулевіча, адзначыўшы высокі ўзровень пададзенага матэрыялу.

Сярод прац, выкананых членамі медыцынскай секцыі Інбелкульта, варта адзначыць даследаванне С. Р. Дзіхцяра і Б. Я. Смулевіча, прысвечанае вывучэнню сеткі медыцынскіх устаноў Беларусі, апублікаванае пад загалоўкам «Даведнік па медыка-санітарнай сетцы Беларускай ССР» (1926). У гэтай рабоце дадзена разгорнутая характарыстыка здароўя насельніцтва, забеспячэння яго асобнымі відамі медыка-санітарнай дапамогі, медыцынскімі кадрамі, прыведзены дыслакацыя сеткі лячэбна-прафілактычных устаноў і ступені іх даступнасці для насельніцтва. Даследаванне залажыла аснову для перспектыўнага планавання аховы здароўя на Беларусі.

Да перыяду дзейнасці медыцынскай секцыі Інбелкульта адносіцца распрацоўка агульных пытанняў аб тэндэнцыях развіцця аховы здароўя ў Беларускай ССР. Яны атрымалі адлюстраванне ў шэрагу артыкулаў старшыні медыцынскай секцыі Інбелкульта М. І. Барсукова: «Пралетарская сутнасць савецкай аховы здароўя», «Задачы і перспектывы сельскай медыцыны», «На фронце барацьбы за санітарную культуру», «Галоўныя шляхі развіцця вышэйшай медыцынскай адукацыі ў БССР».

Значную цікавасць уяўляюць метадычныя працы М. І. Барсукова, Б. Я. Смулевіча аб ролі і месцы санітарна-статыстычных даследаванняў у практыцы кіраўніцтва аховай здароўя. Аўтары лічылі, што вывучэнне гэтых праблем павінна закранаць не толькі сферу стварэння матэрыяльных каштоўнасцей, але і ўзнаўлення самога чалавека, насельніцтва ўвогуле.

Лічачы сацыяльную палітыку Савецкай дзяржавы сродкам барацьбы за аздараўленне насельніцтва, Б. Я. Смулевіч паказаў, што пры вывучэнні здароўя насельніцтва нельга абмяжоўвацца толькі даследаваннем пастаноўкі медыцынскай дапамогі, а ў першую чаргу трэ-

ба праводзіць аналіз дзеяння фактараў знешняга асяроддзя, у тым ліку сацыяльных, якія вызначаюць грамадскае здароўе.

Разам з В. А. Абухам ён прыняў актыўны ўдзел у падрыхтоўцы матэрыялаў па раздзелу «Народнае здароўе» ў статыстычным штогодніку БССР за 1923—1924 гг. Пад яго кіраўніцтвам В. А. Абухам і С. Н. Слупскім падрыхтаваны і апублікаваны матэрыялы «Сектар сацыяльнай статыстыкі», «Народнае здароўе» ў статыстычным штогодніку за 1925—1926 гг.

Адначасова з вывучэннем стану здароўя дарослага насельніцтва медыцынскай секцыяй Інбелкульта паралельна праводзілася работа і ў адносінах да падрастаючага пакалення. Вывучэннем здароўя дзяцей і падлеткаў у сістэме Народнага камісарыята аховы здароўя займаліся дзіцячыя кансультацыі і дзіцячыя дыспансеры. Метадычныя пытанні аб'ёму і характару даследаванняў вырашаліся педагагічнай і медыцынскай секцыямі Інбелкульта, з 1926 г.— медыка-педагагічнай асацыяцыяй навукова-метадычнага камітэта Народнага камісарыята асветы БССР.

Да 1924 г. быў закончаны медыцынскі агляд усіх дзяцей і працуючых падросткаў, які праводзіўся Цэнтральным дзіцячым дыспансерам, дзе быў створаны антрапалагічны кабінет. Агляды дапамагалі праводзіць школьныя ўрачы. Апрацоўку атрыманых даных зрабіў урач С. Я. Эйнгорн, у далейшым актыўны член антрапалагічнай камісіі Інбелкульта, створанай у 1926 г. па ініцыятыве прафесара кафедры псіхіятрыі БДУ А. К. Ленца.

Д. Л. Эйгорн абагульніў вынікі вымярэння фізічнага развіцця ў 6745 дзяцей. Ён дэталёва распрацаваў методыку правядзення неабходных антрапаметрычных вымярэнняў, спосабы статыстычнай апрацоўкі і выявіў пры гэтым шэраг асаблівасцей развіцця дзяцей у Беларускай ССР, удакладніў тэрміны ўзмоцненага развіцця, дынаміку росту, вагі, акружнасці грудзей. Складзеныя табліцы сталі стандартам для ацэнкі фізічнага развіцця дзяцей. Прафесар А. К. Ленц даў апісальную характарыстыку псіхічнага развіцця дзіцяці на першым годзе жыцця і пачаў эксперыментальнае яго вывучэнне.

Абследаванне стану здароўя школьнікаў праводзілася ў звязцы з санітарным станам школьных памяшканняў, гігіенічным бокам вучэбнага абсталявання, ступенню перагрузкі вучняў, уплывам іншых фактараў на здароўе і паспяховасць вучняў. Для гэтых мэт секцыя ў 1924 г. распрацавала «Праграму даследавання сучаснага стану школ», у якую спецыяльным раздзелам былі ўключаны пытанні, што асвятлялі санітарна-гігіенічны бок праблемы, выкарыстаны санітарная карта школьніка, а таксама анкета аб пастаноўцы фізічнай культуры ва ўстановах Народнага камісарыята асветы БССР.

Найбольш падрабязна матэрыял аб санітарным стане гарадскіх школ Мінска, Магілёва, Слуцка атрымаў асвятленне ў артыкуле М. І. Барсукова «Аб санітарным стане Беларусі»[1]. Абследаванне было праведзена ў 93 школах: у 40% школ Мінска і ва ўсіх школах Магілёва і Слуцка.

Пры высвятленні залежнасці стану здароўя школьнікаў, іх паспяховасці ад ступені перагрузкі класных памяшканняў уяўляе цікавасць артыкул школьна-санітарнага ўрача В. А. Пратусевіча, у якім аўтар, абапіраючыся на даныя статыстыкі, прыходзіць да высновы, што пераўшчыльненне школ вучнямі вядзе да распаўсюджання інфекцыйных хвароб, росту колькасці дзяцей з ненармальным развіццём апорна-рухальнага апарату, асабліва пазваночніка. У такіх пераўшчыльненых школах, як указвае аўтар, павялічваецца працэнт дзяцей з высокай нервовай узбуджанасцю.

Па матэрыялах Я. Ф. Калітоўскага за 1922—1923 гг., у дзвюх мінскіх школах з 2146 вучняў пакутуючых малакроўем са слядамі перанесенага рахіту і пашкоджаннем бранхіяльных залоз было 48—59%, лёгачных хворых — 23—18, з хваробамі сэрца — 1—2%. Па ацэнцы аўтара, з фізічным развіццём «вышэй сярэдняга» налічвалася толькі 26,2% вучняў, «сярэднім» — 23,5 і «ніжэй сярэдняга» — 48,5%[2].

Такі нізкі ўзровень асноўных паказчыкаў здароўя

---

[1] Барсуков М. И. О санитарном положении Белоруссии //Просвещение. 1926. № 1. С. 90—93.

[2] Калітоўскі Е. Ф. Лесавая школа // Асвета. 1926. № 3. С. 29—36.

дзяцей школьнага ўзросту выклікаў заклапочанасць органаў аховы здароўя і асветы. Па іх ініцыятыве была створана камісія з прадстаўнікоў Наркамасветы, Народнага камісарыята аховы здароўя, Інбелкульта і таварыства «Сябар дзяцей», якая практычна прыступіла да ажыццяўлення ідэі аб арганізацыі «лясных» школ на Беларусі.

Праблему аздараўлення дзяцей нельга было вырашыць без вывучэння прычын захворванняў, якія сустракаліся на Беларусі часцей, чым на іншых тэрыторыях (так званая краявая паталогія). Для барацьбы з такімі хваробамі ў Інбелкульце былі створаны склеромная, валлёвая, гельмінталагічная і іншыя камісіі.

Дзякуючы дзейнасці склеромнай камісіі медыцынскай секцыі і перш за ўсё яе старшыні Б. Я. Эльберта на працягу некалькіх гадоў былі сабраны дастаткова дакладныя звесткі аб склеромным працэсе ў чалавека. Працамі членаў склеромнай камісіі ўстаноўлена, што палачка Фрыша-Валковіча выяўляецца заканамерна ў хворых склеромнай інфекцыяй і ніколі не выдзяляецца ў здаровых людзей.

Паралельна з вывучэннем бактэрыялогіі склеромы пад кіраўніцтвам склеромнай камісіі ішла распрацоўка і развіццё сералагічных метадаў дыягностыкі. У першую чаргу гэта адносіцца да рэакцыі звязвання камплементу (РЗК). Б. Я. Эльберт з супрацоўнікамі на значным матэрыяле, ахапіўшым каля 420 даследаванняў крыві, адным з першых устанавіў высокую ролю ў дыягностыцы склеромы РЗК не толькі ў выпадках выяўленай хваробы, але і для яе ранніх стадый, а таксама ў выпадках тыпічна размешчаных пашкоджанняў дыхальных шляхоў склеромным працэсам.

З прычыны супярэчлівасці літаратурных даных аб спецыфічнасці сываратачнай дыягностыкі склеромы камісіяй арганізавана праверка гэтых паказчыкаў у эксперыменце і на людзях. Вынікам даследавання прысвечаны артыкул Б. Я. Эльберта, Б. Л. Фельдмана і В. М. Геркес «Да серадыягностыкі склеромы». Беларускія склераматолагі прыйшлі да высновы аб поўнай спецыфічнасці серадыягнастычных рэакцый і высокай іх ацэнкі для ўлаўлівання ранніх і скрытых выпадкаў хваробы

пры масавых даследаваннях насельніцтва ў эндэмічных па склероме месцах[3]. Гэты надзейны метад серадыягностыкі склеромы атрымаў шырокае распаўсюджанне з 1925 г. пры комплексных экспедыцыях склераматолагаў на Беларусі ў ачагі склеромы, а таксама ў клінічных умовах.

Рэкамендаваны метад лабараторнай дыягностыкі склеромы, іншых капсульных бактэрый трывала ўвайшоў у практыку медыцынскіх устаноў у СССРі за мяжой. Абагульненне вынікаў гэтых даследаванняў выказана ў манаграфіі Б. Я. Эльберта «Бактэрыялогія склеромы» (1928).

Экспедыцыйны метад працы беларускіх склераматолагаў атрымаў станоўчую ацэнку спецыялістаў-склераматолагаў іншых саюзных рэспублік і ўвайшоў у медыцынскую практыку, а ў далейшым дазволіў перайсці на актыўны дыспансерны метад медыцынскага абслугоўвання ўсіх склеромных хворых і тых, хто іх акружае.

Паклаўшы пачатак шырока пастаўленаму шматпланаваму вывучэнню склеромнай праблемы, беларускія склераматолагі ўнеслі вялікі ўклад у медыцынскую навуку і практыку аховы здароўя як у галіне дыягностыкі хваробы, так і яе лячэння і прафілактыкі, што дазволіла ім заняць у 30-я гады вядучае месца па вырашэнню гэтай праблемы не толькі ў СССР, але і за мяжой.

Шырокае распаўсюджанне на Беларусі мела захворванне шчытападобнай залозы (валляковая хвароба). Па ініцыятыве С. М. Рубашова і пад яго старшынствам пры медыцынскай секцыі Інбелкульта ў 1926/27 навучальным годзе была створана валлёвая камісія для вывучэння распаўсюджання валляка на Беларусі. У склад камісіі ўвайшлі супрацоўнікі хірургічнай клінікі БДУ І. А. Бірыла, Л. П. Александровіч, Р. І. Лапідус, а таксама ўрачы з іншых гарадоў рэспублікі.

Працамі камісіі было вызначана, што захворванне эндэмічным валляком насельніцтва БССР носіць ачаговы характар і ахоплівае вялікую тэрыторыю. Адны сёлы

[3] Эльберт Б. Я., Фельдман Б. Л., Геркес В. М. К серодиагностике склеромы // Беларуская мэдычная думка. 1926. № 1—2. С. 86—99.

ўяўляюць ярка адлюстраваныя ачагі гэтай хваробы, другія характарызуюцца слабымі прыкметамі. Нярэдка ў адным або некалькіх сельсаветах большасці раёнаў рэспублікі такіх эндэмічных ачагоў існавала некалькі. На Палессі яны зліваюцца паміж сабою, займаючы вялікую тэрыторыю.

Члены валлёвай камісіі займаліся не толькі абследаваннем, але і рабілі спробы наладзіць рацыянальнае лячэнне захворвання і прапанаваць метады яго прафілактыкі. Так, у артыкулах Б. А. Пратусевіча «Спроба прафілактыкі лячэння валлёвае хваробы ў Менску» (1927) і Р. І. Лапідуса «Ёд як этыялагічны і лячэбны фактар пры валляку» (1928) абгрунтавана прымяненне ёду для лячэння і прафілактыкі валляка.

Медыцынскай секцыяй Інбелкульта ў 1926—1927 гг. праведзены шэраг пасяджэнняў, прысвечаных спецыяльнаму заслухоўванню і абмеркаванню паведамленняў па праблеме эндэмічнага валляка на Беларусі, у прыватнасці ўрача Б. А. Пратусевіча «Да прафілактыкі і лячэння валляковай хваробы», урача І. А. Бірылы «Вынікі даследаванняў на валляк у Мінску», прафесара С. М. Рубашова «Аб ролі ёду ў захворванні валляком», урача І. Д. Андрэева «Вынікі даследавання валляка ў Віцебскай акрузе» і інш.

Гельмінталагічная камісія (старшыня прафесар І. Т. Цітоў) займалася вывучэннем распаўсюджанасці гельмінтаў сярод насельніцтва, гельмінтафауны Беларусі. Спецыяльна праведзеныя абследаванні дзіцячага і дарослага насельніцтва паказалі, што пашкоджанасць насельніцтва гельмінтамі перавышала 70—80%. Найбольш распаўсюджанымі гельмінтамі былі аскарыды, воласагаловы.

Членамі гельмінталагічнай камісіі вывучалася роля і значэнне гельмінтаў у паталогіі чалавека (І. Т. Цітоў, І. М. Ліпец), пытанні патагенезу (В. Т. Чэрвакоў) і клінікі аскарыдозу (Л. А. Чарнышова).

Гельмінталагічная камісія ўпершыню ў краіне прыцягнула ўвагу медыцынскай і ветэрынарнай службаў да праблемы трыхінелёзу. Па яе ініцыятыве была праведзена Усебеларуская нарада па барацьбе з трыхінелёзам. Рэкамендацыі нарады мелі не толькі ўсебеларускае, але

і агульнасаюзнае значэнне ў актывізацыі барацьбы з ім. Гэтаму таксама садзейнічалі выступленні членаў камісіі на ўсебеларускіх з'ездах урачоў.

Вялікае месца ў дзейнасці камісіі займала агітацыйна-прапагандысцкая работа, таму што было неабходна навукова абвяргаць распаўсюджаную сярод насельніцтва думку аб няшкоднасці глісных інвазій, а таксама распрацаваць методыку правядзення лячэбна-прафілактычных і аздараўленчых мерапрыемстваў.

Паралельна вывучалася гельмінтафауна жывёл. Так, у артыкуле В. Т. Чэрвакова «Да фауны чужаедных чарвей хатніх мясаедных Беларусі» ў «Матэрыялах медыцынскай секцыі Інбелкульта» даецца пералік найбольш распаўсюджаных сярод свойскіх жывёл чарвей-паразітаў, прыводзяцца даныя, што да 80% катоў і 97% сабак пашкоджаны гельмінтамі.

Членамі камісіі складзена адна з самых багатых у той час гельмінталагічная калекцыя.

Вялікае месца ў дзейнасці медыцынскай секцыі займалі пытанні барацьбы з такімі захворваннямі, як трахома (С. Д. Камінскі, С. Н. Купрэеў, М. А. Дворжац і інш.), малярыя (Я. А. Рахоўскі, М. Б. Пеўзнер, П. В. Трэмповіч і інш.), туберкулёз (М. І. Барсукоў, С. М. Мялкіх, Е. М. Маршак і інш.).

Працамі секцыі, камісій, іх асобнымі членамі ўпершыню за савецкі час ажыццёўлена спроба правядзення канкрэтных сацыялагічных, сацыяльна-гігіенічных і медыцынскіх даследаванняў, прызначаных выяўляць напрамак, характар, аб'ём і тэмпы сацыяльных змен, уключаючы змены ў грамадскім здароўі, выкліканых устанаўленнем у краіне новых вытворчых адносін, эканамічным развіццём, навукова-тэхнічным прагрэсам і іншымі фактарамі.

Вялікае значэнне мела вывучэнне краю ў медыка-санітарных адносінах. З 1925 г. пачало функцыяніраваць краязнаўчае навукова-даследчае таварыства БДУ, найбольш актыўны ўдзел у якім прымала медыцынская секцыя Інбелкульта.

Для далейшага развіцця аховы здароўя ў краі неабходна было ў першую чаргу выявіць узровень здароўя насельніцтва, санітарны стан гарадоў і сельскай мясцо-

васці. Гэтым пытанням вялікую ўвагу надаваў Народны камісарыят аховы здароўя, паглыбленыя даследаванні праводзіліся на кафедрах гігіенічнага профілю і ў навукова-даследчых установах.

1 кастрычніка 1926 г. была створана спецыяльная камісія па вывучэнню санітарнага быту жыхароў Беларусі. Старшынёй камісіі абраны П. В. Трэмповіч, сакратаром — асістэнт кафедры агульнай і эксперыментальнай гігіены З. К. Магілёўчык.

Дзейнасць камісія па вывучэнню санітарнага быту жыхароў Беларусі пачала з распрацоўкі паглыбленых праграм. У адносінах да ўмоў рэспублікі была распрацавана падрабязная схема санітарна-бытавога абследавання вёскі, апублікаваная ў часопісе «Наш край». Схема ахоплівала вялікае кола пытанняў, якія давалі ўяўленне аб вывучаемым аб'екце: кароткае апісанне вёскі, яе тапаграфіі, кліматычных умоў, пытанні планіроўкі, водазабеспячэння і водакарыстання, дэмаграфічную характарыстыку, апісанне сядзібы, хаты, санітарнага быту насельніцтва, яго шлюбных адносін, фізічнага развіцця, захворванняў і арганізацыі меддапамогі, характарыстыку культурнага ўзроўню, удзел жыхароў у грамадска-палітычным жыцці ў сувязі з умовамі пражывання.

Вынікам распрацовак метадычных рэкамендацый з'явілася надрукаваная Інбелкультам у 1927 г. «Схема санітарнага бытавога даследавання і апісання вёскі» (аўтары З. К. Магілёўчык, І. І. Цвікевіч). Выданне схемы дазволіла наладзіць даследчую працу без асаблівых перашкод, стварыла магчымасць даць санітарна-бытавую характарыстыку не толькі асобных сельскіх пасяленняў, але і цэлых раёнаў і прыцягнуць да яе вялікую колькасць выканаўцаў з ліку студэнтаў медыцынскага факультэта БДУ.

З гэтай мэтай была значна пашырана медыцынская секцыя краязнаўчага таварыства БДУ. У 1927 г. у склад секцыі ўваходзілі 32 чалавекі, у 1928—35. Да правядзення даследчай працы студэнтаў рыхтавалі спецыяльна: чыталі лекцыі, знаёмілі з праграмамі і анкетамі даследавання. Агульнае кіраўніцтва працай медыцынскай секцыі краязнаўчага таварыства ажыццяўлялася супрацоўнікамі медыцынскай секцыі Інбелкульта П. В. Трэм-

повічам, І. І. Цвікевічам. У 1927/28 акадэмічным годзе кіраваў медсекцыяй Я. Бараноўскі. Непасрэдна ўзначальвалі студэнцкія групы члены камісіі па вывучэнню санітарнага быту жыхароў Беларусі З. К. Магілёўчык, П. В. Трэмповіч, С. М. Рубашоў, І. А. Бейлін. Пад кіраўніцтвам З. К. Магілёўчыка з удзелам прафесара П. А. Бузука і асістэнта М. Збітоўскага ў 1927 г. ажыццёўлена першая ў БДУ краязнаўчая экспедыцыя ў Тураўскі раён.

Акрамя З. К. Магілёўчыка актыўны ўдзел у краязнаўчай працы прымаў В. Самцэвіч, які апублікаваў у часопісе «Наш край» шэраг артыкулаў: «Вывучэнне вёскі — чарговая задача краязнаўчых арганізацый», «Вёска Букодава (Крупскі раён Аршанскай акругі)», дзе дадзена характарыстыка санітарнага стану населеных пунктаў, асветлены пытанні аховы здароўя.

Сярод даследаванняў па жыллёва-камунальнаму быту, здзейсненых членамі камісіі і ў цэлым медыцынскай секцыяй, самымі шматлікімі і найбольш плённымі з пункту гледжання ўкладу ў гігіенічную навуку і практыку неабходна адзначыць працы ў галіне вывучэння гігіены населеных месц і перш за ўсё пытанні гігіены жыллёвага і лазневага будаўніцтва, планіроўкі сёл, санітарнай аховы, крыніц водазабеспячэння, глебы, атмасфернага паветра. Пачынаючы з 1925 г. публікаваліся матэрыялы, якія характарызавалі санітарна-гігіенічны стан як сельскіх, так і гарадскіх пасяленняў Беларусі.

Да ліку значных прац у гэтай галіне павінны быць аднесены даследаванні члена медыцынскай секцыі З. К. Магілёўчыка «Да пытання становішча гарадоў БССР», «Кватэрнае будаўніцтва і водазабеспячэнне беларускай вёскі і асноўныя задачы паляпшэння дабрабыту яе», «Жыллёвыя ўмовы беларускага сялянства ў санітарных нарысах». У артыкуле «Жыллёвыя ўмовы беларускага сялянства ў санітарных нарысах» аўтар, абапіраючыся на анкетны метад даследавання, дае шырокую сацыяльную і сацыяльна-гігіенічную характарыстыку ўмоў жыцця і санітарнага быту беларускага сялянства сярэдзіны 20-х гадоў XX ст. Даследчык прыцягвае ўвагу чытачоў да гігіенічнай недасканаласці канструктыўных элементаў жылля і абсталявання сялянскай хаты.

Праца З. К. Магілёўчыка «Кватэрнае будаўніцтва і

водазабеспячэнне беларускай вёскі і асноўныя задачы паляпшэння дабрабыту яе» з'яўляецца дакладам на II Усебеларускім з'ездзе участковых і санітарных урачоў (1927). Скарыстоўваючы раней апублікаваныя матэрыялы па даследаванню жыллёвых умоў беларускага сялянства ў якасці асновы свайго даклада, аўтар дапаўняе яго аналізам стану водазабеспячэння беларускай вёскі. Робіцца правільны вывад аб тым, што санітарна-гігіенічны стан апошняй перш за ўсё залежыць ад ступені і якасці водазабеспячэння.

Вынікі шматгадовых даследаванняў жыллёвага будаўніцтва, планіроўкі і добраўпарадкавання сельскіх населеных месц, якія ажыццявілі члены медыцынскай секцыі, у далейшым былі скарыстаны пры складанні «Правіл па выбару месца і планіроўкі калгасных цэнтраў, будаўніцтва МТС, МТФ і іншых аб'ектаў у сельскай мясцовасці».

Амаль адначасова з З. К. Магілёўчыкам у красавіку 1926 г. членам медыцынскай секцыі Беларускага санітарна-бактэрыялагічнага інстытута С. І. Гельбергам, санітарным урачом М. Л. Фрэдлінам і ўрачом Б. Л. Байманам праводзілася комплекснае даследаванне з прымяненнем анкетнага і лабараторнага метадаў мясцовых крыніц водазабеспячэння Мінска. Мэта працы — выявіць, што ўяўляюць калодзежы ў санітарных адносінах і якой вадой карыстаюцца жыхары горада. Аўтарамі даследавання надрукаваны «Матэрыялы да пытання водазабеспячэння г. Мінска», у якіх робіцца вывад аб тым, што цэнтральнае водазабеспячэнне ў горадзе знаходзіцца ў крызіснай сітуацыі, а значыць, мясцовае водазабеспячэнне яшчэ шмат гадоў будзе займаць вялікае месца ў агульным водазабеспячэнні горада. Зыходзячы з гэтага, былі дадзены практычныя парады і рэкамендацыі па ўпарадкаванню ўтрымання калодзежаў, рэжыму іх эксплуатацыі і лабараторнага кантролю за якасцю вады.

Камісіяй па санітарнаму вывучэнню быту Беларусі праведзена карысная даследчая работа. Гэта дазволіла ў наступным навукова-практычным установам Народнага камісарыята аховы здароўя БССР унесці значны ўклад у санітарнае аздараўленне населеных месц Беларусі. Да ліку найбольш важных мерапрыемстваў, праведзеных

камісіяй у 1926—1927 гг., трэба аднесці абмеркаванне і дачу заключэнняў па праектах забудовы Мінска, будавання гарадской каналізацыі, абмеркаванне пытанняў аб сучасным санітарным стане горада. Члены камісіі прынялі ўдзел у падрыхтоўцы да друку зборніка «Мінск — сталіца Беларусі (санітарныя і сацыяльна-бытавыя нарысы)», а таксама ў комплексным вывучэнні санітарнага стану Асіповіцкага раёна.

Сярод праведзеных даследаванняў па вывучэнню быту насельніцтва рэспублікі асаблівае значэнне мелі працы па вывучэнню народнай медыцыны. Цікавасць да яе ў паслярэвалюцыйныя гады была выклікана дзвюма абставінамі: па-першае, узнікшым у краіне за гады інтэрвенцыі і грамадзянскай вайны лекавым голадам, па-другое, імкненнем зафіксаваць адыходзячыя ў мінулае традыцыі. У 1923 г. у сувязі з падрыхтоўкай экспанатаў па беларускаму быту на Усесаюзную сельскагаспадарчую выстаўку па даручэнню выставачнага камітэта Беларусі былі складзены калекцыі па народнай медыцыне (народныя загаворы і лекавыя травы ад розных хвароб) з адпаведнымі апісаннямі, зробленымі М. В. Азбукіным па Бабруйскаму і К. В. Весялоўскай па Мінскаму паветах. З мэтай вывучэння народнай медыцыны медыцынскай секцыяй арганізавана спецыяльнае медыка-санітарнае кансультацыйнае бюро. Асноўная ўвага надавалася «перспектывам збору» дзікарастучых і развядзенню найбольш рэнтабельных раслін як для экспарту, так і мясцовага ўжывання.

У сувязі з лекавым голадам да збору лекавых раслін шырока прыцягвалася насельніцтва. Апублікавана некалькі інструкцый па збору і захаванню лекавых раслін, а таксама іх збору для навуковага вывучэння. На спецыяльна арганізаванай нарадзе навуковых і практычных работнікаў Інбелкульта па збору лекавых траў і краязнаўчых арганізацый (лістапад 1922 г.) ставілася ў абавязак весці папулярызатарскую работу ў галіне збору лекавых траў і прыцягваць да гэтай справы сельскіх працаўнікоў, настаўнікаў, аграномаў, урачоў, фармацэўтаў і інш. Вышэйшаму медыцынскаму савету, які існаваў у Народным камісарыяце аховы здароўя, прапаноўвалася пашырыць свой склад, прыцягваючы спецыялі-

стаў «у галіне лекавых раслін», узяць на сябе кіраўніцтва зборам, вывучэннем лекавай флоры Беларусі, вырошчваннем культурных лекавых раслін з выкарыстаннем доследных палёў Мінска, Магілёва, Віцебска. Падрабязна тэхніка вырошчвання культур некаторых лекавых раслін апісана Р. З. Пратасеняй.

Як і ў дарэвалюцыйны перыяд, вывучэнне народных лекавых сродкаў у 20-я гады насіла апісальны характар, а ў медыцынскай практыцы яны амаль не выкарыстоўваліся.

Сутыкаючыся ў практычнай дзейнасці з народнай медыцынай, урачы падрабязна апісвалі рацыянальныя лячэбныя сродкі і метады і адначасова вялі барацьбу з шарлатанствам і знахарствам.

Далейшае ўдасканаленне медыцынскай дапамогі патрабавала паглыбленага вывучэння санітарнага стану краю і здароўя насельніцтва — пытанняў, якія краязнаўчыя арганізацыі Інстытута беларускай культуры лічылі адным з вядучых. У гэтым плане цікавыя выступленні ўрачоў на I Усебеларускім з'ездзе працаўнікоў аховы здароўя. На II з'ездзе павятовых і гарадскіх аддзелаў аховы здароўя ў Мінску ўрач Е. Л. Маршак зрабіў паведамленне «Аб барацьбе з сацыяльнымі хваробамі». Пытанні распаўсюджання і барацьбы з венерычнымі хваробамі разглядаліся таксама на Усебеларускім з'ездзе аддзелаў аховы здароўя ў снежні 1923 г. У далейшым вывучэнне сацыяльнай паталогіі не зыходзіла з парадку дня з'ездаў.

Пытанні краявой паталогіі сацыяльных хвароб разглядаліся на з'ездах і канферэнцыях урачоў розных спецыяльнасцей. Шмат увагі гэтаму пытанню надавалі з'езды ўчастковых урачоў. У парадак дня II Усебеларускага з'езда ўчастковых урачоў (студзень 1927 г.) уключаны даклады навуковых супрацоўнікаў Інбелкульта: І. І. Цвікевіча «Участковы доктар і краязнаўчая праца», П. В. Трэмповіча «Хірургічная дапамога ў вёсцы», З. К. Магілёўчыка «Перспектывы кватэрнага будаўніцтва ў вёсцы», Б. Я. Смулевіча «Захворванне і смяротнасць у СССР».

У пастанове II Усебеларускага з'езда ўчастковых урачоў адзначалася, што задачамі на бліжэйшы час з'яўля-

юцца краязнаўчыя падыходы да вывучэння санітарных умоў быту і працы рабочых з захворваннямі, якія з'яўляюцца характэрнымі для рэспублікі. Гэта вывучэнне немагчыма без увязкі ўсёй медыка-санітарнай працы з Інбелкультам і яго краязнаўчымі бюро на месцах. З'езд ухваліў «навукова-краязнаўчы ўхіл» часопіса «Беларуская медыцынская думка» і пастанавіў, што для дапамогі ўрачам у даследаваннях павінны планамерна дзейнічаць навукова-кансультацыйныя нарады са спецыялістаў. Лепшыя з даследаванняў рэкамендавалася дакладваць на пасяджэннях медсекцыі Інбелкульта, выносіць на агульнасаюзныя і міжнародныя з'езды.

Члены медсекцыі Інбелкульта былі ініцыятарамі і актыўнымі ўдзельнікамі не толькі з'ездаў урачоў у БССР, але і першых усерасійскіх, а затым і ўсесаюзных з'ездаў. У рабоце ўсесаюзных з'ездаў эпідэміёлагаў, мікрабіёлагаў і санітарных урачоў прымалі ўдзел М. І. Барсукоў, Г. С. Ліпманаў, Б. Я. Эльберт, З. К. Магілёўчык, С. І. Гільберт і інш. Яны былі ініціятарамі распрацоўкі новых метадаў будовы санітарнай арганізацыі, выдзялення з яе такіх галін, як ахова мацярынства і дзяцінства, ахова здароўя дзяцей і падлеткаў, што ў далейшым было здзейснена, выступалі з дакладамі арганізацыйнага і метадычнага характару, аб рацыяналізацыі прышчэпачнай справы і інш. Члены медсекцыі выступалі таксама з вынікамі сваіх даследаванняў на II з'ездзе паталагаў, оталарынголагаў, хірургаў, тэрапеўтаў.

З мэтай азнаямлення з арганізацыяй медыцынскай дапамогі, узроўнем развіцця медыцынскіх ведаў, закупкі медабсталявання, удзелу ў замежных з'ездах і канферэнцыях выязджалі за мяжу члены медсекцыі Інбелкульта: М. І. Барсукоў — у гігіенічную секцыю Лігі нацый у Францыю, Л. П. Розанаў, М. Б. Кроль, Ф. А. Гаўсман, Е. Л. Маршак, С. М. Рубашоў і іншыя — у Германію.

Створаныя ў пачатку 20-х гадоў навукова-даследчыя інстытуты ў сістэме Народнага камісарыята аховы здароўя БССР (санітарна-бактэрыялагічныя ў Віцебску (1921), у Мінску (1924), фізіятрыі, артапедыі і неўрапаталогіі (1924), сацыяльнай гігіены (1925)) таксама прымалі ўдзел у распрацоўцы прапанаваных Інбелкультам

навуковых праблем. У 1927 г. у іх лік увайшлі санітарна-гігіенічны і туберкулёзны, у 1928 г.— аданталагічны інстытуты.

Па меры таго як мацнела сетка медыцынскіх устаноў Беларусі, яны ўсё менш адчувалі патрэбу ў дапамозе Інбелкульта па вырашэнню пытанняў вывучэння здароўя насельніцтва, арганізацыі медыцынскай дапамогі. Але для даследавання многіх санітарна-эпідэміялагічных і медыка-біялагічных праблем патрабавалася матэрыяльна-тэхнічная база для эксперыментаў, а таксама спецыяльна навучаныя кадры. У Інбелкульце, большасць членаў якога на грамадскіх пачатках выконвалі навуковыя даследаванні, гэтыя задачы не маглі быць выкананы.

Як адзначаў І. І. Цвікевіч, найбольш цяжкім пры рэарганізацыі Інбелкульта было пытанне «па праекту навукова-даследчага медінстытута». Незразумела было, у чыім падпарадкаванні павінна знаходзіцца гэта ўстанова і якой павінна быць (універсітэцкай, наркаматаўскай ці акадэмічнай). У выніку на канчатковым пасяджэнні Дзяржплана і СНК БССР 19 чэрвеня 1927 г. пытанне наконт медінстытута пакінулі адкрытым, «забяспечыўшы на гэты момант дзейнасці Інбелкульта заснаванне кафедры мэдычнае біолёгіі».

Пасля рэарганізацыі ў 1927/28 акадэмічным годзе Інбелкульт медыцынскай секцыі не меў. Урачы прымалі ўдзел у працы кафедры антрапалогіі і лабараторыі эксперыментальнай біялогіі, якую ўзначальваў П. В. Трэмповіч, займаліся эксперыментальнай анатоміяй і фізіялогіяй, вывучэннем курортных мясцін. Стварэнне навукова-даследчых устаноў для вывучэння тэарэтычнай і клінічнай медыцыны адбылося пасля пераўтварэння ў 1929 г. Інбелкульта ў Акадэмію навук.

## ГЕАЛОГІЯ

Ужо ў першыя гады савецкай улады стала зразумела, што хуткае аднаўленне і ўздым народнай гаспадаркі Беларускай ССР немагчымы без сістэматычнага вывучэння яе мінеральна-сыравіннай базы і стварэння спецыяльнай геалагічнай службы. У спадчыну ад дарэвалюцыйнага перыяду засталіся мізэрныя звесткі пра геалагічную будову і карысныя выкапні рэгіёна. Мэтанакіраваных геолагаразведачных работ на тэрыторыі Беларусі практычна не вялося. Нават сярод вядучых геолагаў панаваў погляд аб невысокай яе перспектыўнасці на карысныя выкапні. Таму спецыялісты Інбелкульта, дзе зарадзілася сучасная геалагічная служба рэспублікі, з самага пачатку апынуліся ў складаным становішчы.

Арганізацыя і правядзенне геалагічных даследаванняў у Інбелкульце ў значнай ступені абумоўліваліся яго структурай. Напачатку праца каардынавалася Камісіяй па вывучэнню прыродна-прадукцыйных сіл рэспублікі (КППС), створанай пры Дзяржплане БССР. У 1924 г. у складзе Інбелкульта была зацверджана разам з іншымі прыродная секцыя, праз год арганізавана прыродазнаўчая секцыя (старшыня І. П. Каранеўскі, намеснік М. А. Грамыка) з геолага-глебавай падсекцыяй, а КППС з Дзяржплана перададзена Інбелкульту (з адпаведнымі асігнаваннямі). Дзейнасць камісіі ўзначаліў М. Ф. Бліядуха. Разам з ім над пытаннямі геалогіі працавалі Ф. В. Лунгерсгаўзен, Б. К. Тарлецкі і інш. З гэтага часу фактычна і пачалося планамернае геалагічнае вывучэнне тэрыторыі рэспублікі.

Калі ў першыя гады геалагічныя даследаванні, як правіла, вызначаліся навуковымі інтарэсамі таго або іншага спецыяліста, то з 1925 г. у працу была ўнесена

8. Зак 1183

пэўная сістэма. Тады пры геолага-глебавай падсекцыі для больш раўнамернага ахопу тэрыторыі створаны тры геалагічныя партыі — Мінская, Магілёўская і Віцебская. Першую з іх узначаліў Б. К. Тарлецкі. У яе задачу ўваходзіў збор геалагічных звестак па Мінскай, Бабруйскай і часткова Барысаўскай акругах. На чале Магілёўскай партыі, што вывучала тэрыторыю Магілёўскай і Аршанскай акруг, стаяў М. Ф. Бліядуха. Віцебская партыя, якой кіраваў Ф. В. Лунгерсгаўзен, сканцэнтравала ўвагу на Віцебскай і Полацкай акругах. Палескай частцы Беларусі (Гомельская і Мазырская акругі) у той час надавалася менш увагі, бо лічылася, што гэтая тэрыторыя лепш даследавана ў дарэвалюцыйны час.

1 кастрычніка 1927 г. на базе геалагічнай ячэйкі ў Інбелкульце быў створаны Геалагічны інстытут (дырэктар М. Ф. Бліядуха) з дзвюма секцыямі — рэгіянальнай і прыкладной геалогіі. З-за адсутнасці спецыялістаў апошняя секцыя пачала працаваць толькі з 1928 г.

На працягу свайго існавання Інбелкульт меў абмежаваны штат геолагаў са спецыяльнай адукацыяй (усяго 2—5 чалавек). Улічваючы шырокае кола праблем, па якіх даводзілася весці працу, да палявых і камеральных даследаванняў прыцягваліся геолагі, іншыя спецыялісты з Горнага аддзела УСНГ БССР, Белдзяржуніверсітэта, Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі, іншых устаноў. Наладзілася сувязь з цэнтральнымі геалагічнымі арганізацыямі вытворчага і навукова-доследнага профілю ў Маскве і Ленінградзе. Для збору некаторых першасных даных выкарыстоўваліся краязнаўчыя таварыствы і гурткі, створаныя ў акругах і гарадах рэспублікі.

Нягледзячы на тое што для даследаванняў, якія выконваліся ў Інбелкульце, увогуле быў характэрны комплексны падыход, яны могуць быць падзелены на два напрамкі — рэгіянальная і прыкладная геалогія.

Рэгіянальныя геалагічныя даследаванні, якія ў першую чаргу праводзілі спецыялісты Інбелкульта, павінны былі стварыць аснову для ацэнкі перспектыў тэрыторыі рэспублікі на розныя віды мінеральнай сыравіны. Пры гэтым галоўная ўвага сканцэнтравалася на размеркаванні, умовах залягання і рэчыўным складзе рознаўзроставых парод і на складанні геалагічнай карты рэгіёна.

Экспедыцыйныя (палявыя) назіранні, далейшая апрацоўка сабраных даных, а таксама ўлік і пераінтэрпрэтацыя матэрыялаў, атрыманых у папярэдні перыяд, дазволілі ў агульных рысах даць правільнае ўяўленне аб геалагічнай будове тэрыторыі БССР. Шэраг высноў, зробленых у той час, пазней не пацвердзіўся з-за таго, што геолагі Інбелкульта не мелі даных па глыбокаму свідраванню і геафізічных работах, меркавалі пра пабудову нетраў на аснове ўскосных прыкмет і агульных гіпотэз.

На пачатковым этапе даследаванняў, разгорнутых геолага-глебавай падсекцыяй, асноўнымі аб'ектамі вывучэння былі выхады на паверхню карэнных парод. З гэтай мэтай былі арганізаваны экспедыцыі для абследавання раёнаў, дзе агаляліся кембра-сілурыйскія, дэвонскія, мелавыя і палеаген-неагенавыя пароды. Ужо папярэднія работы паказалі, што карэнныя ўтварэнні цікавыя не толькі як аб'екты прамыслова каштоўнай мінеральнай сыравіны, але і важныя для разумення асаблівасцей геалагічнай будовы тэрыторыі рэспублікі.

Адзінае месца на Беларусі, дзе з дарэвалюцыйнага часу (даследаванні Я. У. Апокава) вядомы выхад дакембрыйскіх парод,— у басейне р. Убарць каля в. Глушкавічы — у перыяд работы Інбелкульта, цікавіла М. Ф. Бліядуха, П. А. Туткоўскага, А. М. Розіна. У выніку было вызначана, што тут на плошчы каля 350—400 кв. км аголены або залягалі пад маламоцным покрывам больш маладых парод граніты, прычым з глыбінёй выветранасць іх памяншаецца.

Тады ж звярнула на сябе ўвагу і свідравіна, пройдзеная каля м. Бабоўня Бабруйскай акругі. У гэтым месцы на глыбіні каля 114 м сустрэўся выветраны граніт, які змяніўся ніжэй «цвёрдым гранітам» (свідравіна паглыбілася ўсяго на 7 м). Такім чынам, ужо ў той перыяд быў упершыню зарэгістраваны выступ фундамента, які атрымаў пазней назву Бабаўнянскага. Таксама меліся даныя польскіх геолагаў аб неглыбокіх заляганнях такіх парод на поўнач ад р. Прыпяць у раёне Мікашэвіч. Але геолагі А. М. Жырмунскі, М. Ф. Бліядуха, Я. У. Апокаў сумняваліся ў надзейнасці інфармацыі аб пахаваных выступах дакембрыйскіх парод і не заўсёды ўлічвалі іх у сваіх геалагічных пабудовах.

Выхад кембра-сілура, вывучаны ў свой час А. П. Карпінскім (1892) каля в. Раванічы Чэрвеньскага раёна, прыцягнуў увагу геолагаў Інбелкульта з-за таго, што тут выступалі найбольш старажытныя асадкавыя пароды на тэрыторыі Беларусі. Сам А. П. Карпінскі лічыў выхад карэнным выступам (горст сярод поля ледніковых утварэнняў) і з улікам гэтага адзначаў шырокае распаўсюджанне марскога басейна ў раннім палеазоі. Аднак у 1919 г. А. М. Жырмунскі выказаў сумненне наконт першаснай прыроды тоўшчы і меркаваў, што тут існуе вялікая глыба, якую перацягнуў ляднік.

У Інбелкульце першую спробу вырашыць гэтую спрэчку зрабіў Б. К. Тарлецкі, які з дапамогай шурфа і свідравання прасачыў будову разрэзу да глыбіні каля 20 м. Аднак свідравіна не выйшла з кембра-сілурыйскіх адкладаў, і пытанне засталося адкрытым. Большасць спецыялістаў схіляліся да таго, што гэтыя ніжнепалеазойскія пароды ляжаць нармальна. Некалькі пазней, калі выхад каля в. Раванічы дэталёва вывучыў М. Е. Кавалёў, удалося выявіць шмат прыкметаў на карысць гляцыягеннай прыроды агалення [1]. Канчаткова гэта было даказана ў пасляваенны час, калі пад ніжнепалеазойскімі ўтварэннямі свідраваннем выявілі марэну і дэвонскія адклады [2].

Дэвонскія пароды, якія выходзілі на паверхню толькі ў некалькіх пунктах па Заходняй Дзвіне і Дняпры, але шырока развітыя непасрэдна пад антрапагенавымі адкладамі на поўначы і ў цэнтры рэспублікі, трапілі ў поле зроку спецыялістаў Інбелкульта ў сувязі з важнай роляй такіх утварэнняў у будове глыбокіх зон на тэрыторыі БССР.

Аналізуючы асаблівасці будовы разрэзаў дэвонскіх парод, якія выяўлены пры вывучэнні агаленняў і рэдкіх буравых свідравін, геолагі прыйшлі да высновы, што дэвонская тоўшча Беларусі з'яўляецца працягам Галоўна-

---

[1] Кавалёў М. Е. Некалькі новых дадзеных аб кембра-сілурыйскіх адкладах каля в. Раванічы // Матэрыялы па вывучэнню геалогіі і карысных выкапняў Беларусі. Мн., 1931. Т. 5. С. 49—66.

[2] Махнач А. С. О кембро-силурийских отложениях у дер. Рованичи Минской области БССР // Доклады АН СССР. 1955. Т. 101, № 4. С. 735—737.

га дэвонскага поля, а таму пабудавана з тых жа фацый. Па гэтай прычыне пры выяўленні стратыграфічнага становішча дэвонскіх утварэнняў яны карысталіся трохчленным дзяленнем: ніжні ярус — пясчанікавы, сярэдні — вапнава-даламітавы, верхні — таксама пясчанікавы. Паўднёвую мяжу распаўсюджання карбанатных парод праводзілі праз Дрысу, Полацк, Бешанковічы, Віцебск, на ўсход ад Сянно і Копысі, затым паварочвалі на паўднёвы ўсход, лічачы гэты рубеж паўднёвым канцом Галоўнага дэвонскага поля [3].

Узрост вапнава-даламітавай тоўшчы разглядаўся Ф. В. Лунгерсгаўзенам і М. Ф. Бліядуха як верхне- і часткова сярэднедэвонскі (цяпер яе адносяць да франскага яруса вярхняга дэвона). Пясчана-гліністыя фацыі, распаўсюджаныя на поўдзень ад названай карбанатнай тоўшчы, на большай частцы тэрыторыі зусім правільна ідэнтыфікавалі з сярэднедэвонскімі ўтварэннямі. Пры гэтым пясчанікавую тоўшчу, якая развіта ў шэрагу месц Беларусі і цяпер адносіцца да верхняга пратэразою, у той час разглядалі ў якасці сярэднедэвонскай. Разумеючы, што ў розных месцах дэвонскія акумуляцыі фарміраваліся ў неаднолькавых умовах, М. Ф. Бліядуха справядліва падкрэсліваў, што вывучэнне дэвону Беларусі павінна праводзіцца з улікам структуры таго або іншага ўчастка.

Не ведаючы асаблівасцей геалагічнай будовы розных рэгіёнаў, геолагі Інбелкульта лічылі, што на тэрыторыі Беларусі не могуць быць выяўлены палеазойскія адклады больш маладыя, чым дэвонскія. Аднак пасля таго, як у рэспубліцы ў перадваенныя і асабліва ў пасляваенныя гады разгарнулі глыбокае свідраванне, выявілі каменнавугольныя і пермскія адклады ў межах Беларускага Палесся. Такое ж становішча склалася і з трыясавымі ўтварэннямі.

Звесткі пра ўмовы залягання юрскіх адкладаў у той час былі фрагментарнымі. Падставай для меркавання аб

---

[3] Голубцов В. К., Кручек С. А. Исследования Н. Ф. Блиадухо докембрийских и палеозойских пород земной коры Белоруссии // Исследование академиком Н. Ф. Блиадухо геологии и полезных ископаемых Белоруссии. Мн., 1979. С. 14—32.

іх прысутнасці служылі апісаныя ў 1919 г. А. М. Жырмунскім свідравіны ў Магілёве, дзе пад мелавымі адкладамі выяўлены гліны познеюрскага ўзросту. Мяркуючы па распаўсюджанню сярэднеюрскіх адкладанняў у межах Дняпроўска-Данецкай упадзіны, М. Ф. Бліядуха дапускаў, што акумуляцыі таго ж узросту могуць быць выяўлены і ў межах Беларусі, што пацвердзілася работамі, праведзенымі ў 50-х гадах у Прыпяцкім прагіне. Таксама апраўдалася дапушчэнне пра магчымае злучэнне праз тэрыторыю БССР марскіх вадаёмаў юрскага перыяду, якія існавалі тады ў Заходняй і Усходняй Еўропе.

Значнае месца ў працы геолагаў Інбелкульта адводзілася мелавым адкладам. Шырокае развіццё такіх парод у комплексе ўтварэнняў прыпаверхневай зоны, нярэдкі іх выхад на паверхню ў агаленнях, сувязь з імі шэрагу прамыслова важных радовішчаў прывялі да таго, што для геалагічнага вывучэння парод гэтага ўзросту былі арганізаваны спецыяльныя палявыя даследаванні.

Асабліва значную работу па вывучэнню мелавых адкладанняў праводзіў М. Ф. Бліядуха. З-за таго што ў межах БССР разрэз такіх утварэнняў аголены па берагах рэк толькі верхняй часткай, М. Ф. Бліядуха пачаў свае назіранні на тэрыторыі Смаленшчыны каля вёсак Гразь і Бахараўка (у некалькіх кіламетрах на ўсход ад граніцы рэспублікі), дзе на паверхню выступаюць больш глыбокія мелавыя пласты. Змешчаны ў іх аналіз фауны дазволіў яму ўпершыню правільна вызначыць сенаманскі ўзрост пясчаністага мелу і часткі глаўканітава-кварцавых пяскоў. Пры гэтым быў дэталёва вывучаны хімічны, мінералагічны і грануламетрычны склад мелавых парод. М. Ф. Бліядуха не выключаў магчымасці залягання на большай глыбіні (ніжэй фасфарытавай пліты) і альбскіх пяскоў. Даследаваннямі даказаны і туронскі ўзрост мелу, які выходзіў у левым карэнным беразе р. Сож каля в. Бахараўка.

Грунтуючыся на назіранні, што пласты мелавых парод паступова апускаюцца ў бок Беларусі (2—6 м на 1 км), М. Ф. Бліядуха прадказаў умовы залягання і будову разрэзу гэтых адкладанняў у межах Мсціслаўскага раёна, што адыграла важную ролю ў ацэнцы перспектыў тэрыторыі рэспублікі на фасфарыты. У агульных

рысах ім правільна праведзена і паўночная граніца распаўсюджання мелавых адкладанняў. Геалагічная здымка больш позняга часу толькі дэталізавала яе. Паралельна з гэтымі работамі, якія праводзіліся на ўсходзе рэспублікі, вывучэннем выхаду мела ў Мінскай і Бабруйскай акругах займаўся Б. К. Тарлецкі. Ён абследаваў мелавыя пароды каля станцыі Фаніпаль, вёсак Дзягільна, Бакінава, Крамянец, Балачыцы, Буда-Грэская, Хоцінава, Пагост, Кастрыцкая Слабада, каля Бабруйска і ў іншых месцах. Праведзенае неглыбокае свідраванне і праход шурфаў далі магчымасць выявіць шматлікія асаблівасці размяшчэння, будовы і саставу гэтых парод. Астраўное размяшчэнне пералічаных выхадаў сярод палёў леднікавых утварэнняў дазволіла Б. К. Тарлецкаму прызнаць гляцыгенную прыроду некаторых з гэтых залежаў, хаця сам ён, як і большасць іншых геолагаў, схіляўся да таго, што асноўную частку выхадаў неабходна лічыць карэннай. Праз шмат гадоў, калі свідраванне дазволіла выявіць карані і сапраўдныя элементы залягання такіх мелавых адкладаў, было даказана, што яны будуюць гляцыядыслакацыі.

Даследаванню палеаген-неагенавых адкладанняў геолагі адводзілі некалькі менш месца, чым больш старажытным утварэнням. У нейкай ступені гэта тлумачылася тым, што першачарговая ўвага была накіравана на вывучэнне цэнтральных, усходніх і паўночных акруг. Засноўваючыся на матэрыялах украінскіх геолагаў і падабенстве гісторыі геалагічнага развіцця двух суседніх рэгіёнаў, М. Ф. Бліядуха зрабіў правільны вывад, што пры стратыграфічным расчляненні палеаген-неагенавых адкладанняў для тэрыторыі Беларусі можна скарыстаць схему, распрацаваную на Украіне. Ім прадказана магчымасць выяўлення ў межах поўдня БССР марскіх палеацэнавых, канеўскіх, бучакскіх, кіеўскіх і харкаўскіх адкладанняў. Шмат пазней пры даследаванні палеагену Беларусі менавіта гэтым шляхам пайшоў С. С. Маныкін.

Тоўшчу трацічных кантынентальных утварэнняў М. Ф. Бліядуха аднёс да палеагену і падраздзяліў яе на два ярусы — пяскоў і шэрых глін. Нядаўнія працы паказалі, што гэтыя пароды ў асноўным трэба адносіць да неагену. Высветлілася, што разрэз неагену больш складана



*М. Ф. Бліядуха, правадзейны член Інбелкульта*

пабудаваны і нявытрыманы па распаўсюджанню.

У перыяд дзейнасці Інбелкульта асабліва вялікае значэнне надавалася вывучэнню антрапагенавых адкладанняў і рэльефу. Цікавасць да гэтых утварэнняў абумоўлівалася прыстасаваннем да іх большасці вядомых у той час радовішчаў карысных выкапняў і эксплуатуемых гарызонтаў падземных вод. У сувязі з тым што на антрапагенавых пародах сфарміраваны глебавы покрыў Беларусі, вывучэннем іх займаліся і глебазнаўцы Я. М. Афанасьеў і П. П. Рагавы.

Апісваючы геамарфалагічныя асаблівасці тэрыторыі рэспублікі, М. Ф. Бліядуха, іншыя геолагі зыходзілі з правільнай здагадкі, што рэльеф паверхні цесна звязаны з геалагічнай будовай. Асабліва ясна гэта стала пазней, у пасляваенныя гады, калі быў атрыманы багаты матэрыял па структуры пахаваных гарызонтаў (амаль да паверхні фундамента). У перыяд дзейнасці Інбелкульта на тэрыторыі рэспублікі вылучаўся складаны шэраг ланд-

шафтаў, узнікненне якіх было абумоўлена геалагічнай прадгісторыяй таго або іншага участка (вобласць крышталічнага масіву, канцова-марэнны, озавы, зандравы, донна-марэнны, лёсавы, старажытна-алювіяльны, іншыя ландшафты). Гэта дазволіла дэталёва ахарактарызаваць рэльеф рэгіёна.

Пры вывучэнні антрапагенавых утварэнняў спецыялісты Інбелкульта абапіраліся на дасягненні даследчыкаў дарэвалюцыйнага часу — П. Я. Армашэўскага, А. М. Кернажыцкага, М. І. Крыштафовіча, П. А. Туткоўскага, А. Э. Гедройца, А. Б. Місуны, С. Н. Нікіціна і інш. Правільна была ацэнена роля ледніковых покрываў у фарміраванні антрапагенавай тоўшчы, не было аднолькавага падыходу ў ацэнцы колькасці абледзяненняў. Называлася ад адной да трох такіх эпох за антрапагенавы перыяд. Прысутнасць у разрэзах некалькіх марэнных гарызонтаў, якія былі раздзелены слаямі флювіягляцыяльных пяскоў і іншых адкладаў, схіляла геолагаў да палігляцыялістычнага падыходу. Так, Ф. В. Лунгерсгаўзен у тоўшчы «паслятрацічных адкладаў» вылучаў тры ледавіковыя гарызонты, звязаўшы іх услед за Г. Ф. Мірчынкам з дзейнасцю міндзельскага, рыскага і вюрмскага абледзяненняў. На яго думку, міндзельскі і вюрмскі леднікі пакрывалі паўночную частку, а рыскі — амаль усю тэрыторыю Беларусі. Мяжу апошняга абледзянення Ф. В. Лунгерсгаўзен праводзіў па лініі Слуцк—Мінск—Лукомль—Орша—Смаленск. Зараз лічыцца, што гэты ледавік распаўсюдзіўся толькі на тэрыторыю Беларускага Паазер'я. Такім чынам, названая мяжа правільная на сваім усходнім адрэзку.

Пры вывучэнні і картыраванні покрыўных адкладаў у той перыяд ужо вылучаліся амаль усе асноўныя генетычныя тыпы антрапагенавых утварэнняў, якія вызначаюцца і зараз. Тады ж пачата даследаванне петраграфічнага складу валуноў М. А. Грамыкам, арганічных рэшткаў сапрапеляў і торфу А. С. Шчапоцьевым. Комплекснае вывучэнне антрапагенавых адкладаў праводзілася ў асноўным у далінах рэк. Геалагічнае апісанне басейна Заходняй Дзвіны выконвалі Ф. В. Лунгерсгаўзен, М. Е. Кавалёў, А. Я. Сцепаненка, Дрысы і Палоты — П. Н. Майсейчык, Сожа — М. Ф. Бліядуха, М. Е. Кава-

леў, П. А. Валковіч, Дняпра, Бярэзіны, Свіслачы, Пцічы, Друці — С. С. Малярэвіч і Б. К. Тарлецкі. Ф. В. Лунгерсгаўзен праводзіў спецыяльнае даследаванне лёсападобных адкладаў Аршанска-Магілёўскай раўніны.

Актуальным для таго часу было складанне геалагічнай карты Беларусі. Старая геалагічная здымка, якая ажыццяўлялася Геалагічным камітэтам, не была завершана і не адпавядала новым патрабаванням, а ў першыя паслярэвалюцыйныя гады дзяржаўнае геалагічнае картыраванне Беларусі толькі пачыналася. На пасяджэннях КППС і геолага-глебавай падсекцыі Інбелкульта абмяркоўваліся прынцыпы складання геалагічнай карты Беларусі, магчымыя маштабы, схемы і больш падрабязныя варыянты карт па асобных акругах. Улік экспедыцыйных даных, новых вынікаў свідравання, іншых матэрыялаў дазволіў М. Ф. Бліядуха, Б. К. Тарлецкаму і Ф. В. Лунгерсгаўзену ўжо ў час дзейнасці Інбелкульта скласці новыя дробнамаштабныя аглядныя геалагічныя карты даантрапагенных парод Беларусі. У агульных рысах гэтыя карты правільна адлюстроўвалі геалагічную будову рэгіёна. З недакладнасцей трэба адзначыць выхады кембра-сілурыйскіх парод каля в. Раванічы, гляцыгеннае паходжанне якіх было даказана пазней.

Пры параўнанні ўяўленняў таго часу з узроўнем сучасных ведаў пра будову нетраў высвятляецца, што найбольшыя памылкі геолагі Інбелкульта дапусцілі ў сваіх тэктанічных пабудовах. Як і Я. У. Апокаў і А. М. Жырмунскі, яны лічылі, што ў цэнтры Беларусі пласты дэвону і больш старажытных парод утвараюць пахаваны на глыбіні і не адлюстраваны на паверхні вал, які аддзяляў Польска-Літоўскую ўпадзіну ад Падмаскоўнага каменнавугальнага басейна. Толькі ў 50-я гады дзякуючы даследаванням А. С. Махнача даказаны познепратэразойскі ўзрост пясчанікаў, якія прымаліся раней за сярэднедэвонскія, высветлілася памылковасць поглядаў на існаванне гэтага вала. У Палессі меркавалася шырокая катлавіна, якая ў цэлым супадала з арыенціроўкай даліны Прыпяці (Прыпяцкі прагін па сучаснаму тэктанічнаму раяніраванню). Лічылася, што Палеская катлавіна ўзнікла ў паслятрацічны час.

Яшчэ адна памылка геолагаў таго перыяду была звя-

зана са спробай звесці астраўныя выхады карэнных парод у своеасаблівыя «тэктанічныя лініі». Б. К. Тарлецкі такія агаленні ў сярэдняй частцы Беларусі насадзіў на дзве лініі, якія распасціраюцца з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход. Першую з гэтых ліній ён пачынаў каля в. Дзягільна побач з Койданавам (цяпер Дзяржынск) і заканчваў каля в. Хоцінава Слуцкага раёна. Другая лінія праводзілася ад выхаду мелу каля в. Крамянец Лагойскага раёна праз агаленні кембра-сілура каля в. Раванічы Чэрвеньскага раёна і заканчвалася каля в. Кастрыцкая Слабада паблізу Бабруйска (азімут гэтай лініі блізкі да 320°). Чатыры падобныя лініі той жа арыенціроўкі ўстанаўліваў Ф. В. Лунгерсгаўзен. Усе гэтыя лініі лічыліся паралельнымі іншым аналагічным палосам, якія праводзілі ў Заходняй Беларусі польскі геолаг Ю. Семірадскі, а таксама А. М. Жырмунскі. З'яўленне такіх лінеаментаў звязвалася са складкавымі дэфармацыямі (антыклінальнымі складкамі) і разрывамі ў карэнных пародах.

У Інбелкульце зарадзілася таксама геафізічная служба Беларусі. У жніўні 1925 г. Наркамзем БССР склікаў спецыяльны сход, на якім абмяркоўвалася пытанне аб аб'яднанні пад эгідай Інбелкульта ўсіх службаў, занятых метэаралагічнымі, аэралагічнымі, гідралагічнымі, геамагнітнымі, іншымі геафізічнымі работамі. З гэтага часу ў рэспубліцы пачалі праводзіць геамагнітную здымку (Я. Я. Сіроцін), вывучэнне радыеактыўнасці горных парод і вод (Я. Я. Сіроцін, Ю. Ю. Маслакавец), даказалі неабходнасць пастаноўкі гравіметрычных вымярэнняў [4].

Дзякуючы даследаванням, праведзеным у Інбелкульце, быў сабраны матэрыял, які дазволіў падрыхтаваць першы падручнік па геалогіі рэспублікі. Ім стала праца Ф. В. Лунгерсгаўзена «Уступ у геалогію Беларусі» (1930). У інстытуце вялася вялікая работа па стварэнню бібліяграфіі прац, якія датычаць геалогіі БССР і сумежных тэрыторый, карысных выкапняў і іншых геалагічных

---

[4] Сіроцін Я. Я., Маслакавец Ю. Ю. Радыеактыўнасць парод Беларусі // Матэрыялы да геалагічнага і глебазнаўчага вывучэння Беларусі. Мн., 1930. Т. 2. С. 183—191.

пытанняў. У 1926 г. у картатэцы геалагічных прац налічвалася прыкладна 2,5 тыс. назваў.

Рэгіянальныя геалагічныя даследаванні Інбелкульта паказалі, што ва ўмовах Беларусі, дзе параўнальна невялікае заглыбленне рачных далін, мала прыродных агаленняў, вялізныя забалочаныя прасторы і невялікая колькасць выхадаў на паверхню карэнных парод, патрабуецца пастаноўка спецыяльных буравых і геафізічных прац, накіраваных на атрыманне новых матэрыялаў па тэктоніцы, стратыграфіі і літалогіі. Першым крокам да гэтага з'явілася залажэнне ў 1928 г. у Мінску буравой свідравіны № 4 Эльвода — самай глыбокай у той час на захадзе СССР.

Усе геалагічныя даследаванні Інбелкульта мелі дакладную накіраванасць. Асноўнай іх задачай стала ацэнка мінеральна-сыравіннага патэнцыялу рэспублікі, які мог быць выкарыстаны ў прамысловасці і сельскай гаспадарцы. З гэтай мэтай па заданню КПСС геалагічнымі партыямі інстытута і Горнага аддзела СНГБ праводзілася маршрутнае абследаванне тых раёнаў, якія былі багатыя на карысныя выкапні і ўяўлялі першачарговую цікавасць для эксплуатацыі. Пачатковы рэгістрацыйны спіс карысных выкапняў Беларусі складзены ў 1926 г. і налічваў 176 назваў. У 1928 г. да моманту рэарганізацыі Інбелкульта ў Акадэмію навук у гэтым спісе налічвалася 292 нумары. Таксама была складзена карта карысных выкапняў Беларусі.

Большасць уключаных у спіс карысных выкапняў не мела даных пра якасць сыравіны, абмежаванымі былі звесткі пра ўмовы іх залягання, запасы, прамысловую каштоўнасць. Улічваліся невялікія залежы карысных выкапняў, якія ва ўмовах таго часу маглі мець практычнае значэнне. Шырока распаўсюджаныя залежы торфу ў пералік не ўключаліся. І ўсё ж падрыхтаваная зводка дазволіла арыентаваць геалагічную службу рэспублікі, правільна ацаніць перспектывы прыпаверхневай часткі геалагічнага разрэзу на тыя або іншыя віды мінеральнай сыравіны.

Аналіз зарэгістраваных карысных выкапняў сведчыў, што ў межах Беларусі пераважная частка радовішчаў адносіцца да групы нярудных. Сярод іх былі ўлічаны

вапнякі і даламіты, мел і мергель, дыятаміт і апока, крэмень, фасфарыты, глаўканітавыя пароды, фларыдзінавыя, іншыя гліны, пясок, галечнік і жвір, валуны і будаўнічы камень, сапрапелі, лекавы торф. Група рудных карысных выкапняў у асноўным складалася з бурых жалезнякоў (ліманіту).

Сярод розных мінеральна-сыравінных рэсурсаў Беларусі першароднае значэнне надавалася залежам вапняку і даламітаў. Гэта абумоўлівалася шырокім дыяпазонам выкарыстання іх у прамысловасці і сельскай гаспадарцы. Галоўнымі лічыліся радовішчы, выяўленыя да таго часу каля вёсак Раванічы і Хутар Чэрвеньскага раёна (кембра-сілурыйскія адклады), каля Віцебска і Оршы (карэнныя дэвонскія ўтварэнні), а таксама астраўныя выхады дэвонскіх парод каля ст. Дарагонава, вёсак Стаішча і Града Бабруйскай акругі, Прапойска, Хоцімска і Крычава Магілёўскай акругі і інш. Частка пералічаных залежаў стала базай для будаўніцтва раённых вапняковых заводаў. Найбольшую ролю ў развіцці народнай гаспадаркі рэспублікі адыгралі даламіты і даламітызаваныя вапнякі каля Віцебска, дзе і зараз дзейнічае вытворчае аб'яднанне «Даламіт». З выяўленых тады радовішчаў, аднесеных да астраўных выхадаў дэвону (адорвені), да гэтага часу распрацоўваюцца некаторыя залежы ў Магілёўскай вобласці. Карбанатныя пароды тут выкарыстоўваюць для будаўніцтва дарожнага пакрыцця.

Вялікая ўвага надавалася радовішчам карэнных мергельна-мелавых парод. Асноўныя іх залежы выяўлены ў басейне р. Сож на ўсходзе Магілёўскай і Аршанскай акруг. Палявыя даследаванні геалагічнай працы, якую ўзначальваў М. Ф. Бліядуха, дазволілі знайсці высакаякасны мел і вылучыць шэраг участкаў для пастаноўкі падрабязных геолагаразведачных прац. На адным з іх і быў у 30-я гады пабудаваны буйнейшы ў рэспубліцы Крычаўскі цэментны завод.

Шматлікія выхады мелу, знойдзеныя каля Лагойска, Койданава (Дзяржынска), Слуцка, Старобіна, Любані, Грэска і Бабруйска і звязаныя, як вызначана зараз, з гляцыядыслакацыямі, служылі ў той час (і пазней) асновай для вытворчасці вапны, мелу, кафлі, шкла, сілікатнай цэглы і інш.

Мергелі антрапагенавага ўзросту, зарэгістраваныя даследчыкамі Інбелкульта, выкарыстоўваліся для вапнавання кіслых глебаў. На такім радовішчы ў Копысі дзейнічаў невялікі завод па вытворчасці кафлі.

Важным вынікам даследаванняў таго перыяду трэба прызнаць адкрыццё радовішчаў дыятаміту і апокі. Дыятаміты выяўлены сярод міжледніковых антрапагенавых адкладанняў у Копысі па абодвух берагах Дняпра. Апокі ўпершыню знайшлі ў 1926 г. пры вывучэнні мелавых адкладанняў на р. Астра. Тут яны замяшчалі мел у верхняй частцы пласта. На перспектыўнасць асваення апокаў Беларусі геолагі звярнулі ўвагу толькі ў нашы дні.

Да ліку карысных выкапняў, вартых уключэння ў рэгістрацыйны спіс, аднесены канкрэцыі крэменю. Такія канкрэцыі знаходзілі ў дэвонскіх карбанатных пародах Заходняй Дзвіны і Дняпра, але асноўная іх маса была ў мелавых адкладах. Часам крамянёвыя канкрэцыі сустракалі і сярод рачнога галечніку. Крэмень выкарыстоўваўся для атрымання абразіўнага матэрыялу. Зараз да гэтага віду сыравіны страцілі цікавасць.

Вялікай заслугай геолагаў Інбелкульта было выяўленне на ўсходзе Беларусі і ў суседняй частцы Смаленскай вобласці залежаў фасфарытаў. Гэтыя карысныя выкапні звязаны з мелавымі адкладамі. Яны сустракаліся ў выглядзе пліты і асобных канкрэцый. М. Ф. Бліядуха вызначыў умовы залягання і рэчыўны склад сыравіны, перспектывы яе выяўлення. Ужо тады ацанілі ўплыў беларускіх фасфарытаў на ўраджайнасць сельскагаспадарчых культур. Выяўленыя на тэрыторыі Смаленшчыны радовішчы (горны адвод БССР) нейкі час распрацоўваліся. Адтуль фасфарыты дастаўляліся ў Крычаў для здрабнення на фасфарытавую муку. З-за складаных гідрагеалагічных і горна-тэхнічных умоў залягання гэты важны для сельскай гаспадаркі від мінеральнай сыравіны ў БССР зараз не здабываецца. Сучасная горная тэхніка дазваляе весці распрацоўку радовішчаў такога тыпу. Таму ў перспектыве магчыма асваенне беларускіх фасфарытаў.

Яшчэ адзін від сыравіны, на які ўпершыню звернута ўвага ў той час,— гэта глаўканітава-кварцавыя пяскі. Яны шырока развіты сярод мелавых і палеагенавых ад-

кладаў. Пакуль гэтыя пароды не выкарыстоўваліся, хоць былі спробы скарыстаць іх у якасці калійных угнаенняў. У будучым яны могуць быць выкарыстаны для атрымання зялёных фарбавальнікаў і адсарбентаў.

У 1924—1925 гг. пры даследаванні мезазойскіх утварэнняў на ўсходзе Аршанскай акругі выяўлены светла-зялёныя гліны, аднесеныя да фларыдзінавых (монтмарыланітавых). Яны залягалі на мелавых пародах. Валодаючы моцнымі адсарбцыйнымі якасцямі, гэтыя пароды ў вялікай колькасці спажываюцца ў сучаснай прамысловасці. Ацэнка перспектыўнасці тэрыторыі рэспублікі на монтмарыланітавыя гліны пачата ў 70-х гадах.

Асноўная маса радовішчаў карысных выкапняў звязана з антрапагенавымі ўтварэннямі. Таму і ў рэгістрацыйным спісе дамінуюць антрапагенавыя радовішчы розных пяскоў, гліны, жвіру і галькі. Пры вывучэнні пясчаных парод увага звярталася на выяўленне шклянога пяску [5]. У якасці асноўнага аб'екта для гэтага рэкамендаваўся пясок зоны ападзольвання. З-за нізкага ўтрымання жалеза, іншых прымесей яго дробназярністыя разнавіднасці часам аказваліся прыгоднымі нават для вытворчасці высакаякаснага хрусталю. Аднак ва ўмовах сучаснай вытворчасці, калі патрабуюцца значныя аб'ёмы кварцавага пяску для вырабу шкла і ліцейных форм, прапанаваны тады шлях выкарыстання пяскоў зоны падзолу аказаўся неперспектыўным. Цяпер на паўднёвым усходзе рэспублікі выяўлены радовішчы кварцавых пяскоў, звязаных з палеаген-неагенавымі адкладамі. Сярод залежаў глін, што цікавілі ў 20-я гады геолагаў, вывучаліся разнавіднасці, прыгодныя для вытворчасці цэглы і ганчарных вырабаў. Лепшымі для гэтага лічыліся азёрна-ледніковыя лентачныя гліны. Ужо тады адзначалася перспектыўнасць карэнных адкладаў на глiністую сыравіну.

Пры даследаванні пясчана-гравійна-галечных акумуляцый высветлілася, што яны звязаны з ледніковымі ўтварэннямі, часта маюць нязначныя памеры і пры

---

[5] Терлецкий Б. К. Залежи белых песков и белого пишущего мела в Бобруйском, Минском, Слуцком округах БССР // Запіскі Белдзяржакадэміі сельскай і лясной гаспадаркі. 1925. № 9. С. 70—97.

эксплуатацыі хутка выпрацоўваюцца. Таму ў найбольш адказных выпадках рэкамендавалася праводзіць ацэнку запасаў такой сыравіны. Як важны від мінеральных будаўнічых матэрыялаў, неабходных дарожнаму і грамадзянскаму будаўніцтву, разглядаліся валуны.

Таму ў рэгістрацыйны спіс унесена вялікая іх колькасць. Участкі, у межах якіх утрымлівалася многа карбанатных валуноў, рэкамендаваліся для будаўніцтва вапняковых печаў. Цяпер на Беларусі пераважную частку вялікіх валуноў (асабліва каля гарадоў і асноўных магістраляў) сабралі і выкарысталі.

Ужо на пачатковым этапе геолагі Інбелкульта вывучалі шырока развітыя залежы сапрапеляў. Яны звярнулі ўвагу на тое, что некаторыя віды торфу валодаюць лекавымі якасцямі.

З рудных выкапняў фіксаваліся шматлікія праяўленні бурага жалезняку ў выглядзе балотных, дзярновых і азёрных жалезных рудаў. Лічылася, што яны могуць зацікавіць прамысловасць. Ужо ў 30-я гады рудныя запасы былі падрабязна абследаваны, што дазволіла выявіць каля 1 млн. т запасаў, раскіданых па розных раёнах [6]. Абмежаваныя запасы і раскіданасць такіх радовішчаў жалезнай руды не дазволілі стварыць на іх аснове металургічнай вытворчасці. Руды захавалі сваё значэнне як фарбавая сыравіна.

Прыкладны характар мелі гідрагеалагічныя назіранні. Свідравіны, якія бурылі на ваду ў Мінску, Бабруйску, Магілёве, Клімавічах, іншых месцах, давалі асноўныя звесткі пра ўмовы залягання пластоў. Лічылася, што для стабільнага водазабеспячэння мэтазгодна выкарыстоўваць два-тры міжмарэнныя гарызонты грунтавых водаў, якія часам валодалі напорнымі якасцямі. На поўначы Беларусі рэкамендавалі эксплуатаваць воды, звязаныя з дэвонскімі пародамі, на поўдні і ўсходзе — з мелавымі і трацічнымі. У Лагойску, Сянно, в. Баркаўшчына Ушацкага раёна, іншых месцах вывучаліся крыніцы, вада якіх лічылася сярніста-жалезістай або жалезістай. Пазнейшыя працы паказалі, што гэтыя воды ўсё-такі слаба мі-

[6] Горелик З. А. Полезные ископаемые Белоруссии. М., 1946. С. 44.

нералізаваныя і не могуць адносіцца да мінеральных.

У планах Інбелкульта спецыяльнае месца адводзілася геалагічнаму даследаванню свідравін, кар'ераў і рэльефу ўздоўж трасаў чыгунак, што будаваліся. Па маршруту Орша—Лепель гэту працу выконвалі Ф. В. Лунгерсгаўзен і А. Я. Сцепаненка, Асіповічы—Магілёў — С. С. Малярэвіч.

Такім чынам, дзейнасць Інбелкульта была важным этапам у станаўленні беларускай геалагічнай навукі. У далейшым у выніку развіцця Інстытута геалогіі ўзніклі Інстытут геалагічных навук АН БССР, на яго базе — Беларускі навукова-даследчы геолагаразведачны інстытут і Інстытут геахіміі і геафізікі АН БССР. У сувязі з патрэбамі народнай гаспадаркі на ініцыятыве Інбелкульта быў створаны Горны аддзел ВСНГ БССР, з якога пачалася вытворчая геалагічная служба рэспублікі (цяпер вытворчае аб'яднанне «Беларусьгеалогія»). Зараз на тэрыторыі Беларусі выяўлены радовішчы нафты, вугалю, гаручых сланцаў, каменнай і калійнай солі, алюмініевай і жалезнай руды, комплекс мінеральных будаўнічых матэрыялаў, прэсныя і мінеральныя воды і іншыя віды карысных выкапняў. Калі ў 1976 г. у Мінску адбылася выязная сесія секцыі навук аб Зямлі Акадэміі навук СССР, у выступленні на ёй акадэміка-сакратара Аддзялення геалогіі, геафізікі і геахіміі АН СССР Б. С. Сакалова адзначалася, што за гады савецкай улады «Беларусь стала выдатным геалагічным адкрыццём», а разведаныя багацці нетраў садзейнічалі ператварэнню рэспублікі ў адзін з важнейшых эканамічных рэгіёнаў Савецкага Саюза. Атрыманыя новыя даныя аказалі карэнны ўплыў на разуменне ўсёй структуры Усходне-Еўрапейскай платформы. Ля вытокаў гэтых геалагічных адкрыццяў стаяў Інбелкульт.



# ГЕАГРАФІЯ

Актыўны ўдзел у вырашэнні задач, звязаных з вывучэннем прыродных рэсурсаў Беларусі, апісаннем яе прыродных умоў, гаспадаркі, жыцця і быту насельніцтва рэспублікі, прымалі географы-прыродазнаўцы і географы-эканамісты.

Станаўленне беларускай геаграфіі адносіцца да пачатку 20-х гадоў. Спадчына мінулага адчувалася ў малалікасці спецыялістаў, што атрымалі спецыяльную адукацыю, у нераспрацаванасці важных тэарэтычных пытанняў, у перавазе апісальных прыёмаў у метадычным арсенале геаграфічнай навукі. Апісальнымі былі і першыя працы географаў Інбелкульта, прысвечаныя характарыстыцы гарадоў Беларусі, яе ландшафтаў, галін гаспадаркі. Разам з выкананнем агульнагеаграфічных прац вучоныя Інбелкульта імкнуліся да паглыбленага даследавання канкрэтных пытанняў прыродакарыстання, да ўдзелу ў вырашэнні актуальных для народнай гаспадаркі рэспублікі праблем.

Для рэалізацыі гэтых задач у студзені 1924 г. рашэннем агульнага сходу Інбелкульта была створана аграномічная секцыя. Яна ставіла сваёй мэтай вывучэнне форм землекарыстання на Беларусі. Пастаноўка такога пытання сведчыла пра імкненне разгледзець характэрныя асаблівасці выкарыстання зямельнага фонду з улікам прыродных умоў. Гэта тэндэнцыя атрымала далейшае развіццё ў сучаснай геаграфіі сельскай гаспадаркі. Мэтанакіраваная цікавасць географаў Інбелкульта да праблем зямельных рэсурсаў выявілася пры абмеркаванні даклада «Глебы Беларусі па выніках даследаванняў 1923 г.», у ходзе якога была прынята пастанова аб скліканні канферэнцыі глебазнаўцаў і практыкаў для карэ-

ляцыі фізіка-геаграфічных даследаванняў на тэрыторыі Беларусі. Праведзеная 16—17 красавіка 1924 г. канферэнцыя мела вялікае практычнае значэнне ў справе вырашэння праблем зямельных рэсурсаў рэспублікі.

У вывучэнні кампанентаў прыроднага асяроддзя Беларусі — покрыўных адкладаў, глебаў, расліннага покрыва — географы ўдзельнічалі разам з прадстаўнікамі іншых галін прыродазнаўства. Заснаваная ў 1924 г. прыродазнаўча-геаграфічная секцыя налічвала каля 40 спецыялістаў. У сакавіку 1925 г. у яе складзе было 60 чалавек. Іх намаганнямі выкананы геолага-геамарфалагічныя, глебава-геаграфічныя, геабатанічныя, зоагеаграфічныя даследаванні, метэаралагічныя і феналагічныя назіранні, якія папоўнілі ўяўленні пра геаграфічнае асяроддзе рэгіёна Беларусі.

Дзейнасць географаў Інбелкульта не абмяжоўвалася ўдзелам у рабоце прыродазнаўча-геаграфічнай секцыі. З красавіка 1924 г. у Інбелкульце функцыяніравала секцыя этнаграфіі і геаграфіі. Цеснае супрацоўніцтва прадстаўнікоў гэтых галін ведаў характэрна для айчыннай навукі таго часу. У адпаведнасці з патрабаваннямі Расійскага геаграфічнага таварыства этнаграфічныя звесткі былі часткай геаграфічнага апісання тэрыторыі. Падрабязныя звесткі пра жыццё і быт насельніцтва ўключаліся ў справаздачы экспедыцый, займалі значнае месца ў падручніках па геаграфіі.

Сказанае цалкам можна аднесці да падрыхтаваных географамі Інбелкульта падручнікаў геаграфіі Беларусі (аўтар А. А. Смоліч) і Еўропы (аўтар М. В. Азбукін). «Геаграфія Беларусі» А. А. Смоліча вытрымала не адно выданне, атрымала высокую ацэнку сучаснікаў і да гэтага часу не страціла свайго навукова-пазнавальнага значэння. Яна была задумана і ажыццёўлена як геаграфічнае апісанне роднага краю і заклікала пазнаёміць чытача з непаўторнай прыродай Беларусі. Вызначаючы геаграфію як навуку аб прасторавым распаўсюджанні працэсаў і з'яў, аўтар падкрэслівае ўзаемасувязь і ўзаемазалежнасць гэтых з'яў і працэсаў, заканамернасць іх праяўлення на зямной паверхні. Гэты прагрэсіўны падыход, уласцівы айчынным прыродазнаўцам, прасочваецца ў структуры кнігі, выкладанні фактычнага матэрыялу,



*А. А. Смоліч,
правадзейны член
Інбелкульта*

яго інтэрпрэтацыі. Пры падрыхтоўцы падручніка шырока скарыстаны работы рускіх і польскіх даследчыкаў, навуковыя распрацоўкі аўтара, прысвечаныя пытанням фізічнай і эканамічнай геаграфіі Беларусі.

Традыцыйна пачынаючы характарыстыку тэрыторыі рэгіёна з вызначэння яго месцазнаходжання, А. А. Смоліч не абмяжоўваецца ўказаннем геаграфічных каардынатаў Беларусі, а паведамляе даныя аб працягласці і плошчы тэрыторыі ў параўнанні з аналагічнымі данымі аб іншых краінах, падкрэслівае яе становішча ў «геаметрычным» цэнтры Еўропы, на водападзеле буйных рэк, указвае на адсутнасць марскіх граніц. Вялікая ўвага ўдзелена ў кнізе характарыстыцы прыродных асаблівасцей Беларусі, будове зямной паверхні. Даведкі пра раслінны і жывёльны свет заканчваюць агляд прыродных умоў Беларусі. Прынятая схема выкладання матэрыялу дазваляе раскрыць генетычныя сувязі прыродных кампанен-

таў, паказаць рэсурсны патэнцыял тэрыторыі, падрыхтаваць чытача да ўсведамлення асаблівасцей гаспадарчай дзейнасці насельніцтва краю.

Значная частка матэрыялаў падручніка прысвечана геаграфіі насельніцтва, этнічнаму яго агляду, характарыстыцы сельскагаспадарчай і прамысловай вытворчасці. Кніга ўтрымлівае першы вопыт раяніравання тэрыторыі з падрабязным апісаннем вылучаных раёнаў. На аснове гэтага першага падручніка геаграфіі аўтар падрыхтаваў «Кароткі курс геаграфіі Беларусі», выдадзены ў 1925 г.

У падручніку «Геаграфія Еўропы» М. В. Азбукін арыентаваўся ў асноўным на прыродныя, а не дзяржаўныя граніцы, як гэта прынята ў сучасных школьных курсах геаграфіі замежных краін. У выніку прыродныя, фізіка-геаграфічныя характарыстыкі паказаны ў кнізе больш поўна, чым звесткі эканоміка-геаграфічнага плана. Даныя аб прамысловасці еўрапейскіх краін абмежаваны, прыродныя перадумовы развіцця важнейшых галін індустрыі ў тэксце падручніка не аналізуюцца. Больш поўна ахарактарызаваны асаблівасці размяшчэння сельскагаспадарчай вытворчасці. Да станоўчых бакоў кніжкі трэба аднесці шырокае выкарыстанне картаграфічных, іншых матэрыялаў, уключэнне ў тэкст пытанняў-заданняў для навучэнцаў, а таксама спецыяльна складзенага тэрміналагічнага слоўніка. У аглядзе прыродна-тэрытарыяльных адзінак Усходняй Еўропы спецыяльны раздзел прысвечаны апісанню прыродных умоў, насельніцтва і гаспадаркі Беларусі.

Да ліку актуальных навуковых праблем маладой беларускай рэспублікі, непасрэдна звязаных са станаўленнем яе дзяржаўнасці, аб'яднаннем народа, развіццём нацыянальнай самасвядомасці беларусаў, з поўнай падставай могуць быць аднесены пытанні геаграфіі насельніцтва Беларусі. Дэталёваму даследаванню розных аспектаў важнай і складанай праблемы народанасельніцтва прысвяціў шэраг работ выдатны дзеяч беларускай навукі і культуры Г. І. Гарэцкі. У выдадзенай у 1928 г. у Мінску кнізе «Межы Заходняй Беларусі ў Польшчы (нацыянальны склад насельніцтва Заходняй Беларусі)» аўтар абгрунтоўвае і паслядоўна рэалізуе свой падыход

да выяўлення межаў рассялення беларусаў, лічачы базавымі не гістарычныя, палітычныя, эканамічныя ці прыродныя межы, а нацыянальна-этнічныя. Даведкі пра нацыянальны склад насельніцтва Заходняй Беларусі аўтар падзяляе на непасрэдныя (вынікі поўнага перапісу насельніцтва) і апасрэдаваныя.

Для ўсебаковага і выніковага выкарыстання гэтых крыніц аўтар прапаноўвае абгрунтаваную сістэму метадаў ацэнкі вынікаў нацыянальнай статыстыкі, уключыўшы ў яе апрыёрны метад аналізу ўмоў і вынікаў перапісу; метад крытыкі па апасрэдаваных крыніцах; храналагічны аналіз змен; храналагічны аналіз змяненняў і размяшчэння паказчыкаў (прасторава-геаграфічны метад); метад этнаграфічнай экспертызы. Паслядоўная рэалізацыя гэтых метадычных прыёмаў дазволіла аўтару кнігі крытычна прааналізаваць вынікі польскага перапісу насельніцтва 1919—1921 гг., зрабіць шэраг абгрунтаваных паправак да характарыстыкі нацыянальнага складу і выкарыстаць даныя для вызначэння этнаграфічных граніц Заходняй Беларусі ў Польшчы. Побач з тэарэтычнымі і метадычнымі вартасцямі кнігі трэба адзначыць багацце даведкавага раздзела работы, уключэнне ў яе разгорнутага заключэння, подпісаў на англійскай мове пад малюнкамі і табліцамі, што пашырала кола чытачоў кнігі.

Геаграфіі насельніцтва рэспублікі прысвечаны іншыя работы Г. І. Гарэцкага — «Насельніцтва БССР (статыстычныя даныя)», «Нацыянальныя асаблівасці насельніцтва БССР і беларускага насельніцтва СССР паводле перапісу 1926 г.» У апошняй рабоце аўтар звяртае ўвагу на факт несупадзення нацыянальнага складу насельніцтва БССР па нацыянальнай прыналежнасці і роднай мове і дае сваё тлумачэнне гэтага факта. Колькасныя характарыстыкі, заснаваныя на статыстычных матэрыялах, аўтар прапаноўвае дапоўніць матэрыяламі спецыяльных этнаграфічных даследаванняў.

Важным напрамкам дзейнасці географаў Інбелкульта з'яўлялася краязнаўства. Удзел у дзейнасці прэзідыума Цэнтральнага бюро краязнаўства М. В. Азбукіна, выступленні географаў на старонках штомесячнага часопіса «Наш край», плённыя кантакты з краязнаўчымі арга-



*Г. І. Гарэцкі,
правадзейны член
Інбелкульта*

нізацыямі РСФСР, Украіны і іншых рэспублік — усё гэта садзейнічала развіццю краязнаўчага руху на Беларусі.

У 1926 г. на базе геаграфічнай падсекцыі прыродазнаўчай секцыі Інбелкульта створана геаграфічная камісія, у склад якой уваходзілі М. В. Азбукін, М. А. Грамыка, Г. С. Аляксандраў, М. І. Каспяровіч, Д. І. Даўгяла і інш. Пастаянна працаваў у камісіі М. В. Азбукін, які адначасова быў старшынёю падсекцыі жывой прыроды прыродазнаўчай секцыі Інбелкульта. Асноўная праца камісіі зводзілася да складання геаграфічнага слоўніка Беларусі. Найбольш эфектыўна ў гэтым напрамку вялася работа ў Мазырскім акружным краязнаўчым таварыстве. Камісія збірала экспанаты матэрыяльнай культуры Мазырскага Палесся, былі арганізаваны выезды членаў камісіі ў Палессе з мэтай фатаграфавання і апісання мясцовасці.

У сувязі з рэарганізацыяй Інбелкульта ў 1927 г. была створана кафедра геаграфіі. Па зацверджанаму плану на 1927/28 акадэмічны год пачаўся збор матэрыялаў для асноўнай картаграфічнай картатэкі, якая давала магчымасць правесці поўнае геаграфічнае апісанне Беларусі. З мэтай сістэматызацыі матэрыялаў па кожнаму аб'екту была распрацавана спецыяльная праграма-карта, на якой усе звесткі пра аб'ект былі размеркаваны па 12 групах. На працягу года сабраны і сістэматызаваны матэрыялы аб 2438 геаграфічных аб'ектах Беларусі. Для картатэкі збіраліся статыстычныя матэрыялы, картаграфічныя і фатаграфічныя калекцыі.

Даследная праца кафедры праводзілася ў напрамку вывучэння геаграфіі шчыльнасці насельніцтва і методыкі яе картаграфавання, а таксама дробнага эканамічнага раяніравання. Апошняе праводзілася сумесна з Беларускім навукова-даследчым інстытутам сельскай і лясной гаспадаркі. Супрацоўнікі кафедры выконвалі асноўную навуковую працу на матэрыялах перапісу 1916 і 1917 гг. і выбарачнага перапісу 1926 г., а таксама бюджэтных матэрыялаў і літаратурных даных.

У гэты час кафедра геаграфіі пачала падрыхтоўчую працу па некалькіх навуковых тэмах. Ёю складзены праект выдання вялікага эканаміка-геаграфічнага атласа Беларусі. Праводзілася падрыхтоўчая праца па складанню новай гіпсаметрычнай карты Беларусі. Пры кафедры геаграфіі працавала геаграфічная камісія, у якую акрамя супрацоўнікаў уваходзілі Г. І. Гарэцкі, М. А. Грамыка, Г. С. Аляксандраў, М. І. Каспяровіч. Кафедра рыхтавала выданне серыі кніг пад назвай «Матэрыялы па геаграфіі і статыстыцы Беларусі». Першы том матэрыялаў выйшаў у 1928 г. У ім змешчаны даследаванні Г. І. Гарэцкага, М. В. Азбукіна і інш. Быў падрыхтаваны да друку і другі том гэтай серыі.

Шырокі дыяпазон дзейнасці географаў Інбелкульта, розныя арганізацыйныя формы гэтай працы, вопыт супрацоўніцтва са спецыялістамі сумежных галін ведаў садзейнічалі развіццю геаграфічных даследаванняў, паслядоўнай канкрэтызацыі задач геаграфічнага вывучэння тэрыторыі Беларусі.

---



# ЗАКЛЮЧЭННЕ

Такім чынам, дзейнасць Інстытута беларускай культуры была разнастайнай і плённай. Яна ахоплівала як тэарэтычныя распрацоўкі, так і прыкладныя даследаванні, маштабы якіх павялічваліся. Значныя вынікі былі дасягнуты ў даследаванні праблем культуры, іншых грамадазнаўчых напрамкаў, у вывучэнні прыродных фактараў Беларусі. Вучоныя інстытута абапіраліся на дасягненні даследчыкаў, зробленыя як на Беларусі, так і ў СССР у цэлым, а таксама іх калегамі за мяжой. Пры гэтым некаторыя даследаванні вучоных Інбелкульта значна апярэдзілі свой час, далі штуршок для навуковых распрацовак у будучым, паслужылі асновай для ўзнікнення новых навуковых напрамкаў.

Вынікі навуковых распрацовак, зробленых у Інбелкульце, надрукаваны ў шматлікіх манаграфіях, зборніках, артыкулах. Шмат што з гэтага выкарыстоўвалася вучонымі і не страціла свайго значэння да нашага часу. Гэты навуковы вопыт увайшоў у скарбніцу беларускай культуры і навукі, актыўна служыў і служыць справе нацыянальнага адраджэння беларускага народа.

Інбелкульт адыграў важную ролю ў фарміраванні нацыянальнай беларускай інтэлігенцыі, у першую чаргу навуковай. Уплыў на інтэлігенцыю садзейнічаў яе тэарэтычнаму росту, павышэнню ведання сацыяльна-эканамічных і грамадска-палітычных працэсаў у грамадстве. Гэта станоўча адбілася на выніках яе працы.

Фактычна ўжо ў час дзейнасці Інстытута беларускай культуры былі закладзены асновы арганізацыі і правядзення навуковых даследаванняў у самых розных галінах ведаў, што дало магчымасць падрыхтаваць неабходныя ўмовы для стварэння на базе Інбелкульта Беларускай

Акадэміі навук. Аб яе адкрыцці было абвешчана 1 студзеня 1929 г.— у дзень 10-годдзя з часу ўтварэння Беларускай ССР. Такое супадзенне сведчыць аб тым значэнні, якое надавалася акту стварэння нацыянальнай Акадэміі навук.

У асноўным на базе, створанай у Інбелкульце, у канцы 20-х—пачатку 30-х гадоў у Беларускай Акадэміі навук адкрыты шэраг інстытутаў як грамадскага, так і прыродазнаўчага накірункаў. Яны сталі асноваю новай комплекснай навукова-даследчай установы. Беларуская Акадэмія навук з'явілася пераемніцай усяго лепшага з вопыту арганізацыі і правядзення навуковых даследаванняў, што было накоплена ў Інбелкульце.

Працяг традыцый Інбелкульта ў Беларускай Акадэміі навук мог быць больш плённым, калі б не курс палітычнага кіраўніцтва краіны на адказ ад новай эканамічнай палітыкі і пераход да каманднa-адміністрацыйнай сістэмы кіравання, фарміравання культу асобы Сталіна. У Беларускай ССР гэта вылілася ў барацьбу з прыдуманым нацыянал-дэмакратызмам і неіснаваўшым «Саюзам вызвалення Беларусі».

Аднымі з першых ахвяр гэтай надуманай барацьбы сталі вучоныя, якія працавалі раней у Інстытуце беларускай культуры, а затым у Беларускай Акадэміі навук. Трагічна склаўся лёс першага старшыні Інбелкульта вядомага беларускага моваведа С. М. Некрашэвіча. У пачатку 1931 г. па рашэнню калегіі АДПУ БССР яго выслалі ў адміністрацыйным парадку за межы рэспублікі, у г. Сарапул. У 1937 г. яго зноў арыштавалі і расстралялі.

Старшыня Інстытута беларускай культуры другой паловы 20-х гадоў, вядомы беларускі гісторык і дзяржаўны дзеяч У. М. Ігнатоўскі, які шмат зрабіў для развіцця Інбелкульта і пераўтварэння яго ў Беларускую Акадэмію навук, быў яе першым прэзідэнтам і першым дырэктарам Інстытута гісторыі, не вытрымаўшы скіраваных на яго паклёпаў і розных іншых уздзеянняў, 4 лютага 1931 г. скончыў жыццё самагубствам.

Толькі па сфабрыкаванай справе «Саюза вызвалення Беларусі» было арыштавана звыш 20 супрацоўнікаў акадэміі. З 15 сапраўдных членаў Інбелкульта, выбраных

у адпаведнасці са статутам 1927 г., 9 былі рэпрэсіраваны ў 30-я гады (Я. М. Афанасьеў, М. М. Дурнаво, З. Ф. Жылуновіч (Ц. Гартны), І. І. Замоцін, В. У. Ластоўскі, Я. Ю. Лёсік, С. Ю. Матулайціс, С. М. Некрашэвіч, А. А. Смоліч, падвяргаўся арыштам і У. І. Пічэта).

Згодна з данымі камісіі АН РБ па творчай спадчыне вучоных Акадэміі, бязвінна пацярпеўшых у перыяд сталінскіх рэпрэсій, што дзейнічае ў апошнія гады, са 104 штатных супрацоўнікаў Інбелкульта, якія працавалі ў ім у канцы 1928 г., у 30-я гады падвергнута арыштам і рэпрэсіравана 48 чалавек.

Рэпрэсіі супраць навуковай інтэлігенцыі не маглі самым адмоўным чынам не адбіцца на развіцці практычна ўсіх галін навуковых даследаванняў на Беларусі. Звузіліся ці зусім былі спынены навуковыя распрацоўкі шмат па якіх грамадскіх і прыродазнаўчых накірунках. 30-я гады — час асабліва беспадстаўных, надуманых абвінавачванняў і рэпрэсій — найбольш складаны і трагічны перыяд у гісторыі Беларускай Акадэміі навук, як і ўсёй Беларускай ССР.

Пасля ваеннага ліхалецця Беларуская Акадэмія навук паступова аднаўляла і развівала сваю дзейнасць, дасягнуўшы значных вышынь. Некаторыя навуковыя распрацоўкі выконваюцца на сусветным узроўні.

Па стану на 1 студзеня 1992 г. у складзе АН Беларусі 42 навукова-даследчыя ўстановы. У іх працуе 57 акадэмікаў, 100 членаў-карэспандэнтаў, 389 дактароў навук, 2472 кандыдаты навук. Агульная колькасць навуковых супрацоўнікаў дасягае амаль 5,6 тыс. Гэта вялікі творчы патэнцыял, які ў стане вырашаць самыя складаныя навуковыя праблемы.



# ДАДАТАК

## Правадзейныя члены Інстытута беларускай культуры, абраныя ў адпаведнасці са статутам 1922 г. *

Карскі Я. Ф.
Лёсік Я. Ю.
Луцэвіч І. Д. (Янка Купала)
Міцкевіч К. М. (Якуб Колас)
Некрашэвіч С. М.

## Правадзейныя члены Інстытута беларускай культуры, абраныя ў адпаведнасці з «Палажэннем аб Інстытуце беларускай культуры» 1924 г. **

Агурскі С. Х.
Адамовіч Я. А.
Ажгірэй А. У.
Азбукін М. В.
Алонаў Е. Ф.
Аршанскі Б. М.
Афанасьеў Я. М.
Ашаровіч І. П.

---

* У адпаведнасці з першым статутам Інбелкульта ў правадзейныя члены інстытута «прыцягваліся аўтарытэтныя вучоныя сілы», у абавязкі якіх уваходзіла правядзенне самастойных навуковых даследаванняў, ■ таксама кіраўніцтва навуковай працай супрацоўнікаў (Вестник Народного комиссариата просвещения ССРБ. 1921. № 2. С. 33).

** «Палажэнне аб Інстытуце беларускай культуры» было зацверджана ў 1924 г. і прад'яўляла да правадзейных членаў інстытута наступныя патрабаванні: правадзейнымі членамі Інбелкульта могуць быць выдатныя прадстаўнікі навукі, літаратуры, мастацтва і культуры, а таксама працоўныя, якія маюць заслугі ў вобласці тэхнікі. Яны выбіраліся на трохгадовы тэрмін, пасля заканчэння якога маглі быць абраны зноў (СЗ БССР. 1924. № 18. С. 161).

Бабарэка А. А.
Бабінскі С. Я.
Баліцкі А. В.
Барсукоў М. І.
Бліядуха М. Ф.
Будзінскі С. І.
Бурштэйн М. І.

Вальфсон С. Я.
Васількоў А. І.
Вейнгер М. Б.
Віткоўскі Я. А.

Галубок У. І.
Гальмшток Х. І.
Гарэцкі Г. І.
Гарэцкі М. І.
Гельтман С. Л.
Гельтман Я. С.
Грамыка М. А.

Давядыка В.
Дамброўскі Ч. Ч.
Дзякаў В.
Доўнар-Запольскі М. В.
Дружчыц В. Д.
Дурнаво М. М.
Дыла Я. Л.

Ждановіч Ф. П.
Жылуновіч З. Ф.
(Цішка Гартны)

Замоцін І. І.
Зэліксон Л.

Ігнатоўскі У. М.
Ільючонак П.

Казюра С. Л.
Каранеўскі Я. П.
Кацэнбоген С. З.
Кедраў-Зіхман А. К.
Кіркор В. І.
Кірсанаў А. Т.
Козыраў М. Т.
Кон Ф. Я.
Краскоўскі І. І.
Красны Ю.
Крыніцкі А. І.
Кудзелька М. С.
(Міхась Чарот)

Левін Я. Д.
Ленц А. К.
Лёсік Я. Ю.
Лойка М. Х.
Лунгерсгаўзен Ф. В.
Луцэвіч І. Д.
(Янка Купала)
Лявонаў В. А.

Мазур І.
Мароз М. І.
Міцкевіч К. М.
(Якуб Колас)
Мышкоўскі Л. І.
Мялешка М. В.

Некрашэвіч С. М.
Нодзель В. А.

Ослендэр Н.

Паўловіч А. Ф.
Пічэта У. І.
Піятуховіч М. М.
Плаўнік С. Я.
(Змітрок Бядуля)
Прышчэпаў З. Х.
Пятровіч І. А.

Растаргуеў П. А.
Родзевіч Ч. І.
Русецкі Э. С.
Рывес С.

Салаўёў П. Ф.
Сержпутоўскі А. К.
Скандракоў С. В.
Смоліч А. А.
Сосіс І. Д.
Стакоўскі В. К.
Сушынскі Я. Ф.
Сянкевіч А. А.

Трэмповіч П. В.

Успенскі Е. К.

Фрышман В.

Цвікевіч А. І.
Цвікевіч І. І.
Цітоў І. Т.
Чарвякоў А. Г.
Чарнушэвіч З. С.

Эпімах-Шыпіла Б. І.

## Правадзейныя члены Інстытута беларускай культуры, абраныя ў адпаведнасці са статутам інстытута 1927 г. *

Афанасьеў Я. М.
Бліядуха М. Ф.
Дурнаво М. М.
Жылуновіч З. Ф. (Цішка Гартны)
Замоцін І. І.
Ігнатоўскі У. М.
Ластоўскі В. У.
Лёсік Я. Ю.
Луцэвіч І. Д. (Янка Купала)
Матулайціс С. Ю.
Міцкевіч К. М. (Якуб Колас)
Некрашэвіч С. М.
Пічэта У. І.
Смоліч А. А.
Ясінскі А. М.

---

* Статут Інбелкульта, прыняты ў 1927 г., фактычна акадэмічны статут, значна павысіў патрабаванні, якія прад'яўляліся да правадзейных членаў. У іх склад маглі выбірацца прадстаўнікі навукі і мастацтва, якія абагацілі навуку або мастацтва ў сваёй галіне працамі асабліва выдатнага значэння. Істотна змяніўся парадак іх абрання. Усё гэта зрабіла ўплыў на значнае змяншэнне ліку правадзейных членаў інстытута (СЗ БССР. 1927. № 31. С. 158).



# ЗМЕСТ

Навуковае выданне

**Касцюк Міхаіл Паўлавіч**
**Петрыкаў Пётр Ціханавіч**
**Токараў Мікалай Уладзіміравіч і інш.**

**ІНСТЫТУТ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ**

Загадчык рэдакцыі *А. І. Валахановіч*
Рэдактар *Л. М. Салаўёва*
Мастак *М. І. Бандарэнка*
Мастацкі рэдактар *В. В. Сайчанка*
Тэхнічны рэдактар *С. А. Курган*
Карэктар *Я. У. Марціновіч*

Здадзена ў набор 20.11.92. Падпісана ў друк 15.03.93. Фармат 84×108[1]/32. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 13,44. Ум. фарб.-адб. 13,44. Ул.-выд. арк. 12,33.
Тыраж 1100 экз. Зак. № 1183. Цана 60 р.
Выдавецтва «Навука і тэхніка» Акадэміі навук Беларусі і Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. 220141. Мінск, Жодзінская, 18. Друкарня імя Францыска Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка». 220141. Мінск, Жодзінская, 18.

